АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1979

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАУСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ВЕСНАВЫЯ ПЕСНІ

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1979

Складальнікі: **Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей**

Складальнік музычнай часткі **В. І. Ялатаў**

Рэдактар тома **К. П. Кабашнікаў**

БЕЛОРУССКОЕ НАРОДНОЕ ТВОРЧЕСТВО

**ВЕСЕННИЕ ПЕСНИ**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Рэдактар *Л. А. Шрубок*. Мастак *І. М. Андрыянаў*. Мастацкі рэдактар *В. В. Саўчанка*. Тэхнічны рэдактар *В. І. Кручонак*. Карэктар *М. А. Вячорка*.

ІБ № 761

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 06.12.78. Падпісана да друку 06.07.79. АТ 03616. Фармат $60 \times 84^1/_{16}$. Папера друк. № 1. Гарнітура акадэмічная. Друк высокі. Друк. арк. 38,0. Ум. друк. арк. 35,34. Уч.-выд. арк. 34,3. Тыраж 6000 экз. Зак. № 1818. Цана 3 р. 20 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка». Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка» АН БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Ленінскі праспект, 68.

В 38 **Веснавыя песні** /[Складальнікі: Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей; складальнік муз. часткі В. І. Ялатаў; рэд. тома К. П. Кабашнікаў].— Мн.: Навука і тэхніка, 1979.— 608 с., нот. іл.—(Бел. нар. творчасць /АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У томе ўпершыню з вычарпальнай паўнатой пададзены песні веснавога цыкла. Тэксты адабраны з друкаваных і архіўных крыніц, асабліва багата прадстаўлены сучасныя запісы разам з напевамі. Ва ўступных артыкулах даецца характарыстыка матэрыялу, разглядаюцца мастацкія асаблівасці і ідэйны змест твораў. Тэксты і напевы суправаджаюцца неабходнымі каментарыямі.

**В** $\frac{70700-106}{М316-79}$ **64—79 4702120100** **С(Бел)Ф**

# ВЕСНАВЫЯ АБРАДЫ І ПЕСНІ

Паэзія веснавога цыкла — адна з найбольш цікавых і разнастайных частак народнай паэзіі працоўнага календара, якая і да гэтага часу, хоць і не ў поўным аб'ёме, захоўваецца на Беларусі ў жывым бытаванні. Як і ўся каляндарна-абрадавая паэзія, яна мае працоўную аснову, непарыўна звязана з працоўнай дзейнасцю чалавека, грамадскім бытам, адлюстроўвае яго гаспадарчыя клопаты, мары і спадзяванні, адносіны да працы і навакольнага свету. У той жа час разам з рацыянальным пачаткам у ёй было нямала і ірацыянальнага, што вынікала з памылковых уяўленняў нашых продкаў пра навакольны свет, з адухаўлення імі розных сіл прыроды і іншых вераванняў. Гэта дало падставу прадстаўнікам розных фальклярыстычных школ і напрамкаў, і ў першую чаргу міфолагам і іх паслядоўнікам, разглядаць усю абрадавую паэзію, і веснавую таксама, толькі як адлюстраванне міфалогіі, у прыватнасці міфаў салярных, касмаганічных і г. д.

Памылковасць тэорый, якія ігнаравалі рэальную жыццёвую аснову народнай творчасці, пераканаўча паказана ў працах савецкіх фалькларыстаў[1]. Не адмаўляючы таго, што ў фарміраванні і развіцці каляндарнай абрадавай паэзіі немалую ролю адыгралі старажытныя вераванні і ўяўленні, адухаўленне розных з'яў прыроды, магія, а пазней хрысціянская рэлігія, мы разглядаем гэтыя з'явы як другарадныя, вытворныя. «У савецкай навуцы,— пішуць І. Н. Граздова і С. А. Токараў,— трывала ўмацавалася ўяўленне аб народных каляндарных звычаях і вераваннях як аб адзіным комплексе, аб дынамічнай сістэме ўзаемазвязаных частак: старажытных рытуалаў і вераванняў, больш позніх рэлігійных і нерэлігійных напластаванняў. Але першапачатковай асновай і коранем усяго гэтага комплексу савецкія этнографы лічаць працоўную практыку старажытнага земляробства, стыхійны вопыт народа ў назіраннях прыкмет надвор'я і іншых прыродных з'яў»[2].

---

[1] Чичеров В. И. Зимний период русского народного земледельческого календаря XVI—XIX вв. М., 1957; Круть Ю. З. Хліборобська обрядова поезія слов'ян. Київ, 1973; Ліс А. С. Купальскія песні. Мінск, 1974 і інш.

[2] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Весенние праздники. М., 1977, с. 7—8.

Падобны погляд на каляндарную абрадавую паэзію вынікае з метадалагічных пасылак нашай навукі, якая імкнецца разгледзець за рознымі напластаваннямі стагоддзяў тыя рэальныя акалічнасці, у якія былі пастаўлены нашы продкі ў іх адносінах з прыродай, што з'явілася першым штуршком для ўзнікнення пэўных абрадаў і звязанай з імі паэзіі.

Аграрна-магічны характар веснавой паэзіі, адлюстраванне ў ёй быту і старадаўніх вераванняў нашых продкаў здаўна сталі прычынай пільнай увагі збіральнікаў і даследчыкаў вуснапаэтычнай творчасці. Першыя публікацыі веснавых песень з'яўляюцца ўжо ў пачатку мінулага стагоддзя. Яны ўключаюцца як ілюстрацыйны матэрыял у этнаграфічныя працы і падаюцца разам з апісаннямі свят, абрадаў, поглядаў беларускага селяніна. Так, у працы М. Чарноўскай 1817 г. знаходзім сярод іншых траецкую песню «На тройцу мы вянкі вілі»[3]. Л. Галамбёўскі ў «Гульнях і забавах» упершыню ў беларускай фалькларыстыцы сярод іншых твораў змяшчае ўзоры куставых песень[4]. У даследаванні А. Кіркора «Рэшткі язычаскіх звычаяў у Беларусі» апісваецца русальны тыдзень і прыводзіцца некалькі русальных песень[5]. А. Рыпінскі ў вядомай працы «Беларусь» змяшчае звесткі пра хаджэнне валачобнікаў і прыводзіць урыўкі валачобных песень[6]. Першым зборнікам, у які ўвайшлі ўзоры веснавых песень, была шостая кніжка «Piosnki wieśniacze» Я. Чачота і «Piosnki gminne ludu pińskiego» (Kowno, 1851) Р. Зянькевіча[7]. У Чачота адна велікодная песня («Wielkonocna, czyli Wołoczonna») і дзве юраўскія. Калекцыя Р. Зянькевіча паўнейшая: 16 веснавых і 21 куставая песні ў арыгінале і перакладзе на польскую мову. Святу куста ён прысвяціў і спецыяльны раздзел у артыкуле «O uroczyskach i zwyczajach ludu pińskiego, oraz o charakteże jego pieśni» («Biblioteka Warszawska», 1852—1853).

Трэба сказаць, што абрадавая паэзія хаця і выклікала заўсёды вялікую цікавасць збіральнікаў і вучоных розных школ і напрамкаў, веснавыя песні ў калекцыях многіх збіральнікаў, часам і такіх вядомых, як І. І. Насовіч, П. А. Гільтэбрандт, С. Малевіч, М. Н. Дзмітрыеў і інш., займалі вельмі сціплае месца. Пры гэтым перавага звычайна аддавалася валачобным, або велікодным, песням. Так, у працы Я. Тышкевіча (раздзел «Урачыстасці»), дзе гаворыцца пра вялікдзень, радаўніцу, Юр'е, прыводзіцца і адна валачобная песня. У «Народных беларускіх песнях» Е. П. (Кацярыны Паўлоўскай) змешчана пяць валачобных песень. Некалькі валачобных пе-

---

[3] Zabytki mitołogii słowiańskiej w zwyczajach wiejskiego ludu na Białej Rusi dochowane (gub. Mogilewska).— Dziennik Wileński, 1817, t. VI, с. 402.
[4] Gołębiowski L. Gry i zabawy. Warszawa, 1831.
[5] Гл. у кн.: Опыты в русской словесности воспитанников гимназий Белорусского учебного округа. Вильна, 1839, с. 483—487.
[6] Rypiński A. Białoruś. Paryż, 1840, с. 43—49.
[7] Czeczot J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektórze przysłowia i idiotyzmy w mowie słowiano-krewickiej z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.

сень з апісаннем абраду падае П. М. Шпілеўскі [8]. Затое ў тых жа працах шмат цікавых і надзвычай каштоўных звестак пра асаблівасці веснавых абрадаў у розных мясцовасцях. Каштоўнасць іх яшчэ і ў тым, што аўтары самі былі сведкамі жывога бытавання свят і абрадаў, хоць ужо і тады часта чуліся нараканні, што з'явы гэтыя знікаюць. Часам і адзінкавыя ўзоры песень заслугоўваюць увагі дзякуючы іх мастацкім якасцям ці даволі рэдкім сюжэтам. Так, у зборніку П. А. Гільтэбрандта змешчана зычаннерэчытатыў на вербніцу «Не я б'ю — вярба б'е» [9]. Песень і вершаў, звязаных з гэтым святам, наогул надзвычай мала, таму кожны ўзор набывае асаблівую каштоўнасць. У зборніку М. А. Дзмітрыева звяртае ўвагу песня «Было сяло да не весяло» (пазначана як веснавая-велікодная) — даволі разгорнуты варыянт сюжэта пра смока [10].

Не спыняючыся падрабязна на характарыстыцы кожнага зборніка, зазначым, што колькасць публікацый павялічылася дзякуючы працам І. І. Насовіча, К. Тышкевіча, П. П. Чубінскага, А. С. Дамбавецкага, Д. Г. Булгакоўскага, С. Малевіча, І. Е. Бычко-Машко [11]. У апошнім зборніку песні падаюцца з нотнымі прыкладамі, што надзвычай рэдкая з'ява для дарэвалюцыйных (ды і савецкіх таксама) выданняў фальклорных твораў. Варта прыгадаць і іншыя публікацыі мелодый веснавых песень [12].

---

[8] Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1847, с. 389: Е. П. Народные белорусские песни. СПб, 1853; Шпилевский П. М. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических ее сказках.— «Пантеон», т. 25, кн. 1. СПб, 1856.

[9] Гильтебрандт П. А. Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае. Вильно, 1866.

[10] Дмитриев М. А. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.

[11] Белорусские песни, собранные И. И. Носовичем. СПб, 1873; Tyszkiewicz. K. Wilija i jei brzegi pod względem hydrologicznym, historycznym i etnograficznym. Drezno, 1871; Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-русский край, снаряженной ИРГО. Материалы и исследования, собранные П. П. Чубинским, т. 6. СПб, 1877; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев, 1882; Булгаковский Д. Г. Пинчуки. Этнографический очерк. Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы... СПб, 1890; Малевич С. Белорусские народные песни. СПб, 1907; Сборник народных песен, записанных в поселке Калюга-Комарно, Рогознянской волости, Кобринского уезда, Гродненской губернии И. Е. Бычко-Машко. СПб, 1911.

[12] Kuba L. Beloruska piseň. Slovansky sbornik. Praha, 1887; Černy A. Pieśni Białoruskie z powiatu Dzisnieńskiego gubernii Wileńskiej.— «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», t. XVIII. Kraków, 1895; Янчук Н. А. По Минской губернии (заметки из поездки 1886 г.).— «Известия Московского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии», т. LXI. Труды этнографического отдела, кн. 9, вып. 1. М., 1889; Сборник малорусских и белорусских народных песен Гомельского уезда, записанных для голоса с аккомпанементом фортепьяно Зинаидой Радченко, вып. 1. СПб, 1881.

Некаторыя зборнікі XIX — пачатку XX ст. заслугоўваюць таго, каб пра іх было сказана асобна. У 1871 г. убачыла свет праца П. А. Бяссонава «Беларускія песні». Тут ужо зроблена спроба класіфікаваць веснавыя песні ў адпаведнасці з чарговасцю веснавых абрадаў. 44 веснавыя песні размяркоўваюцца на пяць груп: «а) на вялікдзень. Валачобныя, б) велікодныя, в) на Юр'я. Юр'еў дзень, г) куставыя, д) на Міколу». Да кожнага раздзела даюцца тлумачэнні і звесткі пра абрад [13]. Не ўсе песні ў зборніку з'яўляюцца абрадавымі, часткова гэта творы, якія мы зараз называем прымеркаванымі да абраду.

Пэўнымі прынцыпамі кіраваўся М. В. Доўнар-Запольскі пры размеркаванні песеннага матэрыялу. Веснавыя песні ён падзяліў на дзве групы — абрадавыя і лірычныя (г. зн. пазаабрадавыя). Даследчык так абгрунтоўвае сваю класіфікацыю: «Выбіраючы раздзелы, я прыстасоўваўся да рубрык, на якія сам народ падзяляе свае песні. Песні абрадавыя, з прымацаваннем іх да тых ці іншых абрадаў, народ строга вылучае. Усе абрадавыя песні я згрупаваў у адзін раздзел з падраздзяленнем іх на 1) вясельныя песні, 2) радзінныя і хрэсьбінныя, 3) калядкі і шчадроўкі, 4) велікодныя і 5) траецкія» [14].

Такой класіфікацыі вымагаў матэрыял, які быў у распараджэнні збіральніка. На жаль, веснавых абрадавых песень небагата ў зборніку і яны не самыя яркія ўзоры гэтага віду творчасці. Больш удалы раздзел траецкіх песень (яны аб'яднаны з купальскімі) і куставых.

У раздзел лірычных Доўнар-Запольскі ўключае песні, прымеркаваныя да пэўнага часу. «У другую групу я ўнёс лірычныя песні. Пінчукі, таксама як і паўднёвыя беларусы... падзяляюць свае лірычныя песні на вясну, лета, восень і зіму, г. зн. на веснавыя, летнія, восеньскія і зімовыя. Песні гэтых разрадаў нічога агульнага з якімі б там ні было абрадамі не маюць: гэта лірыка самага разнастайнага зместу» [15]. Сапраўды, Доўнар-Запольскі падае песні розныя па зместу, галоўным чынам дзявочыя любоўныя. Даследчык адзін з першых звярнуў увагу на прымеркаваныя да вясны песні, якія не маюць відавочнай сувязі з абрадам або з часам выканання.

З. Радчанка ў «Гомельскіх народных песнях» [16] падзяляе веснавыя песні на два раздзелы: вяснянкі і веснавыя карагоды. Ва ўступе да зборніка яна дае кароткую характарыстыку змешчаным творам і адзначае, што ўсе

---

[13] Бессонов П. А. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

[14] Довнар-Запольский М. В. Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, вып. 1. Песни пинчуков. Киев, 1895, с. V.

[15] Там жа.

[16] Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловицкой вол. Гомельского уезда Могилевской губернии Зинаидой Радченко. СПб, 1888.

запісаныя ёю вяснянкі спяваюцца на тры напевы, якія змешчаны ў папярэднім зборніку [17].

Шырока і разнастайна прадстаўлены веснавыя песні ў «Смаленскім этнаграфічным зборніку» У. М. Дабравольскага. Яны размяшчаюцца ў адпаведнасці з чарговасцю веснавых свят і суправаджаюцца кароткімі каментарыямі. Тэкстам папярэднічае кароткі нарыс пра гукапераймание ў веснавых песнях, а далей песні размяркоўваюцца па раздзелах: вяснянкі; благавешчанне; скакухі; іграв ыя і іншыя карагодныя песні; Ягораў дзень (выган у поле жывёлы, пачатак палявых работ); вялікдзень; зялёныя сяткі (абсяванне аўсом і хмелем, завіванне вянкоў і звычай куміцца, русалкі, агляд у полі жыта і інш.) [18].

Сапраўдныя скарбы па веснавой паэзіі пакінулі П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў, М. Федароўскі. І справа не столькі ў колькасці сабраных імі песень, колькі ў мэтанакіраванасці і акрэсленай сістэмнасці ў збіранні і публікацыі і саміх песень, і шматлікіх разнастайных звестак пра іх выкананне, пра веснавыя абрады.

У зборніку П. В. Шэйна «Беларускія народныя песні» веснавых песень няшмат: падборка валачобных песень (№ 138—170); 5 веснавых гукальных, да якіх ёсць заўвага: «Песні гэтыя спяваюцца дзе-небудзь на страсе, на дрэве ці на горцы» (с. 120); 2 юраўскія, узятыя ў Чачота, і дзве траецкія песні. Да ўсіх твораў падаюцца кароткія тлумачэнні пра абрад, да якога яны адносяцца [19]. Асноўны матэрыял — фальклорны і этнаграфічны — П. В. Шэйн змяшчае ў «Матэрыялах...» [20] У кожным томе мы знойдзем матэрыялы, якія прама ці ўскосна звязаны з веснавой паэзіяй і абраднасцю.

У першым томе «Матэрыялаў» (ч. I) апублікавана да сотні веснавых песень, якія даюць уяўленне пра ўсе вядомыя ў народзе абрадавыя групы: вяснянкі, велікодныя, юраўскія, траецкія. У кнізе змешчана невялікая колькасць нотных прыкладаў, сярод якіх ноты да валачобнай песні, веснавой, дзвюх траецкіх. Да ўсіх песень даецца падрабязнае апісанне адпаведных веснавых абрадаў, а часам і абставін, у якіх яны выконваліся. Шмат звестак пра розныя абрады і святы змешчана таксама ў III томе: святкаванне благавешчання, сустрэчы вясны, вербніцы, вялікадня, Юр'я. Нават у томе, прысвечаным вясельным і пахавальным абрадам, Шэйн змяшчае цікавыя

[17] Сборник малорусских и белорусских народных песен (Гомельского уезда), записанных для голоса с аккомпанементом фортепьяно Э. Радченко, вып. 1. СПб, 1881.

[18] Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. 4. М., 1903.

[19] Белорусские народные песни, с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями, с приложением объяснительного словаря и грамматических примечаний. Сборник П. В. Шейна. СПб, 1874.

[20] Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 1, ч. 1. СПб, 1887; т. 1, ч. 2. СПб, 1890; т. 3 СПб, 1902.

матэрыялы адносна веснавых дзядоў і радаўніцы. Шэйн сваімі працамі дае ўяўленне пра веснавую паэзію і абраднасць амаль па ўсёй тэрыторыі Беларусі, таму што шырока карыстаўся паслугамі карэспандэнтаў з розных рэгіёнаў.

Такой жа фундаментальнасцю вызначаюцца і працы Е. Р. Раманава [21]. У I выпуску «Беларускага зборніка» змешчаны вяснянкі і валачобныя песні, у VII — мелодыі трох вяснянак, валачобнай і траецкай песні. У VIII выпуску і іншых сваіх працах Раманаў разглядае ўсе веснавыя святы і да кожнага з іх прыводзіць песні. Асабліва каштоўнай уяўляецца падборка русальных песень — надзвычай рэдкіх у іншых выданнях і наогул мала выяўленых.

У V томе «Люду беларускага» М. Федароўскага змешчана 77 веснавых песень, запісаных у заходніх раёнах Беларусі. Многія тэксты пададзены разам з напевамі [22].

Варта адзначыць багатыя крыніцы веснавых песень у публікацыях А. Шлюбскага, М. Гарэцкага і А. Ягорава, С. П. Сахарава, М. Я. Грынблата [23].

Веснавая паэзія шырока прадстаўлена ў зборніках Р. Р. Шырмы, М. М. Чуркіна, Г. І. Цітовіча [24]. Адзінкавыя музычныя запісы ёсць у тэарэтычных працах В. І. Ялатава, З. Я. Мажэйка [25].

Апошнім часам у публікацыях матэрыялаў, сабраных студэнтамі Белдзяржуніверсітэта, вялікае месца адводзіцца абрадавай паэзіі, у тым ліку і веснавым песням [26].

---

[21] Романов Е. Р. Белорусский сборник, том первый, вып. 1 и 2. Киев, 1885; вып. 7. Вильна, 1910; вып. 8. Вильна, 1912; Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 1. Под ред. Е. Р. Романова. Вильна, 1911.

[22] Federowski M. Lud białoruski, t. V. Warszawa, 1958.

[23] Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. 1. Мінск, 1927; Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928; Сахараў С. П. Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940; Грынблат М. Я. Песні беларускага народа, т. 1. Мінск, 1940.

[24] Шырма Р. Беларускія народныя песні, загадкі і прыказкі. Мінск, 1947; яго ж. Двести белорусских песен. М., 1959; яго ж. Беларускія народныя песні, т. 3. Мінск, 1962; Чуркін М. Беларускія народныя песні і танцы. Мінск, 1949; яго ж. Беларускія народныя песні. Мінск, 1959; Цітовіч Г. Песні беларускага народа. Мінск, 1959; яго ж. Анталогія беларускай народнай песні. Мінск, 1968; яго ж. Анталогія беларускай народнай песні. Мінск, 1975.

[25] Елатаў В. І. Ад песні да песні. Мінск, 1961; Можейко З. Я. Песенная культура Белорусского Полесья. Минск, 1971.

[26] Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Склад. В. А. Захарава. Мінск, 1973; Песні сямі вёсак. Уклад. і рэд. Ніла Гілевіча. Мінск, 1973; Песні народных свят і абрадаў. Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мінск, 1974.

Шмат матэрыялаў па веснавой паэзіі захоўваецца ў архівах краіны. Цікавыя калекцыі веснавых песень, сабраныя М. Ю. Зубавым (1906) і В. Пагарэльскай (1929) [27] захоўваюцца ў архіве Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом). Шмат дарэвалюцыйных запісаў знаходзіцца ў архіве АН СССР у Ленінградзе, у архіве былога Рускага геаграфічнага таварыства. У фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва СССР (Масква) захоўваюцца шматлікія запісы, у тым ліку дасланыя ў 30-х гадах А. Валевічам. Запісы веснавых песень можна знайсці ў Аддзеле рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі АН Літоўскай ССР, у Аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага універсітэта і інш.

У архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР захоўваецца калекцыя веснавых песень, сабраная М. П. Гваздзёвым, які займаўся гэтай праблемай у 1960—1964 гг. Але заўчасная смерць перарвала яго работу. У апошнія гады ў выніку мэтанакіраванага збірання матэрыялу для шматтомнага выдання беларускай народнай творчасці колькасць веснавых песень, апісанняў абрадаў і свят у архіве ІМЭФ значна ўзрасла і зараз перавышае 1200 запісаў. Большасць песень запісана з мелодыямі на магнітафонныя стужкі. Сярод іх і варыянты ўжо вядомых з дарэвалюцыйных зборнікаў песень, і арыгінальныя сюжэты.

Тэарэтычнае асэнсаванне ўсяго гэтага паэтычнага і этнаграфічнага матэрыялу пачалося ў мінулым стагоддзі. Першымі даследчыкамі веснавой паэзіі беларусаў былі самі фальклярысты-збіральнікі. Многія з іх пакінулі цікавыя назіранні над абраднасцю і паэзіяй, а некаторыя (П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў) імкнуліся асэнсаваць, абагульніць багаты і разнародны матэрыял. Рабіліся спробы і навуковай класіфікацыі веснавых песень. Выдатны беларускі вучоны Я. Ф. Карскі ў «Беларусах» вылучае раздзел «Веснавыя абрады і песні», дзе аналізуе песенную творчасць веснавога цыкла, выказвае думкі пра яе старажытнасць. І тут песні разглядаюцца ў адпаведнасці з чарговасцю абрадаў [28].

На беларускія веснавыя песні спасылаліся розныя вучоныя і ў спецыяльных тэарэтычных даследаваннях. Так, Я. В. Анічкаў у «Веснавой абрадавай песні на Захадзе і ў славян» шырока выкарыстаў беларускія песні розных веснавых свят і абрадаў. Яны цікавілі вучонага як матэрыял для параўнання з паэзіяй іншых народаў [29].

Веснавыя песні, як і абрадавая паэзія наогул, становяцца аб'ектам спецыяльнага вывучэння ў савецкі час. Валачобным песням прысвечана манаграфія М. М. Нікольскага «Міталёгія і абрадавасць валачобных песень» (Мінск, 1931). У комплексе ўсёй каляндарна-абрадавай паэзіі разглядае

---

[27] ИРЛИ, к. 40, спр. 2, 3; к. 16, спр. 1.
[28] Карский Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 1. М., 1916, с. 141—167.
[29] Аничков Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, ч. 1. СПб, 1903; ч. 2. СПб, 1905.

веснавыя песні М. Я. Грынблат у калектыўным даследаванні «Беларуская вуснапаэтычная творчасць» (Мінск, 1967). Агульную характарыстыку веснавым песням дае К. П. Кабашнікаў у «Нарысах па беларускаму фальклору» (Мінск, 1963); ёсць кароткі агляд веснавых песень у навучальным дапаможніку «Беларуская вуснапаэтычная творчасць» (Мінск, 1966), у навукова-папулярным нарысе Н. С. Гілевіча «Наша родная песня» (Мінск, 1968). Беларускім куставым песням прысвечана дысертацыя Р. М. Кавалёвай [30].

Абрадавая паэзія, у тым ліку веснавая, здаўна была ў цэнтры ўвагі даследчыкаў рускага фальклору. Іх працы, асабліва апошняга часу, цікавыя не толькі аналізам фактычнага матэрыялу, але і метадалагічнымі палажэннямі, трактоўкай сутнасці абрадаў і г. д. [31]

Названыя зборнікі, працы з'яўляюцца той асновай, на якой магчыма далейшае паглыбленае даследаванне беларускай народнай паэзіі веснавога цыкла.

* *
*

Паэзія веснавога цыкла ўключае некалькі груп песень, якія канцэнтраваліся вакол пэўных веснавых абрадаў і свят. Мяркуючы па фальклорна-этнаграфічных апісаннях, зробленых у мінулым стагоддзі і ў наш час у розных раёнах Беларусі, гэты цыкл складаўся з наступных звенняў: абрады гукання вясны; абрады і звычаі вялікадня; абрады на Юр'я; «зялёныя святкі», г. зн. абрады і звычаі, звязаныя з сёмухай, тройцай, русальным, або граным тыднем. Е. Р. Раманаў адзначаў яшчэ перыяд талок да тройцы і зазначаў, што ў гэты час існавалі свае песні — талочныя. Яны не маюць якіх-небудзь асаблівых адзнак і таму часцей за ўсё разглядаюцца як песні, прымеркаваныя і да іншых выпадкаў. Апрача таго, і ўласна талочныя песні маглі выконвацца ў розны час у залежнасці ад таго, калі і для чаго склікалася талака. Па гэтых прычынах мы не разглядаем талочныя песні сярод веснавой паэзіі.

Гуканне вясны адбывалася пачынаючы з 1 сакавіка, «на Аўдакею», але ў розных мясцовасцях у розны час. У сакавіку селянін пільна прыглядаўся да з'яў прыроды, імкнуўся вызначыць, ці спрыяльнымі будуць умовы для веснавых работ, якім будзе лета. Ад гэтага залежаў дабрабыт, нарэшце, усё жыццё селяніна. Адсюль і мноства прыкмет, якія прыпадалі на гэ-

[30] Ковалева Р. М. Белорусские кустовые песни. Автореф. канд. дис. Минск, 1976.

[31] Колпакова Н. П. Русская народная бытовая песня. М.—Л., 1962; Шаповалова Г. Г. Майский цикл весенних обрядов.— У кн.: Фольклор и этнография. Л., 1977; Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Весенние праздники. М., 1977 і інш.

ты месяц і асобныя яго дні. Сачылі, ці нап'ецца певень з-пад страхі 1 сакавіка, як у гэты час спяваюць сініцы, ці закрычыць каля вёскі жаўна, калі і дзе закукуе зязюля і г. д. З нецярплівасцю чакалі птушак. Лічылася, што на саракі (9 сакавіка) павінна прыляцець «сорак выр'яў», у тым ліку і жаваранкі; іх прылёт азначаў, што вясна канчаткова ўступіла ў свае правы. Звязваючы прыход вясны з прылётам птушак, селянін звяртаўся да іх у песнях, прасіў хутчэй прынесці вясну.

Мясцовыя адрозненні ў гуканні вясны не кранаді самой сутнасці абраду, звычаю: выхад на высокае месца, паленне агню, спяванне гукальных песень. Месца дзеяння — горка — выбіралася не выпадкова. Горка хутчэй праграваласа сонцам, хутчэй вызвалялася ад снежнага покрыва, з яе было далёка відаць, і песні-гуканні, якія спяваліся там, былі далёка чуваць. Сам абрад знайшоў адлюстраванне ў некаторых песнях:

Ой, выйдзем мы на горку
Ды паклічам бога
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу.

У Гомельскім павеце гуканне вясны адбывалася наступным чынам. З 25 сакавіка (благавешчанне) дзяўчаты збіраліся гуртам і ішлі на ўзвышаныя месцы ў вёсцы, звычайна каля гумнаў, падсцілалі салому і, пасеўшы на яе, спявалі да позняй ночы веснавыя песні. Гэтыя песні разносіліся па наваколлю і былі чуваць на суседніх «зборных пунктах». Часам спявалі па чарзе: у адным месцы пачнуць і спыняцца, у другім працягваюць. Хлопцы ж з дудкамі і гармонікамі пераходзілі ад адной групы да другой [32]. У некаторых месцах з цеста пяклі птушак і, спяваючы веснавыя песні, падкідалі іх угору. Вяснянкі спявалі таксама ля вогнішча, дзе палілі мялле, старыя лапці і інш. [33] Самі ўдзельнікі свята так расказваюць: «Палюць зіму. Збіраюць хлам, ідуць на гару і палюць, чысцюць зямлю. Дзеўкі і хлопцы сядзяць кучамі. Адсюль адгалосак туды, а адтуляцькі — сюды» [34]. Часам, як і на купальскае свята, моладзь збіралася ля вогнішча і наладжвала ігрышча з пераскокамі праз агонь. Некаторыя даследчыкі, напрыклад Анічкаў, звязвалі гэтыя дзеянні са старадаўнімі вераваннямі, у прыватнасці з верай у ачышчальную сілу агню.

На благавешчанне ў Барысаўскім павеце адбываўся так званы абрад камаедзіцы, паходжанне якога даследчыкі звязвалі з культам мядзведзя і яго вытокі бачылі ў татэмістычных вераваннях нашых продкаў. У гэты

---

[32] Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 1, с. 125.
[33] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 143.
[34] АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 1, сш. 1, л. 50. Зап. М. Я. Грынблат у 1968 г. у в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р. Магілёўскай вобл. ад К. Ф. Парчэўскай, 66 г.

дзень гатавалі асобныя стравы, напрыклад гарохавыя «камы», аднак песень, звязаных з гэтым звычаем, не адзначана [35].

Найбольш раннімі па часе выканання, такім чынам, з'яўляюцца песні-вяснянкі, якімі загукалі, клікалі вясну. У некаторых мясцовасцях яны называліся «паклікальнымі» [36]. Гэта песні заклінальнага характару і некалі мелі ясна акрэсленую мэту. Даследчыца рускай народнай песні Н. П. Калпакова, разглядаючы заклінальныя песні аграрнага календара, зазначала: «Іх мэтанакіраванасць — імкненне ўздзейнічаць на тую ці іншую з'яву прыроды, ад якой чакалася дапамога ў працы земляроба, на той ці іншы запаведны прадмет, якому прыпісвалася магічнае значэнне, на невядомую сілу — лёс, які распараджаецца шчасцем чалавека ў яго асабістым жыцці» [37].

Чалавек звяртаўся да прыроды з просьбай, нават з патрабаваннем, і гэтыя патрабаванні насілі ясны, канкрэтны характар. «...Людзям патрэбны былі сонечнае цяпло, якое ўвасаблялася ў багатым ураджаі, прыплод жывёлы, прырост сям'і, г. зн. усё, што ў сукупнасці стварала матэрыяльны дастатак і сямейнае шчасце. Не рэлігійнасць, а адчуванне арганічнай працоўнай сувязі чалавека з роднай зямлёй — вось што перш за ўсё выступае з тэкстаў традыцыйных аграрных песень-заклінанняў» [38].

Беларускія вяснянкі, якімі гукалі вясну, розныя па зместу і форме. Сярод іх песні — звароты да маці, старых людзей, бога з просьбай дазволіць «вясну гукаць». Лейтматыў гэтых песень — замыканне зімы і адмыканне лета:

Ці пазволіце, старыя людзі,
Нам вясну красну выгукаці,
Студзёную зіму замыкаці,
Студзёную зіму ў каморачку,
А цёплае лета на вулачку.

Характэрны пачатак такіх песень: «Благаславі, маці», «Благаславі, божа», «Ці пазволіце, старыя людзі» (старыя дзяды) і г. д. Зварот да старэйшых (пазнейшае прымеркаванне — бог, прачыстая), да роданачальніка—відаць, водгук глыбокай старажытнасці, калі кожнае важнае для калектыву дзеянне пачыналася са згоды старэйшын.

Адмыканне вясны і замыканне зімы — гэта не толькі паэтычны сімвал перамогі цяпла над сцюжаю, абуджэння прыроды. Гэта таксама адлюстраванне жаданняў селяніна, яго надзей. Цёплае лецечка спрыяе добраму ўраджаю, таму вясна ўспрымаецца так светла і радасна. Гэта радасць і для

---

[35] Шейн П. В. Материалы..., т. 3, с. 162—163.
[36] АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 48, сш. 2, л. 10.
[37] Колпакова Н. П. Русская народная бытовая песня. М.—Л., 1962, с. 33.
[38] Там жа, с. 35.

маладых, бо вясна — пара кахання. І нездарма ў веснавой паэзіі тэма кахання займае вялікае месца.

Будзем зіму замыкаць,
Цёплае лета адмыкаць,
Штоб нам, дзеўкам, цёпла гуляць.

У многіх вяснянках пачэсны абавязак адмыкання цяпла, лецечка выконваюць птушкі, пчолкі:

Ты пчолачка ярая,
Ты вылецъ за мора,
Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя.

Вылеціце, дзве гусачкі,
Вынесіце два ключыкі:
Будзем зіму замыкаць,
Цёплае лета адмыкаць.

Надзвычай натуральна і жыццёва абумоўлена, што ў веснавой абраднасці птушкам адводзіцца роля вестуноў вясны. Назіранні за іх прылётам і паводзінамі вызначалі многія дзеянні селяніна і сталі асновай розных прыкмет, вераванняў. Таму і ў песнях чалавек непасрэдна звяртаецца да іх:

Жавароначкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела,
Нам хлебушак пераела.

Я. В. Анічкаў вылучае два тыпы абраду гукання вясны на Русі, адзін з якіх якраз і звязвае са зваротам да птушак — магічных вестуноў веснавых радасцей [39].

У вяснянках часта малюецца вясна, якая ўрачыста прыбывае ў карэце, у адрозненне ад зімы, якая адбывае «ў вазочку па белым сняжочку» або «на адным палазочку». Часам вясна едзе на неабходных для гэтай пары года прыладах працы — на сасе ці баране:

Едзе вясна, едзе
На залатым кані
У зялёным саяні,
На сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы,
А смыком скародзячы.

Тут на першы план выступае жыццёвая аснова твора, рэалістычны погляд селяніна, яго клопат, яго патрэбы. Гэта ж характэрна і для вяснянак,

[39] Аничков Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, с. 96.

пабудаваных у форме пытанне — адказ. Пытанне да вясны — «што нам прынясла?» (або «вынесла») — выклікае самыя разнастайныя адказы. Вясна прыносіць і «бясхлебіцу, бяссоліцу, адну свірэпіцу» — спадарожнікаў гаротнага селяніна, у якога хлеба не хапіла на ўвесь год; яна «з клеці жыта вымела, з пуні сена вынесла», «з карабоў жыта павытрасла», «з пунькі сянцо вынесла, з току саломку вытрасла, з клеці зярно вымела»; часам вясна жаліцца, што «ледзьве сама вылезла».

Побач з адлюстраваннем рэальнага жыцця селяніна ў вяснянках ствараецца вобраз шчодрай на дары вясны, якая кожнаму чалавеку — і старому, і малому — нясе свае заняткі, радасці і ўцехі: малым дзеткам па мураўцы (або па яечку), старым бабкам па кіёчку, па піражочку, хлопцам па кію — валы гнаці, белым малойцам па коніку, маладым мужчынам па сошаньцы, малодачкам красёнцы і г. д. З асобных па-мастацку зробленых замалёвак, штрыхоў перад намі разгортваецца цэльная карціна быту сялян, іх заняткаў. Этнаграфізм, які ўвогуле ўласцівы абрадавай паэзіі, тут знайшоў надзвычай поўнае і паслядоўнае ўвасабленне.

Вясна ўслаўляецца як абуджальніца прыроды, носьбіт радасці, надзеі селяніна. Яна нясе

> На зямельку травіцу,
> На травіцу расіцу,
> На лясочак лісточак
> І вясёлы дзянёчак.

У песнях адлюстравалася спрадвечная вера простага чалавека, што прырода, пра якую ён гаворыць з такім замілаваннем і пяшчотай, будзе спрыяць яму, што новы гаспадарчы год будзе добрым, прынясе яму плён. Таму так выразна гучаць у вяснянках матывы заклінання:

> Дай, божа, на жытачка род,
> На статачак плод
> Людзям на здароўе.

Ад пачатковага перыяду вясны так многа залежала ў жыцці чалавека, што, натуральна, абрады і песні, з ім звязаныя, увабралі ў сябе элементы аграрнай магіі. Для іх характэрна анімістычнае ўспрыманне прыроды, адухаўленне самой вясны, пэўная міфалагізацыя гэтага вобраза і ў той жа час па-свойму рэалістычнае стаўленне да яго. І сябе чалавек успрымаў цесна звязаным з прыродай, неад'емнай яе часткай, таму пры ўсіх рытуальна-малітоўных адносінах да прыроды, да вясны ён нідзе не выступае па-рабску пакорлівым, прыгнечаным. Чалавек з павагай адносіцца да прыроды і мае права чакаць ад яе спагады і садзеяння. І матывы заклінання ў веснавых песнях — яшчэ адно напамінанне, чаго селянін чакае ад прыроды. Яго жаданні, веснавыя надзеі звязаны з двума жыццёва важнымі момантамі — добрым ураджаем і шлюбным шчасцем. У пэўнай ступені гэтым можна растлумачыць вобразы-сімвалы вяснянак, якія ў розных варыяцыях пра-

ходзяць праз усю веснавую паэзію. Перш за ўсё гэта вобраз добрага ўраджаю, багатага плёну ўсёй працы. Сабраны ўраджай абавязкова гіпербалізуецца (жаданае выдаецца за сапраўднае), у чым, безумоўна, можна бачыць элементы аграрнай магіі:

На полі капамі,
У гумне стагамі,
На таку ўмалотна,
У засеках спорна,
У млыне умолна,
У дзяжы падыходна,
У печы ўзросна,
На стале ўкройна.

І нездарма ў песнях кожнага веснавога цыкла — юраўскіх, велікодных, траецкіх — амаль даслоўна паўтараецца такое пажаданне. Элементы старажытных заклінанняў у песнях, вядомых нам па пазнейшых запісах, пераасэнсаваліся, сталі паэтычнай умоўнасцю і ўспрымаюцца як дасканалыя мастацкія вобразы.

Другі скразны вобраз-сімвал — дзявочы вянок, які, як пісаў Я. В. Анічкаў, «наводзіць на думкі пра каханне і шлюб». Вянкі з кветак, в галінак дрэў з'яўляюцца абавязковым атрыбутам абрадаў і песень, удзельнікамі і выканаўцамі якіх былі дзяўчаты. Аднак значэнне вянкоў не вычэрпваецца чыста абрадавым «у сувязі з іх асаблівым сімвалізмам». Яны выконваюць і чыста эстэтычную ролю, «падабаюцца проста як прыгожая рэч, як сродак упрыгожання». Анічкаў звяртае ўвагу на эстэтыку веснавога абнаўлення прыроды для разумення настрою ў гэту пару года першабытнага чалавека. Ва ўсе часы чалавек заставаўся чалавекам, і ў яго жыцці заўсёды заставалася месца і забавам, і звычаям, якія, як пісаў Анічкаў, «як бы трошкі адарваліся ад сваёй утылітарнай асновы і адпавядалі патрабаванням больш адцягненым» [40]. Гэта спрыяла паслабленню сувязі паміж песнямі і абрадам, аператварэнне абраду ці асобных яго момантаў у забаву прыводзіла да таго, што абрадавая сутнасць і прымеркаванасць некаторых песень забываліся. Больш вольна пачыналі адносіцца і да саміх абрадавых песень. У выніку мы маем зараз мноства песень, якія па традыцыі адносяцца самімі спевакамі ці наогул да веснавых, ці да асобных веснавых свят, але зараз гэту сувязь прасачыць бывае надзвычай цяжка ці зусім немагчыма.

Веснянак з непасрэднымі матывамі гукання вясны не вельмі многа, і сюжэты іх не вылучаюцца разнастайнасцю. Часта пры гуканні вясны спяваліся розныя песні, не толькі вяснянкі. Вызначальным момантам у аднясенні іх да «паклікальных» станавілася мелодыя песні і абавязковае гукальнае завяршэнне кожнай музычнай фразы: Гу!, Агу!, Угу!, Аю!

---

[40] А н и ч к о в Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, с. 79.

і інш. Так, у зборніку беларускіх песень М. Гарэцкага і А. Ягорава цэлы раздзел песень з паметкай «вясну гукаюць» уключае песні тэматычна і жанрава разнастайныя: тут і заклінальныя «блыгыслыві, божа», і жартоўныя, і лірычныя пра мачаху, якая «пасылаіць мыладу скрозь ноч пы ваду» і г. д.

Тое ж можна сказаць і пра песні, запісаныя З. Радчанка на Гомельшчыне, М. Зубавым на Магілёўшчыне, сучаснымі збіральнікамі ў розных раёнах Беларусі. Некаторыя сюжэты такіх песень агульныя для розных месц, другія больш характэрны для пэўнага рэгіёна. Незразумелая нам зараз сувязь асобных песень з вясною ў некаторай ступені праясняецца расказамі спявачак аб нейкіх дзеяннях, якія з'яўляюцца рэшткамі старадаўніх абрадаў. Так, Прося Гарэцкая, маці пісьменніка, успамінае, як уранні ў чысты чацвер «на дварэ голыя вадою абліваліся», «кычаліся пы лагу лі лазьні». Тут да месца была і песня «Кылы лазьні» [41].

Некаторыя вяснянкі вядомы ў мностве варыянтаў і амаль паўсюдна (напрыклад, «Вол бушуе — вясну чуе»). Іншыя сюжэты абмежаваны тэрытарыяльна («У нас сягоння стрэчанне» — паўднёвыя раёны Беларусі, Гомельшчына). Функцыянальнае прызначэнне вяснянак вызначыла іх паэтычную форму. Гэта кароткія песні-заклікі, простыя па кампазіцыі і надзвычай выразныя ў мастацкіх адносінах. Яны багата выкарыстоўваюць арсенал фальклорнай паэтыкі і вылучаюцца глыбокай паэтычнасцю.

Сярод веснавых песень значнае месца належыць валачобным песням, якія складаюць адметнасць беларускай каляндарнай паэзіі. Яны прымеркаваны да абрадаў, звязаных з вялікаднем. Гэта даўняе дахрысціянскае свята, якім адзначалі надыход «вялікіх дзён» — доўгіх цёплых працоўных дзён, пачатак сельскагаспадарчага года, асноўных, жыццёва важных сялянскіх работ. З прыняццем хрысціянства царкоўнікі прыстасавалі гэта свята да пасхі, што ў пэўнай ступені адбілася на валачобных песнях. Найбольш важным з велікодных абрадаў быў абрад абходу хат сялян валачобнікамі (лалоўнікамі, лалыншчыкамі). Роля валачобнікаў, як яна зафіксавана ў этнаграфічных апісаннях мінулага і нашага стагоддзяў,— у спяванні велічальных песень гаспадару, гаспадыні, іх дзецям, выказванні ім добрых пажаданняў. Не выключана, што першапачатковы сэнс абраду, які зараз амаль не праглядваецца, вымагаў пэўных магічных дзеянняў, накіраваных на атрыманне добрага ўраджаю, забеспячэнне плоднасці статка і да т. п. Толькі пільная гаспадарчая патрэба магла зрабіць гэты абрад такім устойлівым, што ён трымаецца (праўда, у трансфармаваным выглядзе) у многіх мясцовасцях да нашых дзён.

Даволі ўстойлівымі аказаліся і юраўскія абрады і звычаі, у якіх захаваліся рэшткі культаў агню і вады, магіі, а таксама пазнейшыя напластаванні рэлігійных уяўленняў. Вытокі гэтага абраду ў глыбокай старажыт-

---

[41] Гарэцкі М., Ягораў А. Народныя песні з мелодыямі, с. 81 і інш.

насці, калі людзі пакланяліся нейкаму язычаскаму боству — апекуну жывёлы. З часоў хрысціянства такім патронам жывёлы стаў святы Юрый. 23 красавіка амаль паўсюдна ў Беларусі адбываўся першы выган жывёлы ў поле. Гэта падзея насіла ўрачысты характар і суправаджалася рознымі абрадамі. Перш чым выгнаць статак з двара, яго абкурвалі зёлкамі, сабранымі звычайна ў мінулым годзе на Купалле. Абрад абкурвання — гэта, па сутнасці, старажытны абрад ачышчэння агнём, які пазней пад уплывам царквы набыў некаторыя новыя рысы. Акрамя абкурвання існавалі і іншыя звычаі. Пад парог хлява клалі ці закопвалі яйкі ў колькасці, адпаведнай колькасці скаціны, каб скаціна была такая ж гладкая і круглая, як яйка. У некаторых месцах пад парог клалі замкнёны замок (замыкалі пашчу), каб жывёлу не з'елі драпежнікі або каб ведзьма не адабрала ў каровы малако.

Пад час выгану скаціны існавалі розныя прыгаворы, замовы. У нататках У. Дабравольскага аб святкаванні Ягор'ева дня прыцягвае ўвагу апісанне эпізоду, у якім відаць гаспадарчая аснова ўсяго комплексу абрадавых дзеянняў, звязаных з юраўскім святам. Пастух, расставіўшы падпаскаў вакол статка і даручыўшы кожнаму з іх адказваць за зайца, сляпога, кульгавага і г. д., ідзе да статка і пачынае задаваць пытанні:

— Заяц, заяц ці горкая асіна?

— Горкая.

— Дай бог, каб і наша скацінка для звера была горкая. Сляпы, сляпы, чы бачыш ты?

— Не бачу.

— Дай бог, каб і нашу скацінку не бачыла звярынка.

Далей пастух звяртаецца да кульгавага, да замка і, нарэшце, да калоды:

— Калода, калода, ці павернешся ты?

— Не, не павярнуся.

— Дай бог, каб і звер не павярнуўся да нашай скацінкі [42].

Падобнае апісанне знаходзім і ў П. В. Шэйна [43].

У Баранавіцкім раёне Брэсцкай вобласці запісаны ўспаміны аб юраўскіх абрадах і прыгаворах: «Бяруць кажух, надзяваюць воўнай наверх, бяруць пасвянцонага хлеба акрайчык, яйцо сырое, вярбінку пасвянцоную і замаўляюць. Ідуць да ўсходу сонца ў сярэдзіну хлява, тры разы прыгаворваюць: «За гарамі, за барамі стаяць сталы з прыстоламі, скацірками пазасціланыя, чары віна паналіваныя. Як гэтага віна чувасу з чувасіхай не папіці, так маёй скацінцы ў полі крыві не разліці: ні кароўкам, ні цялят-кам, ні конікам, ні жарабяткам, ні авечкам, ні ягняткам, ні свінням, ні парасяткам, ні гусям і гусяняткам, ні курам і кураняткам — нікому-нікому не

---

[42] Добровольский В. Н. Егорьев день в Смоленской губ.—«Живая старина». СПб, 1908, № 2, с. 151.

[43] Шейн П. В. Материалы..., т. 1, ч. 1, с. 169.

разліці». А гэта ўсё: яйка, хлеб — аддаюць жабракам, а пасвянцонай вярбінкай выганяюць у поле скаціну» [44].

Юраўскія абрады і звычаі захавалі таксама перажыткі веры ў ачышчальную сілу вады. Бытавала павер'е аб лекавых уласцівасцях Юр'евай расы. Адсюль у некаторых паветах існаваў звычай выганяць коней на начлег напярэдадні Юр'я або выганяць жывёлу раніцай яшчэ да пастуха на «Юр'еву расу» (у песнях — «на Юр'е расу бычка напасу»). Лічылася, што качанне па Юр'евай расе дае здароўе чалавеку, а дзяўчатам спрыяе ў каханні.

«Функцыі» Юр'я не абмяжоўваліся патранатам над жывёлагадоўляй. Ён лічыўся таксама і апекуном земляробства. У многіх месцах у гэты дзень раніцай сяляне абходзілі свае палі, прыносілі галінкі ядлоўцу, пасвечанай вярбы, а таксама косці з велікоднага стала, якія закопвалі або ўторквалі па вуглах нівы, каб тым самым забяспечыць добры ўраджай і захаванасць яго ад шкоды, сурокаў і г. д. [45]

Адзначаныя старажытныя ўяўленні, магічныя дзеянні, розныя забабоны і шэпты, з якімі дзе-нідзе сяляне звярталіся ў Юр'еў дзень да розных сіл прыроды і звышнатуральных істот — дамавіка, хлеўніка і інш., не пакідаюць сумнення ў старажытнасці гэтага сялянскага свята, у яго сувязях з гаспадарчымі клопатамі, у першую чаргу з жывёлагадоўляй. Хрысціянская рэлігія, прыстасоўваючыся да народнага календара і ў той жа час прыстасоўваючы народныя звычаі да сваіх мэт, імкнулася надаць новую афарбоўку гэтаму святу, але не змяніла яго сутнасці і тых уяўленняў аб свяце, якія існавалі ў народзе спрадвеку.

Цікавая інтэрпрэтацыя народнага разумення, чаму і як святы Ягоры атрымаў «пасаду» апекуна жывёлагадоўлі і земляробства, прыводзіцца ў адным з паданняў, апублікаваных Ю. Крачкоўскім.

...Аднойчы бог склікаў усіх жывёл пад вялізны дуб, што стаяў на краі свету, і з ім былі ўсе святыя, апрача Юр'я, які займаўся справамі і спазніўся. Ззаду святых хаваўся нячысты дух. Бог надзяляў усіх ежай, чорт выпрасіў сабе авёс, каб быць гаспадаром над коньмі. Тут падаспеў Юрый, але яму нічога не засталося, акрамя асоту. «Калі адбярэш у чорта авёс, твой будзе»,— параіў Юр'ю бог. Юрый пабег пад нару, праз якую чорт хадзіў на той свет, і стаіўся. А чорт ідзе і паўтарае: «Авёс, авёс, авёс!» Юрый як выскачыць з-за куста, як закрычыць, чорт спалохаўся і забыў слова, якое сказаў яму бог.

— Ты ўсё казаў «асот»!— падказаў яму Юрый.

---

[44] АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 4, л. 6. Зап. Е. Л. Рыбальчанка ў 1958 г. у в. Блошня Баранавіцкага р. Брэсцкай вобл. ад М. І. Мельнікавай, 73 г.

[45] Гл.: «Виленский вестник», 1893, № 87; «Рунь». Мінск, 1920, № 5—6, с. 11—13.

Так Юрый атрымаў авёс і быў прызначаны богам абаронцам жывёлы [46].

Як лёгка заўважыць, перад намі адзін з далёкіх варыянтаў казкі пра дурня, які забыўся, як завецца кісель. А Юрый выступае спрытным ілгуном, які хітрыкамі атрымлівае сваю пасаду. Той факт, што народ у дадзеным выпадку звярнуўся да казачнага сюжэта, яскрава сведчыць пра яго абыякавасць і нават іранічныя адносіны да царкоўных легенд, прымеркаваных да народнага свята.

Юраўскія песні, розныя па зместу і форме, аб'ядноўвае агульная ідэя, галоўны матыў. Як і вяснянкам, ім уласціва тэма гукання вясны, тэма адмыкання зямлі. Але яна атрымлівае далейшае развіццё, канкрэтызуецца, набывае свае адценні. Часам матыў гукання вясны зліваецца з гуканнем самога юраўскага свята:

Ой, памажы, божа, Юр'я заклікаці,
Юр'я заклікаці, вёсны заспяваці
На цёплае лета, на буйнае жыта,
На полі снапамі, да свірна гарудамі.

Да Юр'я ў песнях звяртаюцца з просьбаю адамкнуць зямлю, выпусціць расу — даць жыццё кожнай травінцы:

Пусці расу на ўсю вясну
І густую, і частую,
І цёплую, і мокрую,
І на ўвесь свет,
На кожны цвет.

Гэты матыў бясконца вар'іруецца: «адмыкай зямлю, выпускай расу на лён, на пшаніцу, на ўсякую пашніцу»; «на цёплае лета, на буйнае жыта, на ядраністае, на каласістае»; «адамкні зямлю, пусці расу для конікаў, для ўсіх скатоў»; «раса на кароўкі, трава на конікі, гігель на свіначкі, мурог на авечачкі, а жвірок на вутачкі і на гусачкі».

Юраўскія песні сведчаць пра адносіны народа да вобраза Юр'я, паказваюць, якая роля адводзілася яму ў веснавой абраднасці. Ад апекуна земляробства і жывёлагадоўлі чакалі дапамогі і таму заклікалі яго спрыяць чалавеку ў яго галоўных занятках. Іменна ў юраўскіх песнях з найбольшай паўнатой выявіліся заклінальныя матывы, канкрэтныя пажаданні, дакладна акрэсленыя просьбы: «зямлю адамкнуці, траву выпусціці, статак пакарміці. Людзям на здароўе, ліху безгалоўе»; «выганяйце кароўкі, каб былі малочны, цяляці няўрочны»; «зямлю адмыкаць, бычка напасаць»; «на травіцу расіцу, каб кароўкі з'ядалі, каб малачка давалі».

Гаспадарчыя клопаты не выцясняюць цалкам святочнага настрою, ча-

---

[46] Крачковский Ю. Народное празднование Юрьева дня в Западной России.—«Виленский вестник», 1872, № 12.

кання радасці, якую прыносіць цяпло, для моладзі — магчымасць веснавых гульняў, радасць сустрэч.

Сам Юрый малюецца ў песнях як просты працаўнік, які займаецца звычайнымі сялянскімі справамі: «Святое Юр'е, дзе ж ты бываў? — Па межах хадзіў, жыта радзіў»; «Дзе ты, Юрка, расіўся — ці кароўкі доячы, ці волікі пасучы?» і г. д. Нават зборы Юр'я на такую важную і адказную справу, як адамкнуць зямлю на лета, выпусціць траву і расу — г. зн. забяспечыць жыццё і дабрабыт селяніна, абстаўляюцца надзвычай проста і сціпла:

Юр'я, уставай рана,
Умывайся бела,
Прычашыся,
Прыбярыся,
Да кладзі боты,
Надзявай сукні,
Ідзі ў стайню,
Сядлай каня,
Да бяры ключы,
Да едзь у поле,
Адмыкай зямлю,
Выпусці расу.

Сціплая палітра выяўленчых сродкаў абрадавай песні асабліва выразна выступае пры параўнанні яе з баладай пра Цмока, дзе эпізод выпраўлення паказан як пышная ўрачыстасць. Трэба мець на ўвазе, што эпічныя песні звычайна выконваліся ў пост і не пазбеглі пэўнага ўплыву рэлігійных легенд пра Георгія-Перамаганосца. Наогул песням юраўскага цыкла ўласціва прастата і сціпласць сродкаў паэтыкі, тая геніяльная прастата, якая пры мінімуме выяўленчых сродкаў здольна дасягнуць вышынь паэтычнасці: надзвычай рэдкія эпітэты, у асноўным аб'ектыўныя, а не метафарычныя (жыта ядраніста, на колас каласіста, раса густая, цёплая, ключы земляныя і г. д.), амаль адсутнасць паэтычных тропаў, метафар — і ў той жа час яркія малюнкі, поўныя жыцця, настрою, глыбокага пачуцця.

Збіральнікі фальклору пакінулі мала звестак пра дапасаванасць песень да розных этапаў юраўскіх абрадаў. Але самі тэксты дазваляюць з большай ці меншай ступенню верагоднасці зрабіць гэта.

Так, песні з сюжэтамі «Зарадзі, божа, жыта», «Святое Юр'е, дзе было?», «Дзе ты, Юр'я, расіўся», «А ты, Юр'я, Мікола, абыйдзі жыта наўкола» былі звязаны з абрадавым абходам нівы. Лейтматыў гэтых твораў — жаданне, чаканне добрага ўраджаю:

У карані каранастае,
У саломцы сцяблістае,
А ў коласе каласістае.
У роўным полі капамі,
У цёмным гумне тарпамі,
А ў сверне засякáмі,
А на стале бахáнамі.

Відаць, водгаласам нейкага звычаю трэба лічыць і запісаныя на Брэстчыне ў Ляхавіцкім раёне песні «Павядзем Юр'я да бору» і «Ой, да бору, Юр'я, да бору». Магчымы тут і ўплыў песень іншых абрадавых цыклаў (зімовага, русальнага), тым больш што такія песні адзінкавыя.

З выганам жывёлы на пашу звязаны песні «На Юр'я расу бычка напасу», «А сягонні Ягоры, пагонімце, дзеўкі, у поле» і інш. Не выпадковымі ў юраўскім цыкле ўяўляюцца творы гумарыстычнага характару: «Загарэўся сыры бор», «Ехаў Юр'я цераз бор, загарэўся Юр'еў бор». Тут відавочныя намёкі на веснавы абрад абкурвання статка, памяшкання для жывёлы. Зараз цяжка ўстанавіць сувязь паміж гэтымі дзеяннямі і названымі сюжэтамі песень, але несумненна, што некалі такія творы маглі спявацца не толькі для забавы. Калі сэнс многіх абрадаў пачаў забывацца, яны ператварыліся ў забаву, з'явіліся сярод абрадавых песні, блізкія да іх, але непасрэдна з імі не звязаныя. Прыкладам такіх песень-гульняў юраўскага цыкла можна лічыць «Юр'я нежанаты», «Ой, Юр'я, Юр'я, не вядзі дзевак у танок» і інш. Гэта яшчэ раз пацвярджае справядлівасць сцверджанняў савецкіх вучоных І. Н. Граздовай і С. А. Токарава, што «своеасаблівасць веснавым абрадам надаюць і эстэтычны і эмацыянальна-псіхалагічны фактары. Прыгажосць веснавога абуджэння прыроды, радасна-прыўзняты настрой з'яўляюцца прычынай для ўзнікнення ў час веснавых свят непасрэднай весялосці, мноства разнастайных іграных і пацешлівых момантаў, далёкіх часам ад утылітарнай асновы ўзнікнення абрадаў» [47].

На канец вясны прыпадаюць траецкія святы, русальны, або граны, тыдзень (фактычна провады вясны). Гэтыя абрады і адпаведныя ім песні былі звязаны з культам продкаў і раслiннасці. У некаторых месцах, пераважна заходніх раёнах Беларусі, іх называлі «зялёныя святкі». Гэта свята маладой зеляніны, пераможнага шэсця вясны, і таму зялёныя расліны ва ўсёй абраднасці і песнях займаюць важнае месца.

Сяляне ўпрыгожвалі свае хаты зелянінаю, пераважна «маем» — галінкамі бярозы, клёну і іншых дрэў і «яверам» (аер). Дзяўчаты плялі сабе вянкі з розных траў (раней выбар траў і кветак быў строга рэгламентаваны — браліся толькі лекавыя травы або такія, якія лічыліся магічнымі, як любісцік). Па абедзе дзяўчаты ішлі ў лес завіваць бярозкі. Ішлі з песнямі, з абрадавай ежаю (абавязковай была яешня). Завіванне вянкоў адбывалася наступным чынам: вяршалінкі дзвюх бярозак звязвалі і такім чынам утваралі вароты, праз іх з песнямі ланцужком праходзілі дзяўчаты. У песнях узвялічваецца бяроза як адзінае дрэва, да якога ішлі на свята:

Ай, не радуйся, зялён дуб,
Ай, не радуйся, зялёны,

[47] Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Весенние праздники, с. 338.

Не к табе ідзём вянкі віць.
Ай, узрадуйся, бяроза,
Ай, узрадуйся, белая,
Мы к табе ідзём вянкі віць.

Часам у песнях сама бяроза запрашае дзяўчат да сябе:

Бяроза дзевачак прасіла:
— Пойдзем, дзевачкі, на луг гуляць,
Зялёных вянкоў завіваць.

Завіванне вянкоў было звязана з гаспадарчай дзейнасцю сялянства, хоць гэта сувязь у песнях не раскрываецца, а дэкларуецца:

Мы заўём вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую.

Такім чынам, гэта была не проста прыгожая дзявочая гульня, якой яна стала з затуханнем абрадаў. У траецкіх абрадах некалі быў магічны сэнс: земляробу неабходна было «запасціся жыватворнымі сіламі на ўвесь прыгод, шляхам кантактнай магіі запазычыць яе ў поўнай сіл прыроды, у прыватнасці ў бярозы. Бяроза распускаецца першай з дрэў, сок яе карысны; бярозавыя дровы гараць асабліва добра, даючы шмат цяпла; з кары бярозы рабілі розныя прадметы гаспадарчага ўжытку, абутак. Відаць, усе гэтыя якасці некалі зрабілі бярозу дрэвам-фецішам, а абрады, звязаныя з ім, вельмі важнымі» [48].

Дарэчы, Я. Ф. Карскі адзначае звычай месці магілы бярозавымі венікамі ў перадтраецкі тыдзень, у час веснавых памінак (на сёмуху), калі нябожчыкам нібыта дазвалялася выходзіць з магіл і хадзіць па могілках [49].

У траецкіх песнях захаваліся матывы, якія сведчаць пра імкненне перадаць сілу першага зялёнага дрэва — бярозы засеяным палям і тым самым спрыяць добраму ўраджаю. Найбольш ярка гэта адлюстравалася ў зачыне многіх траецкіх песень: «Тройца, тройца, багародзіца, што пасееш, то зародзіцца», «Пасею лянок, ды няхай зародзіцца», «Пасею жыта, ды няхай зародзіцца, пасею жыта, пасею пшаніцу, зарадзі, божа, усяку пашніцу».

У той жа час «зялёныя святкі» і песні, якія пад час іх спяваліся, мелі і іншае абрадавае прызначэнне, звязанае з шлюбнымі адносінамі. У. Я. Проп лічыў пераплячэнне земляробчых і шлюбных матываў не вы-

[48] Ш а п о в а л о в а Г. Г. Майский цикл весенних обрядов.— У кн.: Фольклор и этнография. Л., 1977, с. 105.
[49] К а р с к и й Е. Ф. Белорусы, т. III, ч. 1, с. 168.

падковым. «Узвялічванне шлюбу здзяйснялася не толькі ў мэтах пажадання або наклікання сямейнага дабрабыту. Заключэнне шлюбу лічылася патрэбным у мэтах уздзеяння на ўрадлівасць зямлі» [50]. Тут дарэчы прыгадаць сімволіку самога вянка, якая ўвабрала ў сябе народныя ўяўленні пра дзявоцкасць, шлюб. І не выпадкова ў траецкай песні такое параўнанне:

Заўём бярозку сосенкаю —
Звянчаем Аксеньку з Сенічкам.

Існаваў звычай па вянку разгадваць лёс. Варажба на вянках абавязкова суправаджалася песнямі. І ў песні гаворыцца, як дзяўчына кідае вянок на ваду, але яе вянок тоне, што з'яўляецца дрэнным прадказаннем. Глыбокім сумам павявае ад заключных радкоў песні:

А ўсе вянкі паверх пайшлі,
А мой на дно паў,
А ўсе дружкі з вайны прыйшлі,
А мой запрапаў.

З бярозаю быў звязаны яшчэ адзін веснавы абрад — кумленне. Праз бярозавыя вароты дзяўчаты праходзілі парамі і кумліся (цалаваліся), г. зн. станавіліся добрымі сяброўкамі. У песнях падкрэсліваецца ўзаемная вернасць, неразлучнасць такога саюза, пра саміх кумушак гаворыцца, што яны пагалубіліся (вядома, якая ідэя ўкладаецца ў сімвал «голуб» і «галубка»), што сімвалізуе найвышэйшую дружалюбнасць новых узаемаадносін:

Мы пакуміліся, пагалубіліся:
Ты мне кума, а я табе кума,
З табою куміліся, не браніліся.

Свята працягвалася праз тыдзень, калі ішлі ў лес развіваць вянкі, развязваць вершаліны бярозак, «каб дрэва не праклінала за тое, што не развілі» (Дамбавецкі). Спявалі песню «А мы вяночкі развілі», зноў узвялічвалі бярозу, голле яе надоўга пакідалі ў хаце, за абразамі.

Характэрныя і ў саміх дзеяннях, і ў песнях адносіны да дрэва як да жывой істоты, ад якой многае залежыць, якую нельга пакрыўдзіць. Тое ж і ў песнях пра траву, якую патапталі дзеўкі, танцуючы ў лесе або на лузе («Ну не плач, трава, не рыдай, шаўкова»). Змест траецкіх абрадаў (тая іх частка, якая звязана з шлюбнымі адносінамі), склад удзельнікаў (дзяўчаты, жанчыны), якіх хвалявалі пытанні замужжа, сямейнага жыцця, вызначылі паступовае павелічэнне ролі любоўных, сямейных песень у гэты перыяд. Некаторыя з іх пераклікаюцца з абрадавымі песнямі не столькі зместам, колькі агульным настроем, вобразнай сістэмай, мастацкімі сродкамі. Гэта «І ляцелі гусі гагаючы», «Узайдзі, узайдзі, зорка вячорная»

---

[50] Пропп В. Я. Русские аграрные праздники. Л., 1963, с. 54.

і інш. Любоўная, сямейная тэматыка пачала пераважаць і ў карагодных песнях, якія спяваліся каля бярозкі.

Своеасаблівай разнавіднасцю траецкага свята з'яўляецца свята куста, вядомае на Піншчыне. Паводле апісанняў, гэта адбывалася так: выбіралі дзяўчыну на ролю куста, ішлі ў лес і «апраналі» яе ў зялёныя галінкі дрэў. Затым з кустом вярталіся ў вёску, наладжвалі ўрачыстае шэсце па вуліцы з песнямі, у якіх ухваляўся куст і «дзявоцкае войска», заходзілі ў двары. Там паміж удзельнікамі свята і гаспадарамі дома адбываўся традыцыйны дыялог: «Ці дазволіце спяваці кўста?» — «Яшчэ не выпрэла капуста» і г. д. Атрымаўшы дазвол, «прыпявалначкі» песняй віталі гаспадароў і прасілі ўзнагароду за тое, што «прывялі куст»:

Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш нашаму кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявалначкам даці,
Нам, маладзенькім, на ганачку пагуляці.

У большасці песень гучыць просьба «Куст надарыці» — «піці-есці даці», яму трэба «крынічная вада», «піражкі ў масле», «панчошкі, чаравічкі», «па залатому» і г. д.

Дзяўчыне або хлопцу спяваюць песні з пажаданнем шлюбу.

Найбольш распаўсюджанай формай заканчэння абраду куста ў XIX — XX стст. было гулянне з песнямі і танцамі ў чыёй-небудзь хаце. Дзеніздзе захоўваліся і старадаўнія элементы (паход у поле, песні і скокі на мяжы, спальванне або разрыванне адзення куста, з'яданне часткі каравая, астатнюю дзяўчаты дзялілі паміж сабою і захоўвалі да вяселля). Даследчыца беларускай куставой абраднасці і песень Р. М. Кавалёва справядліва сцвярджае: «Старадаўняя аснова куставых песень прасочваецца ў іх змесце, некаторых элементах мастацкай формы і мэтанакіраванасці твораў: яны заклінаюць рост расліны, іх развіццё, імкнуцца словам уздзейнічаць не толькі на ўрадлівасць зямлі, але і на лёс чалавека, яго долю»[51]. Разглядаючы куставыя песні як самастойны жанр, яна знаходзіць тыпалагічнае падабенства паміж імі і траецкімі песнямі, у той жа час гаворыць, што яны не маюць агульнага фонду.Такое сцверджанне ўяўляецца не зусім дакладным. Многія факты, прыведзеныя даследчыцай, сведчаць не ў карысць яе вываду: назва мясцовага свята, змест абраду, час яго святкавання, нарэшце, прызначэнне яго. Нельга не ўлічваць таксама і змест некаторых куставых песень, у якіх не робіцца адрознення паміж гэтымі святамі:

Тройца, тройца, святая багародзіца,
А ў нашым Чамярыне хораша паводзіцца,
А ў нашым Чамярыне хораша ходзяць,
А ў нашым Чамярыне хораша куста водзяць.

---

[51] Ковалева Р. М. Белорусские кустовые песни, с. 2—3.

Багацце ж і разнастайнасць уласна куставых песень, іх адрозненне ў змесце ад траецкіх яшчэ раз сведчаць пра багацце душы і паэзіі народа — стваральніка і носьбіта неацэнных духоўных каштоўнасцей.

Завяршае сёмушна-траецкую веснавую абраднасць русальны тыдзень. У гэтым абрадзе надзвычай цесна зліліся культ расліннасці і культ продкаў, нябожчыкаў, якія, па ўяўленнях селяніна, вдольны і пасля смерці спрыяць або перашкаджаць чалавеку ў яго справах. Русалкамі, згодна з язычаскімі вераваннямі, становяцца душы дзяўчат-тапельніц, немаўлят або памерпіых не сваёю смерцю. Як адзначае А. Кіркор, русалкі лічыліся нядобрымі духамі, з чым звязана забарона пачынаць у гэты час розныя справы (абгароджваць плот, рабіць бароны і інш.) [52]. Такімі адносінамі да русалак тлумачыцца і абрад провадаў русалак, які ў далейшым відазмяняецца ў абрад праводзін вясны [53].

За русалку выбіралі дзяўчыну, выводзілі яе за сяло, у жыта і бягом вярталіся дадому, каб русалка нікога не злавіла і не зацягнула з сабою. Для русалкі плялі вянок, да якога ўсе дзяўчаты павінны былі прыкласці руку. Часта ёй надзявалі некалькі вянкоў — на галаву, на шыю, на рукі.

Цікавы звычай запісаў Е. Раманаў у в. Юркавічы Гомельскага павета ад Вусці Хведаравай. Збіраюцца шэсць ці дванаццаць дзяўчат, плятуць сабе вянкі і робяць русалку з саломы абы-дзе — «ці ў дварэ, ці ў гародзі». Русалку хаваюць, пакуль сцямнее. Тады пачынаецца галоўнае дзеянне: «Кладом кажная сабе вянок на галаву, косы распусцям, бяром русалку пад рукі і вядом яе на бугор. Там усе за рукі пабяромся, танка паводзім, і яна ходзя з намі, а як сцямнея, тады павядом яе па сялу «пляцьнём». Дзве пярэднія дзеўкі стануць і паднімуць рукі, а самая задняя ідзе ім пад рукі і вядзе за сабою ўсіх протчых. Тады етыя пярэднія паднімуць рукі, а ідуць ужэ тыя, шчо стаялі. Во й «пляцень» [54]. Русалку даводзілі да жыта і кідалі там разам з адзежай, а самі ўцякалі, каб русалка не дагнала, «бо задуша». У сярэдзіне сяла спыняліся і зноў вадзілі танок. Вянкі для сябе і русалкі дзяўчаты плялі з розных кветак: сабе з васількоў, русалцы абы з якіх, «толькі любісціку не патрабляям».

Якія б ні былі мясцовыя асаблівасці русальнага свята, асноўны сэнс іх — вывесці русалку з вёскі, кінуць у жыце. Пасля русальнага тыдня веснавых песень не спявалі.

Як і іншыя абрадавыя песні, русальныя можна падзяліць на дзве групы: тыя, што непасрэдна прымыкаюць да абраду і адлюстроўваюць, тлумачаць сам абрад, і песні, прымеркаваныя да русальных, песні адцягненага зместу, якія па тых ці іншых адзнаках далучаюцца да русальнага тыдня.

---

[52] Киркор А. Остатки языческих обыкновений в Белоруссии. II. Русалки, с. 483.

[53] Аничков Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, с. 304.

[54] Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 205—206.

Сюжэтаў абрадавых русальных песень няшмат. Найбольш вядомы песні пра русалак, якія звяртаюцца да дзяўчат, жанок з рознымі просьбамі:

Прасілі русалкі ў дзевак сарочак,
У дзевак сарочак, у маладзіц намётак:
— Дзевачкі-сястрычкі, дайце нам спаднічкі,
Маладзічкі-лябёдкі, дайце нам намёткі.

Цікавы варыянт русальнай песні «На граной нядзелі» запісан у Гомельскай вобласці. У ім з найбольшай паўнатой выявіліся погляды, звязаныя з уяўленнем аб русалках як душах дзяўчат або немаўлят, памершых нехрышчонымі або гвалтоўнай смерцю. Русалкі звяртаюцца да дзяўчат, якіх абавязкова называюць сястрыцамі, з просьбай дастаць вадзіцы «з халоднай крыніцы да з-пад той вярбіцы». Вадзе гэтай надаецца ў песні цудадзейная сіла: яна можа вярнуць жыццё. Непрыкаянасць душы саміх русалак і ўсяляе страх у жывых. Людзі імкнуцца ўсімі сіламі абараніцца ад іх, засцерагчыся ад шкоды.

Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка
Па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.

Незразумелае, як заўсёды, выклікае супярэчлівыя адносіны. Так і в русалкамі. Іх трэба праводзіць у бор ці дуброву, далей ад людскіх паселішчаў, пасеваў. І ў той жа час —

У ядраном жыце
Там русалцы жыці.

Русальныя песні знаходзяцца ў рэчышчы ўсёй веснавой абраднасці і адлюстроўваюць імкненне чалавека забяспечыць ураддівасць, дабрабыт. Таму ва ўсіх песнях розных веснавых абрадаў як лейтматыў паўтараюцца нават аднолькавыя песенныя формулы. Так і для русальных песень характэрны матыў заклінання добрага ўраджаю:

Там русалкі ў жыце
Зялёным сядзелі.
А мой каласочак,
Як яварочак,
А мая жыцінка,
Як праскурачка:
У печцы піражком,
На стале калачком.

Русальным тыднем завяршаецца веснавы цыкл народнага календара.

Розныя перыяды вясны, розныя веснавыя святы, абрады і песні знаменавалі нешта новае і ў прыродзе, і ў жыцці і працы селяніна. Як слуш-

на зазначае Г. Г. Шапавалава, кожны цыкл веснавых свят і абрадаў, адпаведна і песень, накіраваны на «вітанне і благаславенне пэўных пачаткаў». «Першы пачатак — веснавое раўнадзенства 9 сакавіка. Гэта першыя веснавыя птушкі, першая цяплынь, а дакладней, яе адзнакі — пачатак дум пра вясну і сяўбу. Другі пачатак — першая веснавая квадра (вялікдзень — абход двароў валачобнікамі) — гэта радасць ад рэальнага вяртання цеплыні, магчымасці зноў пачаць сельскагаспадарчы год, папоўніць свае запасы, першы гром, першы дождж. Трэці пачатак — першая трава, першы прыплод — Ягор'еў дзень. Чацвёрты пачатак — духаў дзень і тройца — першая лістота... засеў яравых, заключэнне шлюбаў» [55].

Аснову, ядро кожнага абрадавага цыкла песень складалі творы тыпу старажытных рытуальных заклінанняў, якія мелі, як мы бачылі, акрэсленае прызначэнне, што ў сваю чаргу выклікала адпаведную паэтычную форму і агульны эмацыянальны настрой песень. Такія песні небеспадстаўна лічацца адным з найбольш архаічных старажытнейшых песенных пластоў, на аснове якіх развіваліся іншыя песенныя жанры. Рытуальнае, абрадавае прызначэнне меў у старажытнасці і карагод. Праблеме паходжання карагодаў прысвечана значная літаратура, як айчынная, так і зарубежная, таму няма неабходнасці спыняць увагу на праблеме генезісу карагодаў. Зазначым толькі, што звязаны паходжаннем з веснавой абраднасцю карагод хутчэй, чым іншыя рытуальныя дзеянні, ператварыўся ў забаву, у прыгожую гульню і страціў сваю абрадавую прымеркаванасць. У народным уяўленні ён паўставаў як вясёлае ігрышча, забава для моладзі.

Таму, відаць, афіцыйным, дазволеным пачаткам карагодных гульняў лічыўся другі дзень вялікадня, хоць добра вядома, што ні адзін веснавы абрад не абыходзіўся без карагодаў. На першых этапах веснавога цыкла гэта былі ў асноўным карагоды-шэсці і ўспрымаліся яны толькі як элементы абраду.

Ужо самы першы веснавы абрад — гуканне вясны — уключаў і ваджэнне карагода. Е. Р. Раманаў адзначае, што на благавешчанне (25 сакавіка) дзяўчаты гукаюць вясну, не толькі седзячы на дахах гумнаў або лазняў, але і «выходзяць на вуліцу і спяваюць вяснянкі, водзяць танкі». Многія карагодныя песні гэтага перыяду самім пачаткам паказваюць, да якога свята яны адносяцца:

> У нас сягоння благавешчанне,
> Охі я, леле, благавескі дзень.

Амаль у кожным веснавым свяце мела месца шэсце, якое суправаджалася спяваннем карагодных песень. Напрыклад, сам збор дзяўчат на абрад гукання вясны быў свайго роду карагоднай сюітай. У Салігорскім раёне

---

[55] Шаповалова Г. Г. Майский цикл весенних обрядов, с. 111.

да нашых дзён добра вядомы звычай «заскакванне» («затанцоўванне») вясны, калі дзяўчаты ланцужком ідуць уздоўж вёскі, спыняючыся ля кожнай хаты, дзе водзяць карагод і запрашаюць гаспадароў далучыцца да іх. Так даходзяць да процілеглага канца вёскі, дзе і гукаюць вясну.

Такі ж абход двароў практыкаваўся ў некаторых месцах і на Юр'еў дзень. Юраўскія карагоды вадзілі і спецыяльна дзе-небудзь на пашы, куды да пастухоў надвячоркам збіраліся дзяўчаты, хлопцы, палілі агні, елі абрадавую яешню, а потым станавіліся ў круг, браліся за рукі і спявалі юраўскія песні [56].

Сутнасць і прызначанасць іншых веснавых свят і абрадаў у значнай ступені выяўляецца якраз праз карагоды. Гэта сёмушныя, траецкія абрады, русальны тыдзень, куст, абрад пахавання стралы. У гэтыя абрады карагоды ўваходзяць як неабходная, неад'емная частка. Адпаведныя карагодныя песні выконваюцца толькі з абрадам. І хоць самі абрады страцілі сваю аграрна-магічную функцыю,ператварыліся ў прыгожае свята, маляўнічы звычай, уласцівыя ім карагодныя песні захавалі сваю прымеркаванасць. Ніколі народныя спевакі не дазваляюць сабе граныя карагодныя песні пераносіці на пачатак вясны або на любы іншы веснавы перыяд, акрамя завяршальнага веснавога этапа — русальнага тыдня, провадаў вясны. Іншая справа шырокі пласт карагодных песень, надзвычай разнастайных тэматычна, адносна свабодных ад рытуальных рэгламентацый, якія, як веснавы вецер, урываліся ў паўсядзённае жыццё пасля строгіх забарон доўгага перыяду перадвелікоднага посту.

Як зазначае Е. Р. Раманаў, з вялікадня збіралася моладзь часцей за ўсё каля рэляў, дамоў, дзе была моладзь, або «на традыцыйных месцах зборышчаў — ля былых кабакоў». Выбіралі час не абавязкова святочны, выкарыстоўвалі вольныя ад веснавых работ вечары. Рэпертуар такіх веснавых карагодных песень быў надзвычай шырокі. Разнастайная і тэматыка гэтых твораў, хоць тут можна вылучыць некалькі асноўных тэм. Гэта тэматыка, звязаная з працай, з гаспадарчай дзейнасцю чалавека, і любоўна-сямейная тэматыка, значнае месца ў якой, як і наогул ва ўсёй веснавой паэзіі, займае шлюб. Дзве гэтыя тэмы не выступаюць ізалявана, яны надзвычай цесна пераплецены паміж сабой і часта ўзаемадапаўняюць адна другую. Нават у такім класічным карагодзе «вытворчай» тэмы, як «А мы проса сеялі» (іншыя вар. «А мы ляда капалі»), асноўны акцэнт пераносіцца на выкуп дзяўчыны, пераманьванне яе ў супрацьлеглы лагер (да хлопцаў), у чым даследчыкі бачаць адлюстраванне пэўных старажытных форм шлюбу.

Канкрэтны аналіз зместу карагодных песень паказвае, што твораў уласна вытворчай тэматыкі надзвычай мала. Бадай што адзіным яркім прыкладам з'яўляецца карагод «Пасеялі дзеўкі лён» (№ 364, 365), дзе

---

[56] Р о м а н о в Е. Р. Белорусский сборник, вып. 8, с. 182.

даволі падрабязна пералічаюцца этапы апрацоўкі льну. Да яго далучаецца і карагод-дыялог «Ой, маці, маці, я замуж хочу» (№ 457), дзе аперацыі па апрацоўцы льну пералічаюцца падрабязна, каб паказаць. які гэта доўгі працэс і на колькі прыйдзецца дзяўчыне адкласці надзеі на вяселле. Звычайна ж у карагодах праца выступае другім планам, фонам, часта гэта крытэрый годнасці хлопца ці дзяўчыны або проста ўводны матыў, зачын, пасля якога ідзе развіццё асноўнай тэмы — кахання, сямейнага жыцця, удалага ці няўдалага замужжа. Так, у карагоднай песні «Царэўна і баяры» (№ 362) асноўным довадам супраць уступлення дзяўчыны ў шлюб служыць тое, што яна «рушнічкоў не ткала». Песня «Бяру канапельку» (№ 374) пасля першых уступных радкоў пераходзіць адразу да лірычнай любоўнай тэмы. Шырокае абгрунтаванне панаванню ў веснавых карагодных песнях любоўнай, сямейнай тэматыкі дае Я. В. Анічкаў у сваёй вядомай працы [57]. Першыя веснавыя сустрэчы моладзі на ігрышчах, абуджэнне, росквіт прыроды і ўсіх яе сіл, наступленне пары весялосці натуральна прабуджалі пачуцці і цягу да твораў адпаведнай тэматыкі. Даследчыкі ўсходнеславянскіх карагодаў, абапіраючыся на летапісныя апісанні старажытных звычаяў розных славянскіх плямёнаў наладжваць «ігрышчы паміж сёламі», выказваюць меркаванне, што іменна на іх адбываліся своеасаблівыя агляды жаніхоў і нявест, што іх мэта — здабыванне жонак [58]. Але нельга атаясамліваць такія ігрышчы з вядомымі па апісаннях этнографаў XIX — XX стст. веснавымі звычаямі, шырокімі веснавымі карагоднымі гульнямі. Тым не менш сярод веснавых карагодных песень значную колькасць складаюць песні на любоўную і сямейную тэматыку. Матыў выбару нявесты праходзіць праз многія творы: «Што й па вуліцы ды й па шырокай» (№ 395).

Пры гэтым важна выбраць не толькі добрую жонку, а парадніцца з добрым родам («Як пайду я да да любіна», № 399). На тэму выбару пары на ўсё жыццё існуе шмат жартоўных песень, у якіх высмейваецца нягеглы жаніх-няўмека («Паналяцела галуб'я стада», № 404; «Як ад кута да парога», № 405).

Мары дзяўчыны звязаны з прыгожым маладым хлопцам, раўнёй па ўзросту (№ 316—320). Блізка да такой групы карагодных песень стаяць творы велічальнага характару, у якіх уславляюцца і хлопец і дзяўчына, вартыя адзін аднаго,— па-сапраўднаму добрая пара: «Стаялі, свяцілі месікі чатыры» (№ 339—341). Але часцей у дзявочых карагодах мы знаходзім супрацьпастаўленне дзяўчаты — хлопцы (дзяўчаты — дарагі тавар, хлопцы — дзяшовы тавар, № 313, 314, 322, 323, 346 і інш.). Тэма ўзроставай роўнасці з яшчэ большай яркасцю выступае ў карагодных песнях пра сямейнае жыццё, у песнях замужніц. Стары муж завязаў жыццё, таму да яго

---

[57] А н и ч к о в Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, ч. 2. СПб, 1905.

[58] Б а ч и н с к а я Н. Русские хороводы и хороводные песни. М.—Л., 1951, с. 71.

такое стаўленне ў песнях. Яму і пасцель сцелецца «адзін радок камення, другі радок палення» (№ 333), яго варта ў крапіўку кінуць, калодаю закаціць, мятлою замесці (№ 334). Не менш перападае і мужу-недаростку. Ва ўсіх гэтых песнях выразна адлюстраваны ідэалы народа, яго мараль, уяўленні аб шчасці.

Разнастайныя мастацкія сродкі, уласцівыя традыцыйнаму фальклору, шырока прадстаўлены ў карагодных песнях. У многіх з іх шырока выкарыстоўваецца прыём паралелізму: *селязень — вутка* і *малойчык — дзевачка* (№ 342, 358); *стада гусей — арол* і *карагод дзевачак — панічык на коніку* (№ 393, 394) і інш.

Такія песні збліжаюцца з абрадавымі вясельнымі дзякуючы ўжыванню ў іх вясельнай сімволікі. Наогул у многіх веснавых карагодных песнях прысутнічае сімвал. У любоўных — гэта вянок (№ 369, 370, 372), у адзначаных вышэй — сімволіка шлюбу.

Асобную групу песень складаюць карагоды перагмальнага характару, у якіх надзвычай яркі выяўленчы бок. У такіх карагодах галоўная роля належыць салісту, які павінен на пытанні хору адказваць за дзяўчат, старых баб, хлопцаў, дзядоў і г. д. Гэта карагоды-гульні «Як вазьму я казла да за рожачкі» (№ 413), «Селязенька касаты» (№ 414).

У залежнасці ад наяўнасці элементаў драматызацыі можна вылучыць карагоды з гульнёй і карагоды без гульні. У першых песні часцей за ўсё маюць дыялагічную форму, часам з размоўнымі момантамі. Змест песні ілюструецца адпаведнымі дзеяннямі, рухамі. У карагодзе ў такіх выпадках вылучаецца саліст і хор або хор падзяляецца на дзве групы.

У карагодах без гульні песні ўяўляюць сабой распетыя лірычныя творы, якія выконваюцца ў час хаджэння па кругу або ланцужком уздоўж вуліцы, поля і г. д.

Розняцца карагоды і па форме. Найбольш тыповая форма карагодаў — кола. Удзельнікі бяруцца за рукі або кончыкі хустачак і ўтвараюць кола, якое рухаецца па сонцу пад спевы карагодных песень, і ў залежнасці ад характару, зместу песні ўдзельнікі гульні імітуюць нейкія дзеянні або абмяжоўваюцца проста хаджэннем.

Часам удзельнікі карагоднай гульні падзяляюцца на дзве групы, якія ўтвараюць шарэнгі і становяцца адна супраць другой, па чарзе наступаючы і адступаючы па ходу песні («Проса»). Лінія рухаў мяняецца толькі пры заключных радках песні.

Надзвычай распаўсюджанай формай карагода з'яўляецца ланцужок. Пабраўшыся за рукі, дзяўчаты, жанчыны рухаюцца за вядучым вакол трох прадметаў або дзяцей. На Магілёўшчыне і Гомельшчыне такога тыпу карагод носіць агульную назву «Лука». (Трэба меркаваць, гэтаму спрыяла хвалепадобная лінія танца і ваджэнне карагода на лузе, на зялёнай траўцы.) Карагоды такой формы называюцца таксама «крывы танок». Часам танок выбірае пару, якая робіць тое, аб чым спявае карагод. Бывае ў карагодах

хаджэнне парамі, «плятнём», утварэнне «варот», падвойнага кола і г. д. Даследчыкі шукаюць вытокі розных форм у глыбокай даўніне. Мяркуецца, што размяшчэнне па кругу мела вытокам веснавыя абрадавыя масавыя дзействы, якія выконваліся першабытным калектывам земляробаў з мэтай уздзейнічаць на прыроду; размяшчэнне дзвюма лініямі, якія наступалі і адступалі адна ад адной, мела пачаткам ваенныя гульні; разыгрыванне бытавых сцэнак у крузе ішло ад абрадавых паляўнічых гульняў. Форме рухаў адпавядаў і змест песень [59]. Але паступова такая дакладная адпаведнасць зацямнялася і знікла зусім, і зараз форма карагодаў і змест песень могуць спалучацца даволі адвольна.

Карагодныя песні зазнаюць змены. Бывае, што песня адрываецца ад гульні і пераходзіць у разрад лірычных. Магчымы і адваротны працэс, калі лірычная песня распяваецца ў карагодзе. Яркі прыклад такога няўстойлівага выканання песні — «Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл» (№ 403).

Многія цяжкасці пры вывучэнні карагодаў і песень тлумачацца тым, што збіральнікі фальклору не даюць ніякіх тлумачэнняў да іх выканання.

Сярод веснавых песень, як і песень іншых перыядаў гаспадарчага календара, пэўнае месца належыць тым, якія зараз прынята лічыць не абрадавымі, а толькі прымеркаванымі да абраду, так сказаць, перыферыяй, а не ядром абрадавай паэзіі.

Аднясенне рада любоўных, сямейных, жартоўных песень да вясны — не выпадковая з'ява (хоць выпадковасць тут не выключана). Гаспадарчы каляндар не мог абмяжоўвацца толькі абрадавай паэзіяй. Тым болей што з цягам часу старажытныя абрады пераасэнсоўваліся, першапачатковы утылітарны бок іх саступіў на другі план, узмацніліся эстэтычныя элементы. Перыферыю абрадавай паэзіі нельга не ўлічваць, яна дае дадатковыя штрыхі для характарыстыкі ўсяго цыкла. На яе звяртаюць увагу даследчыкі, якія займаюцца гаспадарчым календаром. Так, даследуючы купальскі абрад і песні, А. С. Ліс правамерна вылучае любоўную і сямейную лірыку Купалля. Ён прытрымліваецца погляду, што частка неабрадавай лірыкі генетычна звязана з абрадавай паэзіяй, і абгрунтоўвае аднясенне любоўных і сямейных песень да Купалля многімі фактарамі [60].

З няменшай падставай можна гаварыць пра любоўную і сямейную тэматыку веснавых песень. Тым больш што ў саміх веснавых абрадах цесна перапляліся гаспадарчыя і шлюбныя матывы.

Веснавыя песні любоўнай, сямейнай тэматыкі, веснавыя жартоўныя песні сваёй паэтыкай, вобразнай сістэмай, мастацкімі сродкамі, меладычнымі асаблівасцямі арганічна звязаны з адпаведнымі абрадавымі песнямі, нейкімі рысамі часам тлумачаць, ілюструюць або дапаўняюць абрад, хоць

---

[59] Гл.: Колпакова Н. П. Русская народная игровая песня.— У кн.: Русский фольклор, вып. 3. М.—Л., 1958, с. 80.
[60] Ліс А. С. Купальскія песні. Мінск, 1974, с. 148—155.

не заўсёды гэта заўважаецца адразу, пры першай сустрэчы з песняй. Так, у песні пра нешчаслівую долю жанчыны знаходзім такія радкі:

А вярніся, мой браточак,
А вярніся, сакалочак,
А вазьмі ты маё гора,
А вязі ж ты ў чыста поле.
Пасей гора пры дарозе,
Прыкажы ты сваім дзеўкам,
Каб не хадзілі ў чыста поле,
Не красілі майго гора,
З яго цвятоў не зрывалі,
Сабе вянкоў не ўвівалі.

Вядома, якое значэнне надавалася падбору кветак для вянкоў, якое месца адводзілася самім вянкам у вызначэнні лёсу дзяўчыны, у веснавой варажбе. Зразумелым становіцца і сэнс песні, і аднесенасць яе іменна да веснавога цыкла. Тое ж і ў песнях пра вянок на галаве дзяўчыны, які вяне, калі мілы не глядзіць на яе.

Прымеркаванасць асобных песень ці нават цыклаў можа быць выклікана рознымі прычынамі. Сярод іх і адпаведнасць зместу песень веснавому святу, і фармальныя адзнакі: наяўнасць зачыну з упамінаннем вясны, малюнкаў веснавой прыроды і г. д.

Многія веснавыя звычаі зараз уяўляюцца нам як простая забава, хоць некалі мелі выразны магічны сэнс. Гушканне на арэлях, у аснове якога ляжыць жаданне паскорыць рост пасеянага, заўсёды суправаджаецца асобымі песнямі, сярод якіх найбольш папулярныя «Калышыце высока, каб я бачыў далёка». Вясной пачыналі бяліць палотны на пасаг дзяўчыне. І тут былі свае песні, у асноўным любоўнага характару, а таксама песні пра будучае сямейнае жыццё. На першы план у такіх песнях выступае жаданне знайсці шчасце ў сям'і, а гэта шчасце можа быць не з п'яніцаю або старым, а з маладым любым чалавекам. Адсюль група песень з просьбай не аддаць дзяўчыну за п'яніцу, за старога або багатага. Да іх прымыкаюць і песні, блізкія па мастацкіх асаблівасцях і тэматыцы да вясельных.

Многія лірычныя песні маюць зачын, па якому іх адносяць да «вясны», а далейшае развіццё сюжэта звязана з матывамі кахання, шлюбу («Чаго, вясна, на лес пайшла», № 493; «Ой, добра, што вясна прыйшла», № 537 і г. д.). Значнае месца ў веснавых песнях адводзіцца тэме працы. Часты ў песнях матыў супрацьпастаўлення беднай працавітай дзяўчыны і багатай гультайкі. Адным словам, гэта тая паэзія вясны, у якой адлюстравалася ўсё разнастайнае чалавечае жыццё.

Беларускія веснавыя песні, якія дайшлі да нас з глыбокай старажытнасці,— яркае сведчанне духоўнага багацця нашага народа. Яны даюць уяўленне аб поглядах, марах, аб працы і побыце працоўнага чалавека, яго звычаях і святах. Яны сапраўдны гімн працы, гімн прыродзе, яны ўвасабленне жаданняў селяніна-хлебароба.

* *
*

Том мае на мэце пазнаёміць чытача з веснавой паэзіяй беларусаў — адным з самых паэтычных цыклаў народнага календара. У том уваходзяць веснавыя абрадавыя песні, веснавыя карагоды і песні, прымеркаваныя да веснавых абрадаў. Сярод песень свят і абрадаў вылучаюцца вяснянкі, юраўскія, траецкія, куставыя, русальныя. Пры размеркаванні астатніх тэкстаў складальнікі кіраваліся іх тэматыкай і меладычнымі асаблівасцямі. З мноства варыянтаў песень для тома адабраны найбольш поўныя, дасканалыя ў мастацкіх і меладычных адносінах, сабраныя ў розных раёнах Беларусі рознымі збіральнікамі на працягу больш за стагоддзе. Перавага аддадзена неапублікаваным тэкстам, большасць якіх падаецца з напевамі.

*Г. А. БАРТАШЭВІЧ*

# МУЗЫКА БЕЛАРУСКІХ ВЕСНАВЫХ ПЕСЕНЬ

У агульным зводзе беларускай каляндарна-абрадавай паэзіі цыкл веснавых песень вызначаецца функцыянальнай ёмістасцю і ў сувязі з гэтым разнастайнасцю ладавай, рытмічнай і страфічнай будовы мелодыкі.

Інтанацыйны змест напеваў веснавых песень можна размеркаваць у вялізным дыяпазоне эмацыянальнай выразнасці: ад буйна-радасных заклікаў прыгажуні вясны да трагічна-сумных чаканняў яе хуткага прыходу (цікавая ў гэтых адносінах заўвага адной выканаўцы: «Вясну пяеш, як плачаш»). Паміж гэтымі дзвюма супрацьлеглымі эмоцыямі знаходзіцца рад прамежкавых настрояў-адценняў: сузіральнасць, пяшчота, ціхі сум, радасць сустрэчы з прыродай, якая павінна вось-вось абудзіцца, чаканне яе шчодрых падарункаў, вясёлае буйства маладога жыцця, мудрыя ўспаміны пражытых гадоў.

У веснавых песнях з асаблівай выразнасцю адлюстравалася жыццялюбства і своеасаблівая пантэістычнасць мыслення беларускага народа. Непасрэднасць светаадчування, момант яднання прыроды і чалавека выказаны тут пераканаўча, у высокапаэтычнай форме. Характэрнай рысай песень веснавога каляндарнага цыкла з'яўляецца іх пераважная лірычнасць. Чаго б ні кранаўся дух народнага мастацтва: касмалагічных праблем, шырокіх гістарычных асацыяцый, грамадскіх адносін да з'яў сялянскага жыцця, чыста асабістых перажыванняў, звязаных з вузкім бытавым колам інтарэсаў,— усё гэта перадаецца з пазіцый лірычных абагульненняў. Лірызацыя паэтычнага вобраза наогул уласціва беларускаму песеннаму фальклору, але ў веснавых песнях яна праяўляецца асабліва выразна.

У тэматыцы гэтага цыкла песень мы амаль не знойдзем адлюстравання сіл, якія прыніжаюць волю чалавека, сіл, якія стаяць над ім і пануквають яго. Кругагляд чалавека тут заўсёды ясны і аптымістычны. Нават таямнічыя сілы, якія вызначаюць вечны пульс прыроды, дыктуюць гадавы расклад жыцця, з'яўляюцца ў веснавых песнях, як правіла, добразычлівымі саўдзельнікамі чалавечых спраў.

Веснавы перыяд — час абуджэння стваральных сіл прыроды:

> Вол бушуе — вясну чуе,
> Баран бляе — у поле хоча,
> Курка сакоча — знясціся хоча,
> Дзеўка плача — замуж хоча.

Стваральны тонус усяго, што акружае чалавека, накладвае своеасаблівы адбітак на яго псіхічны стан, непасрэдна рыхтуе яго да новага цыкла працоўнай дзейнасці. Вядомае адчужэнне чалавека ад прыроды ў зімовы перыяд пераходзіць вясной у пачуццё непасрэднага дачынення да яе «цуда» — адраджэння ўсяго існага, якое штогод паўтараецца, але ад гэтага не робіцца будзённым. Адсюль нейкая ўзнёсласць, радасная інтанацыя ў веснавых песнях, з аднаго боку, і своеасаблівая затоенасць — з другога, што асабліва ярка праяўляецца ў музычным змесце.

Музыка веснавых песень па выканаўчаму стылю, тэмбравай афарбоўцы, прыёмах артыкуляцыі ўяўляе сабой своеасаблівы вакальны феномен, хоць увогуле не выходзіць за межы, характэрныя для ўсяго раннетрадыцыйнага беларускага музычнага стылю.

Веснавы каляндарна-абрадавы перыяд, бадай, самы насычаны сярод усіх перыядаў гадавога цыкла па колькасці і разнастайнасці магічна-абрадавых дзеянняў, рытуальна-заклікальных формул, гульнёвых момантаў.

Агульная мэта ўсіх рытуалаў і святкаванняў гэтага перыяду: падрыхтоўка будучага ўраджаю, ажыццяўленне важнейшых сельскагаспадарчых работ — ворыва і пасеву, жывёлагадоўчыя клопаты (абрадавы выган жывёлы ў поле, засцярога яе ад хвароб) і інш. І на кожнае дзеянне ёсць свой абрад, свае магічна-заклікальныя і вобразна-эмацыянальныя слоўныя формулы, сваё кола функцыянальна спецыялізаваных песень, сярод якіх значнае месца займаюць веснавыя заклікі, юраўскія песні, валачобныя, траецкія, куставыя, карагодныя, русальныя [1].

Агульная для ўсяго арэала беларускіх веснавых песень унутрыфункцыянальная дыферэнцыяцыя ў мясцовых умовах мела раней больш дэталізаваны характар у залежнасці, напрыклад, ад якіх-небудзь знешніх фактараў. Часцей за ўсё гэта было звязана са зменамі, якія адбываюцца ў прыродзе. Так, у Гомельскай вобласці ў некаторых вёсках карагод пачыналі вадзіць не ў пэўны каляндарны тэрмін, а «як толькі сыйдзе снег». У зборніку песень М. Гарэцкага і А. Ягорава, запісаных у Мсціслаўскім раёне, адзначаецца, што веснавыя песні там не співаюць на «голы лес», чакаюць, калі ён пакрыецца лісцем. Гэта не толькі знешняя прыкмета для пачатку веснавога песеннага сезона, але і вельмі важны момант у арганізацыі фанічнага эфекту саміх спеваў. Як вядома, веснавыя песні, асабліва заклічкі, часта разлічаны на эфект рэха. Іншы раз імітацыя рэха ствараецца шляхам пераклікання асобных хораў. Але часцей рэха выклікаецца натуральна — як адбітак гучання галасоў ад узлеску, цалкам пакрытага зялянінай. Іншы раз адбітак рэха ствараўся не ад лесу, а ад ракі, спявалі, «калі ў чоўнах плавалі». Усе гэтыя акустычныя эфекты былі прызваны

---

[1] Куставыя і русальныя песні маюць для Беларусі вузкалакальнае значэнне і распаўсюджаны толькі на поўдні рэспублікі (куставыя пераважна на Брэстчыне, русальныя — на Гомельшчыне).

адухавіць прыроду, зрабіць яе саўдзельніцай абраду, імітаваць дыялог з вясной.

Існавалі і песні, што выконваліся ў пэўны момант. Так, у запісах Г. Цітовіча[2] мы знаходзім веснавую песню, якая выконвалася ўвечары, як толькі пачынала кукаваць зязюля; песню спявалі абавязкова на вуліцы.

Такая прымеркаванасць магла існаваць, вядома, толькі ва ўмовах дакладнага прытрымлівання ўсіх этапаў веснавога абрадавага цыкла, што цяпер найбольш поўна можна прасачыць толькі па дарэвалюцыйнай фальклорна-этнаграфічнай літаратуры.

Асаблівасцю сучаснага бытавання веснавых песень з'яўляецца паступовая іх канцэнтрацыя вакол асноўнага для гэтага перыяду жанру; унутрыцыклічная дыферэнцыяцыя, якая строга прымяркоўвала асобныя падцыклы (юраўскія, траецкія і інш.) да пэўнага тэрміну выканання, замяняецца больш агульным успрыманнем гэтых песень як «вясны». Песенны рэпертуар веснавога перыяду стаў больш цэльным, у сувязі з чым песня ўспрымаецца ўжо не як своеасаблівая, з пэўнымі мэтавымі ўстаноўкамі магічная аперацыя, а як проста песня, факт у першую чаргу эстэтычнага плана.

Паколькі эстэтычны пачатак высоўваецца на першы план, у народным мастацтве ўмацоўваецца цяга пераважна да вакальных, кантыленных прыёмаў спявання. У многіх веснавых песнях не так яскрава сталі падкрэслівацца клічныя, замоўныя, проста дэкламацыйныя звароты. Паступова знікаюць інтанацыі, якія маюць характар непасрэдных зносін з прыродай, што, безумоўна, выводзіць песню ў іншы, больш апасродкаваны разрад грамадска-мастацкай камунікацыі.

Характэрнай рысай гістарычнай і стылістычнай перабудовы веснавых песень з'яўляюцца іх розныя адносіны да дзейсных аспектаў зместу. Старая песня больш апісальная, новая — сюжэтна рухомая. У музычных адносінах гэта знаходзіла адлюстраванне ў тым, што мелодыка ранейшых песенных тыпаў адлюстроўвала ў першую чаргу эмоцыі стану, пэўныя афекты без асаблівага падкрэслівання іх развіцця. Гэтаму садзейнічалі музычныя сродкі — малааб'ёмныя лады з пастаянным зваротам да ўстойлівага гуку, метрарытмічныя формулы, якія паўтараюцца на кароткай адлегласці, рэгулярныя, быццам стрымліваючыя вехі, прыпевы.

Мелодыка новага тыпу стала ўключаць ужо пэўныя дуалістычныя элементы развіцця, супрацьпастаўленне моманту статыкі, заспакаення момантам руху. Музычная тканіна набыла больш адчувальную пульсацыю.

Цяпер цыкл беларускіх веснавых песень (як і іншыя каляндарныя цыклы) уяўляецца своеасаблівай туманнасцю з больш ці менш дакладна вызначаным ядром спецыфічных для гэтага абраду песень і ў акружэнні песенных груп самых розных пераходных тыпаў. Перыферыя гэтай «туманнасці» непасрэдна судакранаецца з песнямі позьнетрадыцыйнымі, якія не

---

[2] Архіў ІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, № 107.

адносяцца да вясенняй тэматыкі, але па тых ці іншых прычынах замацаваліся за дадзеным перыядам. Песні гэтыя, як правіла, выяўляюць схільнасць да шырокай міграцыі.

Беларускія веснавыя песні як у меладычных, так і ў паэтычных адносінах маюць шматсастаўную сістэму жанрава-тэматычных адзнак. Гэта тлумачыцца іх шматфункцыянальнай прыродай, а таксама пэўнымі гістарычнымі прычынамі. Працяглае існаванне гэтых песень ва ўмовах паступовых змяненняў погляду на грамадска-вытворчую і грамадска-ідэалагічную ролю раннетрадыцыйнай творчасці, і ў прыватнасці яго часовую рэгламентацыю, прывяло ў рух розныя гісторыка-стылістычныя пласты гэтай творчасці, садзейнічала іх змешванню і пераасэнсаванню розных песенных груп.

Зараз вельмі цяжка правесці якую-небудзь строга вытрыманую па ўсяму жанраваму аб'ёму і яго падраздзяленнях сістэматызацыю веснавых песень як у тыпалагічных адносінах, так і ў плане іх лакальных прыкмет. У апошнім выпадку пэўную ролю адыгралі міграцыйныя працэсы, не вельмі істотныя ў мінулым, але адчувальныя ў апошнія паўтара-два стагоддзі. Толькі ў адносінах да некаторых буйных раздзелаў веснавога цыкла, такіх, як веснавыя заклічкі, валачобныя, карагодныя, юраўскія, яшчэ застаецца даступнай вядомая класіфікацыя па мясцовых стылях.

Часам паміж веснавымі песнямі і песнямі іншых раннетрадыцыйных жанраў, напрыклад восеньскімі, адной мясцовасці можна выявіць болей падабенства ў меладычным змесце, чым паміж аднатыпнымі веснавымі песнямі розных раёнаў. Праўда, гэта не тычыцца такіх «магутных» функцыянальных жанраў, як карагоды, заклічкі, валачобныя песні.

Жанрава-тэматычнае ядро песень веснавога цыкла, яго кананічную частку складаюць песні, у якіх непасрэдна, нават з першых радкоў, адлюстраваны веснавыя сюжэты: «Вясна красна, што ты нам прынясла», «Благаславі, маці, вясну заклікаці», «Вол бушуе — вясну чуе» і інш.

Іншы раз прысутнасць вясны раскрываецца ў працэсе разгортвання сюжэта:

> Ой, дай, божа, ой, дай, божа,
> Дробны дожджык,
> Кабы гэты снег сагнала,
> Нам на вясну паказала.

Да гэтага жанрава-тэматычнага ядра трэба аднесці і ўзоры, прысвечаныя іншым функцыянальна-абрадавым перыядам вясны — Юр'ю, тройцы, русальнаму тыдню, таксама непасрэдна адлюстраваным у змесце песень.

Трэба адзначыць, што асобныя раздзелы гэтага жанрава-тэматычнага ядра даволі рэзка адрозніваюцца ў меладычных адносінах. Гэта дазваляе іменна з іх вылучыць тыповыя веснавыя структуры.

Сярод кананічных веснавых песень ёсць як бы абавязковыя, якія з

тымі ці іншымі варыяцыямі сустракаюцца амаль на ўсёй тэрыторыі Беларусі або на значнай яе частцы. Відавочна, яны і складаюць найбольш старажытны нацыянальна характэрны, а часткова і ўсходнеславянскі пласт веснавой абрадавай творчасці. Ёсць песні, у якіх кананічныя адзнакі засталіся толькі ў мелодыцы, тады як тэкставы змест значна «рушыў наперад».

Змены ўнутры цыкла веснавых абрадавых песень, якія адбываліся ў выніку агульнага гістарычнага развіцця народнай песнятворчасці, былі звязаны не столькі з унутрыфункцыянальнымі перабудовамі, г. зн. са спантанным развіццём песень кананічнага рэпертуару (хаця пэўную ролю адыграла і яно), колькі з прыцягненнем у цыкл прынцыпова новых як па тэкставаму, так і па музычнаму зместу песень. Апошнія пачыналі існаваць у цыкле або самастойна, стылістычна абасоблена ад асноўнай групы песень, або ўступалі з імі ў актыўнае ўзаемадзеянне, утвараючы розныя пераходныя структурныя тыпы.

Такім чынам, побач з тыповымі напевамі, прымеркаванымі, напрыклад, да Юр'я, да русальнага тыдня, да сёмухі, а таксама з песнямі агульнага для вясны сэнсавага значэння — карагоднымі, веснавымі лірычнымі зараз нярэдка можна сустрэць песні, якія не ўкладваюцца ні па тэкставаму, ні па музычнаму зместу ні ў адну з гэтых жанрава-тэматычных катэгорый, хоць яны і прымеркаваны да таго ці іншага канкрэтнага перыяду (да той жа сёмухі ці русальнага тыдня).

Працэс замацавання новых не толькі па тэматыцы, але і па стылістыцы песень у асноўным традыцыйным зводзе з'яўляецца адным з асноўных імпульсаў агульнай эвалюцыі народна-песеннага мастацтва. Але для веснавога (часткова і для восеньскага) цыкла гэты працэс характэрны перш за ўсё прыцягненнем песень пераважна лірычнай тэматыкі.

Прымеркаваныя да веснавога перыяду песні ў асобных мясцовасцях сустракаюцца ў розных да асноўнага рэпертуару прапорцыях. Ёсць вёскі, дзе яны займаюць даволі значнае месца, нават выцясняючы песні спецыяльна веснавыя. У іншых месцах падобныя ўключэнні амаль цалкам адсутнічаюць. І тыя і другія вёскі могуць знаходзіцца нават побач. Прычыны такога кантрасту пакуль яшчэ цяжка растлумачыць (адна з верагодных — ступень міграцыі насельніцтва). Але ў большасці выпадкаў прымеркаваныя да вясны песні нібыта праслойваюць асноўны рэпертуар, дапаўняючы яго вобразна-эмацыянальнымі нюансамі, якіх раннетрадыцыйная творчасць не ведала.

Народныя выканаўцы па-рознаму асэнсоўваюць нетрадыцыйныя для цыкла песні. Калі песні грунтоўна ўвайшлі ў цыкл, іх вызначаюць «вясна» або «веснавыя». Але нярэдка выканаўцы самі пераконваюцца, што песні гэтыя ўсё ж нечым адрозніваюцца ад спецыфічна веснавых, тады іх адносяць да песень, якія спяваюцца «вясной і абы-калі».

Адкуль і якім чынам трапляюць падобныя песні ў веснавы абрад? Тут можна ўказаць на дзве крыніцы: першая — іншыя жанры раннетра-

дыцыйнай творчасці, другая — познетрадыцыйная творчасць з усімі яе пабочнымі ўключэннямі.

Што датычыцца ўнутрыжанравых запазычанняў, то ў веснавым цыкле яны маюць іншы раз даволі прынцыповы характар. Так, ва ўсходніх раёнах Беларусі, асабліва на Магілёўшчыне, вельмі часта тыповыя па структуры карагодныя песні функцыянальна выконваюць ролю заклічак. Для захаду РСФСР (Бранская, Смаленская вобл.), як адзначае І. Зямцоўскі [3], увогуле ўласціва манера заклікаць вясну, знаходзячыся ў якім-небудзь руху, у тым ліку і ў карагоднай гульні (для Беларусі больш уласціва пераклічка хораў). Відавочна, што адпаведныя беларускія ўсходнія заклічкі з'яўляюцца часткай гэтай больш агульнай традыцыі [4].

Для заходніх раёнаў Беларусі характэрна функцыянальная babкідка паміж песнямі юраўскімі і валачобнымі (асабліва велікоднымі). Радзей у функцыянальную ўзаемасувязь уступаюць песні юраўскія і веснавыя заклічкі (№ 171), траецкія і русальныя.

Часавая блізкасць позніх веснавых песень, асабліва юраўскіх, траецкіх і русальных, да летняга абрадавага перыяду нярэдка бывае прычынай з'яўлення ў веснавы перыяд купальскіх або блізкіх да іх песень (у залежнасці ад тэрміну выканання іх адпаведна называюць «юраўскія», «русальныя» або проста «веснавыя»). Перанос песень з летняга цыкла ў веснавы часта сустракаецца на паўночным захадзе Беларусі (зона Міёрскага, Пастаўскага, Валожынскага раёнаў). Гэтыя яўна купальскія па тыпу песні не зазнаюць у новых умовах значных змен, зрэдку толькі замест звароту да Купалкі ўводзіцца зварот да Юр'я.

Вясна — перыяд вызначэння лёсу будучых маладых, час заляцанняў і кахання. Таму гэта тэматыка вельмі шырока прадстаўлена ў некаторых веснавых песнях, асабліва ў карагодных.

Выкарыстання ў веснавым цыкле песень іншых каляндарных і сямейна-абрадавых не назіралася. Відаць, яны вельмі далёкія ад веснавых эмоцый.

З другой крыніцы, г. зн. песень познетрадыцыйных, у веснавы цыкл часцей за ўсё пераходзяць лірычныя песні, падобныя да гарадскога раманса. У адных мясцовасцях яны лічацца традыцыйна веснавымі, у другіх — успрымаюцца як проста падыходзячыя да вясны.

Сярод узораў, якія знаходзяцца на мяжы раннетрадыцыйнай веснавой і познетрадыцыйнай лірычнай песні, можна назваць шырока вядомыя «Вы не вейце, ветрыкі», «Як хадзіла Маша па саду», «Ты арэхавы лісток», «Чаго рана пташка прыляцела» і многія іншыя. Зразумела, у першую чаргу мы гаворым пра меладычны змест гэтых песень. Што датычыцца тэкстаў, то яны ўжо цалкам далучыліся да познетрадыцыйных. Выка-

---

[3] З е м ц о в с к и й И. Мелодика календарных песен. Л., 1975, с. 79.
[4] Асабліва многа такіх карагодаў-заклічак прыводзіць М. Зубаў у запісах, зробленых ім у Клімавіцкім р. Магілёўскай вобл.

нанне гэтых песень у веснавы перыяд — хутчэй выпадковасць. І сапраўды, падобныя песні ў розных мясцовасцях спяваюць у розныя поры года.

Акрамя лірычных, вясной часта выконваюць песні баладнага зместу. У адрозненне ад першых, якія могуць спявацца, як і ўласна вяснянкі, на паветры хорам, балады выконваюцца ў хаце на розных вечарынках («бяседах»).

На Гомельшчыне і Магілёўшчыне ў якасці веснавой балады часта спяваюць «Ішоў казак з Дону». Да ўласна веснавой тэматыкі яна не мае ніякага дачынення і ў іншых мясцовасцях існуе як восеньская. Тое самае можна сказаць і адносна іншых балад, якія размеркаваліся па розных каляндарных тэрмінах незалежна ад свайго зместу. Толькі трывалыя пакуль што яшчэ ў народным мастацтве традыцыі каляндарнасці, часавай дастасавальнасці замацоўваюць тую ці іншую баладу іменна за пэўным гадавым тэрмінам.

Есць выпадкі, калі познетрадыцыйныя лірычныя і баладныя песні замацоўваюцца ў веснавым цыкле без змен. Але звычайна іх меладычны змест падпадае пад моцны ўплыў раннетрадыцыйнай творчасці. «Трапіўшы ў цыкл беларускай каляндарнай лірыкі, лірычныя песні і балады, створаныя пазней, часцей за ўсё набываюць традыцыйную форму каляндарнай лірычнай песні» [5]. Так, на поўдні Мінскай вобласці шырока вядомую баладу «Дачка-птушка» (агульнаславянскі сюжэт) часта спяваюць на напеў таксама шырока распаўсюджанай на Беларусі веснавой песні «Вол бушуе». Некаторыя адрозненні паміж імі ў метрычнай будове верша кампенсаваліся ў меладычным распеве.

І нарэшце, у песенным рэпертуары веснавога перыяду выявілася даволі значная колькасць песень, якія не адносяцца не толькі да вясны, але ўвогуле да песень традыцыйнай сялянскай творчасці. Гэта ў першую чаргу так званыя боскія песні. Трэба сказаць, што іх тэматыка не закранула такіх веснавых жанраў, як заклічкі, карагоды, юраўскія і некаторыя іншыя абрадавыя і лірычныя, і амаль цалкам сканцэнтравалася ў песнях валачобнага і велікоднага абрадаў. З другога боку, песні тыпова валачобныя ў радзе выпадкаў маюць не ўласцівы іх рэалістычнай прыродзе прыпеў «Хрыстос васкрос, сын божы». Персанажы царкоўнага календара часта з'яўляюцца тут галоўнымі дзеючымі асобамі, хоць і ў некалькі «зямным» абліччы — маюць непасрэдныя зносіны з гаспадаром-селянінам, выконваюць розныя сельскагаспадарчыя работы і г. д.

Зрабіўшы адчувальны ўплыў на некаторыя песні традыцыйнага рэпертуару, царква, акрамя таго, забрудзіла чыстую крыніцу народнага мастацтва рэлігійнымі песнапеннямі, якія адаптаваліся для штодзённага выканання. У песенным рэпертуары веснавога перыяду ёсць цэлы пласт так званых паставых песень, многія з якіх спалучаюць у сабе прыкметы язы-

---

[5] Белорусские народные песни. Сост. З. Эвальд. М.—Л., 1941, с. 113.

часкага і хрысціянскага культаў,— матывы, якія адлюстроўваюць здаровае народнае светаадчуванне і напластаванне розных царкоўных застрашванняў, таемнасцей і пакут.

У музычных адносінах песнапенні не цікавыя і не арыгінальныя, паколькі з'яўляюцца перапевамі царкоўных напеваў, аж да «гнусавай» псалмодыі. Але традыцыі народнага мастацтва і тут вельмі часта прабіваюць шкарлупіну схаластычных рыс (у тэкстах нярэдка «боскі экстаз» падменьваецца сакавітым сялянскім гумарам).

Цеснае перапляценне ў веснавым песенным рэпертуары розных жанрава-тэматычных і гісторыка-стылістычных напластаванняў, якія адносяцца як да пэўнага каляндарнага цыкла, так і пабочных для яго, стварае даволі стракатую карціну гэтага віду песнятворчасці.

Відавочна, у ранні перыяд развіцця традыцыйнай песнятворчасці ў веснавым цыкле панавалі песні ў асноўным кананічнага рэпертуару, якія найбольш поўна і непасрэдна адлюстроўвалі сутнасць веснавой абраднасці, яе практычную накіраванасць. Затым пашырэнне чыста лірычнай сферы гэтай творчасці значна аслабіла цэнтраімклівыя сілы яе абрадавай прымеркаванасці. Зараз кананічныя песні ўспрымаюцца нейкім зацвярдзелым ядром цыкла, даволі стабільным у жанравых і канкрэтным у функцыянальных адносінах.

Значная колькасць песень, прымеркаваных да «вясны», так званая знешняя абалонка цыкла, таксама даволі характэрная іменна для гэтага перыяду, хоць часам выяўляе рысы пазнейшага прыстасавання да яго.

Увогуле пры ўсёй тэматычнай, структурнай, інтанацыйнай разнастайнасці веснавых песень іх можна падзяліць, зыходзячы з функцыянальнага ўдакладнення цыкла, яго вобразна-сэнсавай дыферэнцыяцыі і музычных асаблівасцей, на пяць асноўных тыпаў:

1. Песні клічнай функцыі (веснавыя заклічкі — гуканні). Выкананне гэтых песень мае задачу «паскорыць» прыход вясны, забяспечыць добрае надвор'е, хуткае з'яўленне раслiннасці і г. д.

2. Песні замоўнай функцыі (юраўскія і траецкія). Па сэнсу падобны да першага тыпу. У адрозненне ад заклічак у іх звяртаюцца не ўвогуле да вясны, а да яе канкрэтных свят. Яны стрымана эмацыянальныя, па-свойму «дзелавыя», яны не заклікаюць, а замаўляюць, угаворваюць.

3. Песні пажадальна-віншавальнай функцыі (валачобныя). Канцэнтруюць увагу на чакаемых выніках. Гэта своеасаблівае велічанне працоўнай дзейнасці селяніна.

4. Песні гульнёвай функцыі (карагодныя). Непасрэдна адлюстроўваюць грамадскія і сямейна-бытавыя адносіны (зразумела, у цеснай сувязі з каляндарна абумоўленай вытворчай дзейнасцю).

5. Песні бытавой функцыі. Выконваюцца па-за абрадам, але пераважна ў веснавы перыяд. У адрозненне ад папярэдніх тыпаў часта

сольныя, асноўная мэта — задавальненне асабістых эмацыянальных патрабаванняў [6]. Гэта група песень — важнейшае звяно ў развіцці паэзетрадыцыйнай, у асноўным лірычнай, песні.

Як і ўсе меладычныя структуры беларускай песнятворчасці, веснавыя песні можна суаднесці з двума асноўнымі тыпамі метрарытмічнай арганізацыі, якія вызначаюцца ўзаемасувяззю меладычнага рытму з рытмам пазамузычных з'яў: тыпам моўнай дынамікі, дзе музычную рытміку вызначае граматычная і сінтаксічная структура слова, яго моўны рытм, і тыпам рухаючай дынамікі, дзе музычную рытміку вызначае рытм розных рухаў — працы, танца, гульні, шэсця і г. д.

Асноўная прыкмета песень, якія адносяцца да тыпу моўнай дынамікі,— вольная ў залежнасці ад слова расстаноўка акцэнтаў. Меладыка гэтых песень у нотных запісах багата змешанымі метрамі, якія нярэдка чаргуюцца праз такт. Пры гэтым могуць мяняцца часавымяральныя долі — чацвяртныя чаргавацца з восьмымі (3/4—5/8—3/8—2/4). Чаргаванне непарыядычнае, паколькі выкананне падобных песень прадугледжвае ў кожнай страфе (і пры кожным новым выкананні) розную сінтаксічную групоўку фраз, якія могуць папераменна то расцягвацца, то сціскацца, што ў выніку адбіваецца на метрычным змесце адных і тых жа раздзелаў напеву.

Меладыка песень моўнай дынамікі багата зваротамі дэкламацыйнага характару, адвольным зацягваннем асобных гукаў (фермата), чаргаваннем непадобных рытмічных ячэек (рытмічная непарыядычнасць), прысутнасцю нетэматычных паўз і г. д.

Песні тыпу рухомай дынамікі, наадварот, вызначаюцца раўнамерным чаргаваннем акцэнтаў (у нотных запісах гэта выглядае як паслядоўнасць аднатыпных тактаў). Важная асаблівасць гэтых песень — сіметрычнае (квадратнае) чляненне музычнага перыяду, у сувязі з чым вельмі часта ўзнікае рытмічны паралелізм паміж дзвюма сінтагмамі страфы.

Для меладыкі гэтай групы песень, у супрацьлегласць першаму тыпу, характэрна чаргаванне аднолькавых рытмічных матываў (рытмічная перыядычнасць), адсутнасць адвольнага зацягвання асобных гукаў (інерцыя руху не дае магчымасці для выпадковых прыпынкаў).

Зразумела, што названыя рытмічныя тыпы не заўсёды прадстаўлены ў чыстым выглядзе. Сустракаюцца мелодыі пераходнага, змешанага характару, часта гэта тлумачыцца пераходам песні з адной вобразна-сэнсавай сферы ў другую (карагоды робяцца проста песняй; пад звычайную песню пачынаюць вадзіць карагоды і г. д.).

І ўсё ж у рамках усёй веснавой песнятворчасці можна выявіць, які функцыянальны тып цягнецца да таго ці іншага тыпу метрарытмічнай дынамікі. Так, зусім дакладна да тыпу моўнай дынамікі можна аднесці песні

---

[6] У гэтым сэнсе іх можна таксама аднесці да песень геданістычнай функцыі.

клічнай, замоўнай і бытавой функцый, да тыпу рухаючай дынамікі — песні пажадальна-віншавальнай і гульнёвай функцый.

У гэтым томе прыводзяцца веснавыя песні чатырох функцый: клічнай, замоўнай, гульнёвай, бытавой. Песням валачобным (пажадальна-віншавальнай функцыі), якія з'яўляюцца спецыфічным нацыянальным жанрам беларускай народнай песнятворчасці, прысвечан асобны том.

* *
*

У аснове зместу беларускіх веснавых песень усіх тыпаў ляжаць лады вузкіх амбітусаў — тэрцыі, кварты, квінты. Нават выкарыстанне VI ступені ладу — з'ява вельмі рэдкая і азначае, як правіла, з'яўленне ўжо прынцыпова іншага меладычнага стылю. Характэрная прыкмета лірычнай вобразнасці — квінтавыя лады — прадстаўлены ў веснавых песнях даволі шырока. Звычайнай у заклічках, а ў магічна-заклінальных песнях нават тыповай з'яўляецца субкварта. Тут яна выступае ў некалькі іншай якасці, чым, напрыклад, у песнях жніўных, дзе таксама даволі паслядоўна прадстаўлен гэты ладава-інтанацыйны зварот. Калі ў жніўных субкварта мае ў асноўным сыходную накіраванасць, то ў веснавых песнях субкварта — гэта рашучы скачок, заклік, імператыўная інтанацыйная ячэйка, якая, як правіла, рытмічна падкрэслена.

Выкарыстанне субкварты ў мажорных ладах тэрцавай структуры ўтварае нібы ўчастак натуральнага гукавога рада і асацыіруецца з фанфарным воклічам. У сцвярджэнні інтанацый гэтага ладу, магчыма, пэўную ролю адыграла гучанне некаторых музычных інструментаў натуральнага строю [7].

Захаванне ў веснавых песнях амаль да нашага часу вузкааб'ёмных ладоў у пэўнай меры тлумачыцца тым, што гэтыя песні павінны ў асноўным выконвацца «на волі» — акалічнасць, якая, як паказвае практыка, вельмі ўплывае на інтанацыйную структуру напеву, у тым ліку і на ладавы амбітус.

Тэрцавыя мінорныя лады (як і мажорныя, яны, як правіла, выкарыстоўваюцца з незапоўненай субквартай) па сваёй ладавай дынаміцы блізкія да адпаведных ладоў жніўных песень — часта арганізуюць мелодыку паўімправізацыйнага тыпу крыху «жаласнага» каларыту.

Выкарыстанне мінорных і мажорных тэрцавых ладоў колькасна прыкладна аднолькавае (1 : 1). Затое ў квартавых ладах пераважаюць мінорныя нахіленні (4 : 1).

---

[7] Адзін з такіх найгрышаў на берасцяной трубе прыводзіць Г. Цітовіч у «Анталогіі беларускай народнай песні» (1975, № 23), зазначаючы, што вядомы многія выпадкі, «калі гукі пастухоўскай трубы суправаджалі даўнейшы веснавы абрад «гукання вясны», які адбываўся задоўга да першага выхаду скаціны на пашу».

Вельмі характэрныя для квартавых ладоў трыхордавыя абароты ў межах I—IV ступеняў. У міноры пры гэтым звычайна знікае II ступень, у выніку чаго з інтанацыйнай структуры выключаецца паўтон, чым падкрэсліваецца элемент пентатонавасці (а):




У мажоры гэты паўтон у ніжнім трыхордзе з'яўляецца толькі ва ўзыходным руху, у сыходным прапускаецца ўжо не II, а звычайна III ступень (б):




У квінтавых ладах суадносіны мінору і мажору выяўляюцца ў прапорцыі прыкладна 3 : 1.

Такім чынам, звяртае ўвагу перавага ладоў мінорнага нахілення ў веснавых песнях, што ўвогуле адпавядае іх эмацыянальнаму зместу (тут мы, зразумела, не ўлічваем песень валачобных).

Адну з разнавіднасцей квінтавага ладу, у прыватнасці мінорны пентахорд без II ступені, можна назваць спецыфічным ладам веснавых напеваў. Характэрны прыклад яго мы назіраем у песні «Ой, што вясна, то вясна» (№ 52).

Своеасаблівасць гэтага ладу — адсутнасць паўтонавых прыцягненняў, што садзейнічае выяўленню ў напевах падобнай канструкцыі абаротаў паэтычна-сузіральных. Гэты лад з'яўляецца часткай пентатонікі (не хапае толькі адной ступені), аднак ён пазбаўлен інертнасці, уласцівай чыстай пентатоніцы, таму што адразу выяўляе мінорнае трохгучча з характэрным для ўсходнеславянскай музыкі пералівам паміж квартай і квінтай ладу[8]. Наогул поўная і чыстая, вытрыманая да канца напеву пентатоніка даволі рэдкая з'ява для беларускага меласу. Адзін з унікальных прыкладаў — веснавая заклічка «Жавароначкі, прыляціце» (№ 158). Пропуск II ступені сустракаецца таксама і ў ладах квартавых, якія распрацоўваюцца пераважна ў песнях толькі лірычнага зместу.

---

[8] Адзначаны намі квінтавы веснавы лад, дарэчы, спецыфічны не толькі для Беларусі. Яго распаўсюджанне ў крайніх усходніх раёнах Магілёўшчыны з'яўляецца, па сутнасці, працягам больш шырокага арэала гэтай ладавай структуры ў РСФСР (Бранская, Смаленская, Курская вобл.). На астатняй тэрыторыі Беларусі лад падобнага тыпу зафіксаван яшчэ ў Стаўбцоўскім і Лепельскім раёнах.

Кадэнцыйныя завяршэнні пераважнай большасці веснавых напеваў прыпадаюць на танічны гук. У міноры іншы раз выкарыстоўваецца гарманічны ўводны тон. Рэдка сустракаецца поўны субквартавы тэтрахорд (у нашых запісах зафіксаван толькі адзін выпадак выкарыстання меладычнага мінору). Разам з тым і тут прысутнічае характэрны для веснавых песень каданс — на III ступені ладу (так званы веснавы каданс). І сустракаецца ён якраз у ладах з прапушчанай II ступенню, у асноўным мінорных квінтавых, г. зн. таксама лакальна абмежаван самымі крайнімі ўсходнімі раёнамі Беларусі. Відаць, пропуск II ступені (элемент пентатанічнасці) і кадэнцыя на III — гэта адзінае, спецыфічнае для жанру і пэўнага рэгіёна ладавае ўтварэнне. (У Лепельскім раёне, дзе сустракаецца лад з пропускам II ступені, кадэнцыя на I.)

Кадэнцыі на іншых ступенях малахарактэрны для веснавых напеваў. Можна толькі адзначыць кадэнцыю на IV ступені, якая сустракаецца ў Кобрынскім раёне і зрэдку на Магілёўшчыне.

Ладавая пераменнасць не з'яўляецца тыповай для веснавых напеваў, хоць унутраладавыя «пералівы», асабліва секундавыя, іншы раз яўна чутны галоўным чынам у квартавых ладах і ў веснавым ладзе — квінтавым, у якім яшчэ даволі трывала захаваліся тэндэнцыі тэтрахордавасці.

Такім чынам, можна гаварыць пра раўнамернасць размеркавання ладоў розных амбітусаў на ўсёй тэрыторыі рэспублікі. Можна адзначыць толькі некаторую перавагу ладоў тэрцавых з субквартай у паўночна-заходняй яе частцы.

Рытмічная арганізацыя веснавых песень, выключаючы карагодныя і валачобныя, як і ўвогуле ўсіх беларускіх раннетрадыцыйных, у многім вызначаецца метрыкай верша. Ён у беларускай народнай творчасці ў асноўным танічны, г. зн. пры пэўнай колькасці націскаў мае розную колькасць складоў.

Рознаскладовасць танічнага верша выклікае, натуральна, розныя варыяцыі ў рытміцы мелодыі. Іншы раз кожная страфа мае свой рытмічны варыянт напеву. Падобныя песні ў веснавым цыкле сустракаюцца галоўным чынам сярод сольных лірычных.

У напевах веснавых песень нярэдка сустракаюцца пераменныя метры: 3/4 чаргуюцца з 5/4, 2/4 — з 3/4 і г. д. Часта гэта выклікана няроўнаскладовасцю верша. Рытміка рухомай дынамікі ў выпадку няроўнаскладовасці, як правіла, раздрабляе асноўную метрычную долю такта, каб увесці пашыраны верш у рамкі асноўнага, зададзенага пэўным цыклам руху структурнага часу.

Рытміка моўнай дынамікі, якая прытрымліваецца законаў тэкставай метрыкі з усімі яе адхіленнямі, не звязана з цвёрдымі рамкамі метрычнага часу і досыць вольна дае дадатковы час «лішнім» складам, хоць і тут можна заўважыць тэндэнцыю да пэўнай раўнамернасці чаргавання падобных пашыраных метрычных тактаў.

У параўнанні з іншымі каляндарнымі жанрамі (хаця б купальскімі і каляднымі песнямі) песні веснавога цыкла ў меншай ступені паддаюцца фармалізацыі ў метрычных адносінах. Для гэтага ёсць некалькі прычын. Па-першае, багацце мясцовых, часам вузкамясцовых, тыпаў. Па-другое, схільнасць веснавых напеваў да рытмічнага развіцця па прынцыпах моўнай дынамікі (у гэтым яны блізкія да жніўных песень, якія таксама слаба выяўляюць жанравыя метрарытмічныя формулы). Па-трэцяе, актыўнае засваенне «прыйшлых» песень, якія іншы раз агрэсіўна ўздзейнічаюць на спецыфіку жанру.

Як і большасць традыцыйных песень, веснавыя маюць паэтычную страфу, якая складаецца з двух вершаў (АА, АВ). Такая структура страфы дыктуе і музычную форму — перыяд з двума сказамі.

Часта такая структура, нават у песнях кананічнага рэпертуару, пашыраецца за кошт паўтарэння аднаго з вершаў (ААВ, АВВ), зусім рэдка можна сустрэць трохчасткавую страфу тыпу АВС.

Для веснавых абрадавых песень не характэрны прыпевы, якія з'яўляюцца неабходным кампанентам толькі карагодных і валачобных. Асобныя ўзоры заклічных і замоўных песень, якія ўключаюць у сярэдняй частцы розныя эмацыянальныя інтанацыі-воклічы («Гэй», «Люлі»), безумоўна, вынік уплыву карагодаў. Сустракаецца толькі адно, дастаткова характэрнае выключэнне — страфа, якую абрамляе кароткі рэфрэн і якая прысутнічае ў юраўскіх песнях пэўнай геаграфічнай зоны. Характар структуры гэтых песень (асабліва метрарытмічнай) дазваляе меркаваць, што яны знаходзяцца ў цеснай генетычнай або гістарычнай сувязі з купальскімі, да якіх непасрэдна далучаюцца па часу выканання.

У аснове верша большасці веснавых песень ляжаць два чатырохдольнікі (4+4). Але, як мы сказалі, метрычная яго інтэрпрэтацыя ў напеве тыпу моўнай дынамікі вельмі часта крыху трансфармуе верш.

Для беларускіх веснавых заклічак паўднёва-ўсходніх раёнаў характэрны працяглы вокліч у канцы кожнай страфы: «Гу-у» або «У-у». Як сведчаць многія фалькларысты, якія непасрэдна назіралі абрад закліку вясны, гэты гучны і працяглы вокліч з'яўляецца проста «гуканнем» паміж рознымі хорамі, іншы раз хорамі розных вёсак. «Хоры розных вёсак пераклікаюцца так, каб спяванне іх не заціхала і дзе-небудзь, хоць удалечыні, але было чуць песню»,— сведчыць Е. Анічкаў[9]. Вельмі цікавы эфект рэха, калі спяваюць на ўзлессі, і вокліч «Гу» доўга гучыць па бліжэйшых пералесках, рассыпаючыся і знікаючы ў палях.

Інтанацыйна вокліч «Гу» выглядае як рэзкі пад'ём ад танічнага гуку ўверх на квінту або на больш шырокі інтэрвал. Заканчэнне яго — як правіла, глісандаваная лінія ўніз да поўнага знікнення гуку на няпэўнай вышыні.

---

[9] А н и ч к о в Е. В. Весенняя обрядовая песня на Западе и у славян, ч. 1. СПб, 1903, с. 89.

З усіх тыповых сродкаў мелодыкі веснавых песень найбольш характэрнай у адносінах да жанру і яго асобных падраздзелаў з'яўляецца метрарытмічная структура. Разам са структурай верша (прымаючы пад увагу таксама і яго тэматычна-змястоўны бок) яна найбольш садзейнічае выяўленню тыпалагічных сродкаў гэтых песень, дазваляе вылучаць іх у самастойны раздзел нацыянальнай каляндарнай песнятворчасці.

Песні клічнай функцыі (веснавыя заклічкі, № 1—161). Меладычным зернем беларускіх веснавых заклічак з'яўляецца інтанацыя заклiку, што прадвызначаецца самой функцыянальнай накіраванасцю вяснянак — гуканнем. Найважнейшы музычна-інтанацыйны паказальнік гукання, які ўзнікае на аснове адпаведнага моўнага звароту,— узыходная кварта — універсальная, можна сказаць, нават інтэрнацыянальная адзнака клічнасці наогул. Акрамя квартавага ходу, беларуская народная мелодыка выкарыстоўвае яшчэ цэлы рад інтанацыйных модуляў, якія маюць клічны характар рознай ступені актыўнасці і эмацыянальных адценняў. У тэрцавых ладах, асабліва мажорных, гэта падкрэсліванне тэрцыі ладу які стварае эфект фанфарнага гучання. У квартавых ладах з субквартай падобны эфект ствараецца паслядоўнасцю ў адным напрамку дзвюх кварт. Гэтыя і некаторыя іншыя клічныя інтанацыі, якія праслойваюць усю меладычную структуру заклічак, часам нават тэмбрава зліваюцца з эфектам рэха. Як удала адзначыў рускі музыказнаўца-фалькларыст І. Зямцоўскі, «у веснавым чыстым паветры рэзануе сама формула-кліч, якая загадкава спалучае ў сабе крык з тонкім лірызмам»[10]. Дэкламацыйны стыль мелодыкі веснавых заклічак — размова з вясной, іншы раз у форме пытанняўадказаў, выяўляе ўвогуле іх даволі вольную метрарытмічную структуру. Тут якраз часцей за ўсё сустракаецца спалучэнне розных метраў, рытмічных матываў, якія перабіваюцца раптоўнымі паўзамі і клікамі «Гу!». Выкананне большасці прыведзеных у томе заклічак спецыяльна для запісу і ўвогуле іх нотны запіс некалькі нівеліравалі найбольш характэрныя інтанацыі (у першую чаргу тонкую паўзіроўку і зацягванне асобных гукаў), але агульны гукальны характар іх усё ж адчуваецца.

Важнай прыкметай зместу веснавых заклічак, якая захавалася і цяпер, з'яўляецца ўпамінанне пра вясну ў першай жа страфе. Дарэчы, гэта характэрная рыса заклікальных песень наогул; у веснавых жа яна праводзіцца асабліва паслядоўна. Выяўленне адрасата заклічкі ў першым жа выгуку адразу паказвае на каляндарна-функцыянальнае прызначэнне песні.

Сярод сучасных беларускіх веснавых заклічак, разнастайных па зместу і эмацыянальных адценнях, можна вылучыць пяць найбольш устойлівых па музычнай структуры, якія маюць параўнальна шырокі арэал: «Вол бушуе — вясну чуе», «Да памажы, маці, вясну заклікаці», «А вясна, вясна, чужыя жонкі ткуць кросна», «Вясна, вясна, што ты нам прынясла?»,

---

[10] Земцовский И. Мелодика календарных песен, с. 82.

«Вясна, вясёначка, дзе твая дачка Алёначка?». Зразумела, што прыведзеныя першыя радкі заклічак могуць быць у той ці іншай ступені варыянтнымі. Так, у песні «Вясна, вясёначка, дзе твая дачка Алёначка?» замест «Алёначка» можа быць «Паненачка», «Паляначка», «Мар'яначка» і г. д.

Дзве апошнія заклічкі, тыпова дыялагічныя (пытальна-адказныя), характэрныя іменна для беларускага абраду гукання вясны з яго пераклічкай хораў, маюць некаторыя структурныя адрозненні.

Акрамя выдзеленых намі пяці заклічак, існуюць яшчэ і іншыя, разнастайныя па тэкставаму і меладычнаму зместу, але яны таксама даволі




*Карта 1.* Веснавыя заклічкі маналагічнага тыпу: *1* — «Вол бушуе — вясну чуе», *2* — «Ой, вясна, вясна, чужыя жонкі ткуць кросна», *3* — «Да памажы, маці, вясну заклікаці»

яскрава выяўляюць карэнныя прыкметы гэтага паджанру: у тэксце — упамінанне вясны ў першай фразе, у мелодыі — гукальныя інтанацыі.

*«Вол бушуе — вясну чуе»* (№ 1—25) — тыпова беларуская, вельмі распаўсюджаная ў наш час веснавая заклічка, якая бытуе ў асноўным у цэнтральных раёнах Беларусі (гл. карту 1). Сярод іншых заклічак яна вылучаецца найбольш устойлівай метрарытмічнай структурай.

Найбольш простай формай з'яўляецца страфа, якая ўяўляе сабой звычайны дыстых,— AB з дакладнай метрычнай формулай абодвух вершаў

4+4. Такую ж дакладную схему мае і музычны метр — чатыры такты па 4/4 або восем па 2/4 (№ 1—2).

Распаўсюджанай у наш час страфой гэтай песні з'яўляецца страфа ААВ з больш складанай метрарытмічнай структурай напеву (№ 15—25):




Паміж простай і складанай метрарытмічнымі структурамі ёсць цэлы рад пераходных тыпаў (№ 3—14). Прычым у напрамку ад структуры АВ да ААВ асаблівую ўвагу звяртае паступовае фарміраванне характэрнай рытмічнай формулы спачатку ў кадэнцыйных раздзелах (№ 2), а потым на ўсёй форме (№ 10, 11):



Побач са структурай выразна метрычнай сустракаюцца структуры, распетыя ў метрычна дакладных (№ 13) або адвольных (№ 4, 9) малюнках

Страфічная форма вяснянкі «Вол бушуе» з арыгінальнай метрарытмічнай структурай напеву ў цэнтральных раёнах Беларусі зацягнула ў сваю арбіту і песні іншага зместу — як веснавога, так і невеснавога, у першую чаргу лірычнага і баладнага. Асабліва часта сустракаюцца падобныя песні ў раёнах, дзе, натуральна, распаўсюджана сама заклічка «Вол бушуе»,— Старадарожскім, Чэрвеньскім, Капыльскім і некаторых суседніх з імі.

Тую ж рытмічную структуру, што і «Вол бушуе», мае заклічка «Вясна на калочку» (№ 26—30), распаўсюджаная ў тых жа раёнах.

*«Да памажы, маці, вясну заклікаці»* (№ 31—44) мае параўнальна абмежаванае распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі і з'яўляецца, па сутнасці, працягам (асабліва на Магілёўшчыне) больш шырокага арэала гэтай песні ў межах РСФСР (Бранская, Смаленская вобл.). Часта сустракаецца ў тэкставым варыянце «Благаславі, маці, вясну заклікаці», яшчэ часцей — «Благаславі, божа...» На яўна познюю мадэрнізацыю апошняга тэксту ўказвае знікненне ў ім рыфмы: «маці — заклікаці». Строфы па сваёй структуры нестабільныя (у чатырох прыведзеных намі прыкладах усе розныя), хоць складовая пабудова верша даволі вытрыманая — 6+6. У напеве кідаецца ў вочы адна характэрная для гэтай песні мелодыка-рытмічная формула з так званым зваротным рытмам [11], які прысутнічае або ў самым

---

[11] Тыповы зваротны рытм сустракаецца ў веснавым карагодзе «Проса» (№ 303, 304).

пачатку напеву (№ 31, 35), або схаван у сярэдзіне яго (№ 44, пачынаючы з 2-га такта):



*«Ой, вясна, вясна, чужыя жонкі ткуць кросна»* (№ 52—62) распаўсюджана ў паўднёва-заходнім кутку Беларусі (брэсцкае, часткова гомель-




*Карта 2.* Веснавыя заклічкі дыялагічнага тыпу: 1 — Ой, вясна, вясёначка, дзе твая дачка Алёначка?», *2* — «Ой, вясна, вясна, што ты нам прынясла?»

скае Палессе) са своеасаблівым выступам у цэнтры рэспублікі (Нясвіжскі, Стаўбцоўскі і суседнія з імі раёны). Напеў звычайна элегічнага плана.

*«Вясна, вясна, што ты нам прынясла?»* (№ 67—110) — заклічка дыялагічнага пытальна-адказнага характару. Мае вольнаметрычны склад, часта выкарыстоўваюцца складаныя метры — 6/8, 9/8, 7/8. Адрозніваецца разнастайнасцю структурных тыпаў. Арэал яе ў наш час ахоплівае амаль усю Беларусь, за выключэннем крайніх паўднёва-ўсходніх раёнаў.

*«Ой, вясна, вясёначка, дзе твая дачка Алёначка?»* (№ 113—137) — заклічка дыялагічнага тыпу, дзе першы верш — пытанне да вясны, астат-

нія — яе адказ. Распаўсюджана ў асноўным у паўднёва-ўсходніх раёнах. Мае даволі вольны ў метрычных адносінах напеў, які ўспрымаецца як своеасаблівая меладэкламацыя. У першую чаргу гэта адносіцца да першай фразы (пытанне). Адказ набывае больш дакладную, амаль перыядычную рытмічную фактуру (№ 113, 131). Можна меркаваць, што падобны метрарытмічны кантраст паміж пачаткам і працягам выклікан тым, што запеў-пытанне выконваўся адной спявачкай, якая вольна будавала рытмічную канву напеву. У адказе ўступаў хор, і гэта, натуральна, патрабавала ўжо больш узгодненых спеваў. На жаль, мала падрабязных звестак пра характар выканання гэтых заклічак. Захаваліся ўспаміны толькі пра сам факт пераклічкі хораў, але дакладна якіх па складу — невядома [12].

Іншыя заклічкі (№ 140—161) — песні самага разнастайнага тэкставага і меладычнага зместу. Яны згрупаваны намі ў самастойны раздзел, паколькі не ўтвараюць такіх тэрытарыяльных «кустоў», як заклічкі папярэднія, хоць у мінулым, магчыма, таксама мелі падобны характар распаўсюджання.

Сярод прыведзеных вылучаецца заклічка «Жавароначкі, прыляціце» (№ 158) — адзіная сярод веснавых песень, вытрыманая ў поўнай пентатоніцы (да таго ж яшчэ і пераменнай). Унікальнасць яе сярод запісаў беларускага фальклору сведчыць пра неўласцівасць падобнай ладавай структуры нацыянальнаму меласу, хоць характэрныя трыхордавыя папеўкі сустракаюцца ў ім даволі часта [13].

Гукальны характар прыведзеных у гэтым раздзеле вяснянак часта падкрэсліваецца фінальным гуканнем або на самастойнай часціцы («Гу», «У»), або на апошнім складзе завяршальнага слова з наступным глісандаваным рухам уніз. Сярод іх сустракаюцца напевы са скандаваным рытмам, што таксама надае ім (асабліва ў хуткім тэмпе) клічны характар [14].

П е с н і  з а м о ў н а й  ф у н к ц ы і (№ 163—279). Па сутнасці, вельмі блізкія да заклікальных песень. Гэта таксама песні-звароты, песні-просьбы, якія маюць не такі адкрыты, прыўзняты характар, як заклічкі, і звязаны хутчэй з выкарыстаннем не імператыўных, а зачаравальных інтанацый. У іх, як правіла, няма радасных вокліча́ў, мелодыка больш вузкага дыяпазону, адсутнічаюць дынамічныя меладычныя скачкі і агульны тонус нечым нагадвае псалмодыю.

У адрозненне ад клічных кананічныя песні замоўнай функцыі сустракаюцца значна радзей і не ва ўсіх раёнах. Большая частка песень гэтай функцыі яўна пазнейшага прымеркавання.

---

[12] У большасці запісаў прыводзіцца адна страфа (пытанне). Толькі ў некаторых дыялагічнасць адлюстравана поўнасцю. Да таго ж і гэтыя запісы зроблены ў асноўным ад аднаго выканаўцы, што таксама ў пэўнай ступені знішчае іх «пераклікальны» характар.

[13] Песня запісана ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці.

[14] Некаторыя заклічкі ва ўсходніх раёнах Беларусі непасрэдна змыкаюцца з карагодамі і маюць уласцівую апошнім структуру.

Некаторыя песні замоўнай функцыі, як і заклічкі, на ўсходзе рэспублікі выконваюцца ў час ваджэння карагодаў і маюць адпаведную музычную структуру (№ 219, 220).

Да замоўных адносяцца ў асноўным песні юраўскія і часткова траецкія. Замоўныя адзнакі ў мелодыцы асабліва характэрны для песень юраўскіх [15].

Юраўскія песні сустракаюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі, але асабліва густа (і ў сваіх кананічных тыпах) размеркаваны ў паўночна-заходніх




*Карта 3.* Раён найбольшага распаўсюджання кананічных юраўскіх песень

раёнах. Тут яны ўтвараюць нават некалькі самастойных лакальных тыпаў, дакладных па структурнай кампазіцыі.

У некаторых мясцовасцях юраўскія непасрэдна папярэднічаюць ранні́м летнім песням і ў сувязі з гэтым маюць падобны да апошніх меладычны і рытмічны змест. Як сведчыць Г. Цітовіч, у Маларыцкім раёне «вясну» і «купалу» спявалі «на той самы голас». Шмат агульнага паміж юраўскімі і летнімі ў паўночна-заходніх раёнах.

Зараз цяжка зрабіць абагульненні ў маштабах усёй Беларусі, але некаторыя назіранні, зробленыя, у прыватнасці, на аснове запісаў Р. Шырмы,

[15] Р. Шырма вылучае юраўскія песні ў самастойны раздзел каляндарных песень.

паказваюць, што ў тых месцах, дзе выконваецца шмат юраўскіх песень, звычайна даволі мала іншых абрадавых веснавых песень.

Як і для кананічных клічных песень, для юраўскіх амаль абавязковым з'яўляецца ўпамінанне ў першай жа страфе Юр'я — аднаго са старасла-вянскіх язычаскіх боствaў — абаронцы раслінасці і ўсялякай жыўнасці. З другога боку, шматлікія абавязковыя рэфрэны істотна адрозніваюць гэтыя песні ад веснавых заклічак. Даволі звычайны кантраст паміж асноўнай часткай страфы і рэфрэнамі. Асноўная метрычная пабудова трохдольная з кароткай першай доляй, што надае рытмічным фігурам сінкапаваны характар:



Адным з арыгінальных лакальных тыпаў юраўскіх кананічных песень, распаўсюджаных у асноўным у Пастаўскім, Браслаўскім, Міёрскім і сумежных з імі раёнах, з'яўляецца тып, адлюстраваны ў прыкладах № 163—170. Страфічная структура яго верша rArA, дзе r — зварот да Юр'я, часам замест Юр'я выкарыстоўваецца іншае слова (№ 209). Арыгінальнай і ўстойлівай з'яўляецца і метрарытмічная структура напеву:



У напевах гэтых песень вельмі ярка прадстаўлен замоўны характар мелодыкі, якая развіваецца ў вузкім тэрцавым дыяпазоне з крыху няўстойлівым танічным гукам (вынік секундавай пераменнасці паміж VII натуральнай і I ступенямі).

На паўднёвы ўсход ад прыведзенага тыпу распаўсюджан другі, таксама з рэфрэнам, але са страфой пабудовы rAr. Іменна такі тып найбольш блізкі да ранніх летніх песень, характэрных для гэтай мясцовасці. Часта юраўскія песні маюць тут і летні прыпеў «Божа мой» (№ 198, 248), які замяніў хутчэй за ўсё прыпевы найбольш ранняга віду (№ 235, 236).

Рытмічная сінтагма другога тыпу юраўскіх песень выглядае так:



Па сутнасці, гэта амаль тая ж структура, якую мае папярэдні тып: тыя ж чатыры рытмічныя адзінкі сінкапаванай пабудовы



той жа характар рэфрэна, павялічаны толькі на адзін склад. Розніца ў тым, што апошняя структура, менш устойлівая ў рытмічных адносінах, дапускае ўнутры сябе розную схему акцэнтаў, у сувязі з чым такты могуць мець выгляд або 3/4, або 6/8:



Падобны дуалізм метра часта сустракаецца ў беларускіх калядных песнях, з якімі юраўскія песні другога тыпу маюць самыя непасрэдныя сувязі. Песні гэтага тыпу адрозніваюцца ад папярэдняга таксама і большым ладавым дыяпазонам (квінта) і, значыць, больш актыўным меладычным развіццём.

У якасці тыповага напеву юраўскай песні можна таксама прывесці песні, якія бытуюць у Валожынскім раёне з наступнай рытмічнай структурай:



Яна амаль супадае са структурай веснавых бытавых песень тыпу 4+3 (в) (гл. с. 67) і таксама характарызуецца сінкапаваным рытмам. Цыклічная мернасць рытму, а таксама агульная квадратнасць формы некалькі збліжае гэтыя песні з калыханкамі. Як і ў апошніх, тут падкрэсліваецца гарманічны ўводны тон, які прынцыпова не ўласцівы большай частцы беларускіх каляндарных песень (№ 186, 199).

П е с н і  г у л ь н ё в а й  ф у н к ц ы і (карагодныя песні). Беларускія карагодныя песні не з'яўляюцца нечым арыгінальным у агульным комплексе ўсходнеславянскай карагоднай традыцыі. Шматлікія ніці — у галіне сюжэта, структуры, інтанацыі — звязваюць беларускі карагод з рускім і ўкраінскім. Больш таго, многія адзнакі жанру з'яўляюцца агульнымі для ўсёй славянскай творчасці, што ўказвае на старажытныя традыцыі гэтага віду народнага мастацтва.

Тыпова карагодныя песні, г. зн. песні, у якіх іх танцавальна-гульнёвая прырода закладзена ў меладычным змесце, сустракаюцца па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Асноўная ж іх маса (амаль 80%) сканцэнтравана ў паўднёва-ўсходняй частцы рэспублікі — Магілёўскай (асабліва), Гомельскай, часткова Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абласцях. Гэты раён з'яўляецца часткай больш шырокага раёна распаўсюджання ўсходнеславянскіх

карагодных песень прыкладна адных і тых жа тыпаў, рэгіёна, які ўключае акрамя названых беларускіх абласцей таксама Бранскую, Курскую, Арлоўскую, Смаленскую вобласці РСФСР, Чарнігаўскую, Сумскую, Кіеўскую Житомірскую вобласці Украіны.

Карагод — сінкрэтычная форма народнага мастацтва, якая яднае паэзію, музыку, танец, элементы драматычнай гульні. Багаты і разнастайны змест беларускіх карагодаў: тут можна сустрэць і маральна-этычныя выказванні (часам у выглядзе жарту), і эпічнае апавяданне-ўспамін, і глыбока лірычныя перажыванні, звязаныя з момантамі раскрыцця пачуццяў кахання, і эмацыянальна прыўзнятыя, іншы раз ярка афектаваныя сітуацыі. Але пры ўсіх гэтых разнастайных эмоцыях карагодныя песні вылучаюцца ў першую чаргу мернасцю, павольнасцю, нейкай дзелавой засяроджанасцю ў асэнсаванні падзей, што, з аднаго боку, адрознівае іх ад уласна танцавальных напеваў, больш рухомых і адкрыта экспрэсіўных, з другога — ад простых песень, якія, як правіла, не маюць хуткіх сюжэтных паваротаў.

Не спыняючыся на харэаграфічнай і драматургічнай характарыстыцы карагодаў, трэба сказаць, што тэкставы і музычны змест іх знаходзіцца ў цеснай эмацыянальнай, сюжэтна-псіхалагічнай і інтанацыйна-дынамічнай сувязі. Музыка карагода — не толькі простае суправаджэнне, гукавы фон. Яна — важнейшы элемент змястоўнасці карагода, яго пульс і эмацыянальны подых.

Як і ў іншых жанрах раннетрадыцыйнай беларускай песеннай творчасці, тут ёсць свае тыповыя, стабільныя ў часе і прасторы структуры. Аднак дакладнае інтанацыйнае развіццё ў кожным асобным выпадку залежыць ад «штохвілінных» перажыванняў, колькасці і складу ўдзельнікаў карагода. Стварэнню калектыўнага пачуцця ў многім садзейнічаюць так званыя карыфеі карагода як найбольш актыўныя і творча ініцыятыўныя ўдзельнікі яго.

Спяванне вялікай групы людзей, якія да таго ж знаходзяцца ў руху, вызначыла спецыфічныя якасці музычнага суправаджэння карагодаў, якое адрозніваецца своеасаблівай «броскасцю», роўнасцю інтанацыйнага строю, вялікай роляй акцэнтнасці на розных структурных узроўнях.

Асаблівасцю карагодных песень у адрозненне ад звычайных з'яўляецца наяўнасць у іх распрацаванай (падкрэслена выразнай) дынамічнай, тэмпавай і рэгістравай партытуры. Суправаджэнне асобных момантаў дзеяння (імітацыя розных працоўных працэсаў, любоўная гульня), у якое ўключаюцца і індывідуальныя і калектыўныя выканаўцы, улічвае паскарэнне або запозненасць выканання, узмацненне або зніжэнне гучнасці пры дэкламацыйных рэпліках. На жаль, у многіх зафіксаваных у нотах узорах карагодных песень гэтыя асаблівасці не знайшлі адлюстравання. Аднак сустракаюцца карагоды, дзе кантраст у выкананні падкрэслен ужо самой музычнай фактурай (дыялагічнасць, калектыўна-сольныя суадносіны і г. д.).

З пункту гледжання гістарычнага развіцця формы бытавання бела-

рускіх карагодных песень прынцыпова не адрозніваюцца ад іншых раннетрадыцыйных песенных жанраў. Тут таксама можна прасачыць паступовае затуханне іх абрадавай абумоўленасці. Мы маем на ўвазе не толькі зніжэнне патэнцыялу «сур'ёзнасці» гэтых песень, іх абрадавай «актыўнасці», але ўвогуле зніжэнне ўдзельнай вагі карагодных гульняў у побыце сучаснага сяла.

У выніку многія карагодныя песні паступова перайшлі ў разрад звычайных і існуюць без усялякай рытуальнай абумоўленасці. Многія з іх згубілі свае стылістычныя прыкметы і пачалі выконвацца ў звычайнай манеры, без сувязі з прынцыпамі рухаючай дынамікі. У мелодыцы гэтых песень з'явіліся неўласцівыя ім распеў паўімправізацыйнай манеры, музычнасінтаксічныя варыянты ў розных куплетах, здольнасць да індывідуалізаванага пераўтварэння інтанацыйнай структуры. Многія з такіх карагодаў трывала замацаваліся ў іншых, чыста песенных раздзелах веснавога цыкла. Такі распеты варыянт карагода «Страла» запісан З. Радчанка (№ 294). Ён і называецца проста веснавой песняй. У ім прысутнічаюць метрычная пераменнасць (6/4, 5/4), несіметрычна расстаўленыя ферматы, хоць асноўная тыповая метрарытмічная формула (асабліва ў 2-м такце) усё ж праглядваецца. Захавана і тыповая страфічная форма (ABRB).

Шмат карагодных песень перайшло ў раздзел агульналірычных, тым больш што змест многіх з іх, асабліва бытавых, мае цягу да гэтай сферы вобразнасці [16].

Жанравую прыналежнасць карагодных песень у наш час могуць «выдаць» іх музычна-рытмічная і страфічная структуры, якія даволі добра захаваліся пры ўсіх гістарычных пертурбацыях гэтага жанру. Характэрны для іх і граматычныя, і лексічныя, і страфічныя асаблівасці.

Але нярэдка бывае, што тая ці іншая песня не выяўляе ніякіх прыкмет карагоднага жанру, а між тым інфарматары паведамляюць пра яе як пра карагодную.

Тут могуць мець месца розныя абставіны. Па-першае, не выключан адваротны працэс — паступовае прыстасаванне звычайных песень да карагоднай гульні. Дарэчы, гэты працэс вельмі натуральны і звычайны ў сучаснай практыцы народнага выканання, калі пад які-небудзь напеў, часцей дынамічны, адбываецца гульня. Асабліва гэта характэрна для традыцыйнай дзіцячай творчасці, якая не прызнае спявання ў нерухомым стане. Многія з падобных песень захоўваюць яўныя «карагодныя сляды», хоць і лічацца проста веснавымі песнямі.

Па-другое, гэта могуць быць песні, якія не валодаюць яўна выяўленымі прыкметамі карагодаў і набываюць «карагодны» сэнс толькі ў працэсе самой гульні.

---

[16] В. Весялоўскі ўвогуле лічыў карагоды генетычнай крыніцай позняй народнай лірычнай песні.

Па сюжэтна-гульнёвай партытуры, якая ў пэўнай ступені вызначае музычна-паэтычны змест, карагоды можна падзяліць на тры тыпы.

Першы — карагоды-гульні са складанай драматургіяй, з удзелам калектыву і салістаў, якія паказваюць тыя або іншыя сцэнкі. Іншы раз, акрамя песеннага матэрыялу, гэтыя карагоды ўключаюць размоўныя эпізоды. Асабліва многа карагодаў, якія непасрэдна змыкаюцца з гульнёй, у дзіцячай творчасці.

Другі — карагоды-дыялогі з песнямі антыфоннай фактуры. Звычайна ў іх усе ўдзельнікі падзяляюцца на дзве групы, паміж якімі ў пытальна-адказнай або апавядальна-канстатуючай форме адбываецца спяванне-спаборніцтва. Куплеты або часткі іх паперамена выконваюцца паўхорамі. Тыповы прыклад такога карагода, аднолькава характэрнага для ўсёй усходнеславянскай творчасці, «А мы проса сеялі». У чыста меладычных адносінах куплеты, якія выконваюцца супрацьлеглымі паўхорамі, звычайна ідэнтычныя. І толькі дынаміка выканання можа вызначыць партытуру развіцця падзеі. У іншых выпадках дыялог ажыццяўляецца паміж усімі ўдзельнікамі карагода і салістам.

І нарэшце, асноўную масу карагодаў складаюць карагоды маналагічнага плана — карагодныя песні, якія ад пачатку да канца выконваюцца ўсімі ўдзельнікамі,— трэці тып. Гэта ўласна песні-карагоды, хоць у працэсе іх выканання могуць імітавацца падзеі, аб якіх спяваецца, з уключэннем і выключэннем дзеючых асоб. Сярод песень-карагодаў часцей сустракаюцца ўзоры звычайнай песеннай структуры. Вось адна з іх, якую выконвалі вясной, «кругам ходзячы» [17]:




Гэта тыпова лірычная песня, крыху панурая. Падобны змест сустракаецца звычайна ў песнях «бяседных», хоць па лада-інтанацыйнай структуры яна блізкая да жніўных, якія менш за ўсё падыходзяць да ваджэння карагодаў.

[17] Архіў ІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 31, № 42. Зап. Г. Цітовіч у 1949 г. у Бабруйскім р.

З'яўляючыся суправаджэннем абрадаў або гульняў (абедзве функцыі спачатку сумяшчаліся, а потым вядучае, самастойнае значэнне атрымала гульня) і таму звязаныя з рознымі рухамі, карагодныя песні адрозніваюцца асаблівай пластычнасцю і ўнутранай суразмернасцю. У метрычных адносінах яны аказаліся стабільнымі амаль для ўсёй тэрыторыі Беларусі, выключаючы тыя, што сталі пераходзіць у іншыя жанры веснавога цыкла, напрыклад у юраўскія, адпаведна трансфармуючыся. Разам з тым карагодныя веснавыя песні найбольш рухомыя ў цыкле: яны вельмі актыўна сталі разыходзіцца па ўсяму гадавому колу і даволі трывала замацоўвацца ў іншых сезонных цыклах — зімовым, летнім, восеньскім.

Пераход веснавых карагодаў у іншыя каляндарныя тэрміны ў многім тлумачыцца іх тэматыкай, звязанай не столькі з веснавымі, колькі з агульнымі працоўнымі або сямейна-бытавымі сітуацыямі.

Часцей за ўсё «вандроўныя» веснавыя карагоды можна сустрэць летам (тут яны непасрэдна змыкаюцца з купальскімі гульнямі), радзей зімой (у асноўным на Гомельшчыне) і вельмі рэдка ўвосень, якая менш за ўсё асацыіруецца з радаснымі чаканнямі і магічнай сімволікай, што папярэднічае важнейшым гаспадарча-вытворчым падзеям.

Па складу ўдзельнікаў карагоды можна падзяліць на маладзёжныя і карагоды для старэйшага ўзросту. Маладзёжныя — гэта чыста дзявочыя карагоды, аднак вельмі часта ў іх удзельнічаюць і хлопцы; карагоды ж для старэйшага ўзросту водзяць пераважна жанчыны.

Тэматыка маладзёжных карагодаў звычайна любоўная (матывы знаёмства, выбар маладой і маладога). У «пажылых» часцей за ўсё знаходзяць адлюстраванне розныя перыпетыі сямейнага жыцця. У адрозненне ад маладзёжных, амаль заўсёды радасна-прыўзнятых, тут трапляюцца сюжэты сумнага або какетліва-іранічнага характару.

У музычных адносінах такія адрозненні амаль не назіраюцца. Толькі, можа, у маладзёжных карагодах часцей выкарыстоўваюцца дыялагічны і карагодна-гульнёвы тыпы. Для «пажылых» карагодаў больш уласцівы маналагічны тып.

Сустракаюцца карагоды, у музычным кантэксце якіх адлюстраваны прыкметы, што выяўляюць наяўнасць «жаночага» і «мужчынскага» пачаткаў. У асноўным гэта адбіваецца на агульнай дынаміцы і на метрарытміцы.

Жаночы танец суправаджаўся мелодыямі лірычнага характару, з «круглымі» інтанацыямі, рытмікай, пазбаўленай вострых паслядоўнасцей. Сам тэмп гэтых песень плаўны і велічны («быццам лябёдышка пайшла»). Песні дзявочага рэпертуару часцей за ўсё шматгалосыя (у асноўным двухгалосыя), з мяккімі, «карагоднымі» спалучэннямі галасоў (так званыя вагальныя тэрцыі). Паважнасць, павольнасць і плаўнасць — адметныя рысы інтанацыйнай характарнасці гэтых мелодый.

Мужчынская частка карагоднай песні, наадварот, імклівая, выконваецца ў рашучым тэмпе, што прыводзіць іншы раз да скорагаворкі. Часам

танец гэты заўзяты, хуткі, з «каленцамі» і прытупамі. І меладычна, і зрокава мужчынская частка карагоднай песні выглядае інакш, чым жаночая. Напрыклад, плаўны рух чвэрцямі і палавінамі, да таго ж з неперыядычнай распеўнай рытмікай змяняецца пошчыкам «восьмых», рэпетыцыйнымі паўторамі, раптоўнымі акцэнтамі.

Ад характару рухаў у карагодзе, групавых або індывідуальных, залежыць метрарытмічная і агульная архітэктанічная пабудова напеву. Увогуле для структуры карагодаў характэрна канструктыўная прапарцыянальнасць. Не заўсёды гэта адлюстравана ў выкарыстанні цотных суадносін; вельмі распаўсюджаны тут трохэлементныя пабудовы: у межах такта 3+3+3+3 («Страла»), у межах формы (2+2+2)+(2+2+2) («Проса»).

Да напеваў выразна цотнай пабудовы можна аднесці № 339, 342 і інш. Нярэдка сустракаюцца метры змешанага тыпу (№ 349, 377). Аднак пры ўсіх структурных «парушэннях» у карагодных напевах выразна намячаецца цэнтральная вось сіметрыі, якая падзяляе іх на дзве падобныя пабудовы (прынцып «рытмічнага паралелізму»).

Паралелізм абедзвюх палавін напеву часцей за ўсё арганізуецца на аснове тэкставай страфы адпаведнай пабудовы — AA або AA[1]. Варыяцыйныя змены ў апошнім выпадку (A[1]) нязначныя і ў асноўным датычацца кадэнцыйных завяршэнняў.

Зрэдку можна сустрэць больш развітыя меладычныя схемы — abcc (№ 293), $aa^1a^2a^3$ (№ 294) або ўвогуле кантрастныя супастаўленні — AB (№ 300), што, аднак, не адмаўляе агульнага прынцыпу роўнасці рытмічных сінтагм.

Мелодыка карагодных песень характарызуецца падкрэсленай суразмернасцю асобных музычных фраз, у ёй яўна адчуваецца цэзурнасць, часта выкарыстоўваюцца квінтавыя лады, у тым ліку і так званы веснавы лад (мінорны пентахорд без 2-й ступені з частай кадэнцыяй на тэрцыі). Песні ў гэтым ладзе сустракаюцца ў асноўным у Магілёўскай вобласці (№ 297, 330).

Звычайныя кадэнцыйныя завяршэнні ў карагодных напевах на 1-й ступені, але сустракаюцца і на 2-й (№ 304, 305), пераважна ва ўсходніх раёнах Беларусі.

Не выяўляючы асабліва прынцыповых разыходжанняў з астатнімі песнямі веснавога цыкла ў мелодыка-лінеарных, ладавых, рытмічных адносінах, карагодныя песні даволі арыгінальныя па агульнаструктурных заканамернасцях. Іменна апошнія дазваляюць выявіць дакладную жанравую прыналежнасць іх, нягледзячы на тое, што выканаўцы могуць ужо не помніць пра гэта.

Структурныя асаблівасці беларускіх карагодных песень праследжваюцца як у тэксце, так і ў мелодыі, але часам толькі ў чым-небудзь адным.

З пункту гледжання агульнай структуры ўсе карагодныя песні можна

падзяліць на дзве вялікія групы: карагоды з прыпевам і карагоды без прыпеву.

Карагоды з прыпевам у сваю чаргу можна падзяліць на два тыпы. Першы, асноўны, аб'ядноўвае амаль чатыры пятых усіх карагодаў гэтай групы. Ён з'яўляецца тыповым не толькі для песнятворчасці ўсіх славян, але і для многіх іншых (у прыватнасці, раманскіх) музычных культур. Галоўны формаўтваральны прынцып структуры гэтага тыпу — паўтарэнне другой часткі першага верша разам з пастаянным рэфрэнам — ABRB. У якасці рэфрэна выкарыстоўваюцца розныя воклічы, якія, магчыма, некалі і ўспрымаліся ў пэўным семантычным сэнсе, а зараз адносяцца да ліку афектаваных зваротаў-сімвалаў: «ладушка-лада», «ой, ляй-лё», «люлюшанькі-люлі» і г. д.:

Із-пад лесіку, лесу цёмнага,<br>
Ой лі, ой, люлі, лесу цёмнага...

Ва ўмовах міжжанравых перапляценняў страфа тыпу ABRB нярэдка сустракаецца ў песнях некарагодных. Аднак пры гэтым даволі рэдка захоўваецца рытмічны паралелізм паміж паўстрофамі, наяўнасць якога, як мы казалі, характэрна для карагодных песень.

Другі тып карагодаў з прыпевам мае страфу, у якой увесь другі верш з'яўляецца паўторным прыпевам — AR (у мікраструктуры abrr). Паўторны прыпеў можа ўтварацца зноў жа з семантычна нейтральных слоў (№ 352) або слоў з пэўным магічным сэнсам (№ 354).

Метрарытмічны паралелізм паміж вершамі ў гэтай страфе часта не вытрымліваецца. Разнавіднасцю такой структуры з'яўляецца страфа, якая мае прыпеў-рэфрэн у канцы кожнага верша (№ 358). Дарэчы, прыведзены прыклад запісан на захадзе Беларусі, дзе карагоды з прыпевам увогуле рэдкая з'ява.

Значная большасць карагодных песень з прыпевам мае ў аснове вершаваных метрычных груп пяцідольнік або сямідольнік (з дапаўненнямі або ўсячэннямі). Найбольш тыповым сярод пяцідольных метрычных вершаваных структур з'яўляецца карагод «Страла» (№ 291—295). Першапачатковы сэнс яго зараз не зусім ясны. Упамінанне стралы нібы дапускае непасрэдную сувязь карагода з далёкай эпохай паляўнічага ўкладу ў жыцці славян. Аднак у абрадавых адносінах (ва ўсякім выпадку па ўспамінах) гэта песня характарызуецца некалькі іншымі сэнсавымі акцэнтамі. І на Беларусі, і на суседніх Браншчыне і Чарнігаўшчыне яна суправаджае абрад «пахавання стралы», г. зн. рытуал захавання галінкі, стужачкі, што павінна засцерагаць ад маланкі, неўраджаю і г. д.

Метрарытмічная структура страфы песні складаецца з двух 10-складовых вершаў (чатыры 5-складовікі класічнага народнага тыпу з сілавым акцэнтам на сярэдняй долі):

Ляцела́ страла да удо́ль сяла,<br>
Ой лі, о́й, люлі, да удо́ль сяла.

Такія суадносіны, але ўжо з метрычным акцэнтам захоўваюцца і ў музычнай структуры (іншы раз з затактам):



З прыведзеных намі ў томе чатырох варыянтаў карагода «Страла» тры цалкам адпавядаюць указанай схеме. Чацвёрты (у запісе З. Радчанка) з'яўляецца, як мы гаварылі вышэй, ужо распетым варыянтам (гл. с. 58).

Кампазіцыйная структура «Стралы» настолькі арганічная і арыгінальная, што нярэдка выкарыстоўваецца ў карагодных песнях зусім іншага зместу (№ 297—302). Некаторыя з гэтых песень у тэматычных адносінах з'яўляюцца самастойнымі, іншыя, напрыклад № 298, уяўляюць сабой некалькі перайначаны варыянт той жа «Стралы».

Для карагода «Страла» характэрна асаблівая размеранасць меладычнага руху. Выразная квадратнасць формы і строгая перыядычнасць акцэнтаў адпавядаюць такім жа выразным рухам самога карагоднага ігрышча. У большасці выпадкаў гэта суразмернасць захоўваецца і ў звычайным (без танца) спяванні. Ва ўсякім выпадку распевы гэтай песні, як у запісе З. Радчанка, сустракаюцца рэдка.

Другой распаўсюджанай амаль у тых жа самых раёнах, што і «Страла», карагоднай песняй з'яўляецца «Проса» («А мы проса сеялі») (№ 303—305), агульная для рускага, беларускага і ўкраінскага фальклору [18]. Яна мае такую ж стабільную 10-складовую страфу, як і «Страла», але складаецца з дзвюх рознаскладовых частак — 7-складовіка і 3-складовіка, які звычайна паўтарае апошняе 3-складовае слова ў 7-складовіку:

А мы проса сеялі, сеялі,
Ой лі, лада, сеялі, сеялі.

Музычная рытміка гэтай песні таксама па-свойму трафарэтная:



У гэтым метрычным малюнку прыцягвае ўвагу так званы сіметрычна зваротны рытм:



[18] Падрабязна пра распаўсюджанне гэтай песні ва ўсходнеславянскім фальклоры і яе структурныя асаблівасці гл.: Земцовский И. Мелодика календарных песен, с. 101—110.

Асаблівасць яго ў дадзенай песні заключаецца ў перадачы аднаго і таго ж слова ў двух розных акцэнтах-версіях (дуплетныя акцэнты) — спачатку на першым, затым на трэцім складзе:

| | |
|---|---|
| се́ — я — лі | се — я — лі́ |
| ка́ — па — лі | ка — па — лі́ |
| вы́ — тап — чам | вы — тап — ча́м |

Рытмічная інверсія карагода «Проса» нярэдка прыводзіцца як прыклад спецыфічнага для ўсходнеславянскай песнятворчасці рытму, хоць, акрамя ўказанай песні, яго вельмі рэдка дзе-небудзь можна сустрэць.

Як і метрарытмічная схема песні «Страла», метрарытмічны каркас «Проса» стаў прыцягальным для песень іншага зместу, напрыклад юраўскай (№ 310) [19], тым больш што завяршальнымі верш словамі тут сталі неабходныя трохскладовыя: «юр'еў конь», «капытом» і інш. (Увогуле для тыпова юраўскіх песень такі прыём паўтарэння ў канцы вершаў апошняга слова не характэрны.)

Структура песні «Проса» таксама мерная, з дакладнай перыядычнасцю акцэнтаў, хоць характэрная для беларускай раннетрадыцыйнай песнятворчасці манера зацягвання кадэнцыйнага гуку ўнесла і тут свае папраўкі (№ 304, 309).

У іншых карагодных песнях тыпу ABRB сустракаюцца як 5-складовыя (№ 316—327), так і 7-складовыя (№ 332) вершаваныя памеры. Сярод першых у меладычным распеве вызначаецца своеасаблівая «вальсападобная» схема (№ 316—327). Вершаваны метр у іх той самы 5-дольнік, што і ў карагодзе «Страла», але з меладычным акцэнтам не на сярэднім, 3-м складзе, а на кожным няцотным (харэічны рытм):

|—|—|



Сярод 7-складовікаў сустракаюцца таксама ўзоры з выразнай, амаль маршападобнай рытмікай (№ 337, 338). Гэта стала прычынай таго, што некаторыя песні з такой рытмікай замацаваліся ў салдацкім рэпертуары. У гэтым выпадку першы радок звычайна выконвае запявала, другі падхоплівае хор. У рэфрэн нярэдка ўключаецца заліхвацкі посвіст. Сувязь карагодных песень гэтага тыпу з песнямі ваеннымі не заўсёды ясная ў кожным выпадку. Магчыма, падобны характар некаторых карагодаў — вынік існавання іх на працягу некаторага часу ў салдацкім асяроддзі, адкуль яны потым у абноўленым выглядзе вярнуліся ў традыцыйны сялянскі рэпертуар.

---

[19] Мелодыка гэтай песні з'яўляецца амаль дакладным аналагам найбольш распаўсюджанага варыянта «Проса».

Нарэшце, у гэтай групе можна вылучыць карагоды, структура якіх мае схільнасць да завяршальных рэфрэнаў,— AR (№ 352—358).

Другая група карагодных песень (без прыпеву) менш ярка выяўляе свае жанравыя рысы, хоць і тут ёсць некаторыя тыповыя прыкметы, якія вызначаюць іх функцыянальны сэнс.

З пункту гледжання структуры вылучаюцца даволі тыповыя для ўсходнеславянскай народнай музыкі карагодныя песні, пабудаваныя па схеме «пара перыядычнасцей» AABB (№ 360—379). Гэта схема адносіцца ў асноўным да меладычнага зместу. Што датычыцца тэксту, то ён нярэдка мае змешаны характар.

Вельмі характэрны для ўказанага тыпу карагодных песень музычна-рытмічны кантраст паміж А і В. Прычым А ідзе звычайна ў больш плаўным рытме — гэта частка больш мерная, напеўная, «карагодная». Частка В, наадварот, больш рытмічна рухомая (як правіла, тут рытмічныя працягласці ўдвая карацей, чым у А). Напеўная пластыка першай часткі змяняецца ў другой, рэчытатыўнай, скорагаворкай, што робіць апошнюю больш танцавальнай (№ 363, 368).

Адна з важнейшых тэкставых прыкмет карагодных песень — паўтарэнне асобных слоў або невялікай групы слоў, якія маюць характар своеасаблівага рэфрэна і знаходзяць нейкае адэкватнае адлюстраванне ў саміх карагодных рухах. (Асноўны рух карагода — кручэнне — у некаторай ступені асацыіруецца з паўтарэннем.) Паўтараюцца, як правіла, словы, якія замыкаюць фразу (верш). Таму верш «Ой, касю, касю, касю вараны» не тыповы, нягледзячы на паўтарэнне слова «касю», для карагоднай песні, тады як «Ой, хадзіла дзевачка, дзевачка» — нармальны для яе сінтаксічны зварот.

Калі паўтараецца ўся паўсінтагма, тады структура верша набывае схему ABCC (№ 379, 383 — з другой страфы). Часцей заключнае ў вершы слова толькі паўтараецца (№ 390, 398), іншы раз спяваецца нават чатыры разы (№ 385):

Да чаму ж ты, яліначка, не зялёна,
Не зялёна, не зялёна, не зялёна...

(Дарэчы, і ў песні «Проса» выкарыстан гэты прыём.)

Адной з устойлівых мелодыка-рытмічных асаблівасцей карагодных песень з'яўляецца зварот завяршальна-сцвярджальнага характару, які выконваецца ў канцы страфы (своеасаблівы рэфрэн) звычайна пасля рытмічных рэпетыцый (№ 398, часткова № 399).

Іншы раз тыпова карагодны напеў можа падказаць характэрны метрарытм. Тут у першую чаргу трэба ўказаць на шырокавядомую на Магілёўшчыне і Гомельшчыне карагодную песню «Лука» — адну з першых, што выконваюцца вясной (№ 406—411).

Увогуле трэба сказаць, што пры ўсіх міжжанравых пераходах і функцыянальным пераасэнсаванні беларускія карагодныя песні і зараз заста-

юцца даволі характэрнымі ў каляндарнай песнятворчасці — як па вобразнаму сэнсу, так і па структурных асаблівасцях — і з'яўляюцца цікавым раздзелам нацыянальнай песеннай культуры.

Песні бытавой функцыі (№ 423—611). Гэтыя песні ў асноўным прымеркаваны да вясны. Адрозніваюцца даволі стракатым зместам У іх звычайна не ўпамінаецца не толькі вясна, але нават якое-небудзь веснавое свята — абрад ці ўвогуле сітуацыі, звязаныя з веснавым перыядам. Тут пануюць сюжэты лірычныя, якія можна сустрэць і ў іншых цыклах каляндарнай і сямейна-абрадавай паэзіі, і ў познетрадыцыйных песнях.

Разам з чыста лірычнымі да песень бытавой функцыі адносяцца баладныя, жартоўныя. Усе яны ў той ці іншай ступені нясуць у сабе агульныя стылістычныя рысы веснавой песні (вузкі амбітус, манадычная фактура, характэрны эмацыянальны каларыт), хоць, як мы сказалі, рысы гэтыя зусім арганічна могуць уваходзіць у характарыстыку і іншых жанраў. Галоўным довадам аднясення іх іменна да веснавога цыкла стала таксама прымеркаванасць (даволі дакладная і прынцыповая згодна выканаўчай традыцыі) да вясны [20].

Па ступені тэматычнай і стылістычнай прымацаванасці да веснавога перыяду бытавыя песні можна падзяліць на тры групы:

1. Песні, характэрныя толькі для веснавога перыяду, з самастойнай для гэтай групы структурай.

2. Песні з запазычанай з іншых жанраў структурай, але якія даволі ўстойліва замацаваліся ў веснавым цыкле.

3. Песні з яўна запазычанай тэматыкай і структурай, якія маюць у веснавым цыкле эпізадычны характар і якія часта можна сустрэць у іншых каляндарных цыклах.

Першая група песень мае характэрны рытмічны змест, важнейшая прыкмета якога — выкарыстанне сінкапаваных рытмаў з яркім харэічным акцэнтам (№ 423, 424). Мы ўжо сустракаліся з падобнымі рытмамі ў заклічных і асабліва ў замоўных песнях. Відавочна, такі рытм уласцівы ўвогуле веснавым песням. Да таго ж рытмічная структура гэтай групы веснавых бытавых песень вельмі блізкая да структуры купальскіх песень, што дае магчымасць аднесці яе да агульнага вясенне-летняга тыпу. Адна з разнавіднасцей яе цалкам супадае з лакальным формульным рытмам купальскіх песень. Пры даволі пераасэнсаваным тэксце іншы раз бывае амаль немагчыма толькі па аднаму напеву вызначыць, да якога цыкла адносіцца песня — да веснавога ці да купальскага.

У выканаўчай практыцы сінкапаваныя фігуры нярэдка ўступаюць месца плаўным (ямбічным) рытмічным матывам або ўвогуле выраўненым

---

[20] Песні, прымеркаваныя да вясны, але якія стылістычна яўна выходзяць за межы цыкла (іншая тэматыка, шырокі ладавы дыяпазон, шматгалоссе развітога тыпу), у дадзены том мы не ўключалі.

абедзвюм долям. Але ўсё ж хаця б у адным эпізодзе агульнага рытмічнага развіцця сінкапаваная фігура акцэнтуецца.

Іншы раз знікае і сінкопа — змяняецца метрычны рух, і рытмічны матыў пачынаецца з-за такта (№ 427).

Песні першай групы ў залежнасці ад колькасці складоў у вершы можна падзяліць на чатыры тыпы:

1-ы тып (№ 423, 424) — 4+3. Яго характэрная рытмічная сінтагма

а) 

і яе ў сувязі з пераўтварэннямі сінкапаванай фігуры варыянты —

б) 

в) 

Цэнтр арэала гэтага тыпу — раёны Пастаўскі, Валожынскі, Маладзечанскі, Лепельскі.

2-і тып (№ 428—432) —4+4. Асноўная рытмічная сінтагма

а) 

і яе мадыфікацыі

б) 

в) 

Асноўныя раёны распаўсюджання — раёны Клічаўскі, Чэрвеньскі, Клецкі, Старадарожскі, г. зн. тыя, дзе распаўсюджана веснавая заклічка «Вол бушуе» з яе тэкставай страфой той жа пабудовы —4+4.

3-і тып (№ 433—446) —5+3. З усіх іншых тыпаў гэтай групы песень мае найбольш стабільную рытмічную сінтагму, якая паўтараецца без змен у розных раёнах:



Распаўсюджан там жа, дзе і 1-ы тып, і, відавочна, аб'ядноўваецца з ім на аснове завяршальнай складагрупы верша —

4+3
5+3

4-ы тып (№ 449—476)—5+4. Асноўная рытмасінтагма са шматлікімі варыянтамі сустракаецца ў даволі шырокіх межах, і таму даволі цяжка ўстанавіць асноўны ачаг яе бытавання:



З найбольш яркіх рытмічных сінтагм другой групы песень можна выдзеліць дзве:

1. Сінтагма валачобнага тыпу (№ 480—490). Куплет гэтай структуры ўмяшчаецца, як і ў валачобных песнях асноўнага тыпу, у чатыры такты па 4/4, г. зн. мае квадратны перыяд сіметрычнай структуры.

Сярод дакладных рытмічных сінтагм можна выдзеліць наступныя:



і інш.

У некаторых выпадках чатырохчацвяртны такт пашыраецца за кошт зацягвання кадэнцыйнага гуку (№ 487) або ўсякаецца па прычынах дакладнай выканаўчай інтэрпрэтацыі.

Распаўсюджана ўсюды.

2. Сінтагма каламыйкавага тыпу (№ 492—499). Складовая структура верша 4+4+6(=14), музычна-рытмічная —



Вельмі характэрна зацягванне апошняга гуку, дзякуючы чаму ў кадэнцыі з'яўляецца тыповая рытмічная формула з падкрэслена харэічнай акцэнтоўкай. Сустракаецца ўсюды, хоць параўнальна не вельмі часта.

Трэцяя група (№ 505—611) самая вялікая, паколькі ў ёй прадстаўлены разнастайныя структурныя тыпы, аналогіі з якімі можна выявіць у самых розных жанрах раннетрадыцыйнай і познетрадыцыйнай песнятворчасці.

* *
*

Займаючы ў беларускім песенным календары, бадай, найбольш значнае месца, веснавая абрадавая песня даволі шырока прадстаўлена і сярод фальклорных запісаў гэтага пласта песнятворчасці.

Самая ранняя публікацыя веснавога напеву з'яўляецца ўвогуле першай з вядомых у наш час запісаў беларускага музычнага фальклору. Гэты запіс (разам з купальскай песняй) належыць Марыі Чарноўскай і апублікаван у 1817 г. у часопісе «Dziennik Wileński» (т. VI).

Напеў прыводзіцца без тэксту, у інструментальнай нотнай групоўцы і выглядае некалькі схематычна. Аднак і ў гэтым выглядзе яго можна без асаблівых нацяжак суаднесці з інтанацыйнай структурай веснавых песень. Мяркуючы па меладычнаму развіццю, гэта хутчэй за ўсё песня замоўнай функцыі:



З больш позніх дарэвалюцыйных публікацый напеваў веснавых песень трэба адзначыць запісы З. Радчанка, Л. Кубы, А. Чэрнага, М. Чуркіна. Асобныя ўзоры мы знаходзім таксама ў зборніках М. Янчука, І. Бычко-Машко, А. Грыневіча, І. Сербава. Усе гэтыя раннія публікацыі адрозніваюцца паміж сабой як у метадалагічных, так і ў тэхнічных адносінах, але амаль ва ўсіх іх праглядваецца імкненне падкрэсліць жанравую самастойнасць веснавых песень. З метадалагічных недахопаў у першую чаргу трэба адзначыць няправільныя ўяўленні пра народную песню (музыку ўвогуле) як пра сферу мастацтва, якая нібы «парушае» заканамернасці, уласцівыя прафесійнаму мастацтву. Адсюль шматлікія спробы «падцягнуць» народныя ўзоры да «правільных» метраў, вышынна-меладычных контураў, квадратных структур. У вяснянках гэтыя аперацыі адразу кідаюцца ў вочы, таму што парушаюць іх даволі арыгінальную архітэктоніку, якая значна адрозніваецца ад прафесійных норм.

Падобная карэктыроўка асабліва характэрна для запісаў З. Радчанка. Акрамя таго, істотным недахопам яе запісаў з'явілася несупадзенне напеву са складовай разбіўкай тэксту.

Толькі ў адносінах да карагодных напеваў, якім сапраўды ўласцівы выразная метрыка і структурная квадратнасць, запісы З. Радчанка даюць даволі аб'ектыўную карціну тыповых рыс жанру. Гэтыя запісы, аддаленыя ад нашага часу амаль на стагоддзе, могуць лічыцца нейкай вяхой у высвятленні найбольш устойлівых элементаў структуры беларускіх карагодаў. Сярод іх напевы «Стралы», «А мы проса сеялі» (варыянт тэкставы), «Із-пад лесіку» ў тых жа самых формах захаваліся аж да нашага часу.

Запісы А. Чэрнага ахопліваюць невялікі раён Заходняй Беларусі і цікавыя іменна сваім лакальным абагульненнем. Амаль усе напевы заснаваны на мінорным тэрцавым ладзе з субквартай і кадэнцыяй на асноўным тоне. Апошні вельмі часта падкрэсліваецца гарманічным уводным тонам, які для астатняй тэрыторыі Беларусі малахарактэрны.

Зусім іншы тып веснавых напеваў прыводзіцца ў зборніку Л. Кубы, які працаваў у супрацьлеглым раёне рассялення беларусаў — у межах сучаснай Смаленскай вобласці. Асаблівасць напеваў, запісаных Л. Кубай,— кадэнцыя ў тым самым мінорным ладзе на тэрцыі, якая ў выніку сваёй тыповасці пазней стала вызначацца як «вясняначны каданс».

Л. Куба ўпершыню звярнуў увагу на час, калі выконваецца тая або іншая веснавая песня («на святой нядзелі», «на благавешчанне», «на духаўшчыну»), чым паклаў пачатак унутрыжанравай дыферэнцыяцыі веснавой песнятворчасці. У яго ж мы знаходзім першы двухгалосы запіс веснавой песні.

У зборніку М. Янчука (1886) змешчана першая публікацыя класічнай беларускай вяснянкі «Вол бушуе», прычым у тых жа самых меладычна-рытмічных контурах, у якіх яна сустракаецца ўсюды і зараз.

Своеасаблівы стыль веснавых напеваў мы знаходзім у капітальнай працы М. Федароўскага «Lud białoruski». Ён выяўляе блізкасць да польскай песенна-танцавальнай культуры, у прыватнасці да тыповых мазурачных рытмаў.

У савецкі перыяд веснавыя песні запісваліся многімі фалькларыстамі. Асабліва многа зрабілі ў гэтых адносінах беларускія музыканты М. Чуркін, Р. Шырма, Г. Цітовіч.

Запісы Р. Шырмы зроблены ў асноўным у заходніх абласцях Беларусі ў перыяд да яе ўз'яднання і характарызуюць даволі поўна лакальныя рысы песеннага стылю гэтай часткі рэспублікі. Вялікай разнастайнасцю вылучаюцца валачобныя песні.

Запісы веснавых напеваў, зробленых М. Чуркіным, адлюстравалі два лакальныя стылі беларускай песнятворчасці: паўночнага захаду (Дзісеншчына) і ўсходу (Магілёўшчына). Гэтыя запісы ў значнай ступені пацвярджаюць і развіваюць стылявую дыферэнцыяцыю паміж гэтымі супрацьлеглымі часткамі Беларусі, намечаную ў свой час яшчэ А. Чэрным і Л. Кубай.

Больш разнастайныя ў тэрытарыяльных адносінах запісы Г. Цітовіча (многія з іх знаходзяцца пакуль што ў рукапісным выглядзе). Г. Цітовіч ужо дае разгорнутыя каментарыі да песень, адзначае час, манеру і абставіны іх выканання, склад выканаўцаў і г. д. Будучы харавіком-практыкам, Г. Цітовіч шмат увагі аддае асаблівасцям харавых спеваў, у тым ліку ўнісоннаму — асноўнаму віду выканання беларускіх веснавых песень.

У запісах Г. Цітовіча даволі падрабязна адлюстраваны такія асаблівасці абрадавай веснавой мелодыкі (у першую чаргу і веснавых заклічак),

як частая пераменнасць метра, свабодна-меладычны строй (нетэмперыраваная сістэма). У яго ж рэдкі запіс веснавога найгрышу на ражку.

У 30-я гады на Беларусі працавалі рускія музыказнаўцы-фалькларысты Ф. Рубцоў, З. Эвальд, Я. Гіпіус. Вынікі іх працы знайшлі адлюстраванне ў I томе «Песень беларускага народа» (1940, складальнік М. Грынблат). Асаблівасцю некаторых запісаў веснавых песень у гэтым зборніку з'яўляецца фіксацыя гетэрафоннага стылю спеваў.

Планамернае даследаванне песеннага фальклору па ўсёй Беларусі пачалося ў апошнія гады Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Гэта дазволіла больш дэталёва прасачыць мясцовыя стылявыя асаблівасці веснавых песень, праверыць звесткі, атрыманыя ў папярэднія гады, а таксама больш уважліва разгледзець эвалюцыйныя працэсы, якія адбываюцца ў іх на сучасным этапе.

Асноўным прынцыпам публікацый каляндарна-абрадавай песнятворчасці, якія прыняты ў шматтомным Зборы беларускага фальклору, з'яўляецца раздзельная падача тэкставай і музычнай частак, што выклікана розным падыходам да сістэматызацыі адпаведнага матэрыялу: да тэксту па тэматычнаму прынцыпу, да музыкі — па структурнаму.

Аднак у томе «Веснавых песень» матэрыял падказаў іншы падыход. Паколькі абодва кампаненты абрадавых веснавых песень — музыка і тэкст — развіваліся даволі сінхронна, тэматычныя і структурныя бакі іх аказваліся больш ці менш ва ўстойлівых суадносінах. Таму тэксты і напевы ў томе прыводзяцца разам. Пры гэтым асноўнай прыкметай сістэматызацыі стала прыкмета функцыянальная, якая ярка адлюстравана ў меладычным змесце.

Меладычны змест песень ілюструецца ў дадзеным томе на прыкладзе аднаго, першага куплета. Неэквірытмічнасць астатніх не адлюстроўваецца, паколькі мае для гэтага жанру, у першую чаргу для веснавых заклічак, прынцыповы, стылістычны характар. Асаблівa гэта датычыцца песень моўнай дынамікі, якія маюць вольную, паўімправізацыйную пабудову тэксту.

Пры натаванні музычных прыкладаў, акрамя агульназначных, выкарыстаны спецыфічныя для фальклорнага матэрыялу абазначэнні:

 — глісанда (уверх і ўніз)

 — прыблізная вышыня гуку

 — няпэўная вышыня гуку

 — нетэматычная паўза

↑, + — павышэнне гуку менш чым на 1/2 тону

↓, — — паніжэнне гуку менш чым на 1/2 тону

V — глыбокая цэзура, перахопліванне дыхання

( ) — у круглых дужках даюцца дадатковыя да асноўнага тэксту фанемы (паўгалосыя, прадыктавыя і інш.), якія ў тэкставай частцы не ўлічваюцца

[ ] — у квадратных дужках прыводзяцца часціны тэксту, якія пры спяванні выпадаюць, а таксама тэмпавыя абазначэнні, якія адсутнічаюць у арыгінале і прадстаўлены ўкладальнікам згодна з падобнымі па зместу і меладычнаму стылю песнямі.

В. І. ЯЛАТАЎ

# ГУКАННЕ ВЯСНЫ

## 1. Вол бушуе




Вол бушуе —
Вясну чуе,
Карова раве —
Вясну заве.

Воран грача —
Есці хоча,
Дзеўка плача —
Замуж хоча.

Воран грача,
Сыра з'еўшы,
Дзеўка плача,
Сына меўшы.

Воран грача —
Сыр бяленькі,
Дзеўка плача —
Сын маленькі.

## 2. Вол бушуе — вясну чуе




Вол бушуе — вясну чуе,
Воран крача — сыра хоча.

Воран крача на ярыне,
Дзеўка плача на Ўкраіне.

Воран крача — сыра хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча.

## 3. Вол бушуе




Вол бушуе —
Вясну чуе. *

Баран бляе —
Ў поле хоча.

Курка сакоча —
Нясціся хоча.

Дзеўка плача —
Замуж хоча.

Стары крэхча —
Пажыць хоча.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 4. Ой, бугай раве — ў поле хоча



## 5. Бугай раве — у поле хоча

Бугай раве — у поле хоча,
Курка сакоча — знесціся хоча,
Дзяўчына плача — замуж хоча.
Не раві, бугай,— шчэ напасешся,
Не сакачы, курка,— шчэ знясешся,
Не плач, дзеўчына,— шчэ нажывешся,
Як добра будзе, шчэ нажывешся,
Як гора імецца, то наплачэшся.

## 6. Вол бушуе — вясну чуе

Вол бушуе — вясну чуе.
Годзе, воле, бушаваці,
Паедземо ў поле араці.
Там травіца шаўковая
І вадзіца крынічная.
Там травіцы наешся
І вадзіцы нап'ешся.

## 7. Шуміць, гудзе — вясна ідзе

Шуміць, гудзе — вясна ідзе,
Шчасце й радасць людзям нясе.
У небе песня зазвінела,
Лясы, палі абудзіла.
Пралесачкі зацвіцелі
І птушачкі прыляцелі.
Вол бушуе — вясну чуе,
Дзеўка плача — замуж хоча.
Досыць, волік, бушаваці,
Яшчэ ў полі наарэшся.
Досыць, дзевачка, плакаці,
Пойдзеш замуж — нажывешся.

## 8. Вол бушуе — весну чуе




Вол бушуе — весну чуе,
Ге-е-е, весну чуе.

Не бушуй, воле, бо пайдзеш у поле,
Ге-е-е, бо пайдзеш у поле.

Дзеўка плача — замуж хоча,
Ге-е-е, замуж хоча.

Не бушуй, воле, шчэ нагарэшся,
Ге-е-е, шчэ нагарэшся.

Не плач, дзеўка, шчэ нажывешся,
Ге-е-е, шчэ нажывешся.

## 9. Вол бушуе



Вол бушуе — *
Весну чуе.

Не бушуй, воле,
Пойдзеш у поле

Поле гараці,
Хлеба пахаці.

## 10. Вол бушуе — весну чуе




## 11. Вол бушуе — вясну чуе




* Першы радок кожнай страфы паўтарасцца.

## 12. Вол бушуе — вясну чуе




Вол бушуе — вясну чуе, *
Дзеўка плача — замуж хоча.
— Не бушуй, воле, шчэ наарэшся,
Не плач, дзеўка, нажывешся.
Прышлі к дзеўцы ўсе сваточкі.
Маці дачкі не аддавала,
Усё ж на весну укладала.
Прыйшла вясна — дзеўка ўмерла.
Пашла ж маці на магілу
К свайму зяцю землямеру.
— Зяцю, зяцю, землямеру,
Узяў дачку, не пытаўся.
Да й дзе вашы ўсе сваточкі?
— Што дубочкі — то сваточкі,
Што бярозкі — то свахначкі,
Што ляшчынкі — то дружачкі,
А што дробен дожджык — то цымбалы,
А што буян ветрык — то скрыпачка.

## 13. Вол бушуе — вясну чуе




* Кожны радок паўтараецца.




Вол бушуе — вясну чуе,
Воран крача — сыра хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча.

Вол набушаваўся на даліне,
Воран крача нажраўшыся,
Дзеўка плача нажыўшыся.

Вол бушуе на даліне,
Воран крача на галіне,
Дзеўка плача на магіле.

## 14. Вол бушуе — вясну чуе



## 15. Вол бушуе — весну чуе




Вол бушуе — весну чуе,
Вол бушуе — весну чуе,
Дзеўка плача — замуж хоча.

Не бушуй, воле, пойдзеш у поле,
Не бушуй, воле, пойдзеш у поле,
Не плач, дзеўка, пойдзеш замуж.

Пойдзеш у поле, то й наарэшся,
Пойдзеш у поле, то й наарэшся,
Дзеўка плача — замуж пойдзе.

Пойдзеш замуж — нажывешся,
Пойдзеш замуж — нажывешся.
Не крач, воран, накрачашся.

Не крач, воран, накрачашся,
Не крач, воран, накрачашся,
Не плач, дзеўка, наплачашся.

## 16. Вол бушуе — вясну чуе

Вол бушуе — вясну чуе,
Дзеўка плача — замуж хоча.
Не бушуй, воле,— наарэшся,
Не плач, дзеўка,— нажывешся:
Пойдзеш замуж за жаўнера.

Жаўнер будзе ваяваці,
А ты будзеш жабраваці.

## 17. Вол бушуе

Вол бушуе —
Вясну чуе,
Дзеўка плача —
Замуж хоча.
Не бушуй, вол,
Пойдзеш ў поле,
Яшчэ й наарэшся.
Не плач, дзеўка,
Пойдзеш замуж,
Яшчэ нажывешся.
Воран крача —
Сыру хоча.
Дзеўка плача —
Сына хоча.
Воран крача,
Сыра з'еўшы,
Дзеўка плача,
Сына меўшы.
Воран крача,
Паляцеўшы,
Дзеўка плача,
Дзе мне дзеці:
Ці мне яго
Гадаваці,
Ці мне яго
Ў войска аддаці,
Ці мне яго
Ўтапіці?
Ў войска аддаці —
Шкада будзе,
Утапіці —
Грашно будзе.

## 18. Вол бушуе — вясну чуе




Вол бушуе — вясну чуе, *
Воран грача — сыра хоча.

Воран грача — сыра хоча,
Дзеўка плача — сына хоча.

Воран грача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.

Воран грача на калочку,
Дзеўка плача на палочку.

## 19. Вол бушуе — вясну чуе




* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 20. Вол бушуе — вясну чуе




## 21. Вол бушуе — вясну чуе




Вол бушуе — вясну чуе,
Вол бушуе — вясну чуе,
Воран крача — сыра хоча.

Воран крача — сыра хоча,
Воран крача — сыра хоча,
Дзеўка плача — замуж хоча.

Не бушуй, воле,— пойдзеш у поле,
Не бушуй, воле,— пойдзеш у поле
Да і ў полі наарэшся!

Не плач, дзеўка, пойдзеш замуж,
Не плач, дзеўка, пойдзеш замуж
Да й замужам нажывешся!

Наараўся вол, улёгся,
Воран крача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.

## 22. Вол бушуе — вясну чуе




## 23. Вол бушуе — вясну чуе



## 24. Вол бушуе — вясну чуе




## 25. Вол бушуе — вясну чуе




Вол бушуе — вясну чуе, *
Воран крача — сыра хоча.

Воран крача — сыра хоча,
Дзеўка плача — сына хоча.

Воран крача, падлятае,
Дзеўка сына спавівае.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Воран крача — сыр бяленькі,
Дзеўка плача — сын маленькі.

Воран крача, сыра з'еўшы,
Дзеўка плача, сына меўшы.

Воран крача на галіне,
Дзеўка плача на магіле.

### 26. Вясна, вясна на калочку




Вясна, вясна на калочку, *
Не напрала на сарочку.

Вясна, вясна на прыпечку,
Не напрала на світачку.

Вясна, вясна да й на печы,
Не напрала да й на плечы.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 27. Ужо ж вясна і на калочку




## 28. Да ўжо ж вясна скацілася






## 29. Да ўжо ж вясна на калочку




Да ўжо ж вясна на калочку,
Да ўжо ж вясна на калочку,
Не напрала на сарочку.

Да ўжо ж вясна на паліцы,
Да ўжо ж вясна на паліцы,
Не напрала на спадніцы.

## 30. Вясна красна на калочку




## 31. Благаславі, маці




— Благаславі, маці, *
Вясну заклікаці.
— Даўно благаславіла:
Як маці радзіла.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 32. Благаславіце, старыя людзі




Благаславіце, старыя людзі,
А й вясну красну загукаць,
Загукаці жа.
Лютую зіму ж замыкаць,
Замыкаці.
Да вясну красну на вулачку,
На вулачку ж.
Лютую зіму ў каморачку.

## 33. Благаславіце, стары дзяды






Благаславіце, стары дзяды,
Ой, вясну красну пагукаці,
Пагукаці,
Цёплага лета дажыдаці,
Дажыдаці.
Цёплае лета на вуліцы,
На вуліцы.
Халодна зіма ў каморачцы,
Ў каморачцы.
А зірну-гляну на вуліцу,
На вуліцу,
Ці ўсе вулачкі падмецены,
Падмецены,
Ці ўсе дзевачкі павенчаны,
Павенчаны.
Адна й вулачка не мецена,
Не мецена.
Адна дзевачка не венчана,
Не венчана.

## 34. Падай, Юрыла, ключы і замкі

Падай, Юрыла, ключы і замкі
Адамкнуці красну вясну,
Красну вясну,
Цёпла лецейка,
Цёпла лецейка,
Спела жыцейка.

## 35. Благаславі, божа




Благаславі, божа, *
Прачыстая маці,
Вясну загукаці,
Зіму замыкаці.
Лета ў карэце,
Зіма ў вазочку —
Па белым сняжочку.

## 36. Баславі, маці

Баславі, маці,
Вясну гукаці,
Цёплага лета дажыдаці.
Цёплае лета ў каточку,
Халодная зіма ў палазочку.

## 37. Благаславі, маці

Благаславі, маці,
Вясну заклікаці,
Лецечка сустракаці.
Прыдзі, вясна,
Прыдзі, красна,
Ой, Дзід-Ладо.
— Вясна красна,
На чом прышла,
На чом прыехала?
— На сошаньке,
На баронушке.

* Кожны радок паўтараецца.

## 38. Благаславі, божа, зіму замыкаці

Благаславі, божа, зіму замыкаці,
Зіму замыкаці, вясну загукаці.
Дай, божа, на жытачка род,
Дай, божа, на жытачка род,
На статачак плод,
На статачак плод
Людзям на здароўе.

## 39. Вясна доньку кліча

Вясна доньку кліча,
Божа мілы! *
— Дай, донька, ключы
Адамкнуць зямліцу,
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць травіцу
На ранняе лета,
На буйнае жыта.

## 40. Благаславі, божа

Благаславі, божа,
Вясну клікаць,
Зіму праважаць,
Лета дажыдаць!
Вылеці, сізая галачка,
Вынесі залатыя ключы,
Замкні халодную зіманьку,
Адамкні цёплае лецечка.

---

* Прыпеў «Божа мілы!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## 41. Ты, пчолачка ярая




Ты, пчолачка ярая,
Ты вылецъ за мора,
Ой, ляло, ляло,
Ты вылецъ за мо[ра].

Ты вынесі ключыкі,
Ключыкі залатыя,
Ой, ляло, ляло,
Ключыкі залатыя.

Адамкні лецечка,
Лета цёплае,
Ой, ляло, ляло,
Лета цёплае.

Замкні зіманьку,
Зіму сцюдзёную,
Ой, ляло, ляло,
Зіму сцюдзёную.

## 42. Вылецiце, дзве гусачкi

Вылецiце, дзве гусачкi,
Вынасiце два ключыкi:
Будзем зiму замыкаць,
Цёплае лета адмыкаць,
Штоб нам, дзеўкам, цёпла гуляць.

7. Зак. 1818

Маладзічкі-няволнічкі,
Свёкар кліча вячэраці,
Свякруха кліча кужалю прасць,
Мілы кліча пасцелі слаць.
Вячэраці пагуляўшы,
Кужалю прасці — падумаўшы,
Пасцелю слаці — заплакаці.

### 43. Благаславі, божа

Благаславі, божа, благаславі, божа,
Вясну заклікаці.
Вясну заклікаці, вясну заклікаці,
Зіму забываці.
Вясна на прыклейку, вясна на прыклейку,
Зіма на павейку.
А ўсе пташачкі, а ўсе пташачкі,
Божа мілы, прыляцелі,
Адна засталася, адна засталася
Шэрая зязюлька,
І тая не хочыць, і тая не хочыць
Рана кукаваці,
Рана кукаваці, рана кукаваці,
Вясну заклікаці,
Вясну заклікаці, вясну заклікаці,
Зіму забываці.
А ўсе дзевачкі, а ўсе дзевачкі
Замуж выйшлі,
Адна засталася, адна засталася,
Божа мілы, бедная.
І тая не хочыць, і тая не хочыць
Рана ўставаці,
Рана ўставаці, рана ўставаці,
Вясну заклікаці,
Вясну заклікаці, вясну заклікаці,
Зіму забываці.

## 44. Да памажы, божа




Да памажы, божа,
Божа мілы,*
Вясну заклікаці.

Вясну заклікаці,
На красную вясну,

На красную вясну,
На ціхае лета.

На ціхае лета,
Радзі, божа, жыта.

Радзі, божа, жыта,
Жыта і пшаніцу.

Жыта і пшаніцу,
Ўсякую пашніцу.

Ўсякую пашніцу
На полі капамі.

На полі капамі,
У гумне стагамі.

У гумне стагамі,
На таку ўмалотна.

---

* Прыпеў «Божа мілы» паўтараецца ў кожнай страфе.

На таку ўмалотна,
У засеках спорна.

У засеках спорна,
У млыне умолна.

У млыне умолна,
Ў дзяжы падыходна.

Ў дзяжы падыходна,
У печы узросна.

У печы узросна,
На стале укройна.

## 45. Благаславі, божа

Благаславі, божа,
Вясну красну пеці
На ціхае лета,
На буйнае жыта.
Каб наша жыта
Ў трубы павілося,
У трубы павілося,
Набок схілілося.
На полі снапамі,
А ў гумне тарпамі,
На таку ўмалотна,
Ў арудзе прысыпна,
А ў млыне прымолна,
А ў дзяжы падходна,
А ў печы пячыста,
А на стале краіста.
Сям'і на здароўе,
Панам — безгалоўя!

## 46. Зіма з летам страчаецца




## 47. А ў нас сёння стрэчанне, стрэчанне

А ў нас сёння стрэчанне, стрэчанне,
Зіма з летам стрэлася, стрэлася,
Лета зіму піхнула, піхнула
І ножачку звіхнула, звіхнула.
Зіма пайшла плачучы, плачучы,
Лета пайшло скачучы, скачучы.

## 48. Зіма з летам стракалася

Зіма з летам стракалася,
Пра здароўе пыталася:
— Здароў, зімачка з кастылькамі!
— Добрае здароўе, лецечка з кіенкамі.
Пайшла зімачка з кастылькамі,
Прышло лецечка з кіенкамі.

## 49. Скакаў арабейка да па уланьцы

Скакаў арабейка да па уланьцы,
Збіраў дзеўкі і маладзіцы:

— І збірайцеся, дзеўкі, маладзіцы,
Будземо іграці, зіму праганяці.
Ідзі, зіма, да да Буечына,
Бо ўжо нам да й дакучыла.
Да й ідзі, зіма, у цёмныя лясы,
Нам, божа, вясну прынясі.
Не ваюй, не ваюй, Юр'евічу,
Не вадзі дзевак у танок.
Горкае маё ваяванечка,
Ручкі, ножкі акаванечка.
Ягадка дагары расла,
Я, маладая, замуж пашла.

## 50. Зіма з летам сустраталася

Зіма з летам сустраталася,
Пра здаровейка пыталася:
— Ой, здарова, здарова, ты зімачка.
— Добрае здароўе, ты лецечка.
Ты нашто ссушыў маю дзяціну?
— То не я ссушыў — вясна красна,
Ссушыла вясна да тонкія кросна.

## 51. Зіма з летам сустратаецца

Зіма з летам сустратаецца,
Пра здаровейка пытаецца:
— Ой, чалом, чалом, да цёплае лецечка!
— Ой, здарова була, да халодная зімачка!
— Што цябе, лецейка, узвелічаюць,
Мяне, зімачку, праклінаюць?
— Бо ты, зімачка, халодная,
Лугі, балоты памарозіла,
Ой, я, лецечка, да вясёлае,
Лугі, горы ізмачыла,
Лугі, горы ўзвесяліла;
Ой, там хлопчыкі збіраюцца
Да на мёд, віно складаюцца;
Ой ты, Іваначка, кладзі больш за ўсіх,
Твая Ганначка лучш за ўсіх.

## 52. Ой, што вясна, то вясна

Moderato




Ой, што вясна, то вясна,
Чужыя жанкі ткуць кросна,
Пад акенечкам седзячы,
У акенечка гледзячы.

## 53. Ой, вясна, вясна



## 54. Ой, вясна, ой, красна




## 55. Вясна, вясна



## 56. Ой, прышла вясна красна

Andante




Ой, прышла вясна красна,
Чужыя маладкі ткуць красна,
А я, маладзенька, не прала,
Пад лёд кудзелькі пускала.
— Плывіце, кудзелькі, валакном,
Ка мне, маладзенькай, палатном!
Да ўсе дзевачкі смяюцца,
Як тыя кудзелькі прадуцца,
Да ўсе людзечкі дзівяцца,
Чые то кудзелькі беляцца.
Да гэта ж тае гультайкі,
Да што стаяла ля пелькі!

## 57. Вясна ж красна ж, гэй, гэй, гэй

♩= 94



## 58. Ой, вясна мая, вясёначка




## 59. Тут вясна, тут вясна

Тут вясна, тут вясна,
Да чужыя жонкі ткуць кросна,
А я, маладзенькая, не прала,
Да над кудзелькаю драмала,
Да над кудзелькаю драмала,
Да пад лёд кудзелькі пускала.
— Плыві, кудзелька, у валакенца
Да к маёй матцы ў акенца.
Няхай яна вас напрадзе і натчэ,
Да на сінім моры пабеліць,
Да на сухім дубе пасушыць,
Да у своечкі пакачае,
Да ка мне, маладзенькай, напрысылае.

## 60. І эй, вясна красна

І эй, вясна красна,
Ой, чужыя жонкі ткуць кросна,
А я, маладзенька, не дбала,
Усю піліпаўку праспала,
Усю піліпаўку праспала,
Да адзін клубок напрала,

Да адзін клубок напрала,
Прышла суседка, украла.
Як пайду я к суседцы пад акенца:
— Аддай маё, суседка, клубаценца.
Усе людзі дзівяцца:
— А чые то кудзеліцы беляцца?
— То тае шэльмы, гультайкі,
Што дзень ходзіць да на пастаянкі,
Што дзень ходзіць да на пастаянкі,
Падпірае людзям лаўкі.

## 61. То вясна, то красна

То вясна, то красна,
Чужыя жонкі ткуць кросна,
А мая Тэкля лён трэпле,
Пад стрэшкаю стоячы
Ды на сонейка гледзячы.
Адзін клубок напрала
Ды ў трэсачкі схавала,
Прышла суседка і ўкрала,
Дочкам падаркі паткала.

## 62. Ой, ту ж вясна



Ой, ту ж вясна,
Ой, ту ж вясна,
А чужыя жонкі ткуць кросна,
А чужыя жонкі ткуць кросна.
А наша Чэся лён чэша,
А мая Тэкля проч пайшла,
А цэўку мукі набіла,
А яна ж мяне згубіла,
А гарэх масла наклала,
А яна ж мяне абкрала.

## 63. Ой, вясна красна

Ой, вясна красна,
Да чужыя жонкі ткуць кросна,
А мая шэпля лён трэпле,
Пад стрэшкаю стоячы
Ды на сонейка гледзячы.
Каціцеся, дзеткі, ў атрэп'е,
А я, маладая, ў зрэб'е,
А мужышча ў кажулішча.

## 64. Вясна чуць, вясна чуць

Вясна чуць, вясна чуць,
А чужыя жонкі кросны ткуць,
А мая Тэкля лён трэпле,
Увярцела ножкі ў патрэп'е —
Пад новым тыночкам
З маленькім сыночкам.

## 65. Ой, вясна, вясна

Ой, вясна, вясна,
Да й не тканы кросны,
Ляжаць кудзелі
У клеці на полцы,
А я, малада,
З хлопцамі на вуліцы.

## 66. Гэй, вясна, гэй, красна

Гэй, вясна, гэй, красна,
Ды пакінь сані,
Ды вазьмі калёсы,
Ды ці не выйдзе дзеўка боса,
Ды ці не стаўчэ ступку проса.
Гэй, вясна, гэй, красна,
Ды чужыя жонкі
Ткуць кросны,
А мая маладзенька
Спаці радзенька.
Выведзе нітку
Вераб'ю на світку,
Застануцца [канцы]
Верабейку на штанцы.

## 67. Ой, вясна, ой, вясна



## 68. Вясна, вясна, вясна красна!

— Вясна, вясна, вясна красна!
Што нам прынясла,
Што нам прынясла?
— З карабкоў жыта вытрасла,
З карабкоў жыта вытрасла,
З лукошак гарошак,
З лукошак гарошак,
З лукошак гарошак,
А з драбеек канапелек,
А з драбеек канапелек,
А з драбеек канапелек.

## 69. Вясна красна, што прынясла?

— Вясна красна, што прынясла?
— Бясхлебіцу, бяссоліцу, адну свірэпіцу.
Дзявочкам па вяночку,
Малодачкам па чаўночку,
Пастушкам па кіёчку,
Старым бабкам па прызбачцы,
Малым дзеткам па мураўцы.

## 70. Вясна красна й, красна






## 71. Ай, вясна, ай, красна






## 72. Вясна, вясна

— Вясна, вясна,  
Што вынесла?  
— Сыры і масла,  
Каб зіма згасла.

## 73. А ты вясна, ты красна




— А ты вясна, ты красна,  
Што ж ты нам прынесла?  
— А прынесла, прынесла  
Цёпла лета, ціхае,  
Цёпла лета, ціхае  
І цёплую вадзіцу,  
І цёплую вадзіцу,  
З зямліцы травіцу,  
Старым бабкам па кійку,  
А пастушкам па яйку.

## 74. Ах ты, вясна, ты красна

— Ах ты, вясна, ты красна,
А што ж ты нам прынясла?
— На зямельку травіцу,
На травіцу расіцу,
На лясочак лісточак,
На дзевачак вяночак,
На дзевачак красоту,
На мальчыкаў сухоту.

## 75. Ах ты, вясна, ты красна




— Ах ты, вясна, ты красна,*
А што ты нам прынясла?
— На травіцу расіцу,
На лясочак лісточак,
На дзевачак красату,
На малойчыкаў ташнату.

## 76. Ах ты, вясна, ты красна




* Кожны радок паўтараецца.

## 77. Вясна красна

— Вясна красна,
Ой, што ж ты нам прынесла?
— Я вам прынесла
Тры карысці ў радасці,
Буйнага жыта на лета,
Ядрыну грэчку на восень.

## 78. Вясна красна

Вясна красна,
Ты карысць прынясла.
Першая карысць — пастушок,
Другая карысць — плужок.

## 79. Сё ж вясна, то ж вясна

— Сё ж вясна, то ж вясна,
Да што ж ты нам прынясла?

— Шаўковую траву на вясну,
Буйнае жыта на лета.

Малым дзеткам па яечку,
Старым дзядам па кіёчку,

Старым дзядам па кіёчку,
Маладым малодкам па бёрдзечку.

Дзе малыя дзеткі гуляюць,
Там яечкі качаюць.

Дзе старыя дзяды стаялі,
Там кіямі зямлю скарпалі.

## 80. Ой ты, вясна, вясна

— Ой ты, вясна, вясна,
Што ж ты нам, дзевачкам, прынясла?

— Прынясла я вам паўтара прута золата,
Будзеце вецце качаці
І мяне, вясну, успамінаці.

— Ой ты, вясна, вясна,
Што ж ты бабкам прынясла?
— Прынясла я вам, бабкі, кросенцы.
Будзеце кросны ткаці
І мяне, вясну, успамінаці.

### 81. Вясна красна, што ты нам прынясла?

— Вясна красна, што ты нам прынясла?
— Я вясна, я красна, я вам прынясла
Бохан хлеба, ступу солі,
Старым бабкам па прызбачцы,
А маладым дзяткам па гулачцы,
Хлопчыкам па кіёчку,
Дзяўчаткам па вяночку,
Малодачкам па красёнцах.

### 82. Вясна, вясна й, вясна прыйшла






## 83. Вясна, вясна красна



## 84. Ой, вясна ды й весенка, ды й весенка

— Ой, вясна ды й весенка, ды й весенка,
Што ж ты нам прынеселка, прынеселка?
— Маладым малодкам — па бердзечку, па бердзечку,
А дзевачкам — па пранічку, па пранічку,
А малым дзеткам — па яечку, па яечку,
А старым дзядкам — па кіёчку, па кіёчку,
Маладым мужчынкам — па плужочку, па плужочку,
А хлопчыкам — па пужачцы, па пужачцы.
Маладым малодкам — красёнцы ткаць,
А дзевачкам — ды й палотны бяліць,
Малым дзеткам з яечкамі гуляць,
Старым дзядкам — на мураўцы сядзець,
Маладым мужчынкам — поле араць,
А хлопчыкам — на пастку гнаць.

## 85. Вясна красна, шчо нам вынесла?




— Вясна красна, шчо нам вынесла? *
— Каробачку жыта вытрасла,
Старым бабам пасідзіннічка,
А маладым пагуляннічка,
А дзевачкам па вяночкаві,
А хлопчыкам па кіёчкаві.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 86. Вясна красна




— Вясна красна,*
Шчо прынесла?

— Дзеўкам сыра,
Хлопцам кія.

Хлопцам кія —
Валы гнаці,

Дзеўкам сыра —
Вясну зваці.

Дзеўкам бобу,
Хлопцам хваробу.

Дзеўкам па вяночку,
Хлопцам па кіёчку.

Дзеўкам красок,
Хлопцам дудок.

Дзеўкам красак —
Вянкі віці,

Хлопцам дудак —
Валы гнаці.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 87. Вясна красна




— Вясна красна,
Адкуль прыйшла,*
Адкуль прыйшла, што прынесла?

—Маладачкам —
Па чаўночку,
А дзевачкам — па вяночку;

А дзевачкам —
Па вяночку,
А пастушкам — па кіёчку.

Старым бабкам —
Па галушачцы,
Малым дзеткам — па крамушачцы.

## 88. Ой, вясна, ты вясна




— Ой, вясна, ты вясна,
Ой, вясна, ты вясна,
Што ж ты нам прынясла?

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

— Прынясла навінку,
Прынясла навінку —
Зялёну травінку.

Зялёну травінку,
Зялёну травінку,
Дзевачкам па вянку.

Дзевачкам па вянку,
Бабачкам па сынку,
А старым па кійку.

## 89. Вясна красна, вясна красна




— Вясна красна, вясна красна,
Дзе ты была
Да што жа ты нам прынясла?

—Прынясла хлопцам, прынясла хлопцам
Па лясачцы,
А малым дзецям па кружочку.

Малоданькам, малоданькам
Па чэпчыку,
А дзевачкам па кветачцы.

Каб хлопчыкі, каб хлопчыкі
Ў войска пашлі,
А малыя дзеткі хутка раслі.

Малоданькі, малоданькі
Убраны былі,
Красны дзеўкі замуж пашлі.

## 90. Вясна красна па зарэччу йшла

Вясна красна па зарэччу йшла,
А малым дзеткам па яечку нясла,
А старым бабкам па кіёчку,
Маладым жонкам па сыночку,
А дзевачкам па вяночку нясла,
А хлопчыкам ды па коніку.
А малым дзеткам пагуляціся,
Старым бабкам падпіраціся,
Маладым жонкам уцяшаціся,
А дзевачкам павянчаціся,
А хлопчыкам наязджаціся.

## 91. Вясна красна, што прынесла?




— Вясна красна, што прынесла? *
— Старым бабачкам па кіёчку,
Маладым паначкам па сыночку,
А красным дзевачкам па вяночку.
Старым бабачкам папірацца,
Маладым паначкам забаўляцца,
А красным дзевачкам павянчацца.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 92. Вясна, вясна, што ты нам вынесла?

Вясна, вясна, што ты нам вынесла?
З карабоў жыта павытрасла.
Як вытрасла тры зерняткі,
Ўсё хлапоцкія насеннейкі:
Первае зерне — васíлічку,
Другое зерне — барвéначку,
Трэцяе зерне — любéсцячак.
Васілічка — [д]ля хлопчыкаў,
Барвеначак — [д]ля дзевачак.
Любесцячак — [д]ля любосці,
[Д]ля дзявоцкае красатосці.

## 93. Ой, вясна красна, чаго прыйшла




## 94. Вясна красна

— Вясна красна, *
Што прынясла?
Што прынясла,
Вясна красна?

— Малым дзеўкам
Па вяночку,
Большым дзеўкам
Па платочку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Большы дзеўкі
Замуж пойдуць,
Малы дзеўкі
Дома будуць.

### 95. Вясна, вясна красна

— Вясна, вясна красна,
Што ж ты нам прынясла,
Што ж ты нам прынясла?
— Я прынясла цёплае летца:
Малым рабяткам па яечку,
Старым бабкам па кіёчку,
Красным дзеўкам па вяночку,
А малодушкам па сярпочку.
Стары бабкі — чапцы шыці,
Красны дзеўкі — вянкі віці,
Малодушкі — жыта жаці.
Красны дзеўкі на вулачку,
Малодушкі за люлечку.
Красны дзеўкі — гулі ды гулі,
Малодушкі — люлі ды люлі.

### 96. Ой ты, вясна, ўсё красна

— Ой ты, вясна, ўсё красна,
Што ж ты нам прынясла?
— Ой, прынесла, прынесла,
З аруда жыта вытрасла,
Малым дзеткам па яечку,
Малодачкам па сыночку,
Старым бабам па кіёчку,
А дзевачкам па вяночку,
А дзецюкам па коніку.
Дзе дзетачкі гулялі,
Там лупінкі ляжалі;
Дзе бабачкі стаялі,
Кіём зямлю спаролі;
Дзе дзевачкі гулялі,
Там красачкі ляжалі;
Дзе дзецюкі гулялі,
Там коні траву сарвалі.

## 97. Ой ты, вясна, ты красна

— Ой ты, вясна, ты красна,
Да што ты нам прынясла?
— Ой, прынясла, прынясла
Малым дзеткам па яечку,
Малым дзеткам па яечку,
Старым бабкам па кіёчку,
Старым бабкам па кіёчку,
Малодачкам па сыночку,
Малодачкам па сыночку,
А дзядам па піражочку.
Дзе дзетачкі гулялі,
Там яечкі пабілі,
Дзе бабулькі хадзілі,
Там кіёчкі згубілі.
Дзе малодкі сынкоў калыхалі,
Там калыскі пакідалі.
Дзе дзяды пірагі елі,
Там крошачкі пакінулі.
Скакалі дзеўкі на дошцы,
Кусалі сыра па крошцы.
А ў провары карыта
Поўна вады наліта,
Жабкі ножкі памылі,
А хлопчыкі выпілі.

## 98. Вясна красна



— Вясна красна,
Што ж ты нам прынясла? *

— З пунькі сянцо
Вынесла, вынесла,

З току саломку
Вытрасла, вытрасла,

З клеці зярно
Вымела, вымела.

На гары бабкі
Сядзелі, сядзелі,

Кулаком зямлю
Калацілі, калацілі

Да нявехначак
Судзілі, судзілі:

— Ой, мая ж нявехна
Дурмі-дурак, дурмі-дурак:

Зімку прала —
Усё спала, ўсё спала,

Кросны ткала —
Драмала, драмала.

Вось мая дачушка
Разумна, разумна:

Зімку прала —
Не спала, не спала,

Кросны ткала —
Ляшчала, ляшчала.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 99. Вясна, вясна, ты красна

— Вясна, вясна, ты красна,
Што ты дзевачкам вынесла?
— Я вынесла дзевачкам
Па чырвонаму каснічку,
А парабачкам — калёсца,
А малодачкам — красёнца,
А старым бабкам — ніточак,
А малым дзеткам — пясочак.

## 100. Ох ты, вясна, ты красна




## 101. Вясна цёпла, на чом прышла?

— Вясна цёпла, на чом прышла?
— На сошачцы, на бароначцы.
— Можа з зімнам, можа з холадам?
— Ні я з зімнам, ні я з снегам.
Я прынясла кветачкі
Для вас, дзевачкі,
А дзяўчатам па вяночку,
Маладзіцам па сыночку,
Старым бабам па кіёчку.

## 102. Вясна, вясна к нам прышла




## 103. А што вясна прынясла

А што вясна прынясла,
Ой, люлі, прынясла, прынясла?

Вой, нам вясна прынясла,
Ой, люлі, прынясла, прынясла:

Малойчыкам па брыльку, па брыльку,
Ой, люлі, па брыльку, па брыльку.

А дзевачкам па вянку, па вянку,
Ой, люлі, па вянку, па вянку.

А мужыкам па піпцы, па піпцы,
Ой, люлі, па піпцы, па піпцы.

А малодкам па люльцы, па люльцы,
Ой, люлі, па люльцы, па люльцы.

Старым дзядом па кійку, па кійку,
Ой, люлі, па кійку, па кійку.

А бабулькам па чапцу, па чапцу,
Ой, люлі, па чапцу, па чапцу.

## 104. Вясна, вясна, што ты нам прынясла



## 105. Вясна, вясна, вясна красна




## 106. Вясна красна, што ты вынесла

— Вясна красна, што ты вынесла,
Гэй-гэй, што ты вынесла?
— Ой, я вынесла гаршчок мёду,
Гэй-гэй, гаршчок мёду.
Старым дзядам да па росасі,
Гэй-гэй, да па росасі,
А пастушкам да па кiёчку,
Гэй-гэй, да па кiёчку,
А маладзiцам да па калыбелi,
Гэй-гэй, да па калыбелi,
Старым бабам да па кудзелi,
Гэй-гэй, да па кудзелi,
А дзявочкам да па вяночку,
Гэй-гэй, да па вяночку.

## 107. Ой, вясна, вясна




## 108. Ой, вясна, вясна

— Ой, вясна, вясна,
Што ты нам прынясла?
— Дзевачкам па яечку,
Хлопцам па скулечку.
Дзеўкам па булцы,
Хлопцам па скулцы.
Ой, вясна, вясна,
Цёплае лецечка,
Абрасла трава,
Як авечачка.

## 109. Вясна, вясна

— Вясна, вясна,
Што вынесла?
— Дзеўкам красенцы,
А хлопцам ражэнцы.
Хлопцы шкрабуцца,
Дзеўкі смяюцца.

## 110. Ай, вясна, вясна




## 111. Вясна, вясна! Што ты нам прынясла?

— Вясна, вясна! Што ты нам прынясла?
— Дзеўкам выросту, а хлопцам каросту.
А й у гародзе кракос парос,

Забраў чорт хлопцаў ды ў лес панёс.
А й у гародзе кракосіцца,
Забраў чорт хлопцаў ды й носіцца.

## 112. Гэй, вясна, да гэй, красна

Гэй, вясна, да гэй, красна,
Што ты нам вынесла?
Ці сала кусочак,
Ці масла брусочак,
Ці па яечку, ці па піражэчку?
Гэй, вясна, гэй, красна!
Прышла вясна, закідай сані
Да едзь калёсамі.

## 113. Вясна, вясна, вясёначка



## 114. Але ўжэ вясна, вясняначка




## 115. Вясна-вясенечка






— Вясна-вясенечка,
Дзе твая дачка-панена[чка]?
— Сядзіць у садочку,
Шые, вышывае саро[чку].
Шые, вышывае,
Чорным шоўкам пацягае.
Кароўкі з дуброўкі,
Авечачкі з поля,
Плача маці па дзіцяці,
Што горкая доля.
—Не плач, маці, не плач, родна,
Платком белым не ўцірайся,
На харошага кавалера
Не спадзявайся.

## 116. Ой, вясна мая, вясняначка






## 117. Ай, вясна мая й вясенечка




— Ай, вясна мая й вясенечка, *
Дзе твая дачка-паненачка?
Ай, ці ў садочку шые сарочку?
Хоць яна шые сарочку,
Хоць яна шые да й вышывае,
Чорным шоўкам абшывае
Свайму Грышачку манішачку.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 118. Прыйшла вясна-вясняначка

Прыйшла вясна-вясняначка.
— Дзе мая дочка Мар'яначка?
— Дзесь у садочку шые сарочку
Свайму сыночку Васілёчку,
Дзесь на даліне шые пярыны
Сваёй донечцы Кацярыне,
Дзесь у Адаркі рэжа падаркі.

## 119. Да вясна, вясна, вясенечка




— Да вясна, вясна, вясенечка,
Дзе твая дочка й паненачка?
Паненачка.
— Да й у садочку шые сарочку,
Да й шые, шые, вышывае:
«Насі, міленькі, штонядзелькі,
Успамінай мяне штогадзінкі».

## 120. Ой, вясна, ой, вясна, ой, вясёначка




— Ой, вясна, ой, вясна, ой, вясёначка,
Вясёначка,
Дзе твая дачка Алёначка?
Алёначка.
— Сядзіць ў садочку, шые сарочку,
Шые сарочку.
Шые сарочку свайму сыночку,
Свайму сыночку,
Свайму сыночку Васілёчку.

## 121. Ой, вясна, вясна, вясенечка



— Ой, вясна, вясна, вясенечка,
Вясенечка,
Дзе твая дачка Тацяначка?
Тацяначка.
— Да й у гародзе чабор поле,
Чабор поле.
Ой, чабор поле, песні пяе,
Песні пяе.
Ой, песні пяе, казкі кажа,
Казкі кажа.
Ой, песні пяе дзявоцкія,
Дзявоцкія.
Ой, казкі кажа хлапоцкія.

## 122. Вясеначка



— Вясеначка,
Дзе твая дачка Тацяначка?

Тацяначка.
— А й у гародзе чабор поле.

Чабор поле,
Жыжку-крапіўку сырывае,

Сырывае,
Руту-мяту палівае,

Палівае.
Жыжка-крапіўка хлапоцкая,

Хлапоцкая,
Рута-мята дзявоцкая.

## 123. Да вясна, вясна, вясеначка




## 124. Вясна й мая, вясеначка

— Вясна й мая, вясеначка,
Дзе твая дачка-паненачка?
— Мая й дачка ў садочку,
Шые сарочку іллянаую
Свайму міламу, каханаму,
Шые сарочку пласконную
Свайму міламу бяздольнаму.

## 125. Вясна, вясняначка




— Вясна, вясняначка,
Дзе твая дачка-каханачка?
Ой, вясна, вясеначка
Развесяліла ўсе горачкі,
Усе горы, далiначкі,
Усе кавалеры да дзевачкі.

## 126. Ой, вясна красна, вясеначка

— Ой, вясна красна, вясеначка.
Дзе й твая й дачка-паненачка?
— Дзе ж мая й дачка й? У гародзе.
— Што ж яна робе? — Рожу садзе.
На той жа ружы тры кветачкі,
У нашым сяле тры дзевачкі:
Первая кветка — Манечка-дзеўка,
Другая кветка — Валечка-дзеўка,
Трэцяя кветка — Надзечка-дзеўка.

## 127. Вясна, вясна, вясеначка






— Вясна, вясна, вясеначка, ай, *
Дзе твая дачка красеначка?
Чаму на вулку не выходзе,
Дзеўкам таночкі не выводзе?
— Як выйду, выйду на вуліцу,
Як плясну, плясну ў ладоначкі,
Каб паразбіваць пярсцёначкі.

## 128. Вясна, вясна, вясенечка




## 129. Вясна, вяска, вясняначка

Вясна, вясна, вясняначка,
Чыя то дочка Мар'яначка?
За варотамі быкі пасла,
Ой, назбірала гаршчок масла,
Гаршчок масла, гаршчок сыра,
Усіх хлопчыкаў запрасіла:
«Ешце, хлопцы, і мачайце,
А на гарэлку прабачайце».

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 130. Ой, вясна, вясна, вясеннечка

— Ой, вясна, вясна, вясеннечка,
Ой, вясна, вясна, вясеннечка,
Дзе твая дачка міленечка,
Дзе твая дачка міленечка?
— У каморцы спала, рана ўстала,
У каморцы спала, рана ўстала,
Цябе, дзяцінкі, дажыдала,
Цябе, дзяцінкі, дажыдала.

## 131. Ой, вясна, вясна, вясеначка



## 132. Ой, вясна, вясна, вясеначка



— Ой, вясна, вясна, вясеначка,
Дзе твая дачка-паненачка?
Паненачка.
— Пагнала бычка й у ліпачкі,
У ліпачкі,
За ёю хлопцы у скрыпачкі,
У скрыпачкі,
А Васілёчкі ў галасочкі,
Ў галасочкі,
А Іванчыкі ў барабанчыкі.

## 133. Ой, вясна, вясна, вясеначка



## 134. Вясна, вясна, вясняначка

— Вясна, вясна, вясняначка,
Вясняначка.
Дзе твая дачка-паняначка?
Паняначка.
— Пагнала бычка за вароцечкі,
За вароцечкі:
«Пасіся, бычку, я спраду мычку,
Спраду мычку
Старому дзеду на рукавічку,
На рукавічку,
А маладому на панчоху,
На панчоху!»

## 135. Вясна-вясняначка

— Вясна-вясняначка,
Дзе твая дачка Мар'яначка?
— Пагнала бычкі за ліпачку,
Прадзець старому дзеду на рукавічку,
А маладому на панчошку.
А ў маладога пірагі ў печы,
А старому кулакі ў плечы,
А ў маладога ў кармане грошы,
А ў старога ў барадзе вошы.

## 136. Ой, вясна, вясна, вясенечка



— Ой, вясна, вясна, вясенечка,
Дзе твая дачка-паненачка?
— Пагнала кароўкі да дуброўкі,
Пагнала авечачкі каля рэчачкі,
Пагнала цялятні на сенажаткі,
Пагнала свінкі да далінкі.

## 137. Ах ты, вясна, ты ж вясеначка






## 138. Вясна красна, лета цёплае

Вясна красна, лета цёплае,
Уся скацінка ў поле пайшла:
Кароўкі каля муроўкі,
Авечачкі каля рэчачкі,
А свінaчкі каля нівачкі,
А гусачкі каля лужачкі,
А вутачкі каля плюсачкі,
А курачкі па шуметнічках,
А рабяткі па завалінках.

## 139. Вясна мая, вясняначка

Вясна мая, вясняначка,
Пагнала бычка на раначкі,
А сама села на ганачкі.
«Пасіся, бычок, пад ліпкамі,
А я паскачу пад скрыпкамі».

## 140. Вясна мая вясёлая



Вясна мая вясёлая,
Пусці воду па вуліцы,
Пусці воду па вуліцы,
У чыстым полі па даліне.
Да там хлопчыкі збіраліся,
На мёдзік-піва складаліся.

## 141. Ой, вясна мая вясёлая

Ой, вясна мая вясёлая,
Развесяліла ўсе горачкі,
Усе горачкі,
Усе горачкі-даліначкі,
Даліначкі,
Дзе парабачкі збіраліся,
Збіраліся,
На мёд-гарэлачку складаліся,
Складаліся,
Аб помсце пану змаўляліся.

## 142. А вясна, вясна, вясеначка

А вясна, вясна, вясеначка,
Вясеначка,
Развесяліла ўсе вулачкі,
Усе вулачкі,
Да ўсе вулачкі-праталачкі,
Праталачкі,
Да дзе хлопчыкі збіраліся,
Збіраліся,
На мёд-гарэлку складаліся,
Складаліся.
Кладзі, дзяцінка, болей за ўсіх,
Болей за ўсіх,
Твая дзевачка лучшы за ўсіх,
Лучшы за ўсіх:
Яна беленька, румяненька,
Румяненька,
На работачку слухмяненька,
Слухмяненька.

Яна свёкарку паслухае,
Паслухае,
Возьме вядзерца, пастукае.

## 143. Ой, вясна, вясна вясёлая

Ой, вясна, вясна вясёлая,
Нарасла трава зялёная. У-у-у!
Да ўзвесяліла ўсе горачкі, даліначкі,
Дзе парабочкі, там дзевачкі. У-у-у!
Ідуць парабочкі страляючы,
А дзевачкі — спяваючы. У-у-у!

## 144. Вясна наша вясёлая — гу!

Вясна наша вясёлая — гу!
Развесяліла зямлю, ваду — гу!
Зямлю, ваду, мяне маладу — гу!
Молад малойчык па саду ходзе — гу!
Шчыпе красачкі за шапачку — гу!
Сваёй дзевачцы за кладачку — гу!

## 145. Ай, вясна-вясна, вясна севярыстая

Ай, вясна-вясна, вясна севярыстая,
Баюся цябе: ссевярыш мяне.
Ай, лета-лета, лета жаркае,
Баюся цябе: дапячэш мяне.
Ай, зіма-зіма, зіма лютая,
Баюся цябе: змарозіш мяне.

## 146. А ў лесе, лесе

А ў лесе, лесе
Лісіца брэша,
Мядзведзь рыкае —
Вясну гукае.

## 147. Прыдзі, прыдзі, вясна

Прыдзі, прыдзі, вясна,
Прыдзі, прыдзі, красна,
К нам у таночак,
Прынясі нам збожжа,
Прынясі нам красак,
Каб нам звіць вяночак
Едзе вясна, едзе
На залатым кані,
У зялёным саяні,
На сасе седзячы,
Сыру зямлю аручы,
А смыком скародзячы.
Вязе, вязе вясна,
Вязе, вязе красна
Ясныя дзянёчкі.
Частыя дажджочкі,
Зялёныя травы,
Красныя цвяточкі
Нам на вяночкі.

## 148. Сонейка на прыпечак скацілася

Сонейка на прыпечак скацілася,
І зямліца ўсміхнулася:
— Вазьмі, сонейка, у бога дазволу
І спусціcь дадолу,
Мы табе спяваем,
Мы цябе ўсхваляем,
Прыходзь, мы цябе чакаем.

## 149. Дабравешчанніко святое

Дабравешчанніко святое,
Пашлі сонейка залатое,
Каб зямелька адышла
Ды вясна да нас прыйшла,
Каб распусціліся ветачкі,
Каб раскраснеліся кветачкі,
Каб лугі зазелянеліся,
Нашы нівачкі адзеліся.

## 150. Ой ты, сонца, сонца краснае

Ой ты, сонца, сонца краснае,
Ой ты, сонца, сонца краснае,
Да чаму, сонца, за лес коцішся,
Да чаму, сонца, за лес коцішся,
Да чаму не жджэш пары летняе,
Пары летняй, вясны краснае,
Пары летняй, вясны краснае?
Чаму, дзеўка, да ты замуж не йдзеш?
Ужо ж ручнічкі нагатовіла,
Да й папом, сватом да й надавала.

## 151. Дзякуй богу, што вясна прыйшла




Дзякуй богу,
Што вясна прыйшла.*

Я, млада,
Каля жыта пайшла.

— Расці, жыта,
Караністае,

Караністае,
Лапушыстае,

Каб у трубы
Пакачалася,

---

* Кожная страфа паўтараецца.

Каб я, малада,
Нажалася

І снапочкаў
Нанасілася.

## 152. Я ж радзенька, што вясна прыйшла

Я ж радзенька, што вясна прыйшла,
Я ж, маладая, каля жыта пайшла.
— Расці ж, жыта, каранiстае,
Каранiстае, каласiстае,
Каб у трубы пакачалася,
Каб я, молада, зажалася,
А носячы умарылася,
А ставячы паваліласся,
А лічучы не злічылася.

## 153. Вясна-маці, пусці гуляці

Вясна-маці, пусці гуляці,
Пусці гуляці,
Ужо малойчыкаў не відаці,
Не відаці:
Пашлі да коней начаваці.

## 154. Вясна красна к нам у госці прыйшла



Вясна красна к нам у госці прыйшла, *
У пуні сена ўсё й павынесла,
У клеці жыта ўсё й павыгарнала,
Красных дзевак замуж выдала,
Малойчыкаў ўсіх пажаніла.

### 155. Ой, дай, божа, дробны дождзык




Ой, дай, божа,
Ой, дай, божа,
Дробны дождзык,
І каб гэты снег
Да сагнала.

Каб гэты снег сагнала
І снег да сагнала,

* Кожны радок паўтараецца.

Нам на вясну
Паказала.

І то б я зелле,
І то б я зелле
Назбірала б,
Сваёй матцы
Да й паслала б.

Матка ж мая,
Матка ж мая,
Старэнькая,
Старэнькая
Й нядужая.

У госцях ў мяне,
У госцях ў мяне
Не бывае,
Жыцця майго
Не ведае.

## 156. Да дай, божа, дробны дождж ык

Да дай, божа, дробны дождж ык,
Каб гэты снег сагнала,
Каб лета настала,
То б я зелля назбірала,
Да бацюшкі заслала:
— Мой бацюшка раднюсенькі,
Чаму ў мяне не бываеш,
Быту майго не адведаеш?
— Дзіця маё міленькае,
Як мне у цябе быці
А зімою за снягамі,
А вясною за водамі,
А ў лецечку за снапамі.
— Мой бацечка, мой родненькі,
Зімою на палазочку,
А вясною на чаўночку,
А у лецечку — у нядзелечку.
— Дзіця маё міленькае,
Як жа ж мне у цябе быць:

Як я к табе на двор,
То мяне не пускаюць,
Вароцечка замыкаюць.

## 157. А ехала вясна рызамі

А ехала вясна рызамі,
А вязла жыта вазамі,
Каму гэта жыта надабі?
Міколку-сына жаніць — піва варыць,
Дачку аддаваць — гарэлку гнаць.

## 158. Жавароначкі, прыляціце




Жавароначкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела,
Нам хлебушак пераела.

Жавароначкі, прыляціце,
Зямлю-матушку абудзіце
І дождыкам напаіце,
Каб травачкі парасцілі,
Каб волікаў накармілі.

Жавароначкі, прыляціце,
Цёпла лецейка прынясіце,
А зімачку прыбярыце,
Бо зімачка надаела,
Нам хлебушак пераела.

## 159. Жаваранак, ранняя птушэчка

— Жаваранак, ранняя птушэчка,
Чаго так рана з выр'ю вылятаеш?
А там пры даліне —
там ляжаць крыгі,
А там пры дарозе —
снягі і марозы.
— А я тыя крыгі крыламі разаб'ю,
А я тыя марозы нагамі растапчу.

## 160. Ой ты, жаваронку, ранняя пташка

— Ой ты, жаваронку, ранняя пташка,
Чаго так рана з выраю вылецеў?
— Мяне пташкі белы з выраю ганілі:
«Ляці, жаваронку, у сваю старонку,
Там табе вадзіцы па самыя крыльца,
Там табе гарошку па самы дзюбочак,
Там табе травіца па самы каленца».

## 161. Вясна красна




# ЮРАЎСКІЯ ПЕСНІ

## 162. Ой, памажы, божа, Юр'я заклікаці

Ой, памажы, божа, Юр'я заклікаці,
Юр'я заклікаці, вёсны засніваці
На цёплае лета, на буйнае жыта,
На полі снапамі, да свірна гарудамі.

## 163. Юр'я, устань рана



Юр'я, устань рана, *
Юр'я, мыйся бела.
Юр'я, ідзі ў стайню,
Юр'я, сядлай каня,
Юр'я, едзь у поле,
Юр'я, адамкні зямлю,
Юр'я, пусці расу,
Юр'я, цяпленькую,
Юр'я, бяленькую.

## 164. Юр'я, устань рана




## 165. Юрай, Юрай, ўставай рана

Юрай, Юрай, ўставай рана,
Бяры коні, едзь у поле.

Едзь у поле аглядаці,
Наша жыта паліваці.

Каб нам жыта радзіла
Да й у трубы пакруціла,

Каб мы жыта дачакалі
І Юрая паклікалі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 166. Юры, уставай рана

Юры, уставай рана,
Адмыкай зямлю,
Выпускай расу
На цёплае лета,
На буйнае жыта,
На ядраністае,
На каласістае!

Пойдзем, дзявочкі,
У лугі-лужочкі
Завіваць вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую!

## 167. Юр'я, устань рана

Юр'я, устань рана,
Юр'я, умыйся бела,
Юр'я, прычашыся,
Юр'я, прыбярыся,
Юр'я, вазьмі ключы,
Юр'я, ідзі ў поле,
Юр'я, адамкні зямлю,
Юр'я, выпусці расу.
Раса на кароўкі,
Трава на конікі,
Гігель на свіначкі,
Мурог на авечачкі,
А жвірок на вутачкі
І на гусачкі.

## 168. Ты, Юр'я, свенты ключнік

Ты, Юр'я, свенты ключнік,
Сядлай каня варанога,

Едзь у поле у чыстае,
Адамкні зямлю, пусці расу,
Пусці расу на ўсю вясну,
І густую, і частую,
І цёплую, і мокрую,
І на ўвесь свет,
На кожны цвет.

## 169. Юр'я! Вечар добры, Юр'я!




Юр'я! Вечар добры, Юр'я!
Юр'я! Падай ключы, Юр'я!
Юр'я! Нашто ключы? Юр'я!
Юр'я! Зямлю адмыкаць. Юр'я!
Юр'я! Нашто адмыкаць? Юр'я!
Юр'я! Расу пушчаць. Юр'я!
Юр'я! Нашто раса? Юр'я!
Юр'я! Для каровак. Юр'я!

## 170. Юр'я, падай ключы



— Юр'я, падай ключы. *
— Мамка, каторыя?
— Сынку, земляныя.
Зямлю адмыкаці,
Траўку выпускаці.
Траўка для мураўка,
Гігель для свіначак,
Мурок для авечачак.

## 171. І матка Юр'я клікала, гэй




* Кожны радок паўтараецца.




І матка Юр'я клікала, гэй.
— Да падай, сынку, ключыкі.

Да падай, сынку, ключыкі, гэй,
Да адамкнуці зямліцу.

Да адамкнуці зямліцу, гэй,
Да выпусціці расіцу.

Да выпусціці расіцу, гэй,
Да на яруе пшаніцу.

Да на яруе пшаніцу, гэй,
На ціхоё лецечко.

Да на ціхоё лецечко, гэй,
Да на буйнаё жыцечко.

## 172. Юр'я бога клікала

Юр'я бога клікала:
— Да падай, божа, ключыкі
Адамкнуці зямліцу
Да выпусціці травіцу.
Да на буйна жыта,
Да на цёпла лета,
Да на волікі ярмачко,
Да на кароўкі малачко.

## 173. Ой, Юр, Юр, Юр, Юры

Ой, Юр, Юр, Юр, Юры,
Да маценька кліча:
— Падай ключы да пекельны,
Расіцу да адамкнуць,
Травіцу да выпусціць.

## 174. Юрай матку кліча

Юрай матку кліча:
— Падай, матка, ключык
Адамкнуць зямліцу,
Выпусціць расіцу
На лён, на пшаніцу,
На ранняе лета,
На буйнае жыта.
Дзеўка недарасла
Аснавала кросны,
Закінула нітку,
Сама пайшла ў снітку.
Сніткі не набрала,
Юр'я праклінала.

## 175. Юр'ева матка пагнала цялятка




Юр'ева матка пагнала цялятка,
Ў лес пайшла, ў лес пайшла,
Залатыя ключы панясла, панясла.

Юр'ева матка, вярніся, вярніся,
Бо ключы нашліся,
Залатыя ключы нашліся, нашліся!

Юр'ева матка, сырую зямліцу
Адмыкаць, адмыкаць,
Дробную расіцу выпускаць, выпускаць!

## 176. Юр'ева матка упроч пашла

Юр'ева матка упроч пашла
І за сабою ключ панясла.
— Юр'ева матка, вярніся,
Падай ключыкі ад зямліцы,
Адамкнуці зямліцу
Да выпусціці травіцу,
На травіцу расіцу,
На расіцу быдлейку,
На быдлейка пастушке́,
А пастушкам свістушке́.
Пастух быдла напасе,
Ён дадому прыжане́,
А свістушка паішчэ.

## 177. Юр'ева маці

Юр'ева маці
Па гары хадзіла,
Ключыкі насіла,
Зямлю адмыкала,
Траву выпускала,
На травіцу — расіцу.
— Бароўскія жонкі,
Выганяйце кароўкі,
Каб былі малочны,
Цяляці няўрочны.

## 178. А Юр'ева матка каля рэчкі хадзіла

А Юр'ева матка каля рэчкі хадзіла,
Каля рэчкі хадзіла, ключыкі-замочкі насіла.
Ключыкі-замочкі насіла, зямельку адмыкала,
Зямельку адмыкала ды травіцу выпускала.
Ах вы, жонкі-бухонкі, вы ўставайце раненька,

Вы ўставайце раненька, вы ганіце каровак.
Вы ганіце каровак да на Юр'еву расу,
Да на Юр'еву расу, да на божую красу.

## 179. А Юр'ева маці

А Юр'ева маці,
Божа мілы! *
Па небе хадзіла,
З Юр'ем гаварыла:
— А Юр'ю мой, Юр'ю,
Падай Пятру ключы
Зямлю адамкнуці,
Траву выпусціці,
Статак накарміці.
Людзям на здароўе,
Ліху безгалоўе.

## 180. А сягоння Ягоры

А сягоння Ягоры,
Пагонімце, дзеўкі, у поле.
Ешце, каровушкі, травушку,
Піце, каровы, вадзіцу!
А божанька, папасі,
Дамовушкі прыгані,
Дамовушкі прыгані,
У хлеў загані.

## 181. На Юр'я расу бычка напасу




---
* Прыпеў «Божа мілы!» паўтараецца пасля кожнага радка.

На Юр'я расу бычка напасу.*
«Бычок-трацячок, ці поўны бачок,
Цялушка-душка, ці поўна брушка?»

## 182. Юр'я, Юр'я

Юр'я, Юр'я,
Божа мой! **
Падай ключы,
Зямлю адмыкаць,
Бычка напасаць!
На Юр'еву расу
Бычка напасу.
— Бычок-трацячок,
Ці повен бачок?
— Яшчэ не повен,
З левым не ровен.

## 183. Ой, выйду я на вулачку, бычкі бушуюць

Ой, выйду я на вулачку, бычкі бушуюць,
Юр'я, Юр'я, бычкі бушуюць.
Бычкі бушуюць, бо вясну чуюць,
Юр'я, Юр'я, бо вясну чуюць.
Зашумелі рэчкі, ляды паплылі,
Юр'я, Юр'я, ляды паплылі.
Зачарнела зямліца, бо пааралі,
Юр'я, Юр'я, бо пааралі.
Зазелянела бяроза, бо папукалася,
Юр'я, Юр'я, бо папукалася.
Завесялела дубрава, пташкі спяваюць,
Юр'я, Юр'я, пташкі спяваюць.
Зазелянела даліна, кляткі зацвілі,
Юр'я, Юр'я, кветкі зацвілі.
Ой, выйду я, выйду кветкі збіраці,
Юр'я, Юр'я, кветкі збіраці,
Кветкі збіраці, вяночкі віці,
Юр'я, Юр'я, вяночкі віці,
Вяночкі віці, Юр'я спяваці,
Юр'я, Юр'я, Юр'я спяваці!

---

* У пачатку і канцы кожнага радка пяецца прыпеў «Божа мой».
** Прыпеў «Божа мой!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## 184. Юр'я, Юр'я па полі ходзіць




Юр'я, Юр'я па полі ходзіць,
Юр'я, Юр'я да бога просіць:

— Урадзі, ўрадзі жыта-пшаніцу,
Пабі, пабі кукаль-мятліцу.

Падай, падай ключы і замкі
Адамкнуці неба і зямлю.

Выпусціці цёплую росу
І на жыта, і на пшаніцу.

Будзе ў корні караністаю,
Ўсерадзіне ды сцяблістаю.

А на полі выжаністаю,
А із поля вывазістаю.

А у гумне выкладзёнаю,
А у млыне вымялёнаю.

А у дзяжы падыходнаю,
А у печы выпячонаю.

А на стале сытна спорнаю,
Нашым людзям на здароўечка.

## 185. На святога Юр'я была баба дурнем

На святога Юр'я
Была баба дурнем.
Напякла перапеч
Паўнюсеньку печ
Да навыбірала
Двое начовак,
Часта сіта.
Радзі, божа, жыта
Чыста, ядраніста,
На колас каласіста,
Ядро з вядро,
Каласок з піражок.
Да з каласочка
Будзе жыта бочка,
Да [з] каласінкі
Будзе з паўасьмінкі.
Да судзі, божа, іх пажываці
І Юр'я ўспамінаці.

## 186. Зарадзі, божа, жыта




Зарадзі, божа, жыта
Ды на новае лета.
Юр'я-юр'ева.

Коласам каласіста,
На ядро ядраніста.
Юр'я-юр'ева.

На таку умалотам,
А ў млыну прымалотам.
Юр'я-юр'ева.

А у печы румяна,
А на стале жадана.
Юр'я-юр'ева.

### 187. Зарадзі, божа, жыта

Зарадзі, божа, жыта
На прышлаё лета.
Наша дзевачка мала,
Каб стоячы жала,
З служкамі замышляла,
Служкамі вярненькімі,
Дзетачкамі маленькімі.

### 188. Радзі, божа, жыта

Радзі, божа, жыта
На новае лета.
Сярпочкам жата,
Жменькаю брата,
У снапке вязана,
У сцірцы складзена,
На воз кладзена,
Жарткаю ўцiснена,
У гумно ўвезена.
У старану зложана,
На таку змалочана,
У печы прысушана,
У жарнах прымолана,
У дзяжы прыкіснена,
У печы прыпечана,
На стале акроена,
Дружыне прысытна.

## 189. Святое Юр'е, дзе было?

— Святое Юр'е,
Дзе было?
Ран, да рано,
Дзе было? *

— Па мяжэ хадзіла,
Жыта радзіла.

З каласочка —
Жыта бочка,

З каласінкі —
Поўасьмінкі.

Будзем жыта
Тачыці,

Будзем віно
Чыніці,

Будзем хлопчыкаў
Паіці.

Паклічам бога,
Паклічам:

— Да падай, божа,
Ключыкі

Да й адамкнуць
Зямліцу,

Да й выпусціць
Травіцу.

На травіцу —
Расіцу,

Каб кароўкі
З'ядалі,

Каб малачка
Давалі.

---

* Прыпеў «Ран, да рано» і другі радок кожнай страфы паўтараюцца.

## 190. Павядзем Юр'е да бору

Павядзем Юр'е да бору
Да пасадзім Юр'е на хвою.
Няхай наша Юр'е пасядзіць
Да болей свету паглядзіць.
Дзе наша Юр'е хадзіла,
Там наша жыта ўрадзіла,
А дзе наша Юр'е юравала,
Там наша жыта красавала.

## 191. Ой, да бору, Юр'я, да бору

Ой, да бору, Юр'я, да бору,
Ды пасадзім Юрка на хвою,
Ды дамо ж мы Юрку коўш канапель,
Ды й няхай ён лушчыць, як верабей,
Ды й няхай ён скача, як белка,
Ды й няхай ён плача, як дзеўка.

## 192. Ішлі дзяўке́ кучкаю

Ішлі дзяўке́ кучкаю,
Зустрэлі Юр'я ў [в]уліцы.
— Святое Юр'е, дзе ж ты бываў?
— Па межам хадзіў, жыта радзіў.
Чыё жыта добрае,
Судзі, божа, яму лепшае:
Па край зямлі карчыста,
Пасярэдзіне сцяблiста,
Пад верх калосся каласіста.
У вадну косаньку спялося,
У вадну сторанку зляглося.
З снапочка — жыта бочка,
З каласочка — жыта гарчык.
Дай жа, божа, абмалаціць,
Срэбра, злота палічыць,
Срэбра, злота каралю,
А здароўе гаспадару.

## 193. Дзе ты, Юр'е, ўрасіўся?

— Дзе ты, Юр'е, ўрасіўся?
Дзе ты, Юр'е, ўмачыўся?
— Па далах, па росах ходзячы,
Людзям жыта родзячы.
Дабро жыта да дабро,
Радзі, божа, на лета,
Радзі, божа, на лета
Да лепшае за гэта:
У корані караністае,
У саломцы сцяблістае,
У саломцы сцяблістае,
А у коласе каласістае.
У роўным полі капамі,
У цёмным гумне тарпамі.
У цёмным гумне тарпамі,
А у сверне засякамі.
А у сверне засякамі,
А на стале баханамі.

## 194. Дзе ты, Юрка, разліўся

Дзе ты, Юрка, разліўся,
Дзе ты, Юрка, расіўся?
Ці кароўкі доячы,
Ці волікі пасучы?

## 195. А ты, Юр'я, Мікола



— А ты, Юр'я, Мікола,
Абыйдзі жыта наўкола.
Юр'я кажа: «Абыйду».
Мікола кажа: «Пагляджу».
Юр'я кажа: «Ў пучочкі».
Мікола кажа: «Ў каласочкі».
— Дзе ты, Юр'я, ўрасіўся?
Дзе ты, Мікола, ўмачыўся?
— Горы, межы ходзячы,
Жыта, пшаніцу родзячы.
Жыта, пшаніцу — то дабро.
Да дай, божа, на лета,
Да дай, божа, на лета
Лепшую ўроду за гэта.

## 196. Юр'е, Мікола

Юр'е, Мікола,
Абыйдзі жыта наўкола,
І адамкні зямліцу,
І выпусці расіцу.
І выпусці расіцу
На маладую маладзіцу.
Яна раненька ўставала,
Расіцу абцірала.

## 197. Разгуляўся Юр'еў конь

Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
Як у камені зерне ёсць,
Так у хлопцаў праўда ёсць.

Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў гарэх капытом.
Як у гарэху зерне ёсць,
Так у дзяўчынак праўда ёсць.

А вы, хлопчыкі, бяжыце,
Вашы конікі ў жыце.
А ты, мілы, не бяжы,
Бо твой конік на мяжы.

## 198. Божа мой, разгуляўся Юр'еў конь




## 199. Разгуляўся Юр'еў конь






## 200. Разгуляўся Юр'еў конь




Разгуляўся Юр'еў конь,
Разбіў каменьчык капытом.
Як у камені зярнё ёсць,
Так у хлопчыка праўда ёсць.
Яго конік хваслівы,
Хвастом вулку падмяце.
Хвастом вулку падмяце,
Табе паненку прывязе.
Вушкамі неба падапрэ,
Вочкамі зоры палічыць,
Вочкамі зоры палічыць,
Цябе, маладога, падвялічыць.

## 201. Разыграўся Юр'еў конь

Разыграўся Юр'еў конь,
Разбіў камень капытом.
А ў том камню агню нет,
Ў чужой мамкі праўды нет!
Разыграўся Юр'еў конь,
Разбіў арэх капытом,
У том арэху ядро ёсць,
У роднай мамкі праўда ёсць!
Загараўся шэры бор.

— Вы хадзіце, мальцы, тушыці,
Рэшатам воду насіці!
А ў рашацé вады нет,
У нашых мальцах праўды нет!
Загараўся шэры бор.
— Вы хадзіце, дзеўкі, тушыці,
Кубкам воду насіці!
А ў тым кубку вада ёсць,
У нашых дзеўках праўда ёсць!

## 202. Загарэўся сыры бор




Загарэўся сыры бор,
Ніваю, Юр'я, ніваю! *
Пайшлі хлопцы гасіці,
Рэшатам ваду насіці.
А ў рэшаце вады нет,
А у хлапцоў праўды нет.
Пайшлі дзеўкі гасіці,
Вянкамі ваду насіці.
А ў вяночках вада ёсць,
А ў дзевачак праўда ёсць.
Загарэўся сыры бор!

## 203. Ляцеў бабёр чараз двор

Ляцеў бабёр чараз двор,
На ём сукенак дзевяць пар,
На ём шапачка733 баброва,—
Загарэлася дуброва.

---

* Прыпеў «Ніваю, Юр'я, ніваю!» паўтараецца пасля кожнага радка.

«Ідзіце, хлопчыкі, гасіце,
Рэшатам ваду насіце!
Як у рэшаце вада ёсць,
Так у хлопчыкаў праўда ёсць!»
Ляцеў бабёр чараз двор,
На ём сукенак дзевяць пар,
На ём шапачка баброва —
Загарэлася дуброва.
«Ідзіце, дзевачкі, гасіце,
Кубачкам ваду насіце!
Як у кубачку вада ёсць,
Так у дзевачак праўда ёсць!»

## 204. Яловае карыта поўна вадой наліта

Яловае карыта поўна вадой наліта.
Дзевачкі ножкі памылі,
А хлопчыкі ваду выпілі!
Дубовае карыта поўна вадой наліта.
Пчолкі ножкі памылі,
А дзевачкі ваду выпілі!

## 205. Юрайка, Юрайка, ці зелена мураўка?

— Юрайка, Юрайка, ці зелена мураўка?
— Траўка-мураўка зеляненька,
На вуліцы дзевачак паўненька.
Траўка-мураўка пабялела,
На вуліцы дзевачак пагалела.
Да йшоў дождждык дробненькі,
Памачыў рукавец тоненькі.

## 206. Юра барадаты

— Юра барадаты, *
Стары, нежанаты,
Юра, ажаніся.
—Матка, дзевак нету,

* Кожны радок паўтараецца.

Толькі адна ружа,
І тая ў агародзе
Садам абсаджана,
Тынам абтынена,
Жытам абсеяна.
Я сад парублю,
Я й тын паламлю,
Жыта на хлеб сажну,
Ружу к сабе вазьму.

## 207. Юра нежанаты

— Юра нежанаты, *
Чаму, Юра, не жэнішся?
— Да бог сына жаніў,
Усіх святых спрасіў,
На 'дну Іллю забыў.
А Ілля падзівіла,
Тры хмары спусціла:
Адну дажджавую,
Другую снегавую,
Трэцюю градавую.

## 208. Ой, Юр'я, Юр'я




Ой, Юр'я, Юр'я,
Не вадзі дзевак у танок,
Не вадзі дзевак у танок.
Горка наша ваяванне,
Горка наша ваяванне,

---
* Кожны радок паўтараецца.

Ручкі, ножкі рукаванне,
Ручкі, ножкі рукаванне.
Ой, Юр'я, Юр'я.
Не вадзі дзевак у танок,
Не вадзі дзевак у танок.

## 209. Шчыр бор пагараіць




Шчыр бор пагараіць, *
Што ў тым бары было?
І сукні, і саболі —
Дзявоцкія прыборы.
Лапці і аборы —
Хлапцоўскія прыборы.

## 210. Юр'я, сыры бор гарыць!

— Юр'я, сыры бор гарыць!
— А што ў тым бару стаіць?
— Стаіць новая клетка.
— А што ў той клетцы ляжыць?
— Лапці і аборы — дзяцюцкія ўборы.
— Юр'я, сыры бор гарыць!
— А што ў тым бару стаіць?
— Стаіць новая скрыня.
— А што ў той скрыні ляжыць?
— Сукні і суборы — дзявоцкія ўборы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 211. Ой ты, Юрка, не ваюй




Ой ты, Юрка, не ваюй
Да й на коніку пагарцуй. *

Былі ў Юркі тры дачкі,
Яны вялікі параслі.

Адна была тонка, высока,
То тая пайшла далёка.

Другая была румяна,
Тая выйшла за пана.

Трэцяя была маленька,
Тую ўзяў сам кароль.

Сабраліся ўсе крулёве,
Дзівуваліся з караля.

— Ой ты, крулю найяснейшы,
Чаму не ўзяў харашэйшу?

А круль крулям адказаў:
— Саму лепшу сабе ўзяў.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 212. Было у Юры тры дачкі

Было у Юры тры дачкі.
Не ваюй, Юры, не ваюй! *
Першую узяў паповіч,
Другую узяў каралевіч,
Трэцюю узяў сам пановіч.
Сабраліся зяці ў госці,
Сталі яны тарасавацца,
Сталі з пановіча насміхацца:
— Ці табе не было белай румянай,
Ці табе не было тонкай высокай,
Што ты ўзяў чорную маленькую?
Стаў пановіч адказаваць:
— Бела-румяна скора змыецца,
Тонка-высока скора зломіцца,
А чорна маленька жаць будзе.

## 213. А што ў лесе

А што ў лесе **
Стучыць, гручыць? —

Святы Юры
Церам цешыць.

Што ў цераме
Крычыць, плачыць? —

Юр'ева маць
Доньку біла.

— А дзе, донька,
Венчык дзела?

Венчык дзела
Пярловенькі?

— Ехаў, маці,
Князь Васілі

---

* Прыпеў «Не ваюй, Юры, не ваюй!» паўтараецца пасля кожнага радка.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

А зняў венчык
Пярловенькі,

Павёз дзеўкам
Курманаўскім.

Іх спаднічкі
Пяньковыя,

Іх хвартучкі
Пасконныя.

А што ў лесе
Стучыць, гручыць?

Святы Юры
Церам цешыць.

Што ў цераме
Крычыць, плачыць?

Юр'ева маць
Доньку біла.

— А дзе, донька,
Венчык дзела?

Венчык дзела
Пярловенькі?

— Ехаў, маці,
Князь Васілі

А зняў венчык
Пярловенькі.

Павёз дзеўкам
Багацькаўскім.

Іх сарочкі
Паркалёвыя,

Іх спаднічкі
Шаўковыя!

# ТРАЕЦКІЯ ПЕСНІ

## 214. Пойдзем, дзевачкі

Пойдзем, дзевачкі,
Мы у гай гуляць,
Ай, люлі, люлі,
У гай гуляць.

У гай гуляць,
Вянкі завіваць,
Ай, люлі, люлі,
Вянкі завіваць.

Як заўём вянкі
Ды на ўсе святкі,
Ай, люлі, люлі,
Ды на ўсе святкі.

На духоўскія
І на пятроўскія,
Ай, люлі, люлі,
І на пятроўскія.

Ох, што дух-тройца,
То субор дзеўкам,
Ай, люлі, люлі,
Субор дзеўкам.

А святы Ілля —
То разгон дзеўкам,
Ай, люлі, люлі,
То разгон дзеўкам.

Разагнаў дзевак
Па чыстом полю,
Ай, люлі, люлі,
Па чыстом полю.

Па ельнічку,
Па бярэзнічку,
Ай, люлі, люлі,
Па бярэзнічку.

## 215. Шумела, гарэла асіна

Шумела, гарэла асіна, *
Ну, я, малада, тушыла,
Рэшатам ваду насіла,
Толькі ў рэшаце вады нет.
Цябе, асінка, не ўтушу,
Па полі іскар'е разнашу,
Тушыць, не ўтушыць дробны дождж.
Асіна балота красіла,
Бяроза дзевачак прасіла:
— Пайдзём, дзевачкі, на луг гуляць,
Зялёных вянкоў завіваць,
Заўём мы вянкі на святкі,
На гадавыя празнічкі.

## 216. Гукала бяроза дзевачак ў лес іціць

Гукала бяроза дзевачак ў лес іціць:
— Хадзіце, дзевачкі, вянкі віць,
Заўём вянкі на ўсе святкі.
Кукуй, зязюля серая,
Нядоўга табе кукаваць.
Прыдзець пара светлая
Вянкі развіваць
А ад троічкі да Пятра
Ды да яснага да утра.

## 217. Хадзіце, дзевачкі, у лес гуляці

— Хадзіце, дзевачкі, у лес гуляці.
Зялёных вянкоў завіваці.
— А мы ўжо вяночкі завілі
І гарэлачку папілі.
Закукуй, зязюля, закукуй!
Нямнога табе кукаваці —
Ад вялікадня да Пятра
Ды ад чыстага чацвярга.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 218. Пойдзем, дзевачкі

Пойдзем, дзевачкі,
Ва луга, лужочкі
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі
На годы добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грачыху чорную,
На капусту белую.

## 219. Ай, не радуйся, зялён дуб




Ай, не радуйся, зялён дуб,
Ай, не радуйся, зялёны.
Не к табе ідзём вянкі віць,
Не к табе ідзём вянкі віць.
Ай, узрадуйся, бяроза,
Ай, узрадуйся, белая.
Мы к табе ідзём вянкі віць,
Мы к табе ідзём вянкі віць.

## 220. Ты не радуйся, зелен дуб!






Ты не радуйся, зелен дуб!
Не к табе ідзём — к бярозе,
Не цябе заўём — бярозку.
Заўём бярозку сосенкаю —
Звянчаем Аксенку з Сенічкам.

## 221. Радуйся, бяроза, што дзеўкі ідуць

Радуйся, бяроза, што дзеўкі ідуць,
Дзеўкі ідуць, вяночкі заўюць.
— Бярозанька кудравая, малажавая!
Ты калі расла, калі вырасла?
— А расла па дажджу, красавалася па солнышку.
— Анісьюшка, ну Анісьюшка, ты калі расла,
Ты калі расла, калі вырасла?
— Я расла у родн[ага] бацюшкі,
Красавалася ў роднай матушкі.

## 222. Ну, не радуйся ты, дубняк, кленнік

Ну, не радуйся ты, дубняк, кленнік,
Што дубняк, кленнік, ель кудравая,
Ель кудравая, зелена сасна.
Толькі радуйся, бела бяроза,
Што ты белая да кудравая,
Ну кудравая, малажавая,
Што к табе ідуць красны дзевіцы,
Ну нясуць табе ўсе гасцінічкі —
Ўсё шырыначкі да платошачкі.
А за імі ідуць стары бабушкі,
Ну нясуць табе ўсё гасціначчкі —
Усё яечніцы з драчонаю.
А за імі ідуць стары старыкі,
Табе кланяюцца, бела бяроза,
Што ты белая да кудравая,
Ну кудравая, малажавая.

## 223. Не радуйся, клён да ясення

Не радуйся, клён да ясення,
Не к табе ідуць дзеўкі красныя,
Не табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!
Ты радуйся, белая бяроза,
К табе ідуць дзеўкі красныя,
Табе нясуць яешні смашныя,
Гарэлку горкую, скрыпку звонкую.
Ай, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!
Дух да троіца — дзеўкам зборышча,
А святы Ілля — дзеўкам разбор!
Ай, люлі, ай, люлі!
Ай, люлі, люлі, люлі!

## 224. Уж ты не радуйся, клён-дзерава

Уж ты не радуйся, клён-дзерава,
Ах да люлі, люлі, клён-дзерава.
Не к табе ідуць красныя дзеўшкі,
Ах да люлі, люлі, красныя дзеўшкі.
Як к табе ідуць малады малодушкі,
Ах да люлі, люлі, малады малодушкі.
Уж ты радуйся, белая бярэзінька,
Ах да люлі, люлі, белая бярэзінька
Мы к табе ідзем, красныя дзеўшкі,
Ах да люлі, люлі, красныя дзеўшкі.
Красныя дзеўшкі, малады малодушкі,
Ах да люлі, люлі, малады малодушкі.
Мы пакумімся, пагалубімся,
Ах да люлі, люлі, пагалубімся:
Ты мне кума, а я табе кумка,
Ах да люлі, люлі, а я табе кумка.
З табою куміліся, не браніліся,
Ах да люлі, люлі, не браніліся.

## 225. Ой, выйду ж я на вуліцу




Ой, выйду ж я на вуліцу —
Трава-мурава. *

Сюды-туды гляну —
Чужа старана.

Ой, да выйду ж я за другія —
Там сад-вінаград.

А ў тым садзе-вінаградзе
Падружкі мае.

Вы дзевачкі-паненачкі,
Падружкі мае,

Як пойдзеце ў чыста поле,
Завіце мяне.

Як будзеце кветкі рваць,
Нарвіце і мне,

---

* Кожная страфа паўтараецца.

Як будзеце вянкі віць,
Савіце і мне,

Як будзеце вадой пускаць,
Пусціце і мой.

Усе вянкі вадой пайшлі,
А мой вот і не,

Усе дружкі з вайны прыйшлі,
А мой вот і не.

Усе дружкі на коніках,
А мой пехатой,

Усе дружкі у боцІках,
А мой басатой.

## 226. Вы кумачкі-галубачкі, сястрыцы мае

Вы кумачкі-галубачкі, сястрыцы мае,
Вы кумачкі-галубачкі, сястрыцы мае,
Як пойдзеце ў зялёны сад, гукніце й мяне,
Як пойдзеце ў зялёны сад, гукніце й мяне.
Як будзеце вы краскі рваць, нарвіце і мне,
Як будзеце вы краскі рваць, нарвіце і мне.
Як будзеце вянкі звіваць, савіце і мне,
Як будзеце вянкі звіваць, савіце і мне.
Як будзеце на галоўкі класць, ўскладзіце і мне,
Як будзеце на галоўкі класць, ўскладзіце і мне.
Як будзеце на Дунай пускаць, пусціце і мой,
Як будзеце на Дунай пускаць, пусціце і мой.
А ўсе вянкі паверх плывуць, а мой патануў,
А ўсе вянкі паверх плывуць, а мой патануў,
А ўсе дружкі з Масквы ідуць, а майго няма,
А ўсе дружкі з Масквы ідуць, а майго няма.

## 227. За рэчкаю, за быстраю




За рэчкаю, за быстраю
Слабодка стаіць. *

Небальшая слабодачка —
Чатыры двары.

Ой, а ў той жа слабодачке
Чатыры кумы.

Вы кумушкі-галубушкі,
Падружкі мае,

Куміцеся, любіцеся,
Любіце й мяне.

Як будзеце ў зялён сад ісці,
Гукайце й мяне,

Як будзеце красэчкі рваць,
Нарвіце і мне,

Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне.

Як будзеце на галоўкі класць,
Кладзіце і мне,

Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце і мой.

А ўсе вянкі паверх пайшлі,
А мой на дно паў,

---

* Кожная страфа паўтараецца.

А ўсе дружкі з вайны прыйшлі,
А мой запрапаў.

## 228. А кумачкі-галубачкі

А кумачкі-галубачкі,
Сястрыцы вы мае,

Вы пойдзеце ў зялёны сад,
Гукайце й мяне.

Вы будзеце цвяточкі рваць,
Сарвіце і мне,

Вы будзеце вяночкі віць,
Савейце і мне.

Вы будзеце на галоўку класць,
Ускладзеце і мне.

Вы будзеце на Дунай кідаць,
І скіньце і мой.

Усе вянкі паверх плывуць,
А мой патануў,

А ўсе дружкі са вайны йдуць,
А майго няма.

Ці затапіўся, ці задавіўся —
Ізвесці няма.

Пайду ■ к сваему татачку
На парадачку.

— Парай, парай, мой татачка,
Мне парадачку.

А парадачка небальшая —
Адкуль дружка ждаць?

Адкуль мне міленькага
Свайго дажыдаць:

Ці з Кіева, ці з Сібіры,
Ці з тае Масквы,

А ці з тае староначкі,
Дзе мой бацька п'ецъ?

А ён жа п'ецъ, а ён жа п'ецъ,
За мной пасла шлецъ.

Па тры пасла, па чатыры
І сам за мной ідзецъ.

— За чым, за сім, мая дзетачка,
Забарылася,

Ці за гусямі, ці за вуцямі,
Ці за лебедзямі?

— Забарылася, мой татачка,
За дзетачкамі,

Забарылася, мой родненькі,
За дробненькімі.

Накарміла, напаіла,
Спаці палажыла.

## 229. Да вы кумушкі, вы галубушкі

Да вы кумушкі, вы галубушкі,
Падружанькі мае,
Кумецеся да любецеся
Да любеце й мяне.

Кумецеся да любецеся
Да любеце й мяне,
Недзе ж наша бяздольніца
На чужой старане.

Як пойдзеце ў сад вішнёвы,
Успамянеце й мяне,
Як будзеце цвяточкі рваць,
Пазавеце й мяне.

Як будзеце цвяточкі рваць,
Пазавеце й мяне,
Як будзеце вяночкі віць,
Савеце і мне.

Як будзеце вяночкі віць,
Савеце і мне,
Як будзеце ў рэчку пускаць,
Пусцеце і мой.

Усе ж вяночкі паверсе ідуць,
Мой жа — на дно,
Усе з вайны малайцы ідуць,
Майго не відно.

Як пайшоў жа мой міленькі,
Пайшоў ваяваць,
Мяне пакінуў няшчасную
Увесь век гараваць.

## 230. Запей, запей, саловушка

Запей, запей, саловушка,
У вішнёвым саду. *

Не задавай зазнобушкі
Сярдзечку майму.

Няўжо ж маё сярдзеч[уш]ка
Зазнабілася.

Ох, я па мілым дружочку
Зажурылася.

Усе дзеўкі ў паход ідуць,
А я дома шчэ.

Усе дзеўкі краскі рвуць,
А я дома шчэ.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

Вы кумушкі-падружачкі,
Сястрыцы мае,

Як будзеце ў зелен сад ішіць,
Завіце мяне.

Як будзеце вы краскі рваць,
Нарвіце і мне,

Як будзеце вяночкі віць,
Савіце і мне,

Як будзеце на Дунай пускаць,
Пусціце і мой.

Не ўсе вянкі паверх плывуць,
А мой на дно паў,

Не ўсіх дружкі з паходу йдуць,
А мой там прапаў.

## 231. Ну-тка, кума, пакумімся!

Ну-тка, кума, пакумімся!
Ну-тка, дзеўка, пагалубімся!
Ты мне кума, а я табе,
З кумой скуміліся,
Душа з душой злюбіліся.
Не хадзі, кума, вясной замуж:
Вясною хлеба нетуці,
А хадзі, кума, замуж восенню:
Восенню, кума, пірагоў напякуць.

## 232. І куміліся, і любіліся

І куміліся, і любіліся,
І з кумой пасварыліся.
Тры дні, два дні ядналіся.
Гарэлкаю пахмяляліся.
Кумусічка, любусічка,
Не бі маіх вуцянят.

Мае вуцянияткі
Табе шкоды не нарабілі:
Паядаўшы грэчкі,
Паляцелі да рэчкі,
Паядаўшы пшанічкі,
Паляцелі да крынічкі.

## 233. Выхвалялася бяроза

Выхвалялася бяроза,
Што ў яе лісточак зялёненек,
Што ў яе вецвікі да долу.
Як зачуў, пачуў стары дуб:
— Не хваліся,— кажыць бярозе,—
Не сама бяроза расцілась,
Расціў бярозу гасподзь бог,
Зеляніў лісточкі дожджычак.
Выхвалялася дзевачка,
Што ў яе саянчык да долу.
Як зачуў, пачуў дзяцінка:
— Не сама дзевачка спраўляла,
Спраўляла табе мамачка.
— А ў мяне касіца да пояса.
— Не сама касіцу расціла,
Расціла касіцу мамачка.

## 234. А наш Іванька панок быў

А наш Іванька панок быў, *
Ён у Крычаве вянок віў,
Па ўсіх гарадах разнасіў.
Куплялі дзевачкі — не прадаў,
Сваёй Марфачцы дарам аддаў,
А не дарам аддаў, кальцо зняў.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 235. Валялём! Да на вуліцы ярловіца, валялём!




Валялём! Да на вуліцы ярловіца, валялём!
Валялём! Ой, цяжка хлопцам пятровіца, валялём!
Валялём! Да судзі ж божа Пятра даждаць, валялём!
Валялём! Да Пятра даждаць, хлеба нажаць, валялём!
Валялём! Да тады пойдам у Жыцін у дзеўкі, валялём!
Валялём! У Жыціне дзеўкі харошыя, валялём!
Валялём! Ой, да ўсе ж яны багатыя, валялём!
Валялём! Даюць падаркі памятныя, валялём!
Валялём! А ў Крамку дзеўкі худобанькі, валялём!
Валялём! Даюць падаркі крапіўныя, валялём!

## 236. Саду мой, саду, саду зялёны




Гэй, у-ля-лё! Саду мой, саду, саду зялёны, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Саду зялёны, чаму не вясёл? Гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Раба зязюля сад весяліла, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Сад весяліла, ў бор паляцела, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Двору мой, двору, двору шырокі, гэй, у-ля-лё!

Гэй, у-ля-лё! Двору шырокі, чаму не мяцён? Гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Млода Марылька двор падмятала, гэй, у-ля-лё!
Гэй, у-ля-лё! Двор падмятала і замуж пайшла, гэй, у-ля-лё!

## 237. Ты малодка, малодка маладая

Ты малодка, малодка маладая,
О-ох, ле-ле-лё, маладая!
Да чаго ты, малодачка, стара стала?
О-ох, ле-ле-лё, стара стала.
Ох ты, траўка-мураўка зялёная,
О-ох, ле-ле-лё, зялёная,
Да чаго ты, муравачка, пачарнела?
О-ох, ле-ле-лё, пачарнела.
Ці не гусі цябе сашчыпалі,
О-ох, ле-ле-лё, сашчыпалі.
Ці не маленькія гусяняткі?
О-ох, ле-ле-лё, гусяняткі.
Ці не дзеўкі цябе прытапталі,
О-ох, ле-ле-лё, прытапталі.
Да ўсё тымі чабатамі чырванымі,
О-ох, ле-ле-лё, чырванымі.
Да ўсё тымі падкоўкамі сталянымі?
О-ох, ле-ле-лё, сталянымі.

## 238. А я, маладзенька, растапчу, растапчу

А я, маладзенька, растапчу, растапчу,
Траўку-мураўку вытапчу, вытапчу,
Каня вараненька выпушчу, выпушчу,
Кароўку-буронку выганю, выганю!
Разыграўся воран конь, воран конь,
Разбіў камень капытом, капытом,
А ў тым камні агня нет, агня нет,
У майго мужа праўды нет, праўды нет:
Ён сшыў Дуні башмачкі, башмачкі,
А жане сплёў кавярзні, кавярзні:
«Ты насі, жана, паглядай, паглядай,
Ды к празнікам паблюдай, паблюдай!
Ты насі, Дуня, не жалей, не жалей!»

## 239. Ну, не плач, трава, не рыдай, шаўкова

Ну, не плач, трава, не рыдай, шаўкова,
Што цябе то мы прыўталочылі.
Ну, пайшла трава к самому хрысту:
— Ах вы, хрысце мае нябёсныя!
Рассудзіце мяне з краснымі дзевушкамі,
З краснымі дзевушкамі, да з малодушкамі,
Што з малодушкамі, ну са ўдовушкамі,
Што яны лі мяне прыўталочылі.
— Ты не плач, трава, не рыдай, шаўкова,
Што яны цябе прыўталочылі.
Напушчу на цябе дажджы частыя,
Дажджы частыя, росы сільныя,
Адрасцець трава высака, зеляна.
Ну, пайшла трава дамой з радасцю.

## 240. Траўка-мураўка, да чаму не зелена?

— Траўка,-мураўка, да чаму не зелена?
— Да як жа мне зялёнай не быць:
Мяне дзеўкі стапталі,
Да касцёла ходзючы,
Пана бога просючы:
«Да дай жа мне божа
Свёкарку багатага,
Свякроўку ласкавую,
Мілога шчаслівага.
Да каб я, маладзенька,
Піла, ела харашэнька,
Лепі таго хадзіла:
Ў будзен дзень ў ксаміце,
Ў святы дзень ў золаце:
Ў ксаміце жыта жаці,
У золаце пагуляці».

## 241. Ой, над ракою, над вадою

Ой, над ракою, над вадою,
Над вадою
Стаялі коні чарадою,

Чарадою.
Ой, толькі сесці паехаці,
Паехаці,
У Крываносах дзеўку засватаць,
Засватаць.
У Крываносах дзеўкі багаты,
Багатыя,
У іх падаркі рагатыя,
Рагатыя.
А ў Прусах дзеўкі ўбогія,
Убогія,
У іх падаркі шаўковыя.

## 242. Ляцелі гусі гукаючы

Ляцелі гусі гукаючы,
Слаўнага сяла шукаючы.
Слаўна сяло Намастырскае:
У ім юлачкі шырокія,
У іх дзевачкі харошыя,
У іх галоўкі, як макоўкі,
Яны шчабечуць, як ластаўкі.
Ляцелі гусі гукаючы,
Брыдкага сяла шукаючы.
Брыдка сяло Восаўска:
У ім вулачкі вузенькія,
У іх дзевачкі брыдзенькія,
У іх галовішчы, як памялішчы,
Яны дзяруцца, як дзяркачышчы.

## 243. Вярбовая кладка на вярбе ляжала

Вярбовая кладка на вярбе ляжала,
На вярбе ляжала і з вярбы упала,
І з вярбы упала, хлопчыкаў пабіла.
Хлопчыкі сядзелі, работу рабілі,
Да работу рабілі, да сабачак лупілі,
Ножыкаў не малі, зубкамі абцягалі.
Вярбовая кладка на вярбе ляжала,
На вярбе ляжала і з вярбы упала,
І з вярбы упала, дзевачак пабіла.

Дзевачкі сядзелі да работу рабілі,
Работу рабілі, да шырыначкі шылі.
Нітачак не малі, шаўкамі абшывалі!

## 244. Хадзіце, дзевачкі

— Хадзіце, дзевачкі,
У луг гуляць, *

Зялёных вянкоў
Развіваць.

— А мы вяночкі
Развілі,

Мы гарэлачку
Папілі.

А рабятушкам
Не далі.

А рабятушкі
Барбасы.

## 245. Памажы нам, божа




* Кожная страфа паўтараецца.

Памажы нам, божа,
Памажы нам, божа,
Божа мілы, на й улачку выйсці.

На й улачку выйсці,
На й улачку выйсці,
Божа мілы, песенку запеці.

Такую вясёлу,
Такую вясёлу,
Божа мілы, дзевачка плача.

Не за любага ідучы,
Не за любага ідучы,
Божа мілы, пасцелю сцелючы.

Пасцелю, пасцелю,
Пасцелю, пасцелю,
Божа мілы, ў тры рады пярыны.

Чацвёрты падушкі,
Чацвёрты падушкі,
Божа мілы, там палягуць душкі.

## 246. Ці ты бывала, тройца, ці бывала?






Ці ты бывала, тройца, ці бывала?
Ой, я й, маладая, не ўгадала.

Я і, маладая, не ўгадала,
Я і, малада, на вуліцы не бывала.

Да й на вуліцы я й не бывала,
Эх, мяне мая мамачка не пушчала.

Мяне мая мамачка не пушчала,
Ой, да й у камору, ой, запірала.

Да й у камору, эх, запірала,
А у каморачцы акеначка.

А ў каморачцы ды акенечка,
А там мяне, маладой, ой, бядненечка.

А там мяне, маладой, бядненечка,
А па вуліцы дымок, ох, ды ідзе.

А па вуліцы дымок ды ідзе,
А там мой міленькі танок вядзе.

А там мой міленькі танок вядзе,
А у левай руцэ ён вянок нясе.

## 247. Ой, была тройца, была

Ой, была тройца, была,
Я ж, маладая, не ўгадала.

Я ж, маладая, не ўгадала,
Ой, калі троіцу прагуляла.

Я ж, маладая, таргуючы,
Свайго свёкра прадаючы.

Свёкра прадала — тры рублі ўзяла,
Бацька купіла — сто рублёў дала.

## 248. Хадзіла тройца каля аконца



Хадзіла тройца каля аконца. *
Я ж, маладзенькая, не выспалася,
На таргу была, торгу слухала.
А хто ж дораг, а хто ж дзешаў?
За дзевак тысячы даюць,
А хлопчыкаў дарма не бяруць.

## 249. Дзеўкі ў луг ішлі

Дзеўкі ў луг ішлі,
Сто рублей найшлі.
Ай, люлі, люлі,
Сто рублей найшлі.

Дзеўкі з лугу йшлі,
Пяцьдзесят знайшлі,
Ай, люлі, люлі,
Пяцьдзесят знайшлі.

Мы куміліся,
Не сварыліся,
Ай, люлі, люлі,
Не сварыліся.

Раскуміліся
Й пасварыліся,
Ай, люлі, люлі,
Пасварыліся.

## 250. Ай, не радуйся, зялён дуб

Ай, не радуйся, зялён дуб,
Ай, не радуйся, зялёны,
Не к табе ідзём вянкі развіваць,
Не к табе ідзём вянкі развіваць.
Ай, узрадуйся, бяроза,
Ай, узрадуйся, белая,
Мы к табе ідзём вянкі развіваць,
Мы к табе ідзём вянкі развіваць.

---

* У пачатку і канцы кожнага радка пяецца прыпеў «Божа ж мой».

Разаўём вянкі на святкі,
Разаўём вянкі на святкі,
На гадавыя празнічкі,
На гадавыя празнічкі.
А мы вяночкі развілі,
А мы вяночкі развілі,
Мы гарэлачку папілі,
Мы гарэлачку папілі,
Мы яешаньку паелі,
Мы яешаньку паелі.

## 251. Ой ты, тройца




Ой ты, тройца,
Прасвятая багародзіца,
А хто лён пасеяў,
То няхай зародзіцца.

А хто лён сеяў —
То няхай зародзіцца,
А хто не сеяў,
То няхай не родзіцца.

## 252. Тройца, тройца...

Тройца, тройца, свята багародзіца,
Пасею жыта, да няхай зародзіць.
Пасею жыта, пасею пшаніцу,
Зарадзі, божа, усяку пашніцу.
Што зародзіцца, то для майго бацюхна,
Што не зародзіцца, то для майго свёкарка.
Саладок мядок, то для маёй матанькі,
А горка гарэлка, то для маёй свякоркі.

## 253. Тройца, тройца...

Тройца, тройца, святая багародзіца,
Пасею лёна, няхай зародзіцца.
Што харошы лён, то для матанькі маёй,
А што найхарошшы, для мяне, маладой,
А што з чарыўкаю, то для свякроўкі ліхой,
Бо свякроўка не родная маці,
Будзе хадзіці да чарыўку вырываці.

## 254. Ой ты, тройца...

Ой ты, тройца, прасвятая багародзіца,
Да пасеем жыта, да няхай зародзіцца.
Пайду я таго жыта глядзеці,
Аж вывела перапёланька дзеці.
Ой, пайду я другі раз глядзеці,
Да забралі перапёлчыны дзеці.
Да бадай таму тры гады хварэці,
Хто забраў перапёлчыны дзеці.

## 255. Ой, трэйца, трэйца...




Ой, трэйца, трэйца, багародзіца,
Пасеем жыта й да няхай зародзіцца.

Пасеем жыта і пшанічаньку,
Зарадзі, божа, ўсякую пашнічаньку.

Ой, і на дворэ да зімненькая роса,
Да жаль дзядзюхне, што твая жана боса.

Ой, калі табе, да мой дзядзюхна, жаль жа,
Купі чобаткі, як чырвоненькі жар.

Ой, калі табе, да мой дзядзюхна, шкода,
Купі чобаткі, каб ёй було выгодна.

Ой, куплю ж бо я сваёй міленькай двое,
Будзем хадзіці па вадзіцу абое.

# КУСТАВЫЯ ПЕСНІ

## 256. Тройца, тройца...

Тройца, тройца, святая багародзіца,
А ў нашым Чамярыне хораша паводзіцца,
А ў нашым Чамярыне хораша ходзяць,
А ў нашым Чамярыне хораша куста водзяць.

## 257. Да чэраз сяло Багданаўскае

Да чэраз сяло Багданаўскае
Шло войска ўсё ж дзявоцкае.
Да камяньчане не здзівіліся,
Што ў Багданаўцы парадзіліся.
Бог вам даў, багданавачкі,
Што ў вас кусты ўсе кляновыя,
А вяночкі ўсе ж пярловыя.
А ў нас кусты ўсе лазовыя,
А вяночкі ўсе ж беразовыя.

## 258. Павядзем куста пад гай зеляненькі

Павядзем куста пад гай зеляненькі,
Сустрэне нас да казак маладзенькі,
Стане нас да дарогу пытаці,
А мы, малады, не смелі адказаці.
Сказала б яму да пад гай зеляненькі,
Да шкада будзе, шчо казак маладзенькі.
Сказала б яму з мосту да ў воду,
Да жаль будзе, шчо казацкага роду.
Сказала б яму, шчо пад калінавы мосты,
Да жаль будзе, шчо да матанькі ў госці.

## 259. Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою

Выйдзі, выйдзі, слаўны пане, з пакою,
І звялі, дзе кустові стаці пад вішэнкою.
Вячэраці даці піражкі ў масле,

А окала куста ўсё дзевачкі красны.
Уквецілі куста з самага клёну,
Выкінь, пане, хоць па залатому.
Уквецілі куста з самаго бэзу,
Выкінь, пане, кустові хоць на адзежу.

## 260. Ох, мы ж былі у харошаму й бору

Ох, мы ж былі у харошаму й бору
І звілі куста ж із зялёнага клёну.

І звілі куста із зялёнага клёну,
Да прывялі куста ды й да слаўнага двору.

Да прывялі куста ды й да слаўнага двору,
Проша пана выйці із новага ж пакою.

Проша нам вынесці тры барылкі гарылкі,
Мы прывялі куста да харошых тры дзеўкі.

Ой, у нашага куста ножанькі невялічкі,
Ой, проша вынесці да хоч на чаравічкі.

## 261. Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты

Ой, дзень добры, да наш пане, да хаты,
Ой, ці ж вяліш нашаму кусту стаці,
Бочку мядочку прыпявалначкам даці,
Нам, маладзенькім, на ганачку пагуляці.

## 262. Прывялі куста зеляненькага клёна

Прывялі куста зеляненькага клёна.
Дай нам, пане, хоць па залатому,
Дай нам, пане, тры барыла гарэлкі,
Прывялі куста да харошай дзеўкі.
Да не тут кусту да стоем стаяці,
Трэба кусту піці-есці даці,
Трэба кусту да добрая выгода,
Трэба кусту крынічная вада.

## 263. Да й прывялі куста зялёненькага клёну

Да й прывялі куста зялёненькага клёну,
Дай нам, паня, хаця па залатому.
Да ў нашага пана вышывана сарочка,
Хто ж яе вышываў невялікага росту,
Трэба чаравічкі кожнай да памосту.

## 264. Зацвіла ў гародзе ружа

Зацвіла ў гародзе ружа,
У нашым дворы наша пані хароша,
Не пашкадуе нашаму кусту гроша.
Проша, пані, нашый куст надарыці,
А свой дом звесяліці.

## 265. Куста, куста да пад цёмны лес

Куста, куста да пад цёмны лес,
А ў гэтым доме гаспадыня хароша.
— Выйдзі, выйдзі, наша пані, з пакою,
Да вынесь, вынесь тры рублі з сабою,
Да выкаць, выкаць тры барэлкі гарэлкі.
Прывялі куста ставецкі чарнаброўкі,
А чыньчаначкі да й усё дзівавалі,
Што стаўляначкі харашо куста ўбралі.
Да на іх вянкі ўсё кляновыя,
А сукні-шаўкі ўсё шаўковыя.

## 266. Мы былі у вялікаму лесе

Мы былі у вялікаму лесе,
Ізвілі куста з зялёнага клёну.
— Да выйдзі, пані, із новага пакою,
Да вынесь нашаму кусту хоць па залатому.
Бо ў нашага куста ножкі невялічкі,
Трэба яму, трэба панчошкі, чаравічкі.
У нашага куста ножанькі маленькі,
То трэба яму чаравічкі маленькі.

Адныя чаравічкі па саду хадзіці,
А другія — абедзец варыці,
А трэція — вадзіцу насіці.

## 267. На двору да халодная роса

— На двору да халодная роса,
Не хадзі, мая мілая, боса.
— Калі ж табе, мой міленькі, жаль,
Купі чаравічкі чырвоны, як жар.
— Куплю ж табе, мілая, і трое,
Будзем хадзіць па вадзіцу абое,
Куплю табе чаравічкі, панчошкі
Да на твае белыя ножкі.
Адна пара — па вадзіцу хадзіці,
Друга пара — ў хаце дзела рабіці,
Трэцця пара — да касцёла хадзіці.

## 268. У нашага пана




У нашага пана
Харашэнька на двары,
Стаіць чарэшанька
Па карынінічка ў вадзе,
Да яе голлечка й

Да на цені пахіляла,
Да нашага ж пана
Да й удома ж не мае.
Да й наш жа пан
Да па беражэчку ходзіць
Да сваю паненку
За белу ручку й водзіць.
— Ой ты, паненко,
Не гардуй жа ты мною,
Да трэба нам жыці
Да сто літ із табою.
— Ой, і як жа мне
Да табою гардаваці,
Як трэба жы нам
Да сто літы пражываці.

## 269. На гары да на новай крамяніцы

На гары да на новай крамяніцы
Танцавалі дзеўкі, маладзіцы.
Там ягомасць да на пэрэдачку ходзіць,
Сваю імасць да за белу ручку водзіць.
Ты, імасць, гардуеш ты мною,
Шчо быці сто год із табою.

## 270. Ой, дзе дзеўкі шлі, там і рож густа

Ой, дзе дзеўкі шлі, там і рож густа,
Ой, дзе ўдовы шлі, там трава расла,
Што трава расла высока, зелена.
Дзе малодушкі шлі, там цвяты цвітуць,
Ну, цвітуць цвяты па ўсей вуліцы,
Па ўсей вуліцы да па беражку,
Што па беражку пад кусточкамі.

## 271. Да кала куста сачавічанька густа

Да кала куста сачавічанька густа,
А кала дуба дуброва зялёна.
Да па той дуброве да Агапка хадзіла.
На ёй сукня ў дробненькія хваўды,

Да любілі ж яе не нарокам, папраўды.
На ёй сукня ў дарагія пасаманы,
Да любілі яе да багатыя паны.

## 272. Куста, куста да сачыванька густа

Куста, куста да сачыванька густа,
Канапелька да й няма нічагенька.
А хто ж тую сачываньку скосе,
Той мяне да й ад бацюхна адпросе.
А хто ж да тую сачываньку сожне,
А той мяне да ад матанькі возьме.
А хто ж да тую сачываньку вырве,
Да той мяне ад матанькі выме.

## 273. Ой, мы былі й у харошаму бору й

Ой, мы былі й у харошаму бору й,
Звілі куста із зялёнага клёну.

Ой, і звілі ж куста, звілі куста,
А да у нас жа сучывэнька густа.

Ой, да хто ж гэту сучывэньку скосіць,
Ой, да той мяне у татонька выпросіць.

Адазваўся казачэнька маладзенькі:
—Ой, е у мяне сэрпічок залаценькі.

Я ж гэту сучывоньку скошу,
Я ж цябе у татонькі выпрошу.

## 274. Прывялі куста

Прывялі куста
Да й із зялёнага клёну:
— Дай нам, пану,
Хоч па залатому.
Да выкаць, пане,
Тры барылкі гарэлкі,—

Прывялі куста
Да й харошыя дзеўкі.
Да выкаць, пане,
Тры барылкі гарэлкі,—
Прывялі куста
Да й маладыя дзеўкі.
А кала куста
Сачавічанька густа,
А кала пянька
Да й няма нічагенька.
А хто ж тую сачывічаньку парве,
Той сабе красную паненку вазьме.
Ой, адазваўся наш паніч малады:
— Я ж тую сачавічаньку парву,
Я сабе красную панну вазьму.

## РУСАЛЬНЫЯ ПЕСНІ

### 275. На граной нядзелі




На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Ой, раны-раненькі,
Русалкі сядзелі.

Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі,
Ой, раны-раненькі,
На дзевак глядзелі.

— Дзевачкі-сястрыцы,
Падайце вадзіцы,
Ой, раны-раненькі.
Падайце вадзіцы.

Падайце вадзіцы
З халоднай крыніцы,
Ой, раны-раненькі,
З халоднай крыніцы.

А хлопчыкі-браццы,
Вы спляціце лапці.
Ой, раны-раненькі,
Вы спляціце лапці.

## 276. На граной нядзелі



## 277. На граной нядзелі




## 278. На граной нядзелі

На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Рана-ранюсенька,
Русалкі сядзелі.

Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі,
Ой, рана-рана,
На дзевак глядзелі.

— Дзевачкі-сястрыцы,
Падайце вадзіцы,
Ой, рана-рана,
Падайце вадзіцы.

Падайце вадзіцы
З халоднай крыніцы,
Ой, рана-рана,
З халоднай крыніцы.

З халоднай крыніцы
Ды з-пад той вярбіцы,
Ой, рана-рана,
Ды з-пад той вярбіцы.

Падайце вадзіцы
Душу прычасціці,

Ой, рана-рана,
Душу прычасціці.

Душа прычасціцца —
Жыццё вараціцца,
Ой, рана-рана,
Жыццё вараціцца.

Тады будзем з вамі
Краскі сабіраці,
Ой, рана-рана,
Краскі сабіраці.

Краскі сабіраці,
Песенькі пяяці,
Ой, рана-рана,
Песенькі пяяці.

## 279. На граной нядзелі




На граной нядзелі
На крывой бярозе,
Ой, рана-раненька,
На крывой бярозе.

На крывой бярозе
Русалкі сядзелі,
Ой, рана-раненька,
Русалкі сядзелі.

Русалкі сядзелі,
На дзевак глядзелі,
Ой, рана-раненька,
На дзевак глядзелі.

— Дзевачкі-сястрыцы,
Падайце нам вадзіцы,
Ой, рана-раненька,
Падайце нам вадзіцы.

— Не дадом вадзіцы,
Дадом каланіцы,
Ой, рана-раненька,
Дадом каланіцы.

Дадом каланіцы
Душу прамачыці,
Ой, рана-раненька,
Душу прамачыці.

## 280. На граной нядзелі русалкі сядзелі

На граной нядзелі русалкі сядзелі,
Рана-рана, русалкі сядзелі!
Прасілі русалкі у дзевак сарочак,
Рана-рана, у дзевак сарочак!
У дзевак сарочак, ў маладзіц намётак,
Рана-рана, ў маладзіц намётак:
— Дзевачкі сястрычкі, дайце нам сарочкі,
Рана-рана, дайце нам сарочкі.
Хоць яны пласконны, штоб былі дадонны.
Рана-рана, штоб былі дадонны.
Хоць яны таўсценькі, штоб былі бяленькі,
Рана-рана, штоб былі бяленькі!

### 281. На граной нядзелі

На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,
Рана-рана,
Русалкі сядзелі.

Правяду русалак
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору,
Ў зелену дуброву,
Рана-рана,
У зелену дуброву.

Штоб не ласкаталі,
У зіму не лякалі,
Рана-рана,
У зіму не лякалі.

У зіму не лякалі,
Улетку не пужалі,
Рана-рана,
Улетку не пужалі.

Прасілі русалкі
Ў дзевачак сарочак,
Рана-рана,
Ў дзевачак сарочак:

[— Дзевачкі-сястрычкі,]
Дайце нам сарочак,
Рана-рана,
Дайце нам сарочак.

Хоць яны раўненькі,
Абы былі бяленькі,
Рана-рана,
Абы былі бяленькі.

На граной нядзелі
Русалкі сядзелі,

Рана-рана,
Русалкі сядзелі.

Прасілі русалкі
Ў маладзічак намётак,
Рана-рана,
Ў маладзічак намётак:

— Маладзічкі-цёткі,
Дайце нам намёткі,
Рана-рана,
Дайце нам намёткі.

Хоць яны раўненькі,
Абы былі бяленькі,
Рана-рана,
Абы былі бяленькі.

Прыведу русалак
Ў зеляное жыта,
Рана-рана,
Ў зеляное жыта.

Там русалкі ў жыце
Зялёным сядзелі,
Рана-рана,
Зялёным сядзелі.

А мой каласочак,
Як яварочак,
Рана-рана,
Як яварочак.

А мая жыцінка,
Як праскурачка,
Рана-рана,
Як праскурачка:

Ў печцы піражком,
На стале калачком,
Рана-рана,
На стале калачком.

## 282. На гранай нядзелі

На гранай нядзелі
Русалкі сядзелі,
Ой, рана-рана,
Русалкі сядзелі.

Халадок капалі
Да й не выкапалі,
Ой, рана-рана,
Да й не выкапалі.

Толькі выкапалі
Баравую ветку,
Ой, рана-рана,
Баравую ветку.

Баравая ветка
Ні красна, ні ясна,
Ой, рана-рана,
Ні красна, ні ясна.

Што й кращчы таго
Адарка у бацькі,
Ой, рана-рана,
Адарка у бацькі.

Па двару хадзіла,
Бацькаў двор красіла,
Ой, рана-рана,
Бацькаў двор красіла.

На ганкі уступіла,
Ганкі асвяціла,
Ой, рана-рана,
Ганкі асвяціла.

## 283. Ходзіць русалка па вуліцы

Ходзіць русалка па вуліцы,
Заве Пятрышчу к сабе на гулі:
— Хадзі, Пятрышча, ка мне на гулі.

— А не пайду я, русалачка,
А не пайду: цёмна ночка.
А буду жыцейка пільнаваці,
Каб русалачцы не ламаці.

## 284. Правяду русалку, правяду

Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю,
Каб тая русалка
Па жыце не хадзіла,
Майго жыта не ламіла.
Маё жыцейка дробнае
Да ў каласкі буйнае.
Правяду русалку, правяду
Да й асінкаю заламлю.

## 285. Правяду русалачку да бору

Правяду русалачку да бору,
А сама вярнуся дадому,
Штоб русалачка па жыту не хадзіла
Да нашага жыцечка не ламіла.
Наша жыцечка таненька,
А ў каласочку таўсценька.

## 286. Павяду русалку

Павяду русалку
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору,
Ў зялёну дуброву
Рана-рана,
Ў зялёну дуброву.

Ў зялёну дуброву,
У ядраное жыта,

Рана-рана,
У ядраное жыта.

У ядраном жыце
Там русалцы жыці,
Рана-рана,
Там русалцы жыці!

### 287. Павяду я русалачку да бору

Павяду я русалачку да бору,
А сама вярнуся дадому.
Праваду я русалачку і ў цёмны бор,
А сама пайду і ў таткаў двор,
Да й затаплю печ, да й напяку бліноў,
[Напяку бліноў], да й пазаву кумоў.

### 288. Праваду русалку

Праваду русалку
Із бору да бору,
Рана-рана,
Із бору да бору.

Із бору да бору
Ў зялёну дуброву,
Рана-рана,
Ў зялёну дуброву.

Ў зялёну дуброву
Да й вярнусь дадому,
Рана-рана,
Да й вярнусь дадому.

Я назад вярнуся,
Слязмі абаллюся,
Рана-рана,
Слязмі абаллюся!

## 289. Русалачка, купалачка

— Русалачка, купалачка,
Дзе твая дачка Наталачка?

— На моры купалася,
На беражочку сушылася,

На беражочку сушылася,
Яна у мамкі прасілася:

«Пусці, мамка, пагуляці,
Жане малойца не відаць».

Маці дачку не пусціла,
І ў каморачку замкнула.

У каморцы аконачка,
У аконечцы віднечка,

Дзе мой любы пахаджае,
З нялюбаю размаўляе.

## 290. Русалачкі, зямлячачкі

Русалачкі,
Зямляначкі
На дуб лезлі,
Кару грызлі;
Зваліліся,
Пабіліся,
Тройца!

## 291. Як пушчу стралу




Як пушчу стралу
Да па ўсём сялу,
Вох і вой, лёлі,
Да па ўсём сялу.

Ты ідзі, страла,
У канец сяла,
Вох і вой, лёлі,
У канец сяла.

А ты, ластаўка,
Ты касістая,
Вох і вой, лёлі,
Ты касістая.

Ты касістая,
Грабяністая,
Вох і вой, лёлі,
Грабяністая.

## 292. Як пушчу стралу да й па ўсём сялу




Як пушчу стралу да й па ўсём сялу,
Ой, ля-лёй, ой, да каля горада. *
Да ўпала страла пасярод сяла,
Да ўбіла страла добра моладца,
Добра моладца каля горадца.
Да й ляжыць цела, як папер бела,
Ніхто к целечку не прыступіцца.
Прыступілася Ганна Паўлаўна,
Ўзяла целечка да й на ручанькі,
Панесла цела да й да цэркаўкі.

## 293. Як пушчу стралу




* Прыпеў «Ой, ля-лёй, ой» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Як пушчу стралу
Па ўсяму сялу. *

Ды ідзі, страла,
Да уздоўж сяла,

Да зайдзі, страла,
К добру молайцу,

Да убі, страла,
Добрага молайца.

Да й што па молайцу
Некаму плакаці:

Матка старая,
Сястра малая,

А жана молада
Жыве каля горада.

Ой, дзе конік бяжыць,
Там зямля дрыжыць.

Ой, дзе мамка жыве,
Там рэкі плывуць,

Дзе сястра жыве,
Ручаі плывуць,

А дзе жонка жыве,
Пажары гарадь.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 294. Да ляцела страла да і ўдоўж сяла




Да ляцела страла да і ўдоўж сяла,
Ой лі, ой лі, да і ўдоўж сяла. *
Да ўбіла страла да добрага молайца.
Па добраму молайцу да некаму плакаці.
Прыляцелі тры пташачкі-шчабяташачкі.
Первая села у галовачках,
Другая села на шчырым сэрцы,
Трэця села ў белых ножачках.
Што ў галовачках — яго мамачка,
На шчырым сэрцы — яго сястрыца,
У белых ножачках — малада жана.
Дзе мамка плача, там рака цячэ,
Дзе сястра плача, там калодзезі,
Дзе жана плача, там расы няма.

---

* Прыпеў «Ой лі, ой лі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 295. Да ляцела страла



Да ляцела страла
Да ў канец сяла,
А ў нядзелю рана,
Да ў канец сяла.

Да ўбіла страла
Лютую змяю,
У нядзелю рана,
Лютую змяю.

Да то не змяя —
Свякруха мая,
А ў нядзелю рана,
Свякруха мая.

Свякруху маю
Да й разлучніцу,
У нядзелю рана,
Да й разлучніцу.

Разлучыла мяне
Да й маладую,
У нядзелю рана,
Да й маладую.

Разлучыла мяне
З таткам, з мамкаю,
У нядзелю рана,
З таткам, з мамкаю.

З таткам, з мамкаю
І з радзінаю,
У нядзелю рана,
І з радзінаю.

## 296. Ды ляцела сава а ўдоўж сяла

Ды ляцела сава а ўдоўж сяла,
Круп'ейкам вочкі завесіла.
Круп'ейкам вочкі завесіла,
А ў зубкі рэдзькі наторкала,
Наторкала.
Як сталі людзі дзівіціся,
Дзівіціся,
Як стала соўка сварыціся,
Сварыціся:
— Я й не такое дзіва бачыла,
Бачыла,
Як рыбка-шчучка кросны ткала,
Кросны ткала,
А сіняя жаба ніт падавала,
Ніт падавала,
А мошкі скачуць да ніткі вяжуць,
Ніткі вяжуць.
Камар на парозе дровы сячэ,
Дровы сячэ.
Блаха на загнеце бліны пячэ,
Бліны пячэ,
Пчолачкі-гудачкі на стол цягаюць,
На стол цягаюць.
Кошкі-праварнушкі паядаюць,
Паядаюць,
А мурашкі трудзяшчыя у кварціры
прыбіраюць,
У кварціры прыбіраюць,
Мусар у кучкі збіраюць.

## 297. Ой, ляці, страла

Ой, ляці, страла,
Пасярод сяла.

Ой лі, ой, люлі,
Пасярод сяла. *

---

* Прыпеў «Ой лі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Ой, убі жа, страла,
Вутку селязня,

Вутку селязня,
Чорнага ворана,

Чорнага ворана
Да добрага молайца.

Што й па том па ворану
Да некаму кракаці

Да па добру молайцу
Да некаму плакаці.

## 298. Ай, сакол ляціць

[Moderato]




Ай, сакол ляціць,
Яго крыл звініць,

Ай, люлі-люлі,
Яго крыл звініць.*

---

* Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Й а ў саколіка
Галава баліць.

Чым саколіку
Галаву лячыць?

Ай, ці пташкамі,
Ці люгашкамі?

Ці зязюляю,
Ой, ці сераю?

Ай, ці вуткаю,
Ай, ці белаю?

Чымся пташкамі
Да люгашкамі,

Лепі зязюляй,
Лепі сераю.

А й Архіп едзіць,
Яго конь бяжыць.

А ў Архіпачкі
Галава баліць.

Чым Архіпачку
Галаву лячыць?

Ай, ці бабамі,
Ай, ці старымі?

Ці маладухамі,
Ці малодымі?

Чымся дзеўкамі,
Чымся краснымі,

Лучшы Рыпінай,
Лучшы краснаю.

## 299. А ў бару сасна калыхалася




А ў бару сасна калыхалася,
Ай, люлі-лялё, калыхалася. *
Дачка к мамушцы сабіралася,
Тромі мыламі умывалася.
Каторая мамушка лепей жалеець?
Ой, ці родная да ці хросная,
Ой, ці тая ж то да й багданая?
Родная паб'ець да й пажалеець,
Свякрова паб'ець да й з двара сашлець:
— Ты ідзі, шэльма, са майго двара!
Ты майму двару не работніца
Да і дзіцям маім не прыгледчыца,
Ты й гасцям маім не прыветчыца.

## 300. У бару сосенка калыхалася




---

* Прыпеў «Ай, люлі-лялё» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У бару сосенка калыхалася,
Ох і я, лялё, калыхалась. *
Дачка к мамачцы прыбіралася,
Трымя мыламі умывалася.
Перва мылечка, то бялілечка,
Друго мылечка, то красілечка,
Трэце мылечка, то сінілечка.
Бела, румяна — к мамцы прыбрана,
Пайду к мамцы ў госці ў сераду,
Мой нялюбы да й папераду.
— Здраствуй, здраствуй, мая цесцюхна.
— Здраствуй, здраствуй, да мой зяцюхна.
Ты ссушыў, скрушыў маю дзяціну.
— То не я ссушыў, скрушыў яе,
Ссушыла вясна да тонкія красна.
Ой, ніць ніцinformed ніцца, берда бердзіцца,
А мая міла да ўсё сердзіцца.

### 301. Як на першы дзень, на вялікадня

Як на першы дзень, на вялікадня,
Вой лі, вой, люлі, на вялікадня. **
Як прышоў ка мне да мой міленькі,
А мой міленькі, чарнабрывенькі.
Як прынёс ён мне а тры радасці ж:
Первая радасць — ліцо белае ж,
Другая радасць — бровы чорныя ж,
Трэцяя радасць — слёзы горкія ж.
Слёзы горкія са глаз коцяцца ж,
А мне, моладзе, гуляць хочацца ж.
А [illegible] 'дпрадуся, нагуляюся ж:
Цераз вулачку серай вутачкай,
Цераз праселца перапёлачкай,
К свайму міламу краснай дзевачкай.

---

* Прыпеў «Ох і я, лялё» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў «Вой-лі, вой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 302. Каля майго двара, каля шырокага




Каля майго двара, каля шырокага,
Ой, сіняе ж возера разліваецца. *

Шчука з карасём трапяталіся,
Госці баяр'я паз'язджаліся,

Госці баяр'я паз'язджаліся,
Нашаму дзівачку дзіваваліся.

Нашаму дзіву да й дзіўненькаму,
Нашаму Іванку маладзенькаму.

Да й у садзе вішанья, чорнае насенне,
Гэта табе, Ганначка, на русую косачку.

Ціха было хадзіці, а не горда расці,
Ждаць было Іванка із чужое воласці.

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 303. А мы проса сеялі, сеялі




— А мы проса сеялі, сеялі,
Адным ладам, сеялі, сеялі. *

— А мы коні выпусцім, выпусцім,
Адным ладам, сеялі, сеялі.

— А мы коні забярэм, забярэм,
Адным ладам, сеялі, сеялі.

— А нам нада сто рублей, сто рублей,
Адным ладам, сеялі, сеялі.

— А нам нада дзевіца, дзевіца,
Адным ладам, сеялі, сеялі.

## 304. А мы проса сеялі, сеялі




---

* Прыпеў мог быць «Зялёная рутачка, жоўты цвет».

— А мы проса сеялі, сеялі,
Люлі, млоды, сеялі, сеялі.
— А мы проса патопчам, патопчам,
Люлі, млоды, патопчам, патопчам.
— А чым жа вы стопчаце, стопчаце,
Люлі, млоды, стопчаце, стопчаце?
— А мы коні нагонім, нагонім,
Люлі, млоды, нагонім, нагонім.
— А мы коні паловім, паловім,
Люлі, млоды, паловім, паловім.
— А чым жа вы зловіце, зловіце,
Люлі, млоды, зловіце, зловіце?
— Шаўковы повад закінем, закінем,
Люлі, млоды, закінем, закінем.
— Шаўковы повад парвецца, парвецца,
Люлі, млоды, парвецца, парвецца.
— А мы коні выкупім, выкупім,
Люлі, млоды, выкупім, выкупім.
— А чым жа вы купіце, купіце,
Люлі, млоды, купіце, купіце?
— А мы дадзім сто рублей, сто рублей,
Люлі, млоды, сто рублей, сто рублей.
— Нам сто рублей не нада, не нада,
Люлі, млоды, не нада, не нада.
— А мы дадзім дзедушку, дзедушку,
Люлі, млоды, дзедушку, дзедушку.
— А нам дзедушкі не нада, не нада,
Люлі, млоды, не нада, не нада.
— А мы дадзім бабушку, бабушку,
Люлі, млоды, бабушку, бабушку.
— А нам бабушкі не нада, не нада,
Люлі, млоды, не нада, не нада.
— А мы дадзім молайца, молайца,
Люлі, млоды, молайца, молайца.
— Нам молайца не нада, не нада,
Люлі, млоды, не нада, не нада.
— А мы дадзім дзевушку, дзевушку,
Люлі, млоды, дзевушку, дзевушку.
— Нам дзевушка спадобна, спадобна,
Люлі, млоды, спадобна, спадобна.
— А мы іх пажэнім, пажэнім,
Люлі, млоды, пажэнім, пажэнім.

## 305. Да к нашаму полку прыбыло, прыбыло




## 306. А мы ляда капалі, капалі




— А мы ляда капалі, капалі,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— А мы проса сеялі, сеялі,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— А мы коней іспусцім, іспусцім,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

16. Зак. 1818

— А мы коней пабярэм, пабярэм,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— А за коней сто рублей, сто рублей,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— Мы не хочам сто рублей, сто рублей,
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

— Ой, дайце нам дзеўчыну-паненку,
Зеляна наша дуброва, дуброва!

— За паненку слова нет, слова нет!
Зеляна наша рутачка, жоўты цвет!

## 307. А мы ляда капалі, капалі




— А мы ляда капалі, капалі,
Вяне, вяне мая рутачка, жоўты цвет! *
А мы проса сеялі, сеялі.
— А мы ваша проса вытапчам, вытапчам.
— А чым жа вы вытапчаце, вытапчаце?
— А мы коней выпусцім, выпусцім.
— А мы вашых коней забяром, забяром.
— А мы сваіх коней выкупім, выкупім.
— А чым жа вы выкупіце, выкупіце?
— А мы дадзім сто рублей, сто рублей.

* Паўтараецца пасля кожнага радка.

— Нам не нада сто рублей, сто рублей.
— А мы дадзім тысячу, тысячу.
— Нам не нада тысяча, тысяча.
— А мы дадзім бабушку, бабушку.
— Нам не нада бабушка, бабушка.
— А мы дадзім дзевушку, дзевушку.
— Нам дзевушка надабна, надабна.

## 308. А мы ляда капалі, капалі




— А мы ляда капалі, капалі.
А мы проса сеялі, сеялі.
— А мы проса вытапчам, вытапчам.
— А чым жа вам вытаптаць, вытаптаць?
— А мы коней выпусцім, выпусцім.
— А мы коней забяром, забяром.
— А мы коней выкупім, выкупім.
— А чым жа вам выкупіць, выкупіць?
— А мы дадзім сто рублей, сто рублей.
— Нам не нада тысяча, тысяча.
— А што жа вам надабна, надабна?
— Нам нада дзевіца, дзевіца.

## 309. Пад страхою талінка, талінка




Пад страхою талінка, талінка,
Там бабачкі сядзелі, сядзелі,
Аб нявестках гаварылі, гаварылі:
«Мая нявестка шэльма, шэльма,
Запаліла клець, клець.
У той жа клеці скарба была, скарба была.
Арэхава чашка масла была, масла была,
Іголак, шпілек поўна сцяна, поўна сцяна.
Усё тое згарэла, згарэла,
Каб мая нявестка згалела, згалела».

## 310. Разгуляўся Юр'еў конь



## 311. Да на высокай сосанцэ




Да на высокай сосанцэ,
Сосанцэ, сосанцэ,

Там пчолачка роіцца,
Роіцца, роіцца.

Там дзевачка строіцца,
Строіцца, строіцца.

Да ўзышоў месяц над варата,
Варата, варата,

Да прыехаў бацька з ноўгарада,
Ноўгарада, ноўгарада.

Я ж, малада, не чула,
Не чула, не чула,

[І] да ў святліцы заснула,
Заснула, заснула.

Каб я, малада, учула,
Учула, учула,

Я [бы] коніка выпрагла,
Выпрагла, выпрагла.

Да завяла б каня ў стайніцу,
Стайніцу, стайніцу,

Свайго бацюхну ў святліцу,
Святліцу, святліцу.

Да дала б каню аброку,
Аброку, аброку,

Свайму бацюхну збан мёду,
Збан мёду, збан мёду.

## 312. Да вілася пчолачка




Да вілася пчолачка,
Пчолачка, пчолачка

У вяршэчку сосанкі,
Сосанкі, сосанкі.

## 313. I да раілася пчолачка

I да раілася пчолачка,
Пчолачка, пчолачка

Да у вяршэчку сосанкі,
Сосанкі, сосанкі.

Да вылятала ластаўка,
Ластаўка, ластаўка

Сы-пад сінягa возера,
Возера, возера,

Сы-пад белага каменя,
Каменя, каменя.

— Пытайцеся, дзеўкі, ў ластаўкі,
Ў ластаўкі, ў ластаўкі,

Што ў Заполлі дзеецца,
Дзеецца, дзеецца.

— Семсот гарадоў селіцца,
Селіцца, селіцца,

Семсот малайцоў жэняцца,
Жэняцца, жэняцца.

— І пытайцеся, дзеўкі, ў ластаўкі,
Ў ластаўкі, ў ластаўкі,

Што у Васілінках дзеецца,
Дзеецца, дзеецца.

— Семсот гарадоў згарэла,
Згарэла, згарэла.

Семсот малайцоў заўдавела,
Заўдавела, заўдавела.

І да ўзышоў месяц над варата,
Над варата, над варата,

Да прыехаў татка з нова горада,
З нова горада, з нова горада,

Да дала бы каню аброку,
Аброку, аброку,

Я свайму татку збан мёду,
Збан мёду, збан мёду.

Да я буду каня харчаваць,
Харчаваць, харчаваць,

Я свайго татку частаваць,
Частаваць, частаваць.

## 314. З паповае лазні дым казлом




З паповае лазні дым казлом,
Дым казлом, дым казлом!
А за хлопцамі чорт з ражном,
Чорт з ражном, чорт з ражном!
З паповае лазні дым казлом,
Дым казлом, дым казлом!
А за дзеўкамі поп з храстом,
Поп з храстом, поп з храстом!

## 315. А на двар̦э раса




А на дварэ раса,
А Мар'ічка боса — сцідзёна!
Сцідзёна, сцідзёна!

А Сідорка-купчык, купі чаравічкі,
Малы-невялічкі — летнічкі!
Летнічкі, летнічкі!

Бялёвы чулочкі
Надзенем на ножкі — харашо!
Харашо, харашо!

Шоўкавы падвязкі
Усім на паказкі — прыгожа!
Прыгожа, прыгожа!

## 316. Із-пад лесіку, лесу цёмнага




Із-пад лесіку, лесу цёмнага,
Ой, люлі-люлі, лесу цёмнага, *
Із-пад садзіку, саду зялёнага
Тудой ішлі, прайшлі да два молайцы.
Ой, ішлі, прайшлі, станавіліся,
За адну дзевачку пабраніліся,
Ой, за дзевачку Палагеечку.
— Вы не біцеся, памірыцеся,
Да па совесці разыйдзіцеся.

---

* Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Аднаму каму я дастануся,
Ой, не стараму, ой, не маламу,
А Івану кучараваму.
І узяў дзевачку за правую руку,
Павёў яе у каравод гуляць,
У караводзе выхваляецца:
— Хараша, братцы, мая вумніца,
Хоць пасудзіце — не разлучыце,
Хоць пахваліце — мая будзе.

## 317. А з-пад лесіку




А з-пад лесіку,
Лесу цёмнага,
Ой лі, ой, люлі,
Лесу цёмнага. *

Што з-пад садзіку,
З-пад зялёнага,

Там ішлі, прышлі
Да два молайцы,

---

* Прыпеў «Ой лі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Да два молайцы,
Оба холасты,

Яны шлі, прышлі,
Станавіліся,

З краснай дзевачкай
Пабраніліся:

«Ты дзяўчоначка,
Ты прыкрасная,

Твая долечка
Разняшчасная».

## 318. Да й з-пад лесіку




Да й з-пад лесіку,
Да й з-пад цёмнага,
Ой лі, ой, люлі,
Да й з-пад цёмнага. *

З-пад бярэзнічку,
З-пад зялёнага,

---

* Прыпеў «Ой лі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы

Ой, ішло, прайшло
Тры палкі салдат.

Тры палкі салдат,
Маладых рабят.

А яны ішлі,
Станавіліся,

За адну дзяўчыну
Ўсё браніліся.

От катораму
Я ж астануся,

Ці чарняваму,
Ці бяляваму,

Ці свайму дружку
Кучараваму.

Захацеў мілы
Ключавой вады,

Ай, тае вады —
Тры часа хады.

У первым часу
Я ваду бяру,

А ў другом часу
Я ваду нясу,

А ў трэцім часу
Дадому іду.

Прыходжу к двару —
Аж дом строіцца,

Прыходжу ў сені —
Усе папы, дзякі.

Прыходжу ў хату —
Мой мілы ляжыць.

Ацец, матачка
У галовачках,

Сястра, братачка
Да у ножачках.

А я, малада,
Пасярод стала.

Пасярод стала
І заплакала,

Вынеслі на двор —
Ўдарыла ў ладонь.

Вышлі за сяло,
Стала весяло.

## 319. Ой, з-пад лесіку, лесу цёмнага




## 320. Каб і ў вуліцы, а ў ваколіцы

Каб і ў вуліцы, а ў ваколіцы,
Ай, лёлі-лёлі, а ў ваколіцы, *
Б'юцца, дзяруцца ды два голубы
За галубачку ды й за сізую.
— Вы й не біцеся, разляціцеся,
Аднаму каму я й застануся:

---

* Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Калі голубу, дык галубачка,
Калі сокалу, дык саколачка.
Каб у Шымані ды й на рыначку
Б'юцца, дзяруцца ды й два малойцы
За дзевачку, за красную.
— Вы й не біцеся, разыйдзіцеся,
Аднаму каму я й застануся:
Калі мескаму — дык мяшчаначка,
Калі сельскаму — дык сялянaчка.

## 321. А ў нас сягоння благавешчанне




## 322. У нас сягоння благавешчанне

У нас сягоння благавешчанне,
Ох і я, леле, благавескі дзень. *

---

* Прыпеў «Ох і я, леле» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У нас дзевачкі дарагі тавар,
У нас хлопчыкі дзяшовы тавар.
У нас дзевачкі да й па сто рублей.
У нас хлопчыкі да й па шэлегу.

### 323. Пераедзь, гудок, к нам на гэты бок




Пераедзь, гудок, к нам на гэты бок,
Ой лі, ой, люлі, к нам на гэты бок. *
Патаргуй у нас дзешавой тавар,
Дзешавой тавар шчэ й трох дзевачак,
Шчэ й трох дзевачак, трох паненачак.
Што й за Галечку кладзі сто рублей,
Што й за Машаньку й кладзі тысячу,
А й за Дунечку то й і шчоту нет.

---

* Прыпеў «Ой лі, ой, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 324. Ох вы, купчыкі, пераедзьце к нам

Ох вы, купчыкі, пераедзьце к нам,
Ох і я, ляле, пераедзьце к нам. *
У нас хлопчыкі дзяшовы тавар:
Што за Сяменку да мех паловы,
А за Якаўку да куль саломы,
А за Паўліка чарапок дзёгцю.
Ох вы, купчыкі, пераедзьце к нам,
У нас дзевачкі дарагі тавар:
Што за Мар'ечку да тры тысячы,
А за Ганначку да й таго болей,
А за Парасачку да й таго няма.

## 325. На гару ішла




* Прыпеў «Ох і я, ляле» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 326. На гару ішла




На гару ішла,
Цяжало нясла,
Вой лі, вой, люлі,
Цяжало нясла. *

Із гары ішла,
Грамаду ж нясла.

Што ў той грамадзе
Мяне сваталі,

Мяне сваталі,
Да й не выдалі.

Ой, аддаў мяне
Мой жа татачка

Да й аддаў мяне
За разбойнічка.

---

* Прыпеў «Вой лі, вой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Як ноч настае,
Міл разбой вядзе.

Зара займаецца —
Дамоў явіцца.

Прышоўшы ж дамоў,
Пабудзіў жану.

— Уставай, жана,
Узнавай каня.

— А ты, конічак,
Майго татачкі.

Гэта збруечка
Майго братачкі.

Залаты персцень
Сястрыцы ж мае.

Шаўковы платок
Залвіцы мае.

## 327. Ў майго татачкі




Ў майго татачкі
Двор над гарою,
Вох і, вой і, ой і да люлі,
Двор над гарой.*

* Прыпеў «Вох і, вой і, ой і да люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Двор над гарою,
Сад над вадою.

— Пусцi, татачка,
Ў сад пагуляцi,

Я й не буду тваiх
Вiшанек ламаць.

Хоць i выламлю
Вiнаградачку,

Сваймy татачку
На парадачку.

## 328. Што ж ты, канапелька, ў полi зеляненька




Што ж ты, канапелька, ў полi зеляненька,
Ай, люлi-люлi, у полi зеляненька. *
Не даў ёй вецер болей пастаяць,
Зялёным веццiкам памахаць,
Рассыпаў канапельку па сырой зямлi,
Раздуў перыйка па чыстым полi.
Што ж ты, Рыпiнка, да ты маладзенька,

* Прыпеў «Ай, люлi-люлi» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Не даў ёй Архіп болей пагуляць,
Русыя косы з дзеўкамі паплятаць.
Расплёў косачку да па белых плячах,
Разліў слёзачкі па румянаму ліцу.

### 329. Чом вы, канапелькі, не зелены стаіце?

— Чом вы, канапелькі, не зелены стаіце?
Ой, люлі-люлі, не зелены стаіце. *
— Як жа нам, канапелькам, зялёным стаяці:
Зверху канапелькі клююць вераб'і,
З ісподу канапелькі вада падмыла,
А ў сярэдзіне канапелькі хвіля зламіла.
— Чом ты, дзевачка, не вясёлая ў танку?
— Як жа мне вясёлаю ў танку стаяці:
Бацюшка кажа — за князя аддаць,
Мамачка кажа — ў чорныя чарнушкі.
Ой, стукаў, пагрукаў ва цясовыя варота.
Мне бачыцца, мой бацька з князьмі, з баярамі,
Аж то мая мамка з чорнымі чарнушкамі.
«Скідай, мая дзетка, цвятное плацце,
Надзявай, дзіця маё, чорную расу,
Пакідай, дзіця маё, дзявоцкую красу».

### 330. Bip, вір калодзеж




* Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца в другой часткай кожнага радка.

Вір, вір калодзеж,
Ды вады нетуці,
Ай, лёлі-лёлі,
Ды вады нетуці.*

Пан, пан Іванька,
Ды жаны нетуці.

Я паеду ў Маскву
Ды маскоўку вазьму;

Я паеду ў Вільню
Ды вілянку вазьму;

Я паеду на места
Ды мяшчанку вазьму;

Я паеду ў сяло
Ды сялянку вазьму.

Ды маскоўка-шэльма,
Ды гатуй вячэру;

Ды вілянка-шэльма,
Ды вячэру паднасі;

Ды мяшчанка-шэльма,
Ды сцялі пасцелю;

Ды сялянка-душка,
Ды кладзісь са мною.

---

* Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 331. Лялела вада каля горада




Лялела вада каля горада,
Ў нядзелю рана, каля горада. *
Ой, на той вадзе вутка плавала.
А вутачка з селязнём не наплавалася,
А Сашачка з Веркаю не нагуляюцца.
Да й узяў яе за праву ручку,
Да павёў яе к дзевачкам гуляць.
«Хай мая Верачка тут пагуляе,
На галоўцы вяночак тут пабургае».

## 332. За рэчкаю, за ракой




За рэчкаю, за ракой,
Да люлі-люлі, за ракой,
Там стаяла дзераўцо,

---

* Прыпеў «Ў нядзелю рана» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Да люлі-люлі, дзераўцо.
Рачыстае стаяла,
Да люлі-люлі, стаяла.
Там дзявіца плакала,
Да люлі-люлі, плакала,
За старога ідучы,
Да люлі-люлі, ідучы,
На старога гледзючы,
Да люлі-люлі, гледзючы:
— Сушыцель мой, стары муж,
Ссушыў мяне, маладу,
Да люлі-люлі, маладу,
Як грушачку у саду,
Да люлі-люлі, у саду.

За рэчкаю, за ракой,
Да люлі-люлі, за ракой,
Там стаяла дзераўцо,
Да люлі-люлі, дзераўцо.
Рачыстае стаяла,
Да люлі-люлі, стаяла.
Там дзявіца плакала,
Да люлі-люлі, плакала,
За малага ідучы,
Да люлі-люлі, ідучы,
На малага гледзючы,
Да люлі-люлі, гледзючы:
— Сушыцель мой, малы муж,
Да люлі-люлі, малы муж,
Ссушыў мяне, маладу,
Да люлі-люлі, маладу,
Як яблану у саду,
Да люлі-люлі, ў зяляном.

За рэчкаю, за ракой,
Да люлі-люлі, за ракой,
Там стаяла дзераўцо,
Да люлі-люлі, дзераўцо.
Рачыстае стаяла,
Да люлі-люлі, стаяла.
Там дзявіца плясала,
Да люлі-люлі, плясала,
За роўнага ідучы,

Да люлі-люлі, ідучы,
На роўнага гледзючы,
Да люлі-люлі, гледзючы:
— Красіцель мой, роўны муж,
Да люлі-люлі, роўны муж,
Скрасіў мяне, маладу,
Да люлі-люлі, маладу,
Як іслівачку ў саду,
Да люлі-люлі, у зяленом.

## 333. У полі, ў полі, на даліне

У полі, ў полі, на даліне
Стары каня сядлаіць
І ў дзеванькі пытаіць:
— Ах ты, дзеванька мая,
Ці пойдзеш ты за мяне?
— Мяне маці научыла,
Як старому пасцель слаць:
Адзін радок камення,
Другі радок палення.
А спі, стары, не 'чніся,
За мной, маладой, не ганіся.

У полі, ў полі, на даліне
Малы каня сядлаіць,
У дзеванькі пытаіць:
— Ах ты, дзеванька мая,
А ці пойдзеш за мяне?
— Мяне маці научыла,
Як малому пасцель слаць:
Первы радок крапівы,
Другі радок стрыклівы.
Спі ты, малы, не 'чніся,
За мной, маладой, не ганіся.

У полі, ў полі, на даліне
Роўны каня сядлаіць,
У дзеванькі пытаіць:
— Ах ты, дзеванька мая,
Ці ты пойдзеш за мяне?
— Мяне маці научыла,

Як роўнаму пасцель слаць:
Первы радок падушак,
Другі радок пуховых.
Спі, мой мілы, прачніся
І са мною 'бніміся.

### 334. Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі

Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі,
А за мора, а за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі,
У сінія, у сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі
А стары да нядужы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Старога за рэбры,
Кінем мы, кінем мы, дзевачкі,
Старога ў крапіўку.
Калодаю, калодаю закоцім,
Мятлою замяцем.
Мятлою, мятлою замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.
Пойдзем мы, пойдзем мы, дзевачкі,
А за мора ў красачкі.
А за мора, за мора ў красачкі,
У сінія васілёчкі.
У сінія, сінія васілёчкі,
Баравыя цвяточкі.
Аглянемся, аглянемся, дзевачкі,
Хто за намі гоніцца.
Гоніцца, гоніцца за намі
Малады ды прыгожы.
Возьмем мы, возьмем мы, дзевачкі,
Маладога пад ручкі,
Маладога, маладога пад ручкі,
Кінем яго ў падушкі.
Пярсцёнкам, пярсцёнкам закоцім,

Хусцінкай замяцем,
Хусцінкай, хусцінкай замяцем,
Самі ў красачкі пойдзем.

## 335. Падкачу кубел пад гару




## 336. Ды хадзіў карагод

Ды хадзіў карагод
Каля нашых варот.
Ой, люлі, ой, люлі,
Каля нашых варот. *

Я чула, бачыла,
Не паспела сказаць,

Карагодам назваць
Ды у хату пазваць,

Ды у хату пазваць
І віном частаваць.

---

* Прыпеў «Ой, люлі, ой, люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 337. Па лужкам, лужкам, лужкам




Па лужкам, лужкам, лужкам
Разлівалася вада,
Эй лі, эй, да люлі,
Разлівалася вада. *

Разлівалася вада,
Рассцілалася трава,

Рассцілалася трава,
Расцвіталі ўсе цвіта.

Што па той жа па траве
Дзеўкі водзяць карагод.

Усе дзеўкі харашы,
Красавіцы прыгажы.

Адна дзеўка крашы ўсіх,
Па прыбору луччы ўсіх,

---

* Прыпеў «Эй лі, эй, да люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

Па прыбору луччы ўсіх,
У касе лента шыры ўсіх.

Падайду ж я к карагоду,
Пакланюся я народу,

Падайду я пабліжэй,
Пакланюся паніжэй:

— Раскажы-ка ты, дзяўчонка,
Як па бацюшку завуць?

## 338. Як па лужкам, па лужкам



Як па лужкам, па лужкам
Разлівалася вада,
Ой, да люлі, люлі-палюлі,
Разлівалася вада. *

Разлівалася вада,
Рассцілалася трава,

Рассцілалася трава,
Што дзевачка малада,

Што дзевачка малада,
У касе лента алая,

У касе лента алая —
Парцізанка бравая.

## 339. Стаялі, свяцілі месячкі чатыры




Стаялі, свяцілі месячкі чатыры,
Ай, лёлі-лёлі, месячкі чатыры, **
Над нашым сялцом, ўсё над Слаўнавым:
Первы месячык — малады Іванька,

* Прыпеў «Ой, да люлі, люлі-палюлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.
** Прыпеў «Ай, лёлі-лёлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Другі месячык — малады Стахванька,
Трэці месячык — малады Максімка,
Чацвёрты месячык — малады Касцюшка.
Стаялі, свяцілі зорачкі чатыры
Над нашым сялцом, ўсё над Слаўнавым:
Первая зорка — маладая Марутка,
Другая зорка — маладая Ляксутка,
Трэцяя зорка — маладая Вуллянка,
Чацвёртая зорка — маладая Настулька.
Марутка-зорка — Іванькава жонка,
Іванька едзіць ды Марутку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Марутка плачыць.
Ляксутка-зорка — Стахванькава жонка,
Стахванька едзіць ды Ляксутку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Ляксутка плачыць.
Вуллянка-зорка — Максімкава жонка,
Максімка едзіць ды Вуллянку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак ззяіць, Вуллянка плачыць.
Настулька-зорка — Касцюшку жонка,
Касцюшка едзіць ды Настульку вязець
У малінавым вазочку, ў пярловым вяночку.
Вяночак трасецца, Настулька смяецца.

## 340. Ля калодзезя, ля сцюдзёнага

[Andante]



Ля калодзезя, ля сцюдзёнага,
Лёлі-лёлёшкі, ў полі дым-дымненька! *
Чатыры панічы конікаў паілі,
Чатыры паненкі ваду бралі.
Первы панічок — малады Міхайла,
Другі панічок — малады Уладзімір,
Трэці панічок — малады Канстанцін,
Чацверты панічок — малады Мікалай.
Першая паненка — маладая Танечка,
Другая паненка — маладая Машачка,
Трэцяя паненка — маладая Дунечка,
Чацвертая паненка — маладая Наташачка.

## 341. Ігралі, свяцілі месікі чатыры




## 342. Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл?




* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.




— Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл?
Люлюшкі-люлі, смуцён, невясёл. *
— Як жа мне, селязню, вясёламу быць?
Учора звячора быў на возеры,
Вутачку відзеў, вутачку відзеў.
Сягоння зрана вуткі не стала,
Ужо тая вутачка застралёна,
Застралёна, панясёна.
— Чом, чом, малойчык, смуцён, невясёл?
— Як жа мне, малойчыку, вясёламу быць?
Учора звячора быў на вуліцы,
Дзевачку відзеў, дзевачку відзеў.
Сягоння зрана дзевачкі не стала,
Ужо тая дзеўка заручона,
Заручона, павянчона.

## 343. Ель мая, ель зялёная

[Moderato]




---

* Прыпеў «Люлюшкі-люлі» паўтараецца в другой часткай кожнага радка.

Ель мая, ель зялёная,
Ой, лёшанькі-люлі, зялёная! *
Ці не пад табою я стаяла,
Ножанькі прыстаяла,
Ручанькі прымахала,
Глазачкі прыміргала,
Бацюшку ў госці дажыдала.
— Бацюшка-салавейка,
Чаму ка мне ў госці не лятаеш?
— Ты дачка мая дарагая,
Як прылячу, дак ты плачаш,
Як я палячу, дак ты скачаш,
Як я ва лугі, дак ты ва тугі,
Як я ў лясы, дак ты ў галасы.
— Калі захачу, лужок прытапчу,
Каліціцу-маліціцу прыламаю,
А я ў свайго бацюшкі пабываю,
Калачыкі, папранічкі паядаю.

## 344. Ці ўсе бабы вышлі




Ці ўсе бабы вышлі,
Ці ўсе маладухі,

---

* Прыпеў «Ой, лёшанькі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Люлюшкі-люлі,
Ці ўсе маладухі? *

Ці ўсе маладухі,
Старыя старухі.

Праскоўя не выходзіць,
Танца не выводзіць,

Танца не выводзіць:
Максім не пускаець.

Максім не пускаець,
Варота запіраець,

Варота запіраець,
Сенцы замыкаець.

Праскоўечка рэзва
Цераз забор лезла,

Цераз забор лезла,
Саян папарвала,

Саян папарвала,
Хвартух пацярала.

Максім воўкам выець,
Саян лыкам шыець,

Саян лыкам шыець,
Зубам калупаець,

Зубам калупаець,
А лбом прыбіваець.

---

* Прыпеў «Люлюшкі-люлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 345. Не лятай ты, павухна, рана на зары

[Moderato]




Не лятай ты, павухна, рана на зары,
Ой, лёлюшкі-люлюшкі, рана на зары. *
Не ездзі ты, бацюшка, часта й а ў піры,
Не прапі ты, бацюшка, мяне малады.
Прапі, прапі, бацюшка, варанога каня,
Й а варанога коніка за год выкупіць,
Мяне, маладзенькую, ў век не выручыць.
За варанога коніка ды трыста рублей,
За мяне, маладзенькую, й шчоту няма.

## 346. Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць

[Allegro]




* Прыпеў «Ой, лёлюшкі-люлюшкі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.




Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Ай, люлі-люлі, ды сабакі брэшуць. *
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць да румяна вязуць,
Румяна вязуць мікулінскім дзевачкам.
Нашто ім румяна, яны так красненькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць ды бяліла вязуць,
Бяліла вязуць мікулінскім дзевачкам.
Нашто ім бяліла, яны й так беленькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць, чарніла вязуць,
Чарніла вязуць мікулінскім мальчыкам.
Нашто ж ім чарніла, яны й так чорненькі.
Ай, лесам, лесам ды сабакі брэшуць,
Сабакі брэшуць, купчыкі едуць,
Купчыкі едуць ды красіла вязуць,
Красіла вязуць мікулінскім мальчыкам.
Нашто ж ім красіла, яны й так красненькі.

## 347. Ох ты, Сёмачка, Сямёначка

Ох ты, Сёмачка, Сямёначка,
Ой, люлі-люлі, Сямёначка, **

* Прыпеў «Ай, люлі-люлі» паўтараецца в другой частцы кожнага радка.
** Прыпеў «Ой, люлі-люлі», паўтараецца в другой частцы кожнага радка.

Ты стругай стружкі, пушчай на ваду
Пад тую ж дзярэўню, пад Абухава.
Ну у той жа дзярэўні і стральцы і байцы.
Як забілі ж яны крысу з крысянятамі,
Панеслі ж яны да свайго пана,
Да свайго пана, Пятра Васільіча.
«Петр Васільевіч, к вашай міласці!
Ой, забілі ж мы крысу з крысянятамі».
Ох, і ім жа ён да й пажалаваў,
Ой, па сто кіеў да па тысячы.
Уж ты, Сёмачка, Сямёначка,
Ты стругай стружкі, пушчай на ваду
Пад тое сяло да пад Данькава.
Ну і ў том жа сяле ўсё байцы да стральцы.
Як забілі ж яны кошку з кацянятамі,
Панеслі яны да свайго пана:
«Ох, і наш ты паночак, к вашай міласці!»
Ох, і ім жа пан да й пажалаваў,
Ой, па сто разог і па тысячы.
Ох ты, Сёмачка, Сямёначка!
Ты стругай стружкі, пушчай на ваду
Пад сяло Прудкі, дзе мы жывем.
А у гэтым сяле ўсё стральцы і байцы.
Як забілі ж яны лося з ласянятамі,
Панеслі ж яны да свайго пана,
Да свайго пана, Пятра Васільіча.
«Пётр Васільіч, к вашай міласці!»
Ну і ім жа пан да і пажалаваў,
Ой, па сто рублей і па тысячы.

## 348. Пажары гарацъ, журавы крычацъ

Пажары гарацъ, журавы крычацъ,
Ох і я, лялё, журавы крычацъ. *
Конюхі свішчуць, трох коней ішчуць.
— Ох вы, дзевачкі-сястрычкі,
Чы вы бачылі конікаў?
Нашы конікі варанiстыя,
Варанiстыя, знакамістыя.
У Васількава коніка калясом грыва,

* Прыпеў «Ох і я, лялё» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

У Іванькава коніка у ва лбе звязда,
У Міхалкава коніка залаты капыт.

## 349. Што на мору на сіняму




Што на мору на сіняму,
Люлі-люлі, на сіняму, *
На Дунаю на ціхаму
Тама дзеўка рукі мыла,
Золат персцень упусціла.
Як пайду я па гораду,
Крыкну-гукну па голасу:
— Хто найдзецца персцень дастаць,
За таго я замуж пайду.
Адгукнуўся старшанькі.
За таго я замуж не йду.

Што на мору на сіняму,
На Дунаю на ціхаму
Тама дзеўка рукі мыла,
Золат персцень упусціла.
Як пайду я па гораду,
Крыкну-гукну па голасу:
— Хто найдзецца персцень дастаць,
За таго я замуж пайду.
Адгукнуўся малёшанькі,
За таго я замуж не йду.

* Прыпеў «Люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

Што на мору на сіняму,
На Дунаю на ціхаму
Тама дзеўка рукі мыла,
Золат персцень упусціла.
Як пайду я па гораду,
Крыкну-гукну па голасу:
— Хто найдзецца персцень дастаць,
За таго я замуж пайду.
Адгукнуўся младзёшанькі,
Самы парань харошанькі,
За таго я замуж пайду.

### 350. Да у майго татачкі двор за гарою



Да у майго татачкі двор за гарою,
Ой, ля-лёлю, двор за гарой. *
Двор за гарою, сад над вадою.
— Да пусці, татачка, ў сад пагуляці.
— А не пушчу, дзіця, да сада псаваці.
— Не буду ж, татачка, да сада псаваці,
Выламлю кветачку да на пакрасатачку.

## 351. Ой, гасцель мой лугавы




Ой, гасцель мой лугавы,
Ой, люлі-люлі, лугавы. **
Не свішчы рана на зары,
Не будзі мяне, малады.
У мяне, млоды, не свая маць,
Ложыць позненька мяне спаць,
Будзіць раненька: «Уставай».
А я, эй, малада, гаруча,
Іціць па ваду баюся.
Дзевярочак мой, мужні брат,
Хадзі са мной па ваду,
Бяры гуселькі пад палу.
Ты ж будзеш іграць, а я ваду браць.

---

* Прыпеў «Ой, ля-лёлю» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў «Ой, люлі-люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.

## 352. Вы кумушкі, галубушкі

Allegro




Вы кумушкі, галубушкі,
Выхадзіце на вуліцу,
Люлі-люлі, люлі-люлі, люлёшанькі! *

Гаварыце паславіцу,
Чые мужы маладэя?

А мой стары старычышча,
Та якая барадзішча!

Сам на вуліцу не ходзіць
І мяне, млоду, не пускаець.

Ах, хоць пусціць на часочак,
Я гуляю ўвесь дзянёчак.

Прыду двору вечарочак,
Стукну ў вёдры — вады нету.

Пайду, млода, за вадою,
Стары гоніцца за мною.

Права стары вараціўся,
Упіхну ў проглубку главой.

---

* Прыпеў «Люлі-люлі, люлі-люлі, люлёшанькі» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Сама астаюся ўдавою,
Дзеці нашы сіратою,

Дзеці нашы сіратою,
Пабеднаю галавою.

## 353. Пляту я, пляту я



## 354. Да ляцелі гусі




## 355. Пастаўлю й свечу проціў месяца



Пастаўлю й свечу проціў месяца,
[Ціха йдзе].
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе свёкарка, як мой бацюхна,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе свёкраўка, як мая маманька,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе залвіца, як мая сястрыца,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

Да не будзе ятроўка, як мой брацiхна,
Ціха йдзе.
Да вада па каменю, да вада па беламу
Ціха йдзе.

## 356. Што няма красы, замуж вышаўшы

Што няма красы, замуж вышаўшы,
Ой, люлі-люлі, замуж вышаўшы.
Толькі е краса як у дзевачках,
Ой, люлі-люлі, у малодзенькіх.
Я прыду к татку і ў гадок разок,
Ой, люлі-люлі, на вялікі дзень,
На вялікі дзень, на вялікадне,
Ой, люлі-люлі, на вялікадне.
Прынясу к татку да тры радасці,
Ой, люлі-люлі, тры вясёлыя.
Первая радасць — мой свёкар ліхі,
Ой, люлі-люлі, мой свёкар ліхі.
Другая радасць — мой муж-п'яніца,
Ой, люлі-люлі, мой муж-п'яніца.
Трэцяя радасць — свякруха ліхая,
Ой, люлі-люлі, свякруха ліхая.

## 357. У бару траўка паталочана

У бару траўка паталочана
Ох і ой, ляле, паталочана. *
Хто тую траўку паталочыў?
Паталочыла чорная куна,
Чорная куна з кунанятками.
Кунанятачкі — мне накладачкі,
Сама куначка, то мне шубачка.
Да штоб шубачка да не шумела,
Штоб кузечкі да не бразчалі,
Штоб не зачуў чужы бацька,
Чужы бацька, да мой свёкарка,
Штоб не сказаў да свайму сыну,
Да свайму сыну, да майму нялюбаму.

## 358. Каб па мору, мору сіняму




Каб па мору, мэру сіняму,
Ляле́іць [і] мора, ляле́іць, **
А плывець, плывець да вуцей стада,
А паперадзе ды малая чырка.
Адкуль узяўся сізы селязенька.
А ўзяў вутачку за правае крыльца,
За правае крыльцо, за сізае пярцо.
Па ёй вутачкі ўсе закракалі.

---

* Прыпеў «Ох і ой, ляле» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

«Не кракайце, вутачкі, не кракайце, серыя,
Калі бог судзіць, і вам гэта будзець».

Каб і ў вуліцы, а ў ваколіцы,
Чырвоная рожа ў гародзе, *
А ішло, прайшло да дзявок танок,
А паперадзе малада Марута.
Адкуль узяўся малады Грышута.
А узяў Мар'ечку за правую ручку,
За правую ручку, за мезіны пальчык,
За мезіны пальчык, за залаты персцень.
Па ёй дзевачкі ўсе заплакалі.
«Не плачце вы, дзеўкі, не плачце вы, красны,
Калі бог судзіць, усім гэта будзець»

## 359. Там ручалачка бяжала




Там ручалачка бяжала,
Люлі-люлі!
Там дашчулачка ляжала,
Люлі-люлі!

Да ніхто там не хадзіў,
Люлі-люлі!
І нікога не вадзіў,
Люлі-люлі!

Толькі хлопец перайшоў,
Люлі-люлі!

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

І дзяўчыну перавёў,
Люлі-люлі!

А ў дзяўчыны слёзы льюцца,
Люлі-люлі!
А ён яе усцішае,
Люлі-люлі!

А ён яе усцішае,
Люлі-люлі!
Хусткай вочкі выцірае,
Люлі-люлі!

— Ціха, не плач, мая міла,
Люлі-люлі!
Як я з службы адслужуся,
Люлі-люлі!

Як я з службы адслужуся,
Люлі-люлі!
Дык з табою ажанюся,
Люлі-люлі!

## 360. Хто за горадам гуляіць




Хто за горадам гуляіць,
Хто за горадам гуляіць?
Царэвіч-каралевіч. *

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Цар нявесту выбіраець,
Цар нявесту выбіраець,
Царэвіч-каралевіч.

Растварыцеся, вароты,
Растварыцеся, шырокі.
Царэвіч-каралевіч.

Вайдзі, вайдзі ў карагод,
Вайдзі, вайдзі ў карагод,
Царэвіч-каралевіч.

### 361. Царэўна-каралеўна

Царэўна-каралеўна
Па-за гародам хадзіла,
Вароты адпірала,
Жаніхоў выбірала.
Адчыніцеся, вароты,
Адчыніцеся, шырокі.
Выйдзі, выйдзі ў карагод.
Стань тут — пападпрыся,
Каго любіш — пакланіся,
Харошанька прытанцуй,
Каго любіш — пацалуй.

### 362. Царэўна і баяры

— Царэўна, добры вечар.
— Баяры, на здароўе.
— Царэўна, пусці ў горад.
— Баяры, чаго ў горад?
— Царэўна, дзевак сватаць.
— Баяры, дзеўкі малы.
— Царэўна, перараслі.
— Баяры, рушнічкоў не ткалі.
— Царэўна, ўжо ў трубачках.
— Баяры, каторую?
— Сярэдняя не ўмывалася,
Крайняя падабалася.

## 363. А мы грушу пасадзілі




А мы грушу пасадзілі, *
А я, маладзенька, топ-топ-топ. **
А ўжо груша прымаецца,
А ўжо груша расце, расце,
А ўжо груша цвіцець, цвіцець,
А ўжо грушу пара трэсці.

## 364. Пасеялі дзеўкі лён




* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў «А я, маладзенька, топ-топ-топ» спяваецца двойчы пасля кожнага радка.




Пасеялі дзеўкі лён, *
Эй, люлі, дзеўкі лён.
Пасеяўшы, палолі,
Эй, люлі, палолі.
Белы ручкі калолі,
Эй, люлі, калолі.
Унадзіўся сівы конь,
Эй, люлі, сівы конь.
Патаптаў ён дзеўкам лён,
Эй, люлі, дзеўкам лён.
Ён макушкі паскусаў,
Эй, люлі, паскусаў
І ў рышточкі пакідаў,
Эй, люлі, пакідаў.
Дзеўкі лянок сабралі,
Эй, люлі, сабралі.
Белы кужаль паслалі,
Эй, люлі, паслалі,
А паслаўшы, паднялі,
Эй, люлі, паднялі.
А падняўшы, памялі,
Эй, люлі, памялі.
Дзеўкі лянок папралі,
Эй, люлі, папралі.
Палаценца паткалі,
Эй, люлі, паткалі.

## 365. Пасеялі дзеўкі лён




* Кожны радок паўтараецца.




Пасеялі дзеўкі лён, *
Дзеўкі лён, дзеўкі лён,
Пасеялі дзеўкі лён.

Пасеяўшы, палолі,
Палолі, палолі,
Пасеяўшы, палолі.

Белы ручкі калолі,
Калолі, калолі,
Белы ручкі калолі.

Унадзіўся сівы конь,
Сівы конь, сівы конь,
Унадзіўся сівы конь.

Пацёр, памяў дзеўкін лён,
Дзеўкін лён, дзеўкін лён,
Пацёр, памяў дзеўкін лён.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 366. Ходзіць Ванька па вуліцы




## 367. Ходзіць Ваня па вуліцы




Ходзіць Ваня па вуліцы, *
Ён пахаджывае,
У Кацюшына вакошачка
Ён пасматрывае.
— Ці ты спіш, Кацюша-душа?
— Я не сплю, ой, не лягу,
Я не сплю, ой, не лягу,
Ой, найбольш так сяджу,
Ой, найбольш так сяджу,
Думы думаю,
Хачу Ванюшу навучыць
К сабе ў госці хадзіць.
Ён не вулушкай ідзе,
Перавулушкаю,
Ён не голасам крычыць,
Салаўём ён свішчыць.

* Кожны радок паўтараецца.

## 368. Са вянком я хаджу



Палажу я вянок,
Палажу я златы
Краснай дзевіцы на правае плячо,
Раскрасавіцы на правае плячо.

Ды я й к дзевіцы йду,
Раскрасавіцы йду,
Я іду, іду, іду, іду, іду,
Пацалую ды і проч пайду.

## 369. Ой, венча мой, венча, красота барвенча

Ой, венча мой, венча, красота барвенча,
Ой, я цябе звіла, я цябе да не насіла,
Я цябе да павесіла ў цераме да на дзераве,
На залатым калочку, на шоўкавым шнурочку.
А мацюхна зняла да й нялюбаму дала,
Калі б то я знала, то б я горшы звіла,
Із жыжкі-крапіўкі, з колкія шыпшынкі.

## 370. Штосьці ў полі гукае, гукае

Штосьці ў полі гукае, гукае,
Хлопец дзеўку шукае, шукае.
Звіла сабе два вянкі, два вянкі
Да павесіла высока, высока,
Сама села далёка, далёка,
Штоб Іванка не дастаў, не дастаў,
Сабе дзеваньку не ўзяў, не ўзяў.

Штосьці ў полі гукае, гукае,
Хлопец дзеўку шукае, шукае.
Звіла сабе два вянкі, два вянкі,
Павесіла нізенька, нізенька,
Сама села блізенька, блізенька,
Штоб Сцяпанка дастаў, дастаў,
Сабе дзевачку забраў, забраў.

## 371. Валадар, валадар

— Валадар, валадар,
Адчыняй варата!

— А хто ж там кліча?
— Князёва дзіця.

— А нашто ж кліча?
— У сад па краскі.

— А нашто краскі?
— Дзеўкам на вянкі.

— А нашто вянкі,
А нашто вянкі?

— Хадзіці ў танкі,
Хадзіці ў танкі.

— А на чым сядзеці?
— На залатым крэсле.

— А нашто мне тое
Князёва дзіця?

## 372. Стой, мой мілы карагод

Стой, мой мілы карагод,
Стой, не расхадзіся. *

Што ў гэтым карагодзе
Гуляла, плясала.

Я гуляла й плясала,
Я таночак вадзіла,

Я таночак вадзіла,
Вянок ураніла.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Вянок ураніла,
У бацюшкі прасіла,

У бацюшкі прасіла.
Родны бацюшка пайшоў,

Родны бацюшка пайшоў,
Вянка не знайшоў.

Сама молада пайду,
Вяночак найду,

На галоўку складу,
Карагод развяду.

## 373. Бярыцеся, братцы, ў круг




Бярыцеся, братцы, ў круг,
Бярыцеся, братцы, ў круг,
Братцы, ў круг, братцы, ў круг,
Паніброўя, братцы, ў круг.

Ой, вытапчам зеляну,
Мы вытапчам зеляну,
Зеляну, зеляну,
Панібровя, зеляну.

Мы пасеем дзеўкам лён,
Мы пасеем дзеўкам лён,
Дзеўкам лён, дзеўкам лён,
Панібровя, дзеўкам лён.

Дзеўкі лянок палолі,
Дзеўкі лянок палолі,
Палолі, палолі,
Панібровя, палолі.

Белы рукі калолі,
Белы рукі калолі,
Калолі, калолі,
Панібровя, калолі.

Адкуль ўзяўся паранёк,
Адкуль ўзяўся паранёк,
Паранёк, паранёк,
Панібровя, паранёк.

З лёну цвяты пазрываў,
З лёну цвяты пазрываў,
Пазрываў, пазрываў,
Панібровя, пазрываў.

Беражочкі пабрасаў,
Беражочкі пабрасаў,
Пабрасаў, пабрасаў,
Панібровя, пабрасаў.

## 374. Бяру канапельку



## 375. Ў карагодзе мы былі




Ў карагодзе мы былі, *
Ай, люлі, мы былі.
А што ж мы там відзелі,
Ай, люлі, відзелі?
А відзелі парачку,
Ай, люлі, парачку,
Ванюшу і Манечку,
Ай, люлі, Манечку.
А што гэта парачка,
Ай, люлі, парачка?
А Ванюша, Манечка,
Ай, люлі, Манечка.
А што ж яны рабілі,
Ай, люлі, рабілі?
А дубчыкі ламілі,
Ай, люлі, ламілі.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 376. Ў карагодзе мы былі




Ў карагодзе мы былі, *
Ох, люлі, мы былі.
А што мы там відзелі?
Ох, люлі, відзелі.
Мы відалі парачку,
Ох, люлі, парачку.
Ты, парачка, разыйдзісь,
Ох, люлі, разыйдзісь,
Ўсем па разу пакланісь,
Ох, люлі, пакланісь,
Шчэ й нямножка прытанцуй,
Ох, люлі, прытанцуй,
Каго любіш, пацалуй,
Ох, люлі, пацалуй.

## 377. На вуліцы мы былі




* Кожны радок паўтараецца.




На вуліцы мы былі, *

Ну што ж, каму дзела, мы былі,
Ну каму якое дзела, мы былі. **

Малойчыка відзелі.
Малойчычак маладой
Праважаў мяне дамой
Да новенькіх варотаў.
Выхадзіла мая маць,
Пазывала мяне ўзяць.
Прыдзі, прыдзі да мяне.

## 378. Як хадзіла Маша па саду




* Кожны радок паўтараецца.
** Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.




Як хадзіла Маша па саду, *
Па саду, па саду,
Па садочку, па саду, па саду!

Як ўкусіў камарык за нагу,
За нагу, за нагу,
За ножачку, за нагу, за нагу!

Ой, да трэба наняць касароў,
Касароў, касароў,
Касарыкаў, касароў, касароў!

Ой, да штоб падрэзалі камароў,
Камароў, камароў,
Камарыкаў, камароў, камароў!

Ой, да ў тае ўдоўкі на дварэ,
На дварэ, на дварэ,
На дворыку, на дварэ, на дварэ.

Ой, да стаяць коні ў табуне,
Ў табуне, ў табуне,
Ў табуночку, ў табуне, ў табуне!

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, да між тых коней сівы конь,
Сівы конь, сівы конь,
Сівы конік, сівы конь, сівы конь!

Ой, да капытамі камень б'ёць,
Камень б'ёць, камень б'ёць,
Камень, камень, камень б'ёць, камень б'ёць.

Ой, з-пад каменя вада льёць,
Вада льёць, вада льёць,
Вада, вада, вада льёць, вада льёць.

Ой, да у дзевачак праўда ёсць,
Праўда ёсць, праўда ёсць,
Праўда, праўда, праўда ёсць, праўда ёсць!

Ой, да у хлопчыкаў праўды нет,
Праўды нет, праўды нет,
Праўды, праўды, праўды нет, праўды нет.

Ой, да на дзевачак красата,
Красата, красата,
Красотачка, красата, красата.

Ой, да на хлопчыкаў сухата,
Сухата, сухата,
Сухотачка й сухата, сухата!

### 379. За лясамі, за барамі






За лясамі, за барамі
Пашла дзеўка за грыбамі
За быстру раку,
Эй, за быстру раку.

Не дахадзя дзеўка бору,
Нашла грыба мухамора,
Краснага грыба,
Эй, краснага грыба.

Яна ж яго падхваціла,
У кашолачку ўлажыла,

Пашла дадому,
Эй, пашла дадому.

Ой, прыйшла ж яна дадому,
Палажыла спаць з сабою
На белу кравацъ,
Эй, на белу кравацъ.

Дзеўка спаці не кладзецца,
Толькі слёзкамі ліецца —
Баіцца грыба,
Эй, баіцца грыба.

— Ах ты, дзеўка прыукрасна.
Не лій слёзачак напрасна,
Не бойся мяне,
Эй, не бойся мяне.

Кладзі свячу васкавую,
Я тры разы пацалую,
Мілая мая,
Эй, мілая мая.

## 380. Да на вуліцы дзеўкі гулялі




20. Зак. 1818




Да на вуліцы дзеўкі гулялі, *
Ой, гулялі, гулялі.

Да мяне, маладую, гукалі,
Ой, гукалі, гукалі.

А ў мяне, маладое, муж ліхі,
Ой, ліхі муж, ліхі.

На вуліцу не пускаў,
Ой, не пускаў, не пускаў.

А хоць пусціў — прыгразіў,
Ой, прыгразіў, прыгразіў.

— Да гуляй, жана, да пары,
Ой, да пары, да пары,

Ой, да да вячэрняй да зары,
Ой, да зары, да зары.

А я, млада, ўспомніла,
Ой, ўспомніла, ўспомніла.

Да каморачка рыпнула,
Ой, рыпнула, рыпнула,

Да па мне плётка плікнула,
Ой, плікнула, плікнула.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 381. На вулцы дзеўкі гуляюць




На вулцы дзеўкі гуляюць,
Гуляюць, Дуня, гуляюць.
Мяне, маладу, гукаюць,
Гукаюць, Дуня, гукаюць.
У мяне, маладой, стары муж,
Стары муж, Дуня, стары муж.
Ён па вуліцы не ходзіць,
Не ходзіць, Дуня, не ходзіць.
Мяне, маладу, не пусціць,
Не пусціць, Дуня, не пусціць.
А хоць жа пусціць позненька,
Позненька, Дуня, позненька.
Усе дзевачкі двору йдуць розненька,
Розненька, Дуня, розненька.

## 382. На вулцы дзеўкі гулялі




На вулцы дзеўкі гулялі,
Гулялі, душа, гулялі.

Мяне, маладу, гукалі,
Гукалі, душа, гукалі.
У мяне, маладкі, стары муж,
Стары муж, душа, стары муж.
Не пусціць мяне на вулку,
На вулку, душа, на вулку.
А хоць пусціць пазненька,
Пазненька, душа, пазненька.
А ўсе дзевачкі разненькі,
Разненькі, душа, разненькі.
Я ўсіх дэвачак перайму,
Перайму, душа, перайму.
Музыканціка ім найму,
Ім найму, душа, ім найму.
Гуляйце, дзеўкі, да свету,
Да свету, душа, да свету.
Усё да позняга абеду,
Абеду, душа, абеду.
Пятухі пяюць — гуляюць,
Гуляюць, душа, гуляюць.
Другія пяюць — віно п'юць,
Віно п'юць, душа, віно п'юць.
Трэція пяюць — двору йдуць,
Двору йдуць, душа, двору йдуць.
А мой нялюбы ў варотах,
Ў варотах, душа, ў варотах:
— А з кім ты, жана, гуляла?
Гуляла, душа, гуляла.
— А я гуляла з дзеўкамі,
З дзеўкамі, душа, з дзеўкамі.
Дварочку ішла з дзевяром,
З дзевяром, душа, з дзевяром.
А мне дзевачкі — сястрыцы,
Сястрыцы, душа, сястрыцы.
А мне дзеверка — родны брат,
Родны брат, душа, родны брат.

# 383. Да йшоў кавалец



## 384. Мядуніца, мядуніца лугавая




— Мядуніца, мядуніца лугавая,
Ай, лугавая,
Чом не пахнеш, чом не пахнеш на ўсём лугу,
Ой, на лужочку?
— Як мне пахнуць, як мне пахнуць на ўсём лугу,
Ой, на лужочку?
Стары бабы, стары бабы прысядзелі,
Прысядзелі,
Маладухі, маладухі прыстаялі,
Прыстаялі,
Красны дзеўкі, красны дзеўкі прыскакалі,
Прыскакалі.

## 385. Ды чаму ж ты, яліначка






— Ды чаму ж ты, яліначка,
Не зялёна,
Не зялёна? *

— Ды як жа мне, яліначцы,
Зялёнай быць,
Зялёнай быць?

Пада мной два купчыкі
Начавалі,
Начавалі,

Яны ж маё карэнейка
Вытапталі,
Вытапталі,

Яны ж мне буйны веткі
Паламалі,
Паламалі

Ды па бітай дарожачцы
Раскідалі,
Раскідалі.

— Ды чаму ж ты, дзяўчыначка,
Не вясёла,
Не вясёла?

— Ды як жа мне, малодзенькай,
Вясёлай быць,
Вясёлай быць?

---

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца тры разы.

Калі ў мяне два малойцы
Начавалі,
Начавалі,

Яны ж мае падушачкі
Вытаўкалі,
Вытаўкалі,

Ды яны ж мне, малодзенькай,
Спаць не далі,
Спаць не далі,

А выйшаўшы на вулачку,
Абгукалі,
Абгукалі.

А ці мой ты, ці не мой ты,
А ўсё ж будзеш,
А ўсё ж будзеш,

Чаму мяне, маладую,
Гэтак судзіш,
Гэтак судзіш?

А ці мой ты, ці не мой ты,
А ўсё ж станеш,
А ўсё ж станеш,

Чаму ж мяне, маладую,
Гэтак славіш,
Гэтак славіш?

### 386. А чаму ты, ялушачка, не зялёна

— А чаму ты, ялушачка, не зялёна,
Не зялёна?
— А як жа мне, ялушачцы, быць зялёнай,
Быць зялёнай,
А пада мной начлежнікі начавалі,
Начавалі,
На карэнні сіні агонь раскладалі,
Раскладалі.

Яны маё карэнейка папалілі,
Папалілі.
Яны ж маё і вецейка пасмалілі,
Пасмалілі.
Яны мяне, ялушачку, засушылі,
Засушылі.
— А чаму ты, малодачка, не вясёла,
Не вясёла?
— А як жа мне, малодачцы, вясёлай быць,
Вясёлай быць.
Штоноч, штодзень ка мне сваты прыязджаюць,
Прыязджаюць.
Яны ж майго і татачку упаілі,
Упаілі.
Яны ж маю і мамачку падманілі,
Падманілі.
Яны ж мяне, маладую, з толку збілі,
З толку збілі.

## 387. Аўсяміраўскае сяло, ой, чаму ж не весяло?

— Аўсяміраўскае сяло, ой, чаму ж не весяло?
Ой, гаю, гаю, чаму не весяло.

— Ой, як жа мне вясёламу быць?
Ой, гаю, гаю, вясёламу быць.

Што былі пташачкі, усе ў вырай паляцелі,
Ой, гаю, гаю, у вырай паляцелі.

А адна пташачка ды й прызустала,
Ой, гаю, гаю, ды й прызустала.

Ды й тую хочуць арлове ўзяць,
Ой, гаю, гаю, ды й тую ўзяць.

Арлове ўзяць, сакалам аддаць,
Ой, гаю, гаю, сакалам аддаць.

Арлам на рукі, сакалам навекі,
Ой, гаю, гаю, сакалам навекі.

Ой, адна дзяўчына ды й прызустала,
Ой, гаю, гаю, ды й прызустала.

Ды й тую хочуць сватове ўзяць,
Ой, гаю, гаю, сватове ўзяць.

Сватове ўзяць, жаніхам аддаць,
Ой, гаю, гаю, жаніхам аддаць.

Сватам на рукі, жаніхам навекі,
Ой, гаю, гаю, жаніхам навекі.

## 388. Васіль, Васіль, Васілёчак




Васіль, Васіль, Васілёчак,
Васілёчак,
Невясёлы твой дзянёчак,
Твой дзянёчак.
Пайду ў садок, пайду ў садок,
Пайду ў садок.
Пайду ў садок, сарву цвяток,
Сарву цвяток,
Сарву цвяток, саўю вянок,
Саўю вянок.
А ў том танку мой нялюбы,
Мой нялюбы.
Мой нялюбы ў скрыпку йграе,
У скрыпку йграе.
Яго скрыпка лубяная,
Лубяная.

## 389. Ой, Васіль жа мой, васілёчак

Ой, Васіль жа мой, васілёчак,
Васілёчак, васілёчак!
Бярозавы мой цвяточак,
Мой цвяточак, мой цвяточак!
Часам цябе я садзіла,
Я садзіла, я садзіла,
Другім часам палівала,
Палівала, палівала,
Трэцім часам сарывала,
Сарывала, сарывала!
Сарву цвяток, саўю вянок,
Саўю вянок, саўю вянок.
Звіўшы вянок, пайду ў танок,
Пайду ў танок, пайду ў танок!
А ў том танку мой нялюбы,
Мой нялюбы, мой нялюбы.
Мой нялюбы ў кобзу йграе,
У кобзу йграе, ў кобзу йграе,
Яго кобза лубяная,
Лубяная, лубяная,
А смычочак із лычочак,
Із лычочак, із лычочак.
Яго вочкі заплюснулісь,
Заплюснулісь, заплюснулісь,
Яго ножкі падламілісь,
Падламілісь, падламілісь,
Яго ручкі апусцілісь,
Апусцілісь, апусцілісь.

## 390. Пасаджу, пасаджу






Пасаджу, пасаджу
Ў гародзе пятрушачку,
За гародам чарнушачку,
Пасаджу, пасаджу.

Палію, палію
Пятрушачку сыціцаю,
Чарнушачку вадзіцаю,
Палію, палію.

## 391. А на рэчцы, рэчаньцы




А на рэчцы, рэчаньцы
Чаўночак плыве. *

А у тым жа чаўночку
Кудрэц-маладзец.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Чэша светлы кудзеркі
Частым грабушком,

Мые ясна лічайка
Сцюдзёнай вадой.

Плыві, плыві, чаўночак,
Па весняй вадзе

Аж да таго беражка,
Дзе Маня жыве.

## 392. На нашай, на нашай




На нашай, на нашай
На шырокай вуліцы
Гулялі, гулялі
Ўсе дзеўкі па вуліцы.

На нашым, на нашым
На шырокім возеры
Плавалі, плавалі
Ўсе гусі па возеру.

Уперадзе, уперадзе
Белая лябёдачка.
Адкуль узяўся, адкуль узяўся
Белы селязенчычак.

Разагнаў, разагнаў
Усіх гусей па возеры,
Сабе ўзяў, сабе ўзяў
Белую лябёдачку.

### 393. Возера, возера

Возера, возера,
Шырокае возера. *

Плавалі, плавалі
Шэры гусі стадамі.

Наляцеў, наляцеў
Шызы арол над вадой.

Выхваціў, выхваціў
Гусачку за крылушка.

Ударылі, ўдарылі
Шэры гусі ў крылушкі:

— Хто ж у нас, хто ж у нас
Папярод вадзіць будзе,

Хто ж у нас, хто ж у нас
Крычаць-пачынаць будзе?

Вуліца, вуліца,
Шырокая вуліца.

Хадзілі, гулялі
Дзеўкі карагодамі.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Наехаў, наехаў
Панічак на коніку,

Выхваціў, выхваціў
Дзевачку за ручачку.

Ударылі, ўдарылі
Дзевачкі ў ладонечкі:

— Хто ж у нас, хто ж у нас
Папярод хадзіць будзе,

Хто ж у нас, хто ж у нас
Песні пачынаць будзе?

## 394. Што й па мору, што й па мору




Што й па мору, што й па мору,
Што й па мору, мору сіняму, *

* Апошні радок кожнай страфы паўтараецца.

Там плавала, там плавала,
Там плавала стада белых лебядзей

Са малымі, са малымі,
Са малымі лебядзятамі.

Адкуль ўзяўся, адкуль ўзяўся,
Адкуль ўзяўся сыза-белы арол.

Разбіў стаду, разбіў стаду,
Разбіў стаду ўсё па сіняму мору.

Белы пушок, белы пушок,
Белы пушок па паднебейку пашоў,

Сыза пер'я, сыза пер'я,
Сыза пер'я па зялёнаму лужку.

А хто гэта, а хто гэта,
А хто гэта сыза пер'я сабярэ?

Збярэ пер'я, збярэ пер'я,
Збярэ пер'я красна дзевіца

Свайму дружку, свайму дружку,
Свайму дружку і ў падушачку.

— Ляжы, дружок, ляжы, дружок,
Ляжы, дружок, да не гневайся.

Мне за цябе, мне за цябе,
Мне за цябе не хацелася.

Хацелася, хацелася,
Хацелася мне за гожага.

За гожага, за гожага,
За гожага, за прыгожага.

За белага, за белага,
За белага, за румянага.

За Йванюшу, за Йванюшу,
За Йванюшу кучаравага.

## 395. Што й па вуліцы ды й па шырокай

Што й па вуліцы ды й па шырокай,
Па мураўцы ды й па зялёнай.
Ой, там дзевачкі карагод водзяць,
Маладзенькія карагод водзяць.
Свет Раманаўна папярод ходзіць,
Маладзенькая папярод ходзіць.
Ой, адкуль узяўся свет Васільевіч,
Адкуль узяўся маладзенечкі.
Ён усім дзевачкам нізка кланяўся,
Усім маладзенькім нізка кланяўся,
Ой, Раманаўну ды й за ручку ўзяў,
Маладзенькую ды й за ручку ўзяў.
Ён павёў яе к роднай матухне,
Павеў яе к родну батухне,
Каб пазволілі павянчацца з ёй,
Назваць яе маладой жаной.

## 396. Ты вуціца серая



Ты вуціца серая,
Лябёдачка белая,
Патапіла дзетачак
Не ў мяду, не ў патацы,
Не ў сахорным яблычку.
Запляціся, пляцень, запляціся,
Завіся трубой медзяною.

Ты вуліца серая,
Лябёдачка белая,
Патапіла дзетачак
Не ў мяду, не ў патацы,
Не ў сахорным яблычку.
Распляціся, пляцень, распляціся,
Развіся трубою медзяною.

## 397. Зялён гай падмяцён




Зялён гай падмяцён
Зялёнаю мяткаю,
Дробненькаю руткаю
Высыплён.

Хто ж яго падмятаў?
Падмятала дзеванька,

Падмятала малада
Сама адна.

Хто ж да яе прыхадзіў?
Прыхадзіў малойчычак,
Прыхадзіў маладзенькі,
Сам ён адзін.

Што ж ён прынасіў?
Прынасіў чаравічкі,
Прынасіў невялічкі
Сам ён адзін.

Як жа ён ёй дараваў?
Ой, знімаў ён шапачку
Ды да ножак кланяўся —
Так дараваў.

### 398. Што на горцы, на гарэ






Што на горцы, на гарэ
На круценькай высако
Да гарох трашчыць,
Сачавіца лушчыць,
Чырвоненькі мак расцвітаецца.
А у нашай Рыпіначкі
Набіраны рукавы.
Бог ёй даў, бог ёй даў.
А хто ж яе спалюбіў,
Сваё лічанька красіў,
За сябе яе ўзяў?
Архіп яе спалюбіў,
Сваё лічанька красіў,
За сябе яе ўзяў.

## 399. Як пайду я да да любіна






Як пайду я да да любіна
Да палюблю я сабе дзевачку.
Э-ей! Маладзец! Ціхі перабор, сем баёр! *

Вот гэта будзе мая дзевачка,
Вот гэта будзе да мой цесцюхна,

А гэта будзе мая цешчухна,
А гэта будзе да мой шур'янка,

А гэта будзе мая сваціюхна,
А гэта будзе мая дудачка.

— Вот ты, дзеўка, да ходзем да мяне,
А ты, цесцюхна, па гарэлку ідзі,

А ты, цешчухна, да пячы бліны,
А ты, шур'янка, коніка сядлай.

* Прыпеў «Э-ей! Маладзец! Ціхі перабор, сем баёр!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

## 400. Як пайду, пайду

Як пайду, пайду,
Ой, як пайду, пайду
Ў сад зялёненькі гуляць.

Як сарву, сарву,
Ой, як сарву, сарву
З разных красачак цвяток.

Як саўю, саўю,
Ой, як саўю, саўю
На галовачку вянок.

Як пайду, пайду,
Ой, як пайду, пайду
Я на вуліцу гуляць.

Як спрашу, спрашу,
Ой, як спрашу, спрашу
Сваіх дзевачак-падруг.

— Ох вы, дзевачкі,
Ох вы, дзевачкі,
Вы падружанькі мае,

Скажыце вы мне,
Ой, скажыце вы мне
Усю праўду пра мяне.

Ці сохнець-вянець,
Ой, ці сохнець-вянець
На галовачке вянок?

Ці тужыць-плачыць,
Ой, ці тужыць-плачыць
Па мне міленькі дружок?

Не сохнець-вянець,
Ой, не сохнець-вянець
На галовачке вянок.

Не тужыць-плачыць,
Ой, не тужыць-плачыць
Па мне міленькі дружок.

## 401. За рэчкаю мак, мак




За рэчкаю мак, мак, *
Салавей кажа: так, так.
Так, так.

Калі б быў я пташачка,
Чорная галачка,
Галачка,

Паляцеў бы на мора,
Сеў бы на ягора,
На ягора.

Сеў бы я, паслухаў бы,
Як дзяўчына плача,
Плача.

Як дзяўчына плача,
Голасам галосіць,
Галосіць,

За нялюбага йдучы,
Пасцельку сцелючы,
Сцелючы:

— Сцялю я пасцелю —
У тры рады каменне,
Каменне,

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

У тры рады каменне,
У чацверта — паленне,
Паленне.

## 402. Ды на гары мак, мак

Ды на гары мак, мак
Салавейка топча,
Ой, люлі, палюлі,
Салавейка топча. *

Салавейка топча,
Паляцеці хоча.

Паляцеў салавей
На сіняе мора

Да сеў і слухае,
Як паненкі плачуць,

За старога ідучы,
Белу ложку сцелючы:

— Бадай гэта ложа
У агні згарэла!

Як мне із старэнькім
Ночачка дадзела.

Распасцёр ён бараду
Па маей падушы,

Па маей падушы,
Ды не к маей душы.

---

* Прыпеў «Ой, люлі, палюлі» паўтараецца з другім радком кожнай страфы.

## 403. Чом, чом, селязень




## 404. Паналяцела галуб'я стада




Паналяцела галуб'я стада повен двор, повен двор.
— Пазнай, Матронка, красна дзевачка, ці ёсць твой каторы.
— Сядзіць на лаўцы, шчытаець булаўкі — вот то ён самы
й той.

Прыляцела галуб'я стада повен двор, повен двор.
— Пазнай, Марына, красна дзевачка, ці ёсць твой каторы.
— Сядзіць на скамейцы, шчытаець капейкі — вот то ён самы
й той.

Паналяцела галуб'я стада повен двор, повен двор.
— Пазнай, Ганначка, красна дзевачка, ці ёсць твой каторы.
— Ідзець з-пад куцця, цягнець ласкуцця — вот то ён самы
й той.

## 405. Як ад кута да парога

Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Насця, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Сядзіць на ўслонцы да ліча чырвонцы —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Праня, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, сядзіць на куце, як рожа цвіце,—
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Пракседа, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, сядзіць на куце да лапці пляце —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Васіліна, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, лезе з-пад лаўкі, вочы-булаўкі —
От то ён.
Як ад кута да парога
Да ўсё жаніхі.
— Скажы, Домна, скажы, дзеўка,
А дзе ж твой?
— Ой, лезе із грушы, ў гразі па вушы —
От то ён.

## 406. Як выведзем луку






Як выведзем луку *
На зялёную траўку,

Трава мая зеляная,
Лука мая шаўкавая.

— Траўка мая зеляная,
А чаго ты павяла?

Ці цябе гусі шчыплюць,
Ці малыя гусяняткі?

— Мяне гусі не шчыплюць,
Ні малыя гусяняткі.

Топчуць мяне дзеўкі
Лапцямі дзіравымі.

Лапцямі дзіравымі,
Анучамі каравымі.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 407. Лука, да лука мая, лука



## 408. Лука мая

Лука мая,
Лука мая зялёная,
Эй, трава мая шаўковая!

Трава мая,
Трава мая шаўковая,
А хто ж цябе таптаць будзе?

А хто ж цябе,
А хто ж цябе таптаць будзе?
Эй, дзевачкі цябе топчуць.

Топчуць,
Дзевачкі цябе топчуць,
Эй, казловымі чаравічкамі.

Чаравічкамі,
Казловымі чаравічкамі,
Эй, хлопчыкі цябе стопчуць.

Стопчуць,
Хлопчыкі цябе стопчуць
Лутовымі лапцішчамі.

## 409. Ой, лука ж, наша лука



— Ой, лука ж, наша лука, *
Чаго, лука, ды не зелена?

Чаго, лука, ды не зелена?
— Як жа мне зеляной быць,

Як жа мне зеляной быць?
Топчуць мяне дзеўкі.

Топчуць мяне дзеўкі,
Дзеўкі навасельскія

Ў лазовых лапцішчах,
Ў каравых анучах.

— Ой, лука ж, наша лука,
Чаго, лука, ды зялёная,

Чаго, лука, ды зялёная?
— Як жа мне зеляной не быць,

Як жа мне зеляной не быць?
Топчуць мяне дзеўкі,

Топчуць мяне дзеўкі,
Дзеўкі салтанаўскія

Ў шаўровых чаравічках,
У бялёвых панчошках.

А на іх рубашачкі,
Як бель бялюсенькі,

Як бель бялюсенькі,
Як тон танюсенькі.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 410. Ой, на луцэ, луцэ




Ой, на луцэ, луцэ
Да на шаўковай траве.
  Эй, лука мая,
  Лука мая да шырокая,
  Трава-мурава зялёная. *

Дваранін каня пасе,
Дзеўка ваду нясе.

— А ты, дзевачка-паня,
А напой майго каня.

— Я не буду паіці,
Будзе мяне маці біці

Розкамі да бярозкамі
Да стрыкучаю крапіўкаю,

---

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнай страфы.

Вярбовым дубчыкам:
«Не гуляй, шэльма, з купчыкам».

Я ж буду наругаціся,
Штобы болей нагуляціся.

## 411. Ой, лука, на луцэ




## 412. Ой, лука, мая лука

Ой, лука, мая лука,
Лука мая да й зялёная,
Лука мая да й зялёная,
Трава мая да й шаўковая.
Ой, цячэ муравей, цячэ,
Да й нясе муравей, нясе (3)
Да дзяцюцкую красу.
А на нашай вуліцы
Гардапышны Ваня малойчык.
Ён на вулку не выходзе,
На кані выязджае, (2)
Бізуном паганяе.

## 413. Як вазьму я казла да за рожачкі

Як вазьму я казла да за рожачкі,
Да павяду казла за вароцечкі,
Да прывяду казла к дубоваму тыну,
Да накажу казлу — сукінаму сыну:
— Скажы, скажы, козлю, як дзеўкі скачуць?
— От так, так дзеўкі скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, пацiхесеньку.

Да вазьму я казла да за рожачкі,
Да павяду казла за вароцечкі,
Ды прывяжу казла к дубоваму тыну,
Ды накажу казлу — сукінаму сыну:
— Скажы, скажы, козлю, як бабы скачуць?
— От так, так бабы скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, пацiхесеньку.

Як вазьму казла біці, ругаці,
Да стану я у казла праўды пытаці:
— Скажы, скажы, козлю, як хлопцы скачуць?
— От так, так хлопцы скачуць,
От так, памалесеньку,
От так, так, пацiхесеньку.

Да вазьму я казла біці, ругаці,
Да стану я у казла праўды пытаці:
— Скажы, скажы, козлю, як дзяды скачуць?
— От так, так, памалесеньку,
От так, так, пацiхесеньку.

## 414. Селязенька касаты

— Селязенька касаты,
Маладзец кудраваты,
Скажы, селязенька,
Як стары дзяды скачуць?
— Вот так, вот і гэтак.

— Селязенька касаты,
[Маладзец кудраваты,]

Скажы, селязенька,
Як рабята скачуць?
— Вот так, вот і гэтак.

Вот так — харашэнька,
Вот так — непрыгожа,
Вот так — нехароша.
Лён пры дарозе
Вецер павявае.

Вот так прыгажэнька,
Бравамі маргаюць,
Кудрамі махаюць,
Дзяўчат падманяюць.
Лён пры дарозе
Вецер павявае.

## 415. Устань рана, перапёлачка

— Устань рана, перапёлачка,
Устань рана, маладзенькая.
— Я ж устала, мае дзеванькі,
Я ж устала, мае сястрыцы.
— Умыйся бела, перапёлачка,
Умыйся бела, маладзенькая.
— Я ўмылася, мае дзевачкі,
Я ўмылася, мае сястрыцы.
— Учашыся слізка, перапёлачка,
Учашыся слізка, маладзенькая.
— Я ўчасалася, мае дзевачкі,
Я ўчасалася, мае сястрыцы.
— Надзень сукенку, перапёлачка,
Надзень сукенку, маладзенькая.
— Я ж надзела, мае дзевачкі,
Я ж надзела, мае сястрыцы.
— Прывяжы каралькі, перапёлачка,
Прывяжы каралькі, маладзенькая.
— Я ж прывязала, мае дзевачкі,
Я ж прывязала, мае сястрыцы.
— Надзень панчошкі, перапёлачка,
Надзень панчошкі, маладзенькая.
— Я ж надзела, мае дзевачкі,

Я ж надзела, мае сястрыцы.
— Абуй чаравічкі, перапёлачка,
Абуй чаравічкі, маладзенькая.
— Я ж абула, мае дзевачкі,
Я ж абула, мае сястрыцы.
— Прытанцуй нам, перапёлачка,
Прытанцуй нам, маладзенькая.

### 416. Ой, вы пелі песенькі, песенькі

Ой, вы пелі песенькі, песенькі,
Да й напелі рэшата, рэшата,
Паставілі на вярбе, на вярбе.
Наляцелі сарокі, сарокі,
Да й з Кіева пракокі, пракокі,
Да скінулі рэшата дадолу, дадолу,
Усе дзевачкі дадому, дадому.
Усе дзевачкі па дамах, па дамах,
А хлопчыкі па ламах, па ламах.
А ты, дзевачка, тут пастой, тут пастой,
Твой хлопчык цягнецца як пастол, як пастол.

### 417. Пойдзем, дзевачкі, на вулку

Пойдзем, дзевачкі, на вулку,
На вулку, дзевачкі, на вулку.
Запяём песенку навую,
Навую, дзевачкі ж, навую.
Перву песенку на расход,
На расход, дзевачкі, на расход.
Другу песенку ж на субор,
На субор, дзевачкі, на субор.
Сабяром субор ў рашато,
Да ў рашато, дзевачкі, ў рашато.
Паставім рашато ж на вербу,
На вербу, дзевачкі, на вербу.
Адкуль узяўся ж верабей,
Верабей, дзевачкі, верабей.
Скінуў рашато дадолу,
Дадолу, дзевачкі, дадолу.
Пойдзем, дзевачкі ж, дадому,

Дадому, дзевачкі, дадому.
А ты, Ганулька, астанься ж,
Астанься, дзевачкі, астанься.
Прыдзе Іванька, звянчайся,
Звянчайся, дзевачкі, звянчайся.

## 418. Чый там карагод ходзіць

Чый там карагод ходзіць,
Семсот да людзей водзіць?
Мікалайкаў карагод ходзіць,
Семсот да людзей водзіць.
На мікалайкавым карагодзе
Пілі і елі покуль годзе.

## 419. Вясна красна, вясна красна наступае

Вясна красна, вясна красна наступае,
Вадой лугі, вадой лугі залівае,
Што ні прайсці, што ні прайсці, ні праехаць,
Свайго роду, свайго роду не праведаць.
Ой, вясною, ой, вясною — за вадою,
А ўлецечку, а ўлецечку — за жнівою,
А зімою, а зімою — за снягою.
— Дзіця ж маё, дзіця ж маё маладое,
Ты вясною, ты вясною — на чаўночку,
Ты ўлецечку, ты ўлецечку — ў нядзелечку,
А зімою, а зімою — ў палазочку —
Такі ж роду, такі ж роду пераведай.

## 420. А мой брацітка-салавейка

— А мой брацітка-салавейка, *
Да калі ка мне ў госці будзеш:
А ці лецеткам у чаўночку,
А ці зімачкай у вазочку?
— Ой, сястрыцачка-перапёлка,
Да тады ж к табе ў госці буду,
Як з тагур снягі пазганяець
Да й з лугоў вада пазбягаець,
Пастушкі на пасту пагоняць,
Канюшкі на начлег паедуць,
Пастушкі у трубачкі затрубяць,
Канюшкі ў сіролкі зайграюць.

* Кожны радок паўтараецца.

## 421. Ці не тошна табе, рэчка

— Ці не тошна табе, рэчка,
З сінім лёдам расставацца,
Па беражкох разлівацца,
Па ўсіх крутых беражочках,
Па жоўценькіх пясочках?
— Хоць і тошна — расстаюся
І шырока разальюся.
— Ці не тошна табе, дзеўка,
З малойчыкам расставацца?
— Хоць і тошна, дык расстанусь,
Я й расстанусь — распрашчаюсь.

## 422. Бяжыць рэчка ад мельнічка, ой, рана!

Бяжыць рэчка ад мельнічка, ой, рана! *
А другая ад Дуная, ой, рана!
На той рэчцы човен плыве, ой, рана!
Бел маладзец красны Стасенька, ой, рана!
Стружа стрэлкі з каліанькі, ой, рана!
Што прасцейшы, ў човен кладзе, ой, рана!
Што крывейшы, на Дунай мяце, ой, рана!
Плыньце, стрэлкі, да мае дзеўкі, ой, рана!
Мая дзеўка крывічанка, ой, рана!
Мая дзеўка Касюленка, ой, рана!
Няхай прадзе на падаркі, ой, рана!
Няхай прадзе ценюсенька, ой, рана!
Няхай беліць белюсенька, ой, рана!

## 423. Да пакачу, пакачу




* Кожны радок паўтараецца.

Да пакачу, пакачу
Руцвяны вянок па сялу.
Дзе я яго спаганю?
Ў канапелькі на дварэ,
Ў канапелькі на дварэ
Да й у Волечкі на касе.
Волеччына касіца
Срэбрам, золатам абліта,
Срэбрам, золатам абліта,
Ужо Волечка запіта.

## 424. Пасу казу на лугу



Пасу казу на лугу,
Зачапіўшы за нагу. Оў!

А дзе браўся сівы воўк,
Схваціў казу, павалок. Оў!

Агледзеўся стары дзед,
Ажно ды яго казы нет. Оў!

Пайшоў дзедзька плачучы,
За ім каза скачучы. Оў!

Пастой, дзедзька, вярніся,
На хустачку, утрыся. Оў!

### 425. А я свайму міламу

А я свайму міламу, (2)
Дружку чарнабрываму

Шуця слова замовіла, (2)
Жаніцца пазволіла:

— Жанісь, жанісь, міленькі, (2)
Жанісь чарнабрывенькі.

Бяры жану лепшую —
Маю сястру меншую,
Тую разумнейшую.

Пярыны пуховыя, (2)
Дзяялы шаўковыя.

### 426. Пад дваракам арала






Пад дваракам арала, *
З саболем размаўляла.

— Ой, саболю, саболю,
Пагаворым з табою.

— Як будзем размаўляці,
Хочыць пан расстраляці,

Пану шубу пашыці,
Сабалём аблажыці.

Пашыць шубу дадолу,
Пагаворым з табою.

## 427. Ды што ў садзе ляleіцца




Ды што ў садзе ляleіцца,
Ці не бель там бяleіцца?

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Ой, не бель то бялеіцца,
Не макоўка чырванеіцца.

Дачка ў мамкі красуецца,
Па зялёным садзе ходзючы.

Па зялёным садзе ходзючы,
Чысту росу збіраючы.

Той расою умывалася,
Каб міломy падабалася.

Ой, не бель то бялеіцца,
Не макоўка чырванеіцца.

## 428. Бела, бела бярозачка




— Бела, бела бярозачка,
Не стой блізка пры дарозе,

Не стой блізка пры дарозе
Да не пускай карэненька,

І не пускай карэненька,
А да зямлі голленька.

Бо я к мамцы ў госці ісці буду,
Карэненька таптаць буду,

Карэненька таптаць буду,
А голленька ламаць буду.

— Маладая малодачка,
Не наракай ты на мяне,

[Не наракай ты на мяне],
Бо праклянеш сама сябе.

Крый жа божа мамка пампэ,
То й дарожка твая зарасце.

### 429. Ай, бяроза, бяроза

Ай, бяроза, бяроза,
Ай, бяроза, бяроза,
Ты не стой пры дарозе,
Ты не стой пры шырокай.
Як пайду я к татку ў госці,
Як пайду я к татку ў госці,
Я й карэннійка стапчу,
Я й і вецційка абламлю,
Я й і вецційка абламлю,
На бачкі раскідаю,
К татку ў госцікі зайду.
— А татухна мойродненькі,
Як тваё здароўейка?
— А дачушка мая родная,
А спасіба, мая дочанька.

### 430. Горкі палын у гародзе, ай



Горкі палын у гародзе, ай, *
А яшчэ гарчэй мне, малодзе.
Сама не знаю, што рабіці,
Ці замуж ісці, ці дзеўкай быці.
Ай, дзеўкай быці — людская мова,
А замуж зайсці — бальшое гора.

## 431. Выйду, выйду на ганечкі




Выйду, выйду на ганечкі
Да ўдару, ўдару ў ладонечкі
Да аб залатыя пярсцёначкі. **
Зачуў, забачыў мой свёкарка:
— Гордая й мая й нявехначка.
Яна куды йдзе — ў ладонькі б'е,
Яна ўсе пярсцёнкі паламала,
Яна ўсе ладонькі пазбівала.
— Горда й нягорда, мой свёкарка,
Да не ты гадаваў ладонечкі,
Не твой сын спраўляў пярсцёначкі.
Гадаваў ладонькі мой татачка,
Спраўляў пярсцёнкі мой братачка.

* Кожны радок паўтараецца.
** Далей кожны радок паўтараецца.

## 432. А выйду, выйду на вулачку




А выйду, выйду на вулачку, (2)
А стану, стану на ганачку, (2)
А ўдару, ўдару ў ладоначкі (2)
І аб залатыя пярсцёначкі. (2)
А як зачуіць мой свёкратка,
А як зачуіць няродны татка:
— Паціху, ціху, нявестачка, (2)
Паціху, ціху, дзіцятачка, (2)
Не пабі свае ладоначкі, (2)
Не паламай свае пярсцёначкі. (2)
— Не тваё дзела, мой свёкратка,
Не тваё дзела, няродны татка,
Не ты хаваў мне ладоначкі, (2)
Не твой сын спраўляў пярсцёначкі. (2)
І хаваў ладонкі мой татулька,
Хаваў ладонкі мой родненькі,
Спраўляў пярсцёнкі мой брацейка,
Спраўляў пярсцёнкі мой родненькі,
А не тут справіў — у горадзе, (2)
І аддаў насіці мне, моладзе. (2)

## 433. Не трапячыся, асінка






Не трапячыся, асінка,
Рана, рана, асінка.
Не горай табе, як і мне,
Рана, рана, як і мне.
Табе на горцы стоячы,
Рана, рана, стоячы,
А мне свякроўцы годзячы,
Рана, рана, годзячы.

## 434. А й вясна, вясна, вясеначка

А й вясна, вясна, вясеначка,
Вясеначка,
Не трапячыся ты, горкая,
Ты горкая.
А мне, малодзе, гарчэй цябе,
Гарчэй цябе.
Прыду дадому, мужык наб'е,
Мужык наб'е.
Свёкарка-татка, 'дбаронь мяне,
'Дбаронь мяне.
Свёкарка-татка не 'дбараняе,
Не 'дбараняе,
Бліжэй нагайку падкідае,
Падкідае,
Свайго сыночка навучае,
Навучае:
«Бі, мой сыночак, і навучай,
Навучай,
На свой абычай пераварачай,
Пераварачай.
Бі, мой сыночак, нагайкай,

Нагайкаю,
Штоб была жонка хазяйкай,
Хазяйкаю.
Бі, мой сыночак, дубінкай,
Дубінкаю,
Штоб была жонка да й жынкай».

## 435. Ой, скалыхніся высока




Ой, скалыхніся высока,
Ой, люлі-люлі, высока,
Каб я відзела далёка,
Ой, люлі-люлі, далёка
А дзе мой мілы гуляець,
Ой, люлі-люлі, гуляець.
Шаўковай хусткай махаець,
Ой, люлі-люлі, махаець,
Мяне, маладу, валаець,
Ой, люлі-люлі, валаець.

## 436. А ў борку, борку, пры борку



А ў борку, борку, пры борку
Вісіць калыска на шоўку.
А ў той калысцы нікога,
Толькі мой мілы, ля бога!
А ўскалыхніся высока,
Каб я відзела далёка.

## 437. Да й у барку й, у барку




Да й у барку й, у барку
Вісіць калыска на клянку,
А ў той калысцы малойчык,
Калыхалі яго два браты.
— Брацейкі мае родныя,
Калышыце мяне высока,
Калышыце мяне высока,
Ды каб я відзеў далёка,
Дзе мая дзевачка гуляе,
Вінным яблычкам пускае.
Вінным яблычкам пускае,
Шаўковай хустачкай махае
Да гарэшкамі цатуе,
З малойчыкамі жартуе:
— Што ж табе, малойчык, да таго:

Не з твайго саду яблычка,
Не з твайго саду яблычка,
Не з твайго куфра хустачка,
Не з твайго куфра хустачка,
Не з тваей пушчы гарэшкі.
З таткавага саду яблычка,
З мамчынага куфра хустачка,
З мамчынага куфра хустачка,
А з братняй пушчы гарэшкі.

## 438. У борку, борку ды пры борку

У борку, борку ды пры борку
Вісіць калыска на шоўку.

Ды ў той калысцы ды дзяціна,
Калыхалі яе два браткі.

— Калышэце мяне да высока,
Каб я мог угледзець ды далёка,

Калышэце мяне на ўвесь бор,
Там, дзе мая міла пахаджае,

Там, дзе мая міла пахаджае,
Шоўкаву хустачку вышывае.

Яна вышывае ды гафтуе,
Свайму міленькаму ды гатуе.

## 439. А ў чысценькім полі стаяла бяроза

А ў чысценькім полі стаяла бяроза,
А пад той бярозай вісіць калыбеля,
А ў той калыбелі калышуцца дзеўкі,
Калышуцца дзеўкі — красныя паненкі.
А я, маладая, туды паглядзела,
Туды паглядзела, гуляць захацела.
Пайшоў мяне татка адтуль праганяці,
Набіў мяне татка ды шаўковай пужкай.

А я з таго бою ні піла, ні ела,
Ні піла, ні ела — нядзелю хварэла.

А ў чысценькім полі стаяла бяроза,
А пад той бярозай вісіць калыбеля,
А ў той калыбелі калышуцца дзеўкі,
Калышуцца дзеўкі — красныя паненкі.
А я, маладая, туды паглядзела,
Туды паглядзела, гуляць захацела.
Пайшоў мяне мілы адтуль праганяці,
Набіў мяне мілы дубовым кіем.
А я з таго бою і піла, і ела,
І піла, і ела — ні дня не хварэла.

А ў чысценькім полі стаяла бяроза,
А пад той бярозай вісіць калыбеля,
А ў той калыбелі калышуцца дзеўкі,
Калышуцца дзеўкі — красныя паненкі.
А я, маладая, туды паглядзела,
Туды паглядзела, гуляць захацела.

## 440. Каціўся вугаль, каціўся




Каціўся вугаль, каціўся
Праз тры полі, чатыры,
Праз тры полі, чатыры,
Праз пятае балота,
Праз пятае балота
У свякроўчыны вароты.
А стань, вугаль, паслухай,
Што свякроўка гаворыць.
Гаворыць свякроў, гаворыць,
Што нявестка ляніва:

«Кужаль прала — драмала,
Кросны ткала — спаць легла».

Каціўся вугаль, каціўся
Праз тры полі, чатыры,
Праз тры полі, чатыры,
Праз пятае балота,
Праз пятае балота
У маміны вароты.
А стань, вугаль, паслухай,
Што мамачка гаворыць.
Гаворыць мамка, гаворыць,
Што дачушка рупніца:
«Кужаль прала — звінела,
Кросны ткала — ляшчэла».

## 441. Сядзелі бабы пад вакном

Сядзелі бабы пад вакном,
Прабівалі зямлю кулаком,
Пра нявестачак судзілі,
А дачушачак хвалілі:
«Мая дачушка — рабатушка,
Што ў бога дзень — то прасцень,
А нявестачка — гультайка,
У тры дні-два дні — і ручайка».

## 442. Ой, ў борку, борку, пры борку




Ой, ў борку, борку, пры борку
Робіць Яначка каморку.

Прыйшла да яго Галенка.
— Рабі каморку, Яначка!

Рабі каморку слізенька,
Пушчай аконца нізенька,

Каб салавейкі ляталі,
Нас, маладых, пабуджалі.

Наша свякроўка — не матка,
Не будзе рана будзіці,

Не будзе рана будзіці,
Выйдзе на вулку судзіці:

«Мая нявестка ляніва:
Сонца не зойдзе — спаць ляжа;

Сонца не зойдзе — спаць ляжа,
Сонца узыдзе — яна спіць;

Сонца узыдзе — яна спіць,
На пасту гоняць — не чуе;

На пасту гоняць — не чуе,
А з пасты гоняць — не відзіць.

Кудзельку прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула;

Красёнцы ткала — заснула,
Па воду пайшла — плакала.

Мая дачка — працавіта:
Кудзельку прала — звінела;

Кудзельку прала — звінела,
Красёнцы ткала — стучэла;

Красёнцы ткала — стучэла,
Па воду пайшла — пяяла».

## 443. Борка, борка, пры борку

Борка, борка, пры борку
Рабіў малойчык каморку
І з нізенькімі акнамі,
І з маленькімі вугламі.
Ішла дзевачка тудою.
— Божа да помач, малойчык,
Божа да помач, малойчык,
Каморку рабіць з акнамі,
Каморку рабіць з акнамі,
Каб салаўі прылятамі,
Каб салаўі прылятамі,
Нас, маладых, пабуджалі.
Нас матулечка не пабудзе,
Выйдзе на вулку — абсудзе:
«Лянiва нявестка, лянiва:
Кудзелечку прала — драмала,
Кудзелечку прала — драмала,
Красёнцы ткала — заснула,
Красёнцы ткала — заснула,
Прыехаў міленькі — не чула».

## 444. Рынулі рэкі, рынулі




Рынулі рэкі, рынулі
Аж да Ганначкі пад сені.

Там збіраліся малойцы,
Складалі грошы на танцы.

Адзін маладзец найбольш клаў,
Сабе дзяўчыну намаўляў:

— Ідзі, дзеванька, за мяне,
Будзеш маёю жаною,

Будзеш маёю жаною,
Маёй маценькі слугою,

Будзеш маценьцы služачка,
Мне, маладому, жоначка.

### 445. Плаваў чаўнічок




Плаваў чаўнічок
Па рэчцы, па рэчцы.
Ой, плакаў хлапец
Па дзеўцы, па дзеўцы:

— Не будзе дзеўкі —
Ўтаплюся, ўдаўлюся,
А не ўтаплюся —
Пайду павешуся.

Ой, павешуся
Ў гародзе ў бацвінні,
А не ў бацвінні —
То ў белай капусце.

А не ў бацвінні —
То ў белай капусце,
А не ў капусце —
На ядвабнай хустцы.

## 446. Плаваў чаўночак па рэчаццы




Плаваў чаўночак па рэчаццы, *
Плакаў малойчык па дзевацци:
— Бедная мая й галовачка,
Села ля мяне ўдовачка.
Ой, дзяру лычка з крапівачкі
Да й павешуся ля дзевачкі.

## 447. Плаваў чаўнок па рэчцы

Плаваў чаўнок па рэчцы,
Плакаў дзяцюк па дзеўцы.

* Кожны радок паўтараецца.

Здзёр лыка з крапівы
І павесіўся ў бацвінні,

Здзёр лыка із куста
І павесіўся ў капусце.

Ішла маці ліст ламаці,
Застала сына вісячы:

— Вісі, сыну, не вісі,
Ідзі дадому пад'ясі.

За якую прычыну,
За маладую дзяўчыну.

## 448. Ой, што на горке, ой, на гарэ

Ой, што на горке, ой, на гарэ,
Брава на гарэ.

Там стаяла,
Ой, там стаяла нова каравапь,
Нова каравапь.

Што некаму,
Што некаму на ёй паляжаць,
На ёй паляжаць:

Адна лягу,
Адна лягу, дзеўка, баюся,
Дзеўка, баюся,

З мілым лягу,
З мілым лягу, мілага стыджуся,
Мілага стыджусь.

Што мой мілы,
Што мой мілы ціха не ляжыць,
Ціха не ляжыць,

Хоча са мной,
Хоча са мной рэчы гаварыць.

## 449. Ой, выйду, выйду на вулачку




Ой, выйду, выйду на вулачку,
Ой, гляну ў сваю староначку. *

Я ж думала вутачка плывець,
Я ж думала шэрая плывець,

Аж там мая матулька ідзець,
Аж там мая родная ідзець.

Правай ручкай мамку вітала,
Левай ручкай слёзкі ўцірала.

— Дзіцятка маё дарагое,
Знаць, тваё жыццё гаратное.

Я ж думала шчасця дачдала,
Аж ты ў горачка ўпала.

Я ж цябе гадавала,
Сорак цёмных ночак не спала.

Сорак цёмных ночак не спала,
Сорак ясных свечак спалала.

---

* Кожная страфа паўтараецца.

## 450. Ляцелі гусі гагаючы




Ляцелі гусі гагаючы,
Адна другое пытаючы:
— Ой, дзе мы былі да й бывалі,
Такога сяла не відалі,
Ой, як то сяло а Олтуске,
Ой, як то сяло а Олтуске.
То там дзеванькі, як зоранькі,
То там маладцы, як панічы.
Ой, дзе мы былі да і бывалі,
Такога сяла не відалі,
Ой, як то сяло Арэхава,
Ой, як то сяло Арэхава.
То там дзяўчаты, як копыці,
То там малайцы, як конічы.

## 451. Ляцелі гускі радом, радом



Ляцелі гускі радом, радом,
Крыкнулі гускі разом, разом:
— І чаму, лясочак, не адзяешся,
І чаму, лясочак, не адзяешся,
І чаму, Іванька, не жэнішся,
Чаму, Іванька, не жэнішся?
— Як жа я магу жаніціся,
Як жа я магу жаніцісь:
І дзевачка мала, не вырасла,
Дзевачка мала, не вырасла.
І гуляць на вулку не выхадзіла,
Гуляць на вулку не выхадзіла,
І русае коскі не выплятала,
Русае коскі не выплятала.

## 452. Ляцелі гусі радком, радком

Ляцелі гусі радком, радком,
Крыкнулі гусі ладком, ладком.
— Чаго, Васілька, не жэнішся?
Будуць дзеці таткам звацъ:
«Хадзі, татка, вячэраці,
Матка вячэру наварыла,
Чужую казу падаіла,
Паставіла пад лаўкаю
І накінула караўкаю».

## 453. Ляцелі гусі рад по раду




Ляцелі гусі рад по раду,
Крыкнулі гусі раз по разу,

Крыкнулі гусі на хлопчыка: *
— Чаму ж ты, хлопчык, не жэнішся?
— Да як я маю жаніціся,
Калі майму бацьку шкода стала.
Ой, чмялі ў хмялі гняздо звілі,
Да куры солад паклявалі,
Да хлопцы дзевак разабралі.
— Да едзь ты, хлопчык, у мясцечка,
Там табе дзевачка-мяшчаначка,
У каморы спала, рана ўстала.

## 454. Ляцелі гусі радам, радам




Ляцелі гусі радам, радам, **
Крыкнулі гусі разам, разам:
— Чаму, лясочак, не дзяешся,
Чаму, Толічак, не жэнішся?
— А як я маю жаніціся,
Мая ж дзевачка не вырасла,
А русы коскі не выплела,
А красенцы не выткала
І тонкай кашулькі не вышыла.

---

* Далей кожны радок паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

## 455. Чаму, лясочак, не 'дзяешся




## 456. Я паўз тын хаджу, сон-драмон саджу

— Я паўз тын хаджу, сон-драмон саджу,
Я ў цябе, татачка, халастой хаджу.
— Жанісь, сыначка, жанісь, родненькі,
Ты бяры сабе доч купецкую.
— Доч купецкая не мая жана, не твая слуга.
— Ты бяры сабе доч мяшчанскую.
— Доч мяшчанская не мая жана, не твая слуга.
— Ты бяры сабе доч мужыцкую.
— Доч мужыцкая то мая жана і твая слуга.

## 457. Ой, маці, маці, я замуж хочу!

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, пасеем лёну.

— Ой, маці, маці, далёка ждаці,
Маці, маці, я замуж хочу.
— Падажджы, доню, узыйдзе лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, пабярэм лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, палажыць лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, патрэм лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, патрэплем лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, пачэшам лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, папрадом лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу.
— Падажджы, доню, аснуём лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, патком лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, пабелім лён.

— Ой, маці, маці, я замуж хочу!
— Падажджы, доню, павяжам лёнам.

## 458. На рэчаццы на быстранькай

На рэчаццы на быстранькай,
На быстранькай,
На кладаццы на гібенькай,
На гібенькай,
Там сіротачка бель бяліла,
Бель бяліла,
Прыйшла дадому — маці біла,
Маці біла.
— Бі мяне, мамка, карай мяне,
Карай мяне,
Прыдзе нядзелька — аддай мяне.

## 459. Пад гаем, гаем зялёненькім

Пад гаем, гаем зялёненькім, *
Там дзве дзяўчыны лён палолі,

* Кожны радок паўтараецца. Пры гэтым у другім радку апошні склад усякаецца.

Туды ехалі два малойцы.
— А бог у помач, дзве дзяўчыны.
А багатая прамаўчала,
А бядненькая прамовіла:
— А на здароўе, два двараніны,
А на здароўе, два маладыя.
Паехалі малойцы гаворачы:
— Як будзеш, брацец, жаніцціся,
Не бяры, брацец, багатую,
А бяры, брацец, бядненькую.
А багатая ёсць гордая,
А бядненькая — размовачка.
Сталі бедную сваты сватаць,
А як зачула багатая:
— Падушкі мае пуховыя,
Ці вамі горы параўнаваці.
Пасцілкі мае бялёвыя,
Ці вамі лугі пазасцілаці.
Пярсцёнкі мае залатыя,
Ці вамі коні падкаваці.

## 460. На вуліцы на шырокай

На вуліцы на шырокай
Там гуляла дзве дзяўчынкі.
Адна дзяўчонка багатырка,
А другая сірацінка.
Тудой ехаў пан царэвіч,
Пан царэвіч, каралевіч.
Адна дзяўчынка схінулася,
А другая усміхнулася.
Што сірацінка — схінулася,
[Што багатырка — усміхнулася].
Пан сірацінку з сабой узяў,
А багатую павек праклаў.
Багатырка праклялася:
— Нашто я, малада, смяялася?
Скацеркі мае бірчастыя,
Ці вамі горы засцілаці,
Калі не хочуць замуж браці?
А рушнікі мае кружковыя,
Ці вамі дуб'е абвіваці,

Калі не хочуць замуж браці?
Наметкі мае жанковыя,
Ці вамі бярозкі увіваці,
Калі не хочуць замуж браці?

## 461. Ой, там на моры на сіняму

Ой, там на моры на сіняму
Ніцыя лозы хіляліся, хіляліся,
Ой, там два браткі змаўляліся.
Ой, адзін братка каня сядлае,
А другі братка навучае:
— Не бяры, братка, багатую,
Да вазьмі, братка, убогую.
Ой, багатая пышна ходзіць,
А убогая дзела робіць.
Пачула тое багатая,
Узяла баршэнне ў ахапак.
— Падаркі ж мае таненькія,
Рушнічкі ж мае бяленькія,
Ці мне вамі горы высцілаці,
Ці мне дуброві даравацi?
Не хочуць людзі мяне браці.

## 462. Каліна! Пры дарозе, пры шырокай

Каліна! Пры дарозе, пры шырокай, каліна!
Каліна! Дзве дзяўчыны лён палолі, каліна!
Каліна! Там ехалі два дваранiны, каліна!
Каліна! — Памагай бог вам, дзве дзяўчыны, каліна!
Каліна! Сіротачка акланілася, каліна!
Каліна! Багатырачка не схілілася, каліна!
Каліна! Сіротачку з сабою ўзялі, каліна!
Каліна! Багатырачку пакінулі, каліна!
Каліна! Багатырачка забедавала, каліна!
Каліна! Што яна ужо заначавала, каліна!
Каліна! — Паяскі ж мае шаўковыя, каліна!
Каліна! А дзе ж я вас дзяваць буду? Каліна!
Каліна! Ці конікаў ляйцаць буду? Каліна!
Каліна! Дыванкі ж мае загранічныя, каліна!
Каліна! А дзе ж я вас дзяваць буду, каліна!

Каліна! Ці конікаў накрываць буду? Каліна!
Каліна! Пярсцёнкі ж мае залатыя, каліна!
Каліна! А дзе ж я вас буду дзяваць? Каліна!
Каліна! Ці конікаў буду каваць? Каліна!

## 463. Ай, вясна красна, дзень цёпленькі




Ай, вясна красна, дзень цёпленькі.*
Плыла вутачка й ракой, ракой,
Вяла дзетачак з сабой, з сабой.
Прыплываючы к беражочку,
К зялёненькаму й муражочку,
Сваім дзетачкам гаварыла:
— Сядзьце, дзетачкі, пасядзіце,
Зялёную траўку паскубіце,
А я палячу к мамцы ў госці.
А я ляцела не даляцела,
У вакеначка паглядзела,
Я ж мамкі не дагнала,
Я сваіх дзетак пагубляла.
Дзетачкі мае драбненькія,
Служачкі мае вярненькія,
Я ж вас насіла і галасіла,
Я ж вас насіла й галасіла,
Я ж вас раджала й умірала,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Я ж цёмнай ночкі не даспала,
З пачупак ножак не вынімала.

### 464. А вясна красна наставала

А вясна красна наставала,
Сястра брата ў госці звала:
— Прыедзь, прыедзь, мой братулька,
Прыедзь, прыедзь, мой родненькі,
Майго ж мужа дома няма,
Як дзень, так ноч рабатае,
Па сто рублей зарабляе.
Стуке, груке ў вароцікі,
Стуке, груке ў цясовыя.
«Атварыся, жонка мая,
Атварыся, маладая».
А я ж яго не пазнала,
Толькі знала па рубашцы:
Дзеўкай была — вышывала,
Замуж ішла — даравала.

### 465. Вясна красна ў вочкі лезіць

Вясна красна ў вочкі лезіць,
Мой брацітка ў госцікі едзіць.

— А вярніся, мой браточак,
А вярніся, сакалочак,

А вазьмі ты маё гора,
А вазьмі ж ты ў чыста поле.

Пасей гора пры дарозе,
Прыкажы ты сваім дзеўкам,

Каб не хадзілі ў чыста поле,
Не красілі майго гора,

З яго цвятоў не зрывалі,
Сабе вянкоў не ўвівалі.

## 466. Ой, дуб дуброве даўно кажа




Ой, дуб дуброве даўно кажа:*
— Не спадзявайся, дубровачка,
З мяне лісту шырокага
І карэннейка глыбокага.
Дзяцінка кажа свайму татку:
— Не спадзявайся, мой татачка,
З чужога сяла нявехначку.
Ёсць каля боку суседачка,
Яна будзе твая нявехначка.
Яна ж будзе табе пасцель слаці,
Яна будзе цябе таткам зваці.
Пасцельку бялюсеньку,
А будзе таткам зваць ціхусенька.

## 467. Да што там у стайні стучэла

Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды ты, сынку, паедзеш,
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Не едзь, сынку, у мястэчка,
Бо там дзевачкі лянівы:

* Кожны радок паўтараецца.

Высока ржышчы зжынаюць,
А рэдка копы стаўляюць.

Да што там у стайні стучэла?
Звінела кола, звінела.
Малады Янка каня сядлае,
Яго татачка пытае:
— Куды, сынку, паедзеш,
Ці ў вёску, ці ў мястэчка?
Да едзь, сынку, у вёску,
Там дзевачкі рабочы:
Нізка ржышча зжынаюць,
Густа копы стаўляюць.

## 468. А ў гародзе на калапеньцы

А ў гародзе на калапеньцы *
Шэра зязюля кукавала,
А й кукавала, праўду казала,
Што на базары дзешава стала.
Нашы мальчыкі падзешавелі,
А за мальчыкаў капейку далі:
А як за Йваньку капеечку,
А за Сцяпаньку тры грошы далі,
А як Колечку дарма не хочуць.
А ў гародзе на калапеньцы
Шэра зязюля кукавала,
А кукавала, праўду казала —
Нашы дзевачкі падаражэлі:
А за Анічку сто рублей далі,
А за Тамарку тры тысячы,
А за Волечку не лічучы.

## 469. Над ракою верба

Над ракою верба,
Пад тою вярбою
Лютарка сядзела,
Таргі таргавала.

* Кожны радок паўтараецца.

А што ў таргу дзёшава?
Дзёшавы ў таргу хлопцы:
На шэлег па дзесяць,
Купёмшы павесіць.

Над ракою верба,
Пад тою вярбою
Лютарка сядзела,
Таргі таргавала.
А што ў таргу дарага?
Дарагі ў таргу дзеўкі:
Па сто рублей дзеўка,
Па тысячы каса,
Па чырвонцу краса.

## 470. Ой, дуброўная зязюлечка




Ой, дуброўная зязюлечка,
Ой, не куй рана на дуброве,
На дуброве.
Не будзі мяне, маладой,
Маладое.
У мяне, маладое, не свой бацька,
Не свой бацька,

Ой, не свой бацька, да свёкарка,
Да свёкарка.
Паложыць мяне пазней сябе,
Пазней сябе,
А ўзбудзіць мяне раней сябе,
Раней сябе:
— Уставай, нявехна маладая,
Маладая.
Ужо пастушочкі паўганялі,
Паўганялі.
А вазуночкі паўязджалі,
Паўязджалі,
А касарыкі пакасілі
На сенажаці,
Мая нявестка ў караваці,
У караваці.
Я, маладая, ўсхвацілася,
Усхвацілася,
За даёначку ўхвацілася,
Ўхвацілася.
Шчэ й пастушочкі не ўганялі,
Не ўганялі,
А вазуночкі не ўязджалі,
Не ўязджалі.
А касарыкі не касілі,
Не касілі,
Майго свёкарку чэрці ўзнасілі,
Узнасілі,
Па лозах косці разнасілі,
Разнасілі,
А свякрухначку задушылі,
Задушылі,
Мяне, маладую, на волю пусцілі.

## 471. Ой ты, зязюлька баравая

Ой ты, зязюлька баравая,
Ой, не куй рана на дуброве,
Ой, не будзі мяне, маладую,
У мяне, маладое, не свой бацька,
Не свой бацька, чужа маці,
Кладуць мяне позна спаці.

Ой, кладуць мяне пазнесенька,
А будзяць ранесенька:
— Уставай, нявехна, чужо дзіця,
Бо ужо таварац паўганялі,
Ужо таварац паўганялі,
А касарыкі на дуброве,
А ратаікі ў чыстым полі,
А мая нявехна спіць у каморы.
— Шчэ й таварац не ўганялі,
Ратаікі не аралі,
А касарыкі не касілі,
А маю свякруху чэрці насілі.

## 472. Як у новенькім калодзезьку




Як у новенькім калодзезьку, *
Там дзяўчына ваду чэрпала,
Зачэрпнуўшы, да й паставіла,
Паставіўшы, думу думала:
«Бог таму даў, у каго ацец, мацяр.
У мяне, млодай, ліха мачаха.
А шлець мяне ў вісок цяром,
У вісок цяром белы ложы слаць».
Слала дзеўка дзень да вечара.
Ўжо на дварэ пад абед сонца,
Красны дзеўкі з церама няма.
Ўжо на дварэ петухі пяюць,
Краснай дзеўкі з церама не чуць.
Ўжо на дварэ пад паўдзён сонца,
Красна дзеўка з церама ідзець.

* Кожны радок паўтараецца.

За ёй едзе два малойчыкі,
Два малойчыкі — папоўчыкі.
Досыць мачасе здзекацiся,
З краснай дзеўкі насміхацiся.

## 473. Пагонім, дзевачкі, кароўачкі




Пагонім, дзевачкі, кароўачкі, (2)
Пагонім кароўкі ля дуброўкі.
Воўк з-за дуброўкі ды за кароўкі! (3)

Пагонім, дзевачкі, авечкі, (2)
Пагонім авечкі ля рэчкі.
Воўк із-за грэчкі ды за авечкі! (3)

Пагонім, дзевачкі, мы свіначкі, (2)
Пагонім свінкі каля асінкі.
Воўк з-за асінкі ды за свінкі! (3)

## 474. А нуце, нуце, кароўачкі






А нуце, нуце, каровачкі, *
Пара вам будзе дамовачкі.
Ой, напіліся, наеліся,
Ідуць дамоўкі, як трубачкі,
Нясуць малачка, як дудачкі,
Даюць малачка даёначку.
Кароўка рыча — вясну кліча,
Волік рыкае — ён гукае:
— Лушча мне ў лесе на верасе,
Чымся ў доме на саломе.
Лучша мне ў лесе пад елкаю,
Чымся мне ў доме пад сценкаю.

## 475. А нуце, нуце, каровачкі




* Кожны радок паўтараецца.

А нуце, нуце, кароваччкі,
Кароваччкі,
Пара вам будзе дамовачкі,
Дамовачкі.
А напіліся, наеліся,
Наеліся.
А наеліся муражочку,
Муражочку.
А напіліся у лужочку,
У лужочку.
Ідуць дамоўкі мукаючы,
Мукаючы,
Гаспадынечак гукаючы,
Гукаючы.
А гаспадынькі-паненачкі,
Паненачкі.
А бярыце ж вы даёначкі,
Даёначкі.
Ідзіце даіць каровачак.

## 476. Ідзіце, дзевачкі, ярду рваці




Ідзіце, дзевачкі, ярду рваці,
Цяжка хлопчыкам Пятра ждаці.
Да й дзень вялікі — хлеба мала — (2)
Не свая мамка мне давала. (2)
Свёкарка рэзаў, руку 'дрэзаў,
Свякруха вярцела, каб адляцела.
Да й за гарою воўкі вылі,
За камянаю воўкі вылі,
Там майго свёкру задавілі. (2)
Я ж маладая бараніла. (2)

Да яшчэ ж болей наманіла. (2)
Цягалі шкуру, цягніце косці,
Было ж не сушыць маладосці.
Не трапячыся й, асіначка,
У цёмным лузе ты стоячы,
Шырокім лістам калоцячы. (2)
Да й мне ж, моладзе, горай цябе,
Мужык не любе, штодзень б'е.
— Свёкарка-татка, баронь мяне. (2)
Свёкар не татка, не бароне,
Сыну нагайку падкідае.
— Бі ж, мой сыночак, бі, навучай,
На свой характер наварачай.
Калі ж будзеш біці, будзеш жыці.
Бі, мой сыночак, нагайкай,
Тады здзелаеш хадзяйкаю,
Тады здзелаеш хадзяйкай.

## 477. У бару зязюлька кукавала

У бару зязюлька кукавала, *
Па мне родна мамка бедавала.
— Не аддай мяне, мамка, за старога:
Я са старым ночку начавала,
Як за гнілой калодаю паляжала.
Аддай мяне, мамка, за роўніцу:
Я з роўніцай ночку начавала,
Як салавей у садочку шчабятала.

## 478. Хто майго міленькага судзіць

Хто майго міленькага судзіць,
Што ён мяне раненька не будзіць.
Сам ідзе да й у поле гараці,
Мне вяліць да абеда паспаці:
— Спі й, спі й, мая міла, здарова,
Штоб не балела галованька твоя.

---

* Кожны радок паўтараецца.

— Балела, мілы, сярдэчка балела,
Не судзіў мне бог, за каго хацела.
Хацела я за князя маладога,
Аддалі мяне за дзеда старога.
Ты, стары, ліха мацеры тваей,
Не лягжы ж у пасцеленцы маей.
Мая пасцель шоўкам вышывана,
А твая кашуля сем нядзель не прана.
Ты, стары, з вялікаю барадою,
Не хадзі за мною, маладою.
Як ты будзеш за мною хадзіці,
То вялю хлопцам бараду агаліці,
Як ты будзеш за мною пахаджаці,
То вялю хлопцам бараду абарваці.

## 479. Овыль каля садзіку

Овыль каля садзіку
Красачкі цвітуць,
Ў сярэдзіне садзіку
Пташачкі пяюць,
А мне, маладзёшанькай,
Тугі задаюць.
Туга за тугою,
Журба за журбою,
Аддаў мяне бацька
Далёка замуж.
Не так далёка,
Як за старога.
Не ўладжу старому
Пасцелькі паслаць.
Сцялю, сцялю мякка,
Кажыць — мулка спаць.
Бог дай цябе, стары,
Пераламіла,
Як я табе, молада,
Не ўнаравіла.

## 480. Кукарэку пятух, кукарэку




Кукарэку пятух, кукарэку,
Пераваліўсь зелен дуб цераз рэку.
А ніхто ж тама да не ходзіць,
Толькі Архіп Рыпіначку пераводзіць.
Пераводзіць, душа, пераводзіць,
Перавёўшы, душа, пацалуець.
— Ай, радзі мне сыночка-пісарочка,
Ай, радзі мне дачушку-вышыванку.
— Ай, сыночак будзець пісарочак,
А дачушачка будзець вышыванка.

## 481. Кукарэку петушок, кукарэку



Кукарэку петушок, кукарэку,
Кукарэку, душа, кукарэку,
Паляцеў зелен дуб цераз рэку,
Ай, цераз рэку, душа, цераз рэку.
Што на том жа на дубочку да ніхто ўсё не ходзіць,
Усё не ходзіць, душа, ўсё не ходзіць.
Адзін, адзін Архіпачка пераходзіць,
Пераходзіць, душа, пераходзіць.
Сваю, сваю Рыпінaчку пераводзіць,
Пераводзіць, душа, пераводзіць.
Хадзі, хадзі, Рыпінaчка, не шатайся,
Не шатайся, душа, не шатайся,
За правую ручаньку не хватайся,
Не хватайся, душа, не хватайся,
Калі родзіш сына-пісарочка,
Пісарочка, душа, пісарочка.
Калі родзіш дочку-пабіранку,
Пабіранку, душа, пабіранку.

## 482. Кукарэку петушок, кукарэку






Кукарэку петушок, кукарэку,
Кукарэку,
Паваліўся сыры дуб цераз рэку,
Цераз рэку.
А хто ж па тым па дубочку пераходзіць,
Пераходзіць?
Іванечка Ніначку пераводзіць,
Пераводзіць.
Ляжы, ляжы, сыры дуб, не шатайся,
Не шатайся,
Хадзі, хадзі, Ніначка, не пужайся,
Не пужайся.
Ляжы, ляжы, сыры дуб, не валіся,
Не валіся.
Хадзі, хадзі, Ніначка, не ўваліся,
Не ўваліся.

### 483. Зязюлечка баравая

— Зязюлечка баравая,
Дзе ж ты ночку начавала?
Зязюлечка баравая,
Дзе ж ты ночку начавала.
— Адну ночку — на дубочку, *
А другую — на бярозе.
А там ішлі скамарохі,

* Далей кожны радок паўтараецца.

Адрэзалі па пруточку
Ды й зрабілі павучочка.
«Павучочак, не гудзі ж ты,
Шэрай зязюлькі не будзі ж ты».

## 484. Ой ты, жаваронку




— Ой ты, жаваронку,
Ранняя пташэчку,
Ой, чаго так рана
Із выраю выйшаў?

— Не сам жа я выйшаў —
У мяне пташкі былі,
У мяне пташкі былі,
З выраю ганілі.

— Ляці, жаваронку,
У сваю старонку,
Ой, дзе ты радзіўся,
Там корчык свяціўся.

Там табе вадзіца
Па самы крыліца,
Там табе травіца
Па самы калення.

## 485. Пасею я руту




Пасею я руту,
Руту за ракою,
Пасаджу дзярэўка *
За морам блізенька.

Мая рута ўзыйшла,
Зеллечкам парасла,
Час руту палоці,
Вярхі пазжынаці.

Пара пазжынаці,
У вяночак віці,
У вяночак віці,
На Дунай пусціці.

---

* Два апошнія радкі кожнай страфы паўтараюцца.

Хто вяночак пойме,
Той дзеванньку возьме,
Хто вянок дастане,
То той маім стане.

Абяшчаўся Міша
Вяночак паняці,
Вяночак паняці
І дзеваньку ўзяці.

Як ступіў нагою —
Па пояс вадою,
Як ступіў другою —
На дно галавою.

Ой ты, мой Дунаю,
Ой ты, ціхесенькі,
Прападае хлопец,
Хлопец маладзенькі.

Ой ты, дзяўчынонька,
Бадай, не даждала,
Ой, нашто ты хлопца
Ўзяла змарнавала.

## 486. Хадзіла Захвейка

Хадзіла Захвейка
Па новым гародзе,*

Іскала градку,
Пасеяла мятку,

Іскала другу,
Пасеяла руту,

Іскала трэцю,
Пасеяла перцу.

Села апалола,
Стала нашчыпала

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

I вяночка звіла,
На Дунай пусціла.

На Дунай пусціла
Ды загаварыла:

— Хто вяночка пойме,
Той Захвейку возьме!

Выходзіць із хаты
Мешчанін багаты:

— Я вяночка пайму
І Захвейку вазьму!

Уступіў нагою —
Па пояс з вадою,

Уступіў другою —
На дно з галавою.

— А ў моры крамушкі,
То мае падушкі!

А ў моры лілея,
То мая Захвея!

## 487. Ляцелі гусёлкі




Ляцелі гусёлкі
Цераз мой садочак. *

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

А то не гусёлкі,
То сівы зязюлькі.

Ляціце, зязюлькі,
Да маёй матулькі,

Да маёй матулькі
На цясовы ложкі,

На цясовы ложкі,
На белы падушкі.

## 488. Хадзіла павонька




Хадзіла павонька
Па высокай гарэ, *

Губляла пер'ечка
Па шаўковай траве.

Хадзіла Алеська
Пер'ечка збіраці,

Пер'ечка збірала,
Ў падушачкі клала.

Падушкі пуховы,
Хто на іх спаць будзе?

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Пан із паненкаю,
Месяц із зоркаю,

Месяц із зоркаю,
Йванька з Алеськаю.

### 489. Чэраз тое сельца

[Allegro]




Чэраз тое сельца
Вязёна дзярэўца. *

Я з таго дзярэўца
Свяцёлку збудую,

Свяцёлку збудую,
Наўкола ўмалюю.

Ой, вымалювала
Тры месяцы ясных,

Тры месяцы ясных,
Тры малойцы красных.

Ой, вымалювала
Тры зоранькі ясных,

Тры зоранькі ясных,
Тры дзеванькі красных.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

## 490. Стаіць вярба у канцы сяла




Стаіць вярба у канцы сяла. *
На той вярбе галлячко гнецца.
Няхай гнецца, хоць паломіцца.
— Дзяўчынанька маладзенькая,
А за цябе малайцы б'юцца!
— Няхай б'юцца, забіваюцца,
Я не пайду за ніводнага —
За пісара пісарэцкага,
За малайца маладзецкага!

## 491. Ой, чыронька пташэчка




---

* Кожны радок паўтараецца.




Ой, чыронька пташэчка,
Ды не залетай далечко.
Не занось майго венчыка,
Бо мой венчык патрэбчык:

Трэба братку жаніці,
А сястру замуж аддаці,
А сястру замуж аддаць
Да на вяселлейка прахаць.

## 492. Чаго вясна на ніз пайшла




Чаго вясна на ніз пайшла —
Што скрутыя горы.
Зачэм дзеўка замуж пайшла —
Што чорныя бровы.

Бровы мае, браваняты,
Прапала я з вамі,
Нельга выйці на вуліцу
Да й за варагамі.

Варожачкі спаць палягуць,
Пайду пагуляю.
Спаць палягуць не палягуць,
Так не будуць спаці,

Будуць мяне, маладую,
Ўсю ноч вартаваці,
Будуць мяне вартаваці,
З кім буду гуляці.

## 493. Чаго вясна на лес пайшла



Чаго вясна на лес пайшла —
Што крутыя горы,
Што крутыя горы.

Чаго дзеўка замуж пайшла —
Што чорныя бровы,
Што чорныя бровы.

Бровы мае чорненькія,
Гора мне і з вамі,
Гора мне і з вамі,

Нельга выйсці на вуліцу
Ўсё й за варагамі,
Ўсё й за варагамі.

Варажочкі варажылі,
Седзя пад гарой,
Седзя пад гарой.

Варожачкі спаць палягуць,
Пойдам пагуляем,
Пойдам пагуляем.

## 494. Ой, у лузе, ой, у лузе

Andante






Ой, у лузе, ой, у лузе
Трава палягла.

Трава палягла,
Ой, да мяне, маладзеньку,
Журба абняла,

Журба абняла.
Ой, як засну, так забуду,
Прачнуся — на ўме.

Прачнуся — на ўме.
Ой, е ў мяне мой братачка
Ў чужой старане.

У чужой старане
Ён жа седзявячы да ці
Мяне ўспамяне,

Мяне ўспамяне.
— Ой, вячэрай, мой братачко,
Вячэрала я.

Вячэрала я,
Да ела горку калiначку,
Што ў лузе цвiла,

Што ў лузе цвiла.
Да каму горка калiначка,
А мне салодка.

А мне салодка.
Да каму ж блiзка радзiмачка.
Мне далёка.

## 495. Йдуць кароўкі із дуброўкі




Йдуць кароўкі із дуброўкі,
Авечачкі з поля,
Плача маці па дзіцяці,
Што горкая доля.

## 496. А ўсе людзі жыта сеюць



А ўсе людзі жыта сеюць,
А я саваё гора.
Ой-ой, а я сваё гора.

А ўсе людзі з севялочка,
А я з падалочка.
Ой-ой, а я з падалочка.

А ўсе людзі бога просяць,
Каб жыта радзіла.
Ой-ой, каб жыта радзіла.

А я прашу, штоб у мяне
Гора не ўсхадзіла.
Ой-ой, гора не ўсхадзіла.

Хоць узойдзе маё гора
Рэдкімі ўсходамі.
Ой-ой, рэдкімі ўсходамі.

Зацвіце ж маё гора
Рознымі цвятамі.
Ой-ой, рознымі цвятамі.

А ўсе цвяты — пустацветы,
Адзін васілёчак.
Ой-ой, адзін васілёчак.

А ўсе людзі мне не мілы —
Адзін мой дружочак.
Ой-ой, адзін мой дружочак.

## 497. Што тая бедная удованька дзее

Што тая бедная удованька дзее:
Не арана поле — пшанічаньку сее.

А пасеяўшы, стала яна валачыці,
А павалачыўшы, стала бога прасіці:

— Зарадзі, божа, пшанічаньку ў полі
На ўдовіна шчасце, на сірацінную долю.

Яшчэ тая ўдованька дахаты не зайшла,
А ўжо яе пшанічанька ўзышла.

Пайшла тая ўдованька пшанічку глядзеці,
А ўжо вывела перапёлачка дзеці.

Божа, дай таму тры леці хварэці,
Хто забраў перапёлачкі дзеці.

## 498. Раскідайся, сыры дубе




Раскідайся, сыры дубе,
На чатыры лісты.

На чатыры лісты.
Любіў парань трох дзяўчонак,
Ён не меў карысці.

Ён не меў карысці.
Адна ўвосень замуж выйшла,
Другая вясною.

Другая вясною.
А трэцяя чарнаброва
У чарнушачкі выйшла.

У чарнушачкі выйшла.
А з чарнушачак прыйшоўшы,
Ах, божа ж мой мілы.

Ах, божа ж мой мілы.
Астаецца дзеравушка,
Дружочак чарнабровы.

Дружочак чарнабровы.
Каб жа да маладзюсенькай
Зязюліна крылле,

Зязюліна крылле,
Я бы тую дзеравушку
Вакруг аблятала.

## 499. А у полі два дубочкі



А у полі два дубочкі
Аж да долу гнуцца.
Маладыя малойчыкі
За дзевачку б'юцца.

Пабіліся, падраліся
І пайшлі да пана.
Адзін стаіць перад панам,
Сыпле дукатамі.

Адзін стаіць перад панам,
Сыпле дукатамі,
Другі стаіць за плячыма,
Абліўся слязамі:

— Бадай табе, пане-браце,
Дукатаў не стала,
Як мы з ёю любіліся,
А на тваім стала!

Харошая дзяўчыначка,
Аддай мае грошы,
Ты ж судзіла, гаварыла,
Што я нехарошы!

Харошая дзяўчыначка,
Аддай чаравічкі,
Ты ж судзіла, гаварыла,
Што я невялічкі!

— Я й судзіла, й гаварыла
І гаварыць буду:
Ой, такі ж я, маладзенька,
Жыць з табой не буду!

## 500. А белая бярозачка ваду замуціла




А белая бярозачка ваду замуціла, *
Няшчасная мая доля — замуж пакруціла.

* Кожны радок паўтараецца.

Ні я ў мамкі ўпіла, ўела, ні добра ўхадзіла,
Толькі свае маладыя годы патрацiла.
А ёсць ў майго татулечкі коні вараныя,
А сяду ж я даганяці годы маладыя.
— Не едзь, не едзь, дачушка, не едзь, не дагоніш,
Толькі мае вараныя коні перагоніш.
Я й конікаў перагнала, годы не дагнала,
Я й конікаў замарыла — свякроў угнявіла.

## 501. Кукавала зязюлечка




Кукавала зязюлечка
На захадзе сонца, *

Заплакала дзяўчынінка,
Глядзела ў ваконца.

— Чаму мяне, мамулечка,
Тады не будзіла,

Як першая кампанія
На двор усхадзіла?

* Кожная страфа паўтараецца.

— Ай, жалела, маё дзетка,
Я й цябе будзіці.

— Цяпер жалей мяне, мамка,
Як я буду жыці.

Па вуліцы па мяцёнай
Дзяўчына гуляла,

Хацеў казак зачапіці,
Мамулька стаяла.

— Мамулечка раднюсенькая,
Не паглядай крыва,

Да няпраўда твая будзець,
Каб ты нас разлучыла.

## 502. Ужэ ж вясна, ужэ ж красна



Ужэ ж вясна, ужэ ж красна,
Зу стрэх вада льецца, *

Ой, за нашую дзяўчынку
Два хлопчыкі б'ецца.

— Не бейцеся, не сварыцесь,
Я ж вас бо двох люблю.

Ох, аднаму ручку падам,
За другога пойду.

### 503. Ой, ужэ вясна да й ускрэсла

Ой, ужэ вясна да й ускрэсла,
Із стрэх вада капле,
Да й із стрэх вада капле.

Ой, ужэ нашым да й рыбачанькам
Мандруванька пахне,
Да й мандруванька пахне.

Ой, паплыў човен, ой, паплыў човен,
Бадай не схібнуўся,
Да й бадай не схібнуўся.

Ой, паехаў мілы, галубчык шчыры,
Штоб шчасліва вярнуўся,
Да й штоб шчасліва вярнуўся.

### 504. А вясна красна

А вясна красна — **
Красенца ткаць,

Цёплае лецейка —
Жытца жаць,

А восень жалобна —
Картошку капаць.

---

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца тры разы.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

## 505. Эх, весяліцеся, ох да




Эх, весяліцеся, ох да,
Ой, да вы падружкі,
Ой, да вы мае.

Ох, да мае.
Ох, весяліцеся, ох да,
Ой, да скора к нам
Вясна прыдзе.

Вясна прыдзе.
Ой, да скора к нам, эх да,

Вясна прыдзе,
Сонца прыгрэе.

Сонца прыгрэе.
Ой, да ўжо згоніць, эх да,
Ой, да ўжо згоніць
Снежкі й мароз.

## 506. Кукай не кукай, зязюля




Кукай не кукай, зязюля,
Кукай не кукай, серая,
Нямножка табе кукаваць,
Нямножка табе кукаваць:
Ад вялікадня, ой, да Пятра,
Ад вялікадня ды да Пятра,
Ой, ад чыстага чацвярга,
Ой, ад чыстага чацвярга.

## 507. Да зязюля куе

Да зязюля куе,
Што дзяцей не мае.
Салавей шчабеча,
Дружыну збірае.
— Ці ты, салавейка,
Ці ты любіш лозу,
Ці ты любіш лозу,
Ці белу бярозу?
— Я не люблю лозу,
Ні белу бярозу:
Як сяду высока,

То чутно далёка;
Як сяду нізенька,
То чутно блізенька.

## 508. Чаму, зязюлька, не кукуеш

Чаму, зязюлька, не кукуеш?
А прыдзець летца ды мінецца,
Тваё гняздзечка разаўецца,
Тваё яйка разаб'ецца,
Твае дзеткі разляцяцца.

## 509. Шлі пажары па дуброве

Шлі пажары па дуброве,
Эй, па дуброве.
Салаўёва гняздзечка,
Ой, абсмаляла.
Як паляцеў салавейка,
Ой, да сінічкі.
— Ой, сінічка-сястрычка,
Ой, падай раду.
— Ці я табе не казала,
Ой, мой браточак.
Ды не ві ж ты гняздзечка,
Ой, пры дарозе,
А саві ж ты гняздзечка,
Ой, ў цёмным лузе,
Дзе канюшкі пастушкі,
Ой, не ганяюць,
Салаўёвага гняздзечка
Ой, не шукаюць.

## 510. Кукавала зязюлька ў садочку






Кукавала зязюлька ў садочку,
Ай, божа мой, божа, ў садочку,

Прылажыўшы галоўку к лісточку,
Ай, божа мой, божа, к лісточку:

— А хто ж маё гняздзечка разаўець,
Ай, божа мой, божа, разаўець?

А хто ж маіх дзетачак пабярэць,
Ай, божа мой, божа, пабярэць?

— А разаўець гняздзечка салавей,
Ай, божа мой, божа, салавей,

А пабярэць дзетачак верабей,
Ай, божа мой, божа, верабей.

## 511. Кукавала зязюлька ў садочку

Кукавала зязюлька ў садочку,
Прылажыўшы галоўку к лісточку.
Кукуе, кукуе ды ўскукнець:
— А хто маё гняздзечка разаўець?
Як пачуў салавей у лужочку
Ды развіў гняздзечка ў садочку.
— Кукуй, зязюлька, не ціха,
Нядоўга будзеш кукаваць:
Вясной на Юр'я пачынаць,
Летам на Пятро пакідаць.
Гуляла дзяўчына ў садочку

І звала к сабе дружочка.
Ды як пачуў хлапчына,
Ды й так маўляў дзяўчыне:
— Гуляй, дзяўчына, гуляй.
Нядоўга будзеш ты гуляць,
У суботу прыду цябе заручаць,
У нядзелю зусім забіраць.

## 512. Ой, пайду я долам, даліною

Ой, пайду я долам, даліною
Ды найду я каліну з вярбою.
Ой, пачну я каліну ламаці
Ды пачну сваю долю спамінаці.
Горка, горка каліну ламаць,
Яшчэ горай мне на свеце жыць.
Ой, пайду я ў зялёны садочак
Ды найду я кляновы лісточак,
Ды накрыю матулі слядочак,
Каб дробныя дожджы не залівалі,
Каб буйныя ветры не завявалі.

## 513. Як пайду я ў зялёны садочак

Як пайду я ў зялёны садочак
Да ўвіджу я мілага слядочак,
І закрыю яго вішнёвай карою,
Каб не запаў сцюдзёнай расою.
Як увідзеў мой родны татулька:
— За што, пра што, дзіця, накрываеш?
Ці не за тое, што горачка маеш?
За што, пра што, дзіцятка, шануеш?
Ці не за тое, што гора гаруеш?
— А каб жа я горачка не знала,
Я ж бы яшчэ болей шанавала.

## 514. Па блудню вада разліваецца




Па блудню вада разліваецца,  
Сцяпан дачкою набіваецца: *  
— Прыедзь, прыедзь, Іванька, вазьмі маю Ніначку.  
А мая Ніначка і пралля, й ткалля,  
І пралля, й ткалля, вышывальніца.  
Вышыла платочак, як на вярбе лісточак,  
Ні сабе паглядзець, ці людзям паказаць.  
Паказала аднаму сваййму Іваньку.  
А Йванька узяў на платочак напляваў,  
На платочак напляваў і ножкамі патаптаў.

---

* Далей кожны радок паўтараецца.

## 515. Ды зялёны кусток распускаецца

Ды зялёны кусток распускаецца,
Багатыр дачкой набіваецца:
— Ды бяры дачку-багатырачку,
Дам пасагу шэру сярмягу,
Калі яшчэ мала, дык лапцёў пару,
Калі яшчэ мала, дык абор пару,
Калі яшчэ мала, дыкануч пару.
— Не бяры, сынку, ды што ў золаце,
Не бяры, сынку, ды што ў серабры,
А бяры, сынку, што ў беленькім.
А што ў золаце, то не паненачка,
[То не паненачка], то гультаечка,
А што ў серабры, то цыганачка,
[То цыганачка], то абманачка,
А што ў беленькім, то работніца.

## 516. Хмель на тычку навіваецца

Хмель на тычку навіваецца,
Сямён дачкою набіваецца:
— Бяры, зяцю, дачку маю,
Дам табе віна да тры воза сена,
Гароху ложку, серую кошку,
Люльку, табак, сямёра сабак,
Вутачку-крачку, Агапачку-швачку
І карову крутарогую,
Дзеўку Агапу чарнабровую.

## 517. Як выйду я за вароцікі, свісну






Як выйду я за варацікі, свісну, *
Сіротачку я за ручачку сціску.
Не вялела ж маці мне сіротачку браці,
А вялела ж маці мне багатую браці.
А ў багатае валы да каровы,
А ў сіротачкі чорныя бровы.
Валы да каровы ўсе паздыхаюць,
А чорныя бровы вавек не лінаюць.

## 518. У суседа была дзеванька




У суседа была дзеванька,
А ў другога — другая.

Адна была ганёная,
А другая хвалёная.

Наехалі паны-сватоўе
На ганёнае падвор'е.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Стала хвалёная слёзна плакаці,
На свае дары гледзячы:

— Дары мае, падарачкі,
А дзе ж мне вас падзеці?

Ці бярэзнік пасыпаці,
Ці дарожку услаці?

Бел бярэзнік пакрыўшы —
З расіцаю ападзе,

Дарожаньку услаўшы —
Вараны коні патопчуць,

Вараны коні патопчуць,
Капыцікам пасякуць,

Капыцікам пасякуць,
Мне сораму зададуць.

## 519. Ой, бары мае, бары

Ой, бары мае, бары,
Ой, бары мае, бары,
Цераз цёмныя лясы,
Цераз цёмныя лясы
Шэры гусі ляцелі.
Шэры гусі ляцелі,
Летучы, загаргалі:
— Дзе мы будзем начаваць,
Што ж мы будзем жыраваць?
— У бары заначуем,
У бары заначуем,
На мяжы пажыруем.
У бары брусні́чаньку,
У бары брусні́чаньку,
На мяжы пшані́чаньку.
От ішлі два молайцы,
От ішлі два молайцы,
Ідучы, гаварылі:
— Дзе мы будзем начаваць,

Што мы будзем вячэрацъ?
— Вот мы там заначуем,
Вот мы там заначуем,
Дзе ў матулькі адна дачка.
Дзе ў матулькі адна дачка,
Там вячэранька смашна,
Там пасцелечка мякка.
Пакуль мамачка жыва,
Ўся гасціначка міла.
А як мамачка памрэць —
Ўся гасцiначка мінецъ,
Дарожачка зарасцецъ
Траўкаю-мураўкаю,
Зялёным бярэзнічкам.

## 520. Цераз бор, бары, бары




Цераз бор, бары, бары, *
Цераз цёмныя лясы

Шэры гусі ляцелі,
Летучы, гаварылі:

— Дзе мы будзем начавацъ
І што будзем жыравацъ?

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Заначуем у бары,
Зажыруем на мяжы.

У бары брусьнічаньку,
На мяжы пшанічаньку.

## 521. Цераз явар сцежачка




Цераз явар сцежачка —
Вытаптала дзевачка, *

Цераз явар ходзячы,
З яварам гаворачы:

— Ой ты, явар, явару,
Я з табою гавару.

Ой ты, явар, вырос,
Каб цябе змарозіў мароз.

## 522. Сахіліўся дубок на бок

Сахіліўся дубок на бок
Да на белую бярозачку.
Белая бяроза патапае

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

Ды на явара наракае:
— Паратуй мяне, зялёны явар,
Не дай жа мне загінуці,
На моры голлі пакінуці.
— Няхай цябе той ратуе,
Хто з табою ноч начуе.

## 523. А з-пад лесу, з-пад цёмнага




А з-пад лесу, з-пад цёмнага, *
З бярэзнічка з зялёнага
Вылятала сыза пташка,
Вылятала, шчабятала,
Ўсіх зязюлек вызывала:
— Ты зязюлька, ты рабая,
Чаго рана кукавала,
К майму саду прылягала?
Ай, мой садок зеляненькі,
Чаму ў цябе цвету нету?
Ты дзяўчына маладая,
Чаму ў цябе долі нету?
Ці такая бабка прыйшла,
Што мне долі не прынесла,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ці такія кумы сталі,
Што мне долі не давалі?
Пайду ў поле разыдуся,
Аб бел камень разаб'юся,
Драбней маку рассыплюся.
Няхай тое людзі знаюць,
Як без долі паміраюць.

### 524. Пайду з гора я ў чыстае поле




Пайду з гора я ў чыстае поле,
Ў кучаравы цёмны лес.
А ў кучаравым цёмным лясочку
Няма ні звера, ні людзей,
Няма ні звера, ні людзей,
Плывець стада лебядзей.
Усе лябёдачкі плывуць па пары,
А сера вуціца адна,
А ўсе дзевачкі ідуць па пары,
А я, молада, адна.
Падушачкі мае пухавыя
Пазатанулі у слязах,
Разнацветныя адзіяла
Праляжалі у нагах.

## 525. Лятала павулачка з саду да саду

Лятала павулачка з саду да саду,
Раняла сыза пер'е ў зялёну траву.
Не жаль жа мне павулачкі, ні пер'я яе,
А жаль жа мне сяструлечкі ў чужой старане.
Сядзіць яна ля ваконца, як розавы цвет,
Яна плача сільнюсенька, што долечкі нет.
— Падуй, павей, буйны вецер, па быстрай рацэ,
Прыдуй, прывей, буйны вецер, долю сіраце.
— Не падую, не павею па быстрай рацэ,
Не прыдую, не прывею беднай сіраце.

## 526. Йшоў казачэнька з дому




Йшоў казачэнька з дому, *
Ён і сеў над вадою.

Ён і стаў ваду браці,
Сваю долю гукаці:

— А доля, мая доля,
Да чаго не такая,

Да чаго не такая,
Як і тая людская.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Людзі п'юць і гуляюць
І ўсё добрае маюць.

Я й не п'ю, не гуляю
І нічога не маю.

## 527. А ўжо, дзевачкі, вясна прыйшла

А ўжо, дзевачкі, вясна прыйшла
Дурная дзеўка замуж пайшла,
А разумная засталася,
Болей розуму набралася,
Ой, болей, болей за дзевачак
Да за малодзенькіх малодачак.

## 528. Што ў Янкавым садзе




Што ў Янкавым садзе *
Там дзевачка траву жала,

Як дзевачка траву жала,
Як забачыў Яначак,

Як забачыў Яначак,
Стоячы на ганачках.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— А ты ж, дзеўка-дзявіца,
Не жні маей травіцы.

Я ж табе сярпок зламлю,
За сябе замуж вазьму.

— А ты, Янка, Яначку,
Не бяры ў суботачку.

Не бяры ў суботачку,
Вазьмі у нядзелечку.

П'юць людзі гарэлачку
За мяне, маладзенечку.

## 529. Як пайду я, куды даўна хадзіла




Як пайду я, куды даўна хадзіла,
Ці не ўбачу, каго верна любіла?

Вот пайшла я ды пад гай зеляненькі,
Сустрэў мяне казачок маладзенькі.

Сустрэў мяне — дарожку пытае,
Хітрым вокам на мяне паглядае.

— Ты, казача, ці ты слеп, ці не знаеш:
На шляху стаіш, а дарожку пытаеш?

Не на то мяне мая мамка радзіла,
Каб казакаў на дарожках вадзіла,—

А навучыла мяне тоненька прасці,
Бель бяліці, харашэнька пашыці.

## 530. Як стаяла белая бяроза над вадою




Як стаяла белая бяроза над вадою,
Над вадою.
Папускала яна сваё голле над гарою,
Над гарою.
Маладая малодачка ваду брала,
Ваду брала,
А з белаю бярозачкай размаўляла,
Размаўляла.
Маладая ў бярозачкі папытала,

Папытала:
— Ці далёка ты свайго мілога, дзеўка, праважала?
Праважала.
— Праважала я свайго мілога за лясамі,
За лясамі,
Забылася наказаці за слязамі,
За слязамі,
Штоб не піў жа гарэлачкі-палыноўкі,
Палыноўкі,
Штоб не любіў чужой жонкі-чарнаброўкі,
Чарнаброўкі.
Гарэлачка-палыноўка, ой, добра й не водзе,
Ой, не водзе,
Чужа жонка-чарнаброўка цябе з ума зводзе.

## 531. А стаяла бярозачка




А стаяла бярозачка
Над вадою,

Над вадою,
Папускала сызае голле
Над вадою.

Над вадою,
Маладая малодачка
Ваду брала.

Ваду брала,
Яна з белаю бярозай
Размаўляла.

Размаўляла:
— Ці далёчка свайго мілога
Праважала?

Праважала,
Праважала свайго мілога
За лясамі,

За лясамі,
І не бачыла белага свету
За слязамі.

За слязамі,
Забылася свайму міломy
Прыказаці.

Прыказаці,
Напішу я яго лічка
На паперу,

На паперу.
Пакладу я белу паперу
На белу пасцелю.

На белу пасцелю.
Буду лажыцца спаці,
Нагляджуся,

Нагляджуся.
Прачнуўшыся запоўначы,
Наплачуся.

## 532. Там ў полі да цэркаўка стаяла




Там ў полі да цэркаўка стаяла,
Там дзяўчына паняволі шлюб брала.
Шлюбу мой, шлюбу паняволі бяручы,
Чы добра будзе, за нялюбым жывучы.
Як добра будзе, то буду спамінаці,
Калі нічога, то буду праклінаці.
Каб тая да цэркаўка згарэла,
Як яна мяне паняволі злучыла,
Ой, каб тыя да папы паўміралі,
Як яны мяне паняволі звянчалі.

## 533. Як пайду я, маладая




Як пайду я, маладая,
Да й у рэчку па ваду. *

---

* Доўгі радок кожнай страфы паўтараецца.

Эй, пастаўлю я вядзёрушкі
Пад крутою гарою,

Эй, сама пайду на той бераг
Перавозчычка гукаць:

— Эй, перавозчык бел малойчык,
Перавязі на той бок.

Ох, не пачуў жа перавозчык,
Да зачула родна маці.

Ох, адчыніла й ваконачка,
Стала донечку гукаць:

— Эй, хадзі, доня, хадзі, шэльма,
Ка мне ночку начаваць.

— Не пайду я к табе, маці,
К табе ночку начаваць.

Эй, было табе, родна маці,
За п'яніцу не аддаць.

## 534. Здуравала




Здуравала,
Сватаў мяне белы малойчык —
Адказала.

Адказала,
Напісала пісемачка —
Услед паслала.

Услед паслала:
— Сватай, сватай, белы малойчык,
Каго хочаш.

Каго хочаш,
А на мяне, красную дзеўку,
Не надзейся.

Не надзейся,
Ох, я ж і красная дзеўка
Заручона.

Заручона,
А за таго, за п'яніцу
Аддадзёна.

Аддадзёна.
П'е п'яніца нядзелечку,
П'е другую.

П'е другую,
На трэцюю нядзелечку
Йдзе й дадому.

Йдзе й дадому,
А я, млода-младзюсенька,
Ой, зачула,

Ой, зачула,
На чатыры замочкі
Вароты замкнула.

Вароты замкнула.
Ой ты, п'яніца-лотра,
Спаць за варотмі.

За варотмі,
А сырая зямелька
П'яніцу пасцелька.

П'яніцу пасцелька.
Кляновае лісце — вяла
Адзяяла,

Адзяяла.
А ці добра п'яніцу
Тут начаваці,

Тут начаваці.
А так жа мне, маладзенькай,
За табою жыці.

## 535. Калышыце, брацїткі, калышыце




Калышыце, брацїткі, калышыце,
Калышыце.
На мяне, маладзеньку, не глядзіце,
Не глядзіце.
Бо я ўжо, маладзенька, заручона,
Заручона,
За далёкага мужа аддадзёна,
Аддадзёна.
Ой, за лесам, за лесам, за цямненькім,
За цямненькім,
Ой, за мужам, за мужам за п'яненькім,
За п'яненькім.

## 536. Слава богу, што вясна прыйшла

Слава богу, што вясна прыйшла,
Я ж, молада, каля жыта пайшла,

Каля жыта пайшла, гульню знайшла,
Гульню знайшла, вянок звіла,
Павесіла ў цераме на звонкім дзераве.
Я ж таго не ведала, каму мамка вянок аддала.
Аддала мамка вянок старому нялюбаму,
Кудзеркі не ўчосаны, лічаньку не беламу.
— Дзевачкі-сястрыцы, бярыце са брус мыла —
Умыйце вы ліцо бела.
Бярыце вы грабянёчкі, учашыце кудзерачкі.
Брус мыла змылілі — лічыка не вымылі,
Грабяні паламалі — кудзерак не ўчасалі.

## 537. Ой, добра, што вясна прыйшла

Ой, добра, што вясна прыйшла,
Я, молада, у грыбы пайшла,
Я з грыбоў ішла, у церам зайшла.
Я ў цераме разгулялася
І з малойцамі разгукалася.
Вот пятух пяе — я й дамоў не йду,
Другі пяе — я й не думаю,
Зара ўзышла — я й дамоў пайшла.
Вароцікі распіраюцца,
Мой міленькі прачынаецца.
— Ой, да дзе, жана, ты дасюль была?
— Вот, мой міленькі, пры табе спала.
Ці ж ты, міленькі, адурачыўся,
Ка мне вочкамі не [а]дварачываўся.

## 538. Каліна, да чаму не маліна

Каліна, да чаму не маліна.
— Чаму не прамовіш, маладая дзяўчына?
— Не прамоўлю, казача, не прамоўлю,
Бо й абкіпела маё сэрца кроўю.
Укіпела маё сэрца, укіпела.
Не аддаў мяне бацька, за каго я хацела,
Не аддаў мяне бацька за князя маладога,
Да аддаў мяне бацька за дзеда старога.
А ты, стары, з сівою барадою,
Да не хадзі за мною, маладою,

У цябе, стары, да ў барадзе вошы,
А мне трэба кавалер харошы.
А ты, стары, ліха мацеры тваей,
Да не лажыся на пасцеленьцы маей.
Мая пасцелька шоўкам вышывана,
А твая кашуля сем нядзель не прана

## 539. У майго татанькі

У майго татанькі
Тры сады зялёных,
Чацвёрты й вішнёвы.

А ў первым садочку
Кукулька кукуіць,
Што лес засушыла.

А ў другім садочку
Салавей шчабечыць,
Што луг затапіла.

А ў трэцім садочку
Конічак іржэць,
На вайну не хочыць.

У чацвёртым садочку
Дзеванька плачыць,
За старога не хочыць.

## 540. А чаму ты, бярозка, не кудрава?

— А чаму ты, бярозка, не кудрава?
— Я у лесе у халадочку стаяла.
Там дачушка з мамулечкай размаўляла:
— Не аддай мяне, мая мамачка, за старога.
А я з старым адну ночку начавала,
Як за калодай за гнілою паляжала.
Не аддай мяне, мая мамачка, за малога.
А я з малым адну ночку начавала,
Як верабей пад страхою шчабятала.

Аддай мяне, мая мамачка, за роўніцу.
Я з роўніцай адну ночку начавала,
Як у бару зязюлечка кукавала.

## 541. А пайду па лужочку




А пайду па лужочку,*
Да пайду па зялёным,

А нашчыплю красачак,
А нашчыплю жоўценькіх.

А пайду я ў садочак,
А саўю я вяночак,

А ўзлажу на галоўку,
А пайду к мамцы ў госці.

— А згадай, а згадай, мамка,
А колькі на мне цвету,

Колькі на мне цвету,
Столькі на мне прывету.

А згадай, згадай, мамка,
Колькі на мне красак,

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Колькі на мне красак,
Столькі на мне ласак.

## 542. А пайду па лужочку

А пайду па лужочку,
А пайду па лужочку,
А пайду па зялёным.

А нашчыплю красачак,
А нашчыплю красачак,
А нашчыплю жоўценькіх.

А пайду у садочак,
А пайду у садочак,
А саўю я вяночак.

А саўю я вяночак,
А саўю я вяночак,
А саўю руцяненькі.

Узлажу на галоўку,
Узлажу на галоўку
І пайду да матулі.

— Разгадай, мамка, разгадай,
Разгадай, мамка, разгадай,
Колькі ў вяночку красак?

Колькі ў вяночку красак,
Колькі ў вяночку красак,
Сколькі на мяне казак.

А парадзь, мамка, парадзь,
А парадзь, мамка, парадзь,
Што мне з дурнем рабіці?

Ці весці ўтапіці,
Ці весці ўтапіці,
Ці ў лес упусціці?

— А дзіцятка мілое,
А дзіцятка мілое,
Ніхто гэдак не робіць.

Разавіўшы вяночак,
Разавіўшы вяночак,
Будуць краскі бадзяцца.

Разлучыўшыся з мужам,
Разлучыўшыся з мужам,
Будуць людзі смяяцца.

Няхай ён валачыцца,
Няхай ён валачыцца,
Пакуль смерць налучыцца.

## 543. Зялёная дубровачка

Зялёная дубровачка, *
Не пускай карэнушкі,
Не пускай шырокія
На маю дарожаньку,
На маю шырокую,
Дзе я к мамке ў госці пайду.
Я й цвяточкі пазрываю,
У вяночак пазвіваю.
— Лічы, мамка, колькі цвяткоў,
Столькі на мне худых слаўцоў.
— Дзіця маё дарагое,
Жыццё тваё гараное.

## 544. Пайду па лужочку

Пайду па лужочку,
Пайду па зялёным
Ды пашчыплю красачак,
Ды пашчыплю жоўценькіх.

Ой, пайду я ў садочак
Ды саўю я вяночак,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Узлажу на галоўку,
Панясу да матулі.

— А згадай, мамка, згадай,
Колькі ў вянку цвяткоў?
Колькі ў вянку цвяткоў,
Столькі па мне слаўцоў.

— Да гаруй, дзіця, гаруй,
Гаруй, дарагое,
Я й сама тое знаю,
Што жыццейка худое.

А развіўшы вяночак,
Будуць кветкі бадзяцца,
Разлучыўшыся з мілым,
Будуць людзі смяяцца.

## 545. А я па лугу хадзіла

А я па лугу хадзіла, *
Я клён-дзераўца ламала,
Салавейчак прасіла:
— Салавейчкі, пташачкі,
Не шчабячыце раненька,
Не будзіце майго госціка,
Майго госціка дарагога,
Майго бацюшку раднога.
А мой бацюшка грозен быў,
Мяне, маладу, больна біў.
Паставіў старожу ў варотах:
— Сцеражы, старожа, вярненька.
Каго, старожа, спаймаеш,
Па русай касе пазнаеш,
Па румянаму лічаньку.

## 546. Пахілястае дуб'е

Пахілястае дуб'е **
Да к гарам прылягае.

---

* Кожны радок паўтараецца.
** Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Да к гарам прылягае
І з гарамі размаўляе.

Вінаваты мой татка,
Што далёка замуж аддаў.

Во й сам ка мне не бывае
І пісемка не прысылае.

## 547. Й эй, раскідайцесь, раскідайцесь, усе зялёныя кусточкі




Й эй, раскідайцесь, раскідайцесь, усе зялёныя кусточкі,
І распявайцесь, распявайцесь, мелкія пташачкі, ў садочку.
Й эй, не будзіце, не будзіце майго госця дарагога,
Й эй, майго госця дарагога, майго бацюшку раднога.
Й эй, ён не часта ў госці ходзіць, панямножачку гасцюець,
Й эй, панямножачку гасцюець, па адной ночаньцы начуець.
Й эй, па 'дной ночаньцы начуець, ён на тое праташнуець.
Й эй, пад вакошкам спаць лажыцца, цяжалёшанька ўздыхаець,
Й эй, цяжалёшанька ўздыхаець, часта ў акно паглядаець.
Й эй, часта ў акно паглядаець, ці не белы свет світаець,
Й эй, ці не белы свет світаець, ці не зорачка зараець.

## 548. У мяне, маладой, адзін брацетка




У мяне, маладой, адзін брацетка, *
Адзін брацетка, і той не добры:
Нікуды ніколі ў госці не ездзіць;
Калі прыедзець, то не начуець,
Як заначуець — ператашнуець.
Ён кладзецца спаць усё пад аконцам,
Часта-часценька аконца адчыняець,
Часта-часценька на свет паглядаець.
— Уставай, сястрыца, я дамоў еду.
— Не едзь, брацетка, пачакай абеду.
— Дзякуй, сястрыца, я ўжо паабедаў,
Гарачанькіх слёз я ўжо паснедаў.
Да пайду я брацетку праважаць.
Брат на кладачкі — кладачкі гнуцца,
У мяне, маладой, слёзкі ліюцца.
Як брат за гару, а я яшчэ горай,
А як брат за лясы, я ў галасы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 549. Нізка, нізка сонца ходзіць




Нізка, нізка сонца ходзіць, *
У маё ваконца не ўваходзіць.
Блізка, блізка мой брат ездзіць,
Ка мне ў госці не заедзіць.
Хоць заедзіць — не начуіць,
Заначуіць — пpаташнуіць.
Ён пад аконцам спаці кладзецца,
Ён аконца часценька адчыняіць,
Божага свету ён паджыдаіць.
— Устань, ўстань, мая сястрыца,
Устань, ўстань, я ўжо паеду.
— Падажджы, брацітка, майго абеду!
— Дзякуй, сястрыца, я ўжо паабедаў,
Гарачых слёзак ■ ўжо паснедаў.

* Кожны радок паўтараецца.

## 550. У майго татулькі сад над ракою




У майго татулькі сад над ракою,
Сад над ракою, двор на даліне.
А ў тым садочку два салавейкі
Хораша пяюць, нядоўга вядуць.
У мяне, маладзенькай, адзін браценька,
І той ніколі ў госці не едзіць.
Калі прыедзіць, не заначуіць,
А заначуіць — ператаскуіць.
Спаць кладзецца ўсё пад акенцам,
Часта акенца ён атвараець,
Белага свету ён дажыдаець.
Свет рассвітаіць,
А мой брацетка каня сядлаіць.
— Пажджы, брацетка, майго абеду.
— Дзякуй, сястрыца, я ўжо паабедаў,
Гарачых слёзак я ўжо паснедаў.
Пайду брацетку я прапускаці.
Як ён за лясы, я ў галасы,
Як ён за горы, я яшчэ горай.

## 551. Не кукуй ты, кукушачка, рана




Не кукуй ты, кукушачка, рана, *
Не кажы ж ты, што ночанька мала.
Я сягоння ўсю ночку не спала,
А я к сабе любых госцейкаў ждала.
Як чэраз мой двор дарожка ляжала,
Тады мяне ўся родзіна знала.
А як стала дарожанька зарастаці,
Тады стала мяне родзіна забываці.

## 552. Ідзі, дожджыку




* Кожны радок паўтараецца.

Ідзі, дожджыку,
Чужою стараною.
Ой, пасею я й рутаньку
Над вадой.

Расці, рутанька,
Дробная, зялёная.
Цябе сеяла дзяўчына
Й маладая.

— Малады хлопча,
Я цябе даўно знаю:
Ты мяне любіш —
Я пасагу не маю.

— Не бойся, дзяўчыно,
Не бойся нікога.
Не будзе табе
За твой посаг нічога.

— Не дажжэш ты,
Дажжэ твая маці:
— Ой, было, сынку,
Без пасагу не браць.

Не дажжэ маці,
Дажжэ сестра пышна:
— Чаго ты да нас
Без пасажаньку прышла.

Чужыя нявесты
Гоняць быкі ў зялёну дуброву,
Мая нявеста
Спіць ў новай каморы.

— Ой, спі, нявеста,
Бадай ты не ўстала.
Ой, дзе твой пасаг,
Што ад бацькі нагнала?

Нявеста устала,
Цяжка уздыхнула
І без вадзіцы
Слёзанькамі ўмылась.

І без вадзіцы
Слёзкамі ўмылася,
І без ручнічка
Косанькаю ўцерлась.

— А што, мой мілы,
Чы я табе не казала,
Што твая маці
Мне пасагам дагнала.

## 553. Ой, да ты каліна

Ой, да ты каліна,
Чырвоная журавіна.
— Ой, чаго ты плачаш,
Маладая дзяўчына?

— Ой, я плачу, плачу,
Да што сама ж знаю,
Аддаў бацька замуж,
Да й тавару не маю.

Ой, даў жа мне бацька
Да сівую карову,
Мяне людзі знаюць,
Што я добрага роду.

Да пастушкі пасуць
Пры зялёнай дуброве.
Спіць мая нявехна
У новай каморы.

— Уставай, нявехна,
Да бадай ты не ўстала,
Да гані той тавар,
Што ад бацькі прыгнала.

— Як ты той пагоніш,
Што я ў цябе застала,
То я той паганю,
Што ад бацькі прыгнала.

То [illegible] той паганю,
Што ад бацькі прыгнала,
Яшчэ й тыя цялята,
Што радзіна здаравала.

### 554. Каліна ж маліна

Каліна ж маліна,
Чырвона журавіна.
— Да чаго ж ты плачаш,
Маладая дзяўчына?

— Ой, я ж плачу, плачу
І сама тое знаю.
І ты ж мяне бярэш,—
Я тавару не маю.

— Не бойся, дзяўчына,
Да не бойся нічога,
Не будзе табе дагону
Да ні ад кога.

— Не дажанеш ты,
То дажане твая маці,
Як будуць людзі
Да тавар выганяці.

Пасуць пастушкі тавар
Пры зялёнай дуброве,
А спіць мая нявеста
Да ў новай каморы.

— Уставай жа, нявеста,
Да бадай ты не ўстала,
А выгнаць мела той тавар,
Што ад бацькі нагнала.

— Я з тваім сынам
Да не ночку стаяла,
Я твайму сыну
Да ўсю праўду казала.

Я ж твайму сыну
Казала, гаварыла,
Казала, гаварыла,
Што я дачка ўдавіна.

Што авечкі —
То мае чорны вочкі,
Што каровы —
Да то мае чорны бровы.

### 555. Не стой, вербачка, над вадою

Не стой, вербачка, над вадою,
Над вадою,
Горка вадзіца пад табою,
Пад табою.
Штодзень вадзіца прыбывае,
Прыбывае,
Тваё карэнне размывае,
Размывае.
Свёкар нявехну разбуджае,
Разбуджае:
— Уставай, нявехна маладая,
Маладая.
Ужо каровы ў дуброве,
У дуброве,
А ўжо авечкі каля грэчкі,
Каля грэчкі,
А серы гусі на сінім моры,
Сінім моры.
А малада нявехна спіць у каморы,
У каморы.

### 556. Ой, выду, выду на гару

Ой, выду, выду на гару,
Ой, удару, удару ў далоні,
Штоб у майго свякраткі сад зацвіў,
Віннае яблычка назрэла.
Да каму яблычка, каму — два,
А сваёй свякроўцы дам пяць,

Каб даўжэй давала спаць,
І свайму свякрутку — пяць,
Каб даўжэй даваў гуляць.
«Гуляй, дачушка, да абеду,
Залажу коніка — прыеду».

## 557. Хто ж свайго свёкарку гудзе

Хто ж свайго свёкарку гудзе,
А я свайго хваліць буду.

Ён па сенечках ходзе,
Свайго сына пабуджае.

Свайго сына пабуджае,
Мяне, млоду, прыкрывае.

— Ой, і спі ж ты, нябога,
Высыпай бацькаву негу.

Ой, бацькава нега
Яна ў дзверы не лезе,

А свёкрава слоўца
Ў аконца, як сонца,

А свякровіны ўгрозы,
Як лютыя марозы.

## 558. Гыля, гыля, шэры гусі



Гыля, гыля, шэры гусі,
Гыля, гыля ў чыста поле.

Прывыкайце, шэры гусі,
К чысту полю, к сіню мору.

Як я, млада, прывыкала
Да свёкара, да свякроўкі,

Да дзевера, да залоўкі,
Да мілага, да ятроўкі.

Я й свёкару дагадзіла —
Бела кашульку памыла.

Я й свякроўцы дагадзіла —
Мякка пасцель пасцяліла.

Я й дзеверу дагадзіла —
Длінны пояс падарыла.

Я й ятроўцы дагадзіла —
Мала дзіця скалыхнула.

Я й міламу дагадзіла —
З сабой спаці палажыла.

## 559. Як я, млада, маладзенька






Як я, млада, маладзенька, *
Ў поле гусей праганяла,
Праганяла й гаварыла:
— Эй вы, шэрыя гусі,
Прывыкайце к вадзіцы,
Да к сцюдзёнай расіцы,
Да к зялёнай травіцы.
Як я, й млада, маладзенька,
Я і к свёкру прывыкала,
Я і к свёкру, к свякроўцы,
Я і к дзеверу, к залоўкам.

### 560. Зязюлька мая лугавая

Зязюлька мая лугавая,
Зязюлька мая лугавая,
Не кукуй рана у лужочку,
Не кукуй рана у лужочку,
Не буджай мяне ў палажочку.
Пабудзе мяне мой свёкарка,
Пабудзе мяне й ранюсенька,
Па вадзіцу пашле цямнюсенька.
Я ж, маладзенька, й паслухала,
Узяла вядзёрца й пастукала.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 561. Як пайду ж я




Як пайду ж я,
Як пайду ж я пры дарозе
Пры шырокай.

Як ты, млада,
Як ты, млада, у каморы
А ў новенькай.

— Хадзі з намі,
Хадзі з намі на вуліцу
Песенькі пець.

Песенькі пець,
Песенькі пець, вясну гукаць,
Вясну гукаць.

— Рада б я йсці,
Рада б я йсці на вуліцу
На шыроку.

Мяне сям'я,
Мяне сям'я затукала,
Заюкала.

Свёкар кажыць,
Свёкар кажыць: «Расташчыха,
Расташчыха».

Свякрова кажыць,
Свякрова кажыць: «Мядзведзіца,
Мядзведзіца».

Дзевер кажыць,
Дзевер кажыць: «Маладуха
Маладая,

Не ўмееш ты,
Не ўмееш ты, як адказаць,
Як адказаць.

Расташчыха,
Расташчыха — мыш у клеці,
Мыш у клеці.

Мядзведзіца,
Мядзведзіца — ў цёмным лясу,
У цёмным лясу».

## 562. Галовачка мая бедная




Галовачка мая бедная, *
Чаго рана склапацілася?
Чы ад ранняга ўставанійка,
Чы ад позняга ўкладанійка?
— Не ад ранняга ўставанійка,
Не ад позняга ўкладанійка.
Даў бог мне свякрову ліху,
А свёкарку журлівага.
Пасылаець мяне, моладу,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Пасылаець босу по ваду
Каля таткавага гораду,
Каля мамчынага церама.
І ўвідзела мяне матулька:
— Пастой, дзіця, пагаворым!
— Матулечка, ды мне некалі,
Напішу табе пісёмачка,
Не дай чытаць паном ні дзяком,
Ды дай, мамка, сыну меньшаму,
Майму брату найраднейшаму.
Як стаў ён чытаць пісёмачка,
Яго й ногі прыстаяліся,
Й рукі яго прыдзяржаліся,
Й вочы яго прыглядзеліся,
Й кудры яго страхаміліся,
Й сэрца яго улякнулася:
— Мамка мая, мамка родная,
Гора, гора нашай сястрыцы.
Ані нам яе выкупіць,
Ані нам яе выручыць,
Ні за каня за ворана,
Ані за сто таляроў!

## 563. Цякла, лілася




Цякла, лілася
Рэчачка у Дунай, *

А ў тэй рэчаццэ
Свякроўка ўтанула,

* Другі радок кожнай страфы паўтараецца.

29. Зак. 1818

Свякроўка ўтанула
З залатымі ключмі.

Балай тыя ключы
Ды наверх пярыной,

А злая свякроўка
Ды на дно камянём.

## 564. Ой, цякла, вілася




Ой, цякла, вілася *
Рэчачка Мядзёлка.

А ў той рэчачцы
Малойчык утануў,

Малойчык утануў
З залатымі ключамі.

А за ім матуля,
Упагон летучы,

Упагон летучы,
Ключыкі клянучы:

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

— Бадай вы, ключыкі,
Да на дно камяном,

А каб мой сыночак
Да наверх перыной.

Ой, цякла, вілася
Рэчка Мядзёлка,

А ў той рэчачцы
Нявестка ўтанула,

А за ёй свякроўка,
Упагон летучы,

Упагон летучы,
Нявестку клянучы:

— Бадай жа ты, нявестка,
Да на дно камяном,

А каб вы, ключыкі,
Да наверх перыной.

## 565. Як бракнулі ключы, на дно на мора ідучы

Як бракнулі ключы, на дно на мора ідучы,
Ой, садзе мой, садзе, зялёны вінаградзе! *
Каго паслаці ключоў дастаці?
Свёкарку паслаці ключоў дастаці.
Свёкарка не ўзнырае, ключоў не ўскідае.
Свякрухну паслаці ключоў дастаці.
Свякрухна не ўзнырае, ключоў не ўскідае.
Дзевера паслаці ключоў дастаці.
Дзевер не ўзнырае, ключоў не ўскідае.
Завіцу паслаці ключоў дастаці.
Завіца ўзнырае, ключы ўскідае.

* Прыпеў паўтараецца пасля кожнага радка.

### 566. У бору сосна, а ў бору сосна

У бору сосна, а ў бору сосна,
А на гэтай сосні свякор вулле творыць,
Ай, вулле творыць.
Знясі яго, божа, на карэнне бокам,
А на спіцу вокам.
У бору сосна, а ў бору сосна,
А на гэтай сосні бацька вулле творыць,
Ай, вулле творыць.
Знясі яго, божа, на белыя дзяружкі
Ды на мяккія падушкі.

### 567. Вылятала галачка, вылятала

Вылятала галачка, вылятала,
Выбівала аконца, выбівала,
Каб матулька дачушку пабуджала:
— Устань, дачушка, бела ўмыйся,
Вазьмі грабянёчак учашыся,
Ідзі ў камору прыбярыся,
А выйдзі на вулачку агляніся!
Правадзіла мамка дачку, правадзіла,
Праз высокія горы — з капачамі,
А праз цёмныя бары — з агнямі,
Праз вялікія сёлы — з скрыпкамі.
Дзе матуля із дачушкай сядзела,
Там вырасла мята-рута, лілея,
Дзе матуля із дачушкай стаяла,
Там вырасла яблынька чудавая,
Дзе матуля із дачушкай рассталася,
Слязлівая рэчка разлілася.

### 568. Ясна сонца за лес коціцца

Ясна сонца за лес коціцца, *
Уся бяседачка расходзіцца:
Любы госці раз'язджаюцца,
Мая мамка дамоў ладзіцца.

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ды пайду я мамку прапушчаці
Праз тры палі, палі чыстыя,
Праз тры рэчкі, рэчкі быстрыя,
Праз тры бары, бары цёмныя,
Праз тры вулачкі мяцёныя,
Праз тры сады садзёныя.
Ды стану я пад бярозаю,
Ды стану я пад кудраваю.
Бярозачка скалыхнулася,
Мая мамка аглянулася.
— Чаго, дзіця, застаялася?
Чы ў травіцу закрыпалася,
Чы ў расіцу замачылася?
— Ні ў травіцу закрыпалася,
Ні ў расіцу замачылася;
Закрыпала чужа сторана,
Замачыла невядомая.
— Будзець табе чужа сторана,
Будзець табе і вядомая,
Будзець табе і вядомая,
Будзець табе і знакомая.
Будзець табе свёкар татулька,
А свякроўка родна матулька,
Дзеверка родны й брацяцетка,
А залвіца — родна сястрыца.

## 569. Ясна сонца за лес коціцца

Ясна сонца за лес коціцца,
Ка мне ў хатку не заходзіцца.
Уся дружыначка расходзіцца,
Мая мамка дамоў строіцца.
А я, млода, прапускаць пайду
Трыма гарамі гарыстымі,
Трыма сцежкамі камяністымі,
Трыма рэчкамі быстрымі,
Трыма кладачкамі гібкімі.
Зайшла мамка да на кладачкі,
Сярод кладачкі спатыкнулася,
Назад мамка аглянулася.
— Чаго, дзіцяці, засталася,
Ці ў травіцу заплуталася?

Ці ў расіцу замачылася?
— Не ў травіцу я заплуталася,
Не ў расіцу замачылася.
Заплутала чужа старана,
Замачылі дробны слёзачкі.

### 570. Сонца за лес закацілася

Сонца за лес закацілася,
Матка ў дочкі загасцілася.

— Гасцюй, гасцюй, мая мамачка,
Гасцюй, гасцюй, мая любая.

Да я сваю да мамачку правяду,
Да сваю да любую правяду

За два бары, за два цёмныя,
За два лясы, за шырокія.

Ці аглянецца мая мамачка?
— Чаго стаіш, да дзіцятка маё?

Ці травіца ножкі спутала,
Ці расіца вочкі вымыла?

— Спутала ножкі ўсё замужайка,
Выбрала вочкі ўсё падружанька.

### 571. Эх ты, сонца яркае

Эх ты, сонца яркае, *
Каля лесу нізка ходзіш,
А за лес не заходзіш.
Ах, мой татунька родны,
Каля маіх варот едзеш,
Ка мне ў госці не заедзеш.
— Як жа я магу заязджаці?
Калі еду, дык ты скачаш,

---

* Кожны радок паўтараецца.

Ад'язджаю, дык ты плачаш.
Дачка бацьку праважала
За горы за высокія,
А правёўшы свайго татаньку,
Сама стала пад яблынькай.
Аглянуўся яе татанька:
— Чаго, дачка, прызасталася?
Ці травою ты прыпутана,
Ці расою ты прырошана?
— Прыпутала худое замужаства,
А прырасілі дробны слёзы.
Куды пайду, дык не ведаю,
З кім спаткаюся, не знаюся,
Што сцежачкі — невядомыя
І суседачкі незнакомыя.

## 572. За лес сонца закацілася

За лес сонца закацілася,
Мамка ў дачкі загасцілася.
Правяду я сваю мамачку,
Правяду я сваю родную
Праз тры палі, палі чыстыя,
Праз тры рэчкі, рэчкі быстрыя,
Праз тры лясы, лясы цёмныя.
Стану я перад бярозкаю
Да аблеюся я слёзкаю.
Ці аглянецца мая мамачка.
— Чаго плачаш ты, дзіцятачка?
Ці травічка ножкі спутала,
Ці расічка вочкі вымыла?
— Спутала ножкі замужжайка
Да нялюбая падружайка,
Вымылі вочкі да дробныя дзетачкі.
Каб я знала, каб ■ ведала,
Век бы замуж не пашла б я,
Жыла б, была у свайго татачкі,
У сударыні сваёй мамачкі.
Мыла б галоўку штосыботачкі,
Часала б коску штонядзелечкі,
А чэсучы, прыгаварувала:
«Каса мая, каса русая,

Каму, каса, прызастанешся,
Ці сотнічку, ці паўсотнічку,
Ці таму сукінаму сыну,
Што ў карчме напіваецца,
Прыдзе дамоў, наругаецца.
Перак маёй караваці ляжыць,
Мне, моладзе, разуваці вяліць.
Мне, моладзе, да не хочацца
Каля п'яніцы варочацца
А у беленькай сарочацы.
Ручкі мае памараюцца,
Залатыя персні паламаюцца».

## 573. Ай, лятала сіза павачка

Ай, лятала сіза павачка
Па высокай гарэ, *

Ай, раняла сізы пер'ечкі
Па зялёнай траве.

А не жалка мне сізай павачкі,
Як пер'я яе,

А і жалка мне роднага татулечкі,
Што далёка ад мяне.

Як выйду я за вароцейкі —
Зімная трава,

Як гляну я ды туды-сюды —
Ўся чужая старана.

Як гляну я у правы бок —
Вішнёвы садок.

А ў тым садзе, а ў тым вінаградзе
Дзве сястрыцы мае,

А ў тым садзе, у тым вінаградзе
Дзве родныя мае.

* Кожная страфа паўтараецца.

Яны ходзяць, гуляюць,
Вішанькі шчыпаюць.

— Шчыпіце, шчыпіце, вы мае сястрыцы,
І мне і сабе.

Як панясеце к ойцу маему,
Занясіце і мае.

Як будзеце піць гарэлачку,
Спамяніце і мяне:

— А і як там наша сястра гаруе
На чужой старане.

А ці жывець, ці гаруець,
Ці ходзячы жабруець.

## 574. На моры вутка купалась

На моры вутка купалась,
На беражку сушылась,
Я, малада, журылась —
Ці было лета, ці не было.
Ой, я, малада, не ўгадала,
Калі лецечка прагуляла:
Маці на юлку не пускала,
Ды ў комнатачку замыкала.
А ў комнатачцы вакеначка.
Ой, адчыню я кватэрачку,
Ой, зірну-гляну я па рыначку.
А на рыначку пылок сходзе,
Там мой нялюбы танок водзе
Да й з маею і з падругаю.
Багдай табе, мая падружачка,
Первая куля не мінула,
Другая куля насмерць убіла,
Штоб ты таночка не давадзіла.

## 575. На моры вутка купалася

На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася,

Не беражочку сушылася,
Дачка ў мамкі прасілася.

Дачка ў мамкі прасілася —
Мамка на вулку не пускала.

Мамка на вулку не пускала
Да ў каморачку замыкала.

Да ў каморачку замыкала,
А ў каморачцы вакенечка.

А ў каморачцы вакенечка,
На вакенечку кватэрачка.

На вакенечку кватэрачка,
Ох, вып'ю, вып'ю кватэрачку.

Ох, вып'ю, вып'ю кватэрачку,
Ох, выб'ю, выб'ю вакенечка.

Ох, выб'ю, выб'ю вакенечка,
Ой, зірну-гляну на вулачку.

Ой, зірну-гляну на вулачку,
Аж па вуліцы туман ходзіць.

Аж па вуліцы туман ходзіць,
А мой нялюбы танок водзіць.

А мой нялюбы танок водзіць
Да з нялюбай ўпоплеч ходзіць.

Да з нялюбай ўпоплеч ходзіць,
Дадому, нелюб, дадоміньку.

Дадому, нелюб, дадоміньку,
Не заляцайся ні з коміньку.

Нямнога нелюб заляцаўся,
Пару чаравічак абяцаўся.

Пару чаравічак казловенькіх,
Пару пальчатак бялёвенькіх.

### 576. На моры вутка купалася

На моры вутка купалася,
На моры вутка купалася,
На беражочку сушылася,
На беражочку сушылася,
Да й дачка ў мамкі прасілася:
— Пусці, маці, пагуляць,
Пусці, маці, пагуляць.
Маці дачкі не пускала,
У каморачку замыкала.
А ў каморачцы вакеначка,
Мне на вуліцу відненечка,
Мне на вуліцу відненечка.
На вуліцы дзевак танок,
На вуліцы дзевак танок,
А мой нялюбы пярод вядзе,
А мой нялюбы пярод вядзе,
Вядзе, вядзе да й гаворыць,
Вядзе, вядзе, да й гаворыць:
— Хто на вуліцу не выходзіць,
Судзі, божа, калодаю,
Судзі, божа, калодаю
Да й калодаю нялёгкаю.

### 577. На моры вутка купалася

На моры вутка купалася
Да на беражочку сушылася,
Дачка ў маткі журылася.
Матка на вулку не пускала
Да ў каморачку замыкала.
Да ў каморачцы вакенечка,
На вакенечцы кватэрачка.
Суну, пасуну кватэрачку,

Гляну, пагляну ў акенечка.
Усе дзевачкі вулкі мятуць,
Пад бярозаю не мецена.
Стаіць Васілька з торгам,
З торгам, з чорным шоўкам.
Усім дзевачкам распрадае,
Сваёй Галіне дарма дае.
Усім дзевачкам на ўплёткі.
Сваёй Галіне на падвескі.

## 578. Да на моры вутка купалася

Да на моры вутка купалася,
Купалася.
Ды на беражочку сушылася,
Сушылася,
А я, й маладая, журылася.
Журылася.
Бо ў мяне, маладое, не свой бацька,
Не свой бацька,
Не свой бацька, не свая і маці,
Не свая і маці,
Да не пакалыша майго дзіцяці.
Хоць пакалыша гадзіначку,
Гадзіначку,
То пракляне маю радзіначку,
Радзіначку,
Хоць пакалыша і другую,
І другую,
То пракляне мяне, маладую.

## 579. І на моры вутка купалася






І на моры вутка купалася,
Купалася.
На беражочку сушылася,
Сушылася.
Я й, маладзенька, журылася,
Журылася.
Я й, маладзенька, журылася,
Ці было лета, ці не бывала,
Не бывала.
Ці было лета, ці не бывала,
Я й, маладая, кросны ткала.
Кросны ткала.
Мяне й мамачка запірала,
Запірала,
Я ў камораццы кросны ткала.
Адчыню, 'дчыню кватэрачку,
Кватэрачку.
Ой, зірну, гляну на вулачку,
На вулачку.
А ўсе й вулачкі падмецены,
Падмецены.
А ўсе ж вулачкі падмецены,
А й мая вулка не мецена.

## 580. Хаджу, браджу па падлессю

Хаджу, браджу па падлессю,
Шчыплю, ламлю жоўты цвяток
Дзеўкам на вянок.
Звіўшы вянок, пайду ў танок.
На мне вянок зелянее,
А ў нялюбага сэрца млее.
Прывернімо вянка к калодзе
І збудзімо красную панну:
— Устань, панно, к нам у танок.
— Рада б жа я к вам у танок —
Ляжыць нялюб на правай ручцы,
Цяжшыі воды, ніж каменя!

## 581. Не гарох я сею




Не гарох я сею,
Не гарох я сею
Да па шчырым бару,

Да па шчырым бару,
Да па шчырым бару,
Да па жоўтым пяску.

Паехаў каролька,
Паехаў каролька
З Юрычком на вайну,

З Юрычком на вайну,
З Юрычком на вайну,
На чужую зямлю.

А за ім матулька,
А за ім родная
Так жалосна плачыць:

— Доля ж мая, доля,
Доля нешчасліва,
Доля нешчасліва.

— Ты не плач, матулька,
Ты не плач, родная,—
Я табе прывязу,

Я табе прывязу
Я табе служачку,
А сабе жоначку.

### 582. Не гарох я сею

Не гарох я сею,
Не гарох я сею
Ды на шчырым бару.

Слёзачкі я лію,
Слёзачкі я лію
Па шырокім двару.

Узялі сыночка,
Узялі на вайну
У чужую старану.

А за ім матулька,
А за ім родная
З жалю прымаўляе:

— Долечка ж ты мая,
Долечка горкая.
Ой, я няшчасная.

— Ты не плач, мамачка,
Ты не плач, родная,—
Я з вайны вярнуся.

Я з вайны прывязу
Ды табе служачку,
А сабе жоначку.

### 583. Ой, тонка, тонка сасонка

Ой, тонка, тонка сасонка,
А затым тонка, што ў бары,

А затым тонка, што ў бары.
Служыў Юрачка каралю.

Служыў служоу тры гады,
Выслужыў сабе коніка,

А пры коніку сядзельца,
А пры сядзельцы востры меч,

Пры вострым мячы — тры свячы.
Ехаў да цёшчы з поўначы,

Ехаў да цёшчы з поўначы,
Нашоў паненку не спячы,

Нашоў паненку не спячы,
На новым ганку седзячы,

На новым ганку седзячы,
З шоўку кашульку шыючы.

## 584. Як у чысценькім полі




Як у чысценькім полі *
Там два брацікі аруць,

Там два брацікі аруць,
Яны песенькі пяюць.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Трэці брацітка не арэць,
Ён і песень не пяець.

Як прыйшла к яму сястра:
— Што ж ты, брацітка, не арэш,

Што ж ты, брацітка, не арэш
Да і песень не пяеш?

Ці твой конічак не йдзець,
Твая сошанька не арэць?

— Мой і конічак ідзець,
Мая й сошанька арэць.

А з'ела мяне жана,
Ды як лютая змяя.

— А ні я ж цябе з'ела,
З'ела цябе карчоманька,

З'ела цябе карчоманька
Да горкая гарэлачка,

Да горкая гарэлачка,
Маладая шынкарачка.

## 585. Не жалка мне ні на кога




Не жалка мне ні на кога,
Як на татачку старога.

Як на татачку старога,
Жаніў мяне маладога.

Жаніў мяне маладога,
А ўзяў жонку маладую.

А ўзяў жонку маладую
Усё й ні пад маю натуру.

Куды шлеш — не дашлешся,
Адкуль жджэш — не дажджэшся.

Толькі белу пасцель сцеле,
Пасцель сцеле, сільна плача.

Пасцель сцеле, сільна плача:
— Бадай жа вы запрапалі.

Бадай жа вы запрапалі,
Як вы мяне сюды ўзялі,

Бадай жа вы загінулі,
Як вы мяне пакінулі.

## 586. Вячэрняя зара



Вячэрняя зара, *
Не захадзі рана!

Не захадзі рана
За лес, за дубраў.

За лес, за дубраву,
За белу бярозу,

За белую бярозу,
За цёмную тучу.

Там пан з вайны едзець,
Чатырох каней вядзець,

Пятую кабылачку —
З-пад зары дзяўчыначку.

— Не руш, пан, дзяўчыну,
Бедную сірацiну.

Цябе пан бог скорыць,
Дадому не даедзеш.

Дадому не даедзеш,
Твой конь нагу зломіць.

### 587. Ой, да салавей мой

Ой, да салавей мой,
Салавей,
Прылётная пташачка,
Не залятай
У мой двор,
Ой, да не садзіся
На дварэ.
Ой, да не лятай
У мой ты двор,
Ой, да не садзіся
На вакне.

---

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Не садзіся на вакне,
Не задавай жалю мне.
Не задавай
Жалю мне,
Бо я ў свеце
Сірата,
Што я ў свеце
Сірата.
Ой, да запрагай,
Мілы, каня,
Ой, да мы паедзем
Са двара.
Ой, да мы паедзем
Са двара,
Ой, да ў чыста полюшка
Гуляць.

## 588. Яленчанка зеляная




Яленчанка зеляная,
Чаго рана зашумела?

Удованька маладая,
Чаго рана заўдавела?

Не сама ж я зашумела,
Буйны ветры скалыхнулі. *

Не сама ж я заўдавела,
Злыя людзі падшуцілі.

Злыя людзі падшуцілі,
З мілым другам разлучылі.

### 589. Узайдзі, узайдзі, зорка вячорная

— Узайдзі, узайдзі, зорка вячорная,
Да выйдзі, выйдзі, дзевіца красная.
— Хоць я ўзайду, не буду свяціць,
Хоць я ж выйду, не буду гаварыць.

### 590. Ой, ціхая тая юланька, ціха

Ой, ціхая тая юланька, ціха,
Кудою ішла мая міла ж тапіцца,

А яшчэ ж яна да цішэйшая ж будзе,
Ой, як мяне у дзярэўні не будзе.

Зайграйце мне два музычанькі сціха,
Штоб я забыла дзеравенскае ліха.

### 591. Рэчушка, па рэчушцы




* Далей кожная страфа паўтараецца.




Рэчушка, па рэчушцы
Селязенька плыве. Эх! *

Па крутым па беражку
Малойчык ідзе.

На ім жа кудзёрышкі
Растрапаныя.

Яны растрапаныя,
Жар-жарам гарацъ,

Беламу малойчыку
Жаніцца вяляцъ.

— Рад бы я жаніціся,
Дык некага брацъ.

Узяў бы я ўдовушку,
Салдацку жану.

---

* Кожная страфа паўтараецца без выклічніка «Эх!».

Салдат з вайны вернецца,
Жонку адбярэць,

Белага малойчыка
Дурнем назавець.

## 592. А з-пад лесу

А з-пад лесу,
Лесу цёмненькага,
З-пад бярэзнічку
Зялёненькага
Бяжыць конік
Варанюсенькі,
Павадочак
Шаўкавюсенькі.
А на коніку
Сядзёлачка,
А ў сядзёлачцы
Сіротачка.
Ці не п'яненькі
Шатаецца,
К сырой зямельцы
Кланяецца:
— Зямелечка мая
Сыранькая,
Узяла майго
Айца, матушку,
Вазьмі мяне
Маладзенькага.
— Зачым цябе
Маладога брацъ,
Лучшы табе
Долю-шчасце даць.
А чаго, малады,
Не жэнішся?
— Куды пайду,
Там дзеўкі не йдуць.
Куды не йду,
Па тры разам даюць.
Адну даюць,
Ды старэнькую,
А другую —

Ды маленькую.
А трэцюю —
Ды дурненькую.
За старую
І таўчы, малаціць ідзі,
За малую
Па вадзічку схадзі,
Праз дурную
Без кашулькі хадзі.

## 593. Дзень вялік




Дзень вялік,
Дзень вялік,
А луста мала:
Не свая маці
Лусту давала.
Дае скарынку —
Пасі скацінку,
А калі мала,
Каб разарвала.
А калі не з'ясі,
Дык дамоў нясі.

## 594. Дзень вялік




Дзень вялік, дзень вялік
Перад суботай,

Спіцца мне, дрэміцца
Перад работай.

Дзень вялік, дзень вялік
Перад нядзеляй.

Спіцца мне, дрэміцца
Перад кудзеляй.

Дзень вялік, дзень вялік,
А луста мала,

Каб свая мамачка,
Большы б давала.

Свая мамачка —
То ў кішэнь, то ў кішэнь,
То ў запазуху.

Чужая мамачка —
То ў каршэнь, то ў каршэнь,
То й у плечачкі.

Дзень вялік, дзень вялік
Перад суботай.

Спіцца мне, дрэміцца
Перад работай.

Дзень вялік, дзень вялік
Перад нядзеляй.

Спіцца мне, дрэміцца
Перад кудзеляй.

Дзень вялік, дзень вялік,
А луста мала,

Каб свая мама —
Большую б дала.

Лусту давала
І прыказала:

— Як не з'ясі,
Людзям аддасі.

Чужая мамачка
Лусту давала.

Лусту давала
І прыказала:

— Як не з'ясі,
Дамоў нясі.

## 595. Дзень вялік, дзень вялік перад пятніцай

Дзень вялік, дзень вялік перад пятніцай,
Заснула дзяўчына перад прасніцай.
Дзень вялік, дзень вялік перад суботай,
Заснула дзяўчына перад работай.
Дзень вялік, дзень вялік перад нядзеляй,
Заснула дзяўчына перад кудзеляй,
А й знаці, знаці, не свая маці,
Не дала дзяўчыне ночкі даспаці.

## 596. Дзень вялік

Дзень вялік, дзень вялік,
А лустачка мала:
Не свая мамачка
Лустачку давала,
Не свой жа татачка —
Мне свёкарка рэзаў,
Свёкарка рэзаў,
Каб руку адрэзаў.
Свякроўка давала,
Каб рука адпала,
Дзеверка праводзіў,
Каб ногі пашкодзіў,
Залвіца вярцела,
Каб рука адляцела.

## 597. Дзень вялікі, дзень вялікі

Дзень вялікі, дзень вялікі,
А луста малая.

Ой, не свая ж мама
У торбачку клала.

Да й пасу, пасу ж каровачку
Да й на верасочку,

Да пазнай, пазнай, мая ж мамачка,
Да й па галасочку.

## 598. Ты вутачка лугавая




— Ты вутачка лугавая,
Гэй-гэй, лугавая!
Дзе ты зіму зімавала?
Гэй-гэй, зімавала!
— Зімавала на лужочку,
Гэй-гэй, на лужочку!
Пры круценькім беражочку,
Гэй-гэй, беражочку!
— Альбінка маладая,
Гэй-гэй, маладая!
Дзе ж ты леты гадавала?
Гэй-гэй, гадавала!
— Гадавала у татачкі,
Гэй-гэй, у татачкі!
Векавала у Яначкі,
Гэй-гэй, у Яначкі!

## 599. Плыла вутачка, плыла шэрая






Плыла бутачка, плыла шэрая
З азёра ды ў мора. *

Ішла Ганначка, ішла малада
З раскошы ды ў гора.

У мамкі жыла, як вішня цвіла
Ў зялёным садочку.

Замужам стала, як рута звяла
Ў зялёным вяночку.

## 600. Хадзіла й курка на сметнічку

Хадзіла й курка на сметнічку, **
Вадзіла дзетак па шэсцерках:
Першае дзіця — то Іванька,
Другое дзіця — то Рыгорка,
Трэцяе дзіця — то Міколка.
Міколкава дзеўка тонка, высока,
Іванькава дзеўка чорна, маленька,
Рыгоркава дзеўка бела й румяна.
Бела, румяна — то змыецца,
Тонка, высока — то зломіцца,
Чорна, маленька — то жыць будзе.

## 601. Сею гарох тры трубы

Сею гарох тры трубы,
Радзі, божа, чатыры.

---

* Кожная страфа паўтараецца.
** Кожны радок паўтараецца.

Былі ў пана тры дачкі,
Дай бог іх усіх выдаць.
Перша бела-румяна,
Тая пойдзе за пана,
Друга бела, нізенька,
Тая пойдзе блізенька,
Трэйцяя ценька, высока,
Тая пойдзе далёка.

### 602. Цераз пень ліпачка

Цераз пень ліпачка
Паваліласа,
На мяне мамачка
Пасварылася.
— Не йдзі, дачушка,
За пісарчыка,
А йдзі, дачушка,
Усё за аратага.
Пісарчык піша,
Цяжэнька дыша,
Араты арэ
Ды песенькі пяе.

### 603. Пойдзем, дзевачкі, у шчыры бор

Пойдзем, дзевачкі, у шчыры бор,
Да зрубаема высокі клён,
Ды выкалемо тры дошчачкі,
Да зробімо тры бочачкі:
У адной бочачцы салодак мядок,
У другой бочачцы зялёна віно,
У трэцяй бочачцы горкае піва.
Салодак мядок — то для дзевачак,
Зялёнае віно — то для малодачак,
А горкае піва — для малойчыкаў.

### 604. Ой, распіўся бел малойчык

Ой, распіўся бел малойчык,
Разгуляўся,

Пад ім конік вараненькі
Раскілзаўся.
Ой, вы хлопцы, вы малойцы
Маладыя,
Вы закіньце павадочкі
Шаўкавыя.
Няхай конік даліначкі
Пагрызаіць,
А як прыдзе бел малойчык —
Раскілзаіць.

## 605. Олень по бару ходзіць




Олень по бару ходзіць,
Олень по бару ходзіць,
Ясенька за ім бродзіць.

Ясенька за ім бродзіць,
Ясенька за ім бродзіць,
Стрэльбаньку набівае.

Стрэльбаньку набівае,
Стрэльбаньку набівае,
У воленя пападае.

Не папаў у воленя,
Не папаў у воленя,
То папаў у каменя.

Не папаў ў аленіцу,
Не папаў ў аленіцу,
То папаў ў камяніцу.

## 606. Дай божа, дай божа табе, Ясенька

Дай божа, дай божа табе, Ясенька,
Бобрыка й улавіці.
Бобрыка, бобрыка й улавіці,
Сыночкам усё й на шапачкі.
Сыночкам, сыночкам усё й на шапачкі,
Дачушачкам на кітаечкі.
Дачушкам, дачушкам на кітаечкі,
А мне, млодзе, ўсё на шубачку.

## 607. Разліўся Дунайка




Разліўся Дунайка,
Разліўся ціхенькі
Па мхах, па балотах, *
Па гнілых калодах,
Дзе людзі не ходзяць,
Дзе пцічкі не бродзяць.

---

* Далей кожны радок паўтараецца.

Маленькая пцічка
Высока лятала,
Пад самага бога.
Пад Іллю святога.

## 608. Калі б кусцічак не цвіў




Калі б кусцічак не цвіў,
Ой, салавей гнязда б не віў.
Калі б дзеўку не любіў,
Ой, не хадзіў бы ж да яе.
Не таптаў бы сапагі,
Ой, да дзевачкі ходзячы,
Ох, не рваў бы пінжакі,
Па парканах лазячы,
Не гнаіў бы шапачкі,
Пад краплямі стоячы.
Насіў кальцо, як сам знаў,
Любіў дзевачку, не ўзяў,
Ой, дзеўку дурачкай назваў.
Дура, дура дзевачка,
Што ў парачку хадзіла,
Малойцу праўду гаварыла.

## 609. Зараслі мае сцежкі

Зараслі мае сцежкі,
Ой, зараслі мае дарожкі
Зялёненькім лапушком. У-у-у!

Зялёненькім лапушком, *
А ўсё горкім палыном. У-у-у!

Зялёненькім лапушком
Песцелечку пасцялю. У-у-у!

А з горкага палыночку
Згалоўейка закачу. У-у-у!

Закаціўшы згалоўейка,
Свайго дружка палажу. У-у-у!

—А спі, дружок, прасыпайся,
Староначку забывайся. У-у-у!

Старана мая, старонка,
Распракрасная дзяўчонка. У-у-у!

Я дзяўчонку за ручонку —
Прашчай, душачка мая. У-у-у!

## 610. За мхом, за мшарынкай




За мхом, за мшарынкай
Буйны журавіны.
Аё — яго — яго!

* Далей першы радок кожнай страфы паўтараецца.

Журавінкі буйны
Нашлі мальцы дурны,
Аё — яго — яго!

Журавінкі пабуйней
Нашлі мальцы падурней.
Аё — яго — яго!

## 611. На вуліцы цыбуліцы




На вуліцы цыбуліцы,
Сіта-перасіта,

А ў нашага Ванюшачкі
Спіна перабіта.

А хто ж яму перабіў —
Марыліна маці.

— Было табе не хадзіці
Да майго дзіцяці.

— Я не хадзіў, я не хадзіў
І хадзіць не буду.

Я не любіў, я не любіў
І любіць не буду.

### 612. А мамачка, алехі

— А мамачка, алехі,
Пусці ж мяне ў арэхі.
Агу, вой-ля-лё.

— Дачушачка, не пушчу,
Арэшнічак рогкі.
Агу, вой-ля-лё.

— Арэшнічак рогкі,
Я, молада, лёгка.
Агу, вой-ля-лё.

### 613. За паповым гумном

За паповым гумном *
Былінка стаяла,
На той на былінцы
Мядзведзь сядзеў.
Мядзведзь там сядзеў,
Былінка зламілась,
Там мядзведзь забіўся,
Па ім хлопцы плачуць:
«Ці не бацька ён нам быў,
Ён дзёгцем нас карміў».

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 614. За паповым садам

За паповым садам *
Малінка стаяла,
Пчалінка сядзела.
Малінка схілілась,
Пчалінка забілась.
Па ёй дзеўкі плачуць.
«Ці не матка йна была,
Што мёдам карміла,
Сытою паіла?»

## 615. Пасею руту над вадою

Пасею руту над вадою,
Пашлю дожджыку старанoю.
Старанoю, дожджык, старанoю,
На маю руту зялёную,
На маю рожу чырвоную,
Штоб мая рута зелянела,
Штоб мая рожа чырванела.

## 616. Лясы мае, лясы

— Лясы мае, лясы,
Зялёныя мае,

А хто вас зеляніў,
А хто вас весяліў?

— Зеляніў нас дробны дожджык,
Весяліў нас салавей.

Дробны дожджык крапляючы,
Салавейка спяваючы.

---

* Кожны радок паўтараецца.

## 617. Вясна красна наставала

Вясна красна наставала,
З поля сняжкі саганяла.
Пайшла вада па лужочку,
Па круценькім беражочку.
Ох, падмыла каліначку,
Грамяздовае гняздечка.
Да стаў жа ён шчабятаці,
Стаў ён рэчку праклінаці:
— Ой, бадай ты, быстра рэчка,
Каб ты зімой вымярзала,
Да вясною высыхала,
А вясною замярзала,
А зімою раставала.

## 618. Рад салавейка: даждаў вясны, рана

Рад салавейка: даждаў вясны, рана.
Прыляцела зязюленька, рана,
Добра будзе палятаці, рана.
Яна сама маленькая, рана,
Яе пер'е шэранькае, рана.
Добра будзе палятаці, рана,
І зязюльцы кукаваці, рана.
Рад Міколка: даждаў цешчы, рана,
Не так цешчы, як Манечкі, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.
Яна сама міленькая, рана,
Яе лічка бяленькае, рана.
Добра будзе мілаваці, рана.

## 619. Ды як даў жа бог вясну

Ды як даў жа бог вясну,
Як пусціла з гор ваду,
Як пусціла з гор ваду,
Патапіла ўсе лужкі.
Як астаўся адзін лужок,

Адзін маленькі лужок,
А па тым жа па лужку
Сідзяць молайцы ў кружку.
— Слышу-віджу, маладзец,
Што вы пойдзеце дамоў,
Што вы пойдзеце дамоў,
Да адбейце-ка паклон.
Да адбейце-ка паклон
Айцу з мацерай радной,
Айцу з мацерай радной,
Гасударушке маёй.
— Мы не пойдземце дамоў
Ані летам, ані зімой,
А мы пойдземце дамоў
Па пратaлачках вясной.
Па праталачках вясной
І па траўке зеляной.

## 620. Вясна недалёчка

Вясна недалёчка,
Вясна недалёчка,
Хлеба ні кусочка,
Хлеба ні кусочка.
Паехаў дзед да торгу,
Паехаў дзед да торгу,
Купіў хлеба торбу,
Купіў хлеба торбу.
— Еш, баба, давіся,
Толькі не сварыся.
Еш, баба, авёс,
Я ж табе прывёз.
Еш, баба, мякіну,
Я ж цябе не кіну.
Вясна недалёчка,
Хлеба ні кусочка.

## 621. Вярба б'е — не я б'ю

Вярба б'е — не я б'ю,
За тыдзень — вялікдзень.
Хвора ў лес, на верас,

А здароўе ў косці.
Будзь здароў, як вада,
А расці, як вярба.
Будзь здароў на ўвесь год,
Будзь так весел, як вясна,
Будзь так моцны, як зіма.
Не будзь санлівы,
Да работы лянівы,
Не будзь завіслівы.
Але будзь здароў, як вада!
Расці, як вярба!
Будзь шмыткі, як пчала!
Будзь багат, як зямля!
Ад року да року
Вярбою па боку.

## 622. Вярба б'е — не я б'ю

Вярба б'е — не я б'ю,
За тыдзень — вялікдзень.
Уставай рана, валы гані
Да па лусце хлеба бяры,
Напасі, напаі
Да і ў хлеў загані!

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Анталогія, 1975 — Анталогія беларускай народнай песні. Уклад. і камент. Г. І. Цітовіча. Мінск, 1975.

Бел. нар. песні, 1941 — Белорусские народные песни. Сост. З. Эвальд. М.—Л., 1941.

Бессонов — П. Бессонов. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871.

Булгаковский — Д. Т. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический очерк. Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы, предрассудки, поверья, суеверия и местный словарь.— Записки РГО по отделению этнографии, т. XIII, вып. 3. СПб, 1890.

Быковский — В. Быковский. Праздник куста.— «Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 год». СПб, с. 80—84.

Бычко-Машко — Сборник народных песен, записанных в поселке Калюга-Камарно Рогозянской вол. Кобринского уезда Гродненской губ. И. Е. Бычко-Машко. СПб, 1911.

В. Н. — В. Н. Куст — «Гродненские губернские ведомости», 1894, № 47.

Гарэцкі, Ягораў — М. Гарэцкі, А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928.

Гілевіч, 1973 — Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны. Уклад і рэд. Н. Гілевіча. Мінск, 1973.

Гілевіч, 1974 — Песні народных свят і абрадаў. Уклад. і рэд. Н. С. Гілевіча. Мінск, 1974.

Дембовецкий — А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии в историческом, географическом, промышленном, сельскохозяйственном, лесном, учебном, медицинском и статистическом отношениях..., кн. 1. Могилев-на-Днепре, 1882.

Дмитриев — М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. IV. М., 1903.

Елатаў — В. І. Елатаў. Ад песні да песні. Мінск, 1961.

Е. П. — Народные белорусские песни. Собраны Е. П. СПб, 1853.

Захарава — Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобл. Традыцыйныя жанры. Склад. В. А. Захарава. Пад рэд. Р. Р. Шырмы. Мінск, 1973.

З калекцыі Ю. Кржыжаноўскага — Рукапісны зборнік беларускіх народных песень, запісаных лацінкай. Зап. Гальяш Леўчык у пачатку нашага стагоддзя. Бібліятэка праф. Юльяна Кржыжаноўскага (Варшава).

Мажэйка — З. Можейко. Песенная культура белорусского Полесья. Минск, 1971.

Малевич — С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб, 1907. Сб. ОРЯС, т. 82, № 5, с. 1—194.

Песні бел. народа, 1940 — Песні беларускага народа, т. І. Мінск, 1940.

Радченко, 1888 — Гомельские народные песни (белорусские и малорусские). Записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губернии Зинаидой Радченко. СПб, 1888.

Радченко, 1911 — З. Радченко. Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. СПб, 1911.

Романов, II — Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. I—II. Киев, 1886.

Романов, VIII — Е. Р Романов. Белорусский сборник, вып. VIII. Вильна, 1912.

Рубец — Рубец. Українські і белоруські пісні (з мелодіями та широкими коментариями), весілля, легенды. Фонд кабінета музычнай этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, фальклору і этнаграфіі АН УССР.

Сербов — И. Сербов. Белорусы-сакуны. Пг., 1915.

Хрэстаматыя — Беларускі фальклор. Хрэстаматыя. Выд. 2-е, дапоўненае. Навук. рэд. М. Р. Ларчанка. Мінск, 1977.

Цітовіч — Песні беларускага народа. Выбранае. Уклад. і камент. Г. І. Цітовіча. Мінск, 1959.

Чуркін, 1949 — М. Чуркін. Беларускія народныя песні і танцы. Мінск, 1949.

Чуркін, 1959 — Беларускія народныя песні. Запіс М. Чуркіна. Мінск, 1959.

Шалігоўскі — Т. Шалігоўскі. Каталог беларускіх песень (рукапіс).— ФБАН БССР, аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў, ф. 8 (мікрафільм).

Шейн, Материалы — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887.

Шейн, Материалы, III — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. III. СПб, 1902.

Шейн, Песни — П. В. Шейн. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями. СПб, 1874.

Шлюбскі — А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, вып. 1. Мінск, 1927.

Шырма, I — Беларускія народныя песні. У 4-х т., т. 1. Запіс Р. Шырмы. Мінск, 1959.

Шырма, III — Беларускія народныя песні. У 4-х т., т. 3. Запіс Р. Шырмы. Мінск, 1962.

Янчук — Н. Янчук. По Минской губернии (заметки из поездки 1886 г.). — «Известия Московского общества любителей естествознания, антропологии и этнографии», т. 91. Труды этнографического отдела, кн. 9, вып. 1. М., 1889.

Bykowski — P. Bykowski. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska.—«Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», t. II. Kraków, 1878.

Czeczot — Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektórze przysłowia i idiotyzmy w mowie słowiano-krewickiej z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.

Černy — Adolf Černy. Pieśni Białoruskie z powiatu Dzisieńskiego guber-

nii Wileńskiej.— «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», t. XVIII. Kraków, 1895.

F e d e r o w s k i — M. Federowski. Lud białoruski, t. V. Warszawa, 1958.

G a v r o ń s k a — Piesni ludowe ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej. Zebrała Bronisława Gavrońska. Wilno, 1935.

G l o g e r — Jurej (Święty Jerzy), przyczynek do etnografii krajowej. Z notat Michała Federowskiego, podał Zygmunt Gloger.— «Pamętnik Fizyjograficzny», t. III. Warszawa, 1883, s. 491—499.

K o l b e r g — O. Kolberg. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś—Polesie. Wrocław—Poznań, 1968.

K u b a — L. Kuba. Beloruska piseń. Slovansky sbornik. Praha, 1887.

T y s z k i e w i c z — K. Tyszkiewicz. Wilija i jei brzegi. Drezno, 1871.

## Архівы

АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (Мінск).

Архіў БАН СССР — Архіў бібліятэкі АН СССР.

ИРЛИ — Архіў Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом, Ленінград).

РГО — Архіў Рускага геаграфічнага таварыства (Ленінград).

ФБАН — Фундаментальная бібліятэка імя Я. Коласа АН БССР (Мінск).

ЦГАЛИ — Цэнтральны дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва СССР (Масква).

ЦДГА ЛітССР — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР.

## Іншыя скарачэнні

в. — вёска
вар. — варыянт
вол. — воласць
воп. — вопіс
г. н. — год нараджэння
зап. — запіс, запісаў, запісала
к. — калекцыя
м. — мястэчка
мг — магнітаграма
МДПІ — Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага
нар. — народны, народная, народныя
наст. — настаўнік, настаўніца
п. — павет
р. — раён
спр. — справа
с. — старонка
ст. — стужка
студ. — студэнт, студэнтка
сш. — сшытак
т. — том
ф. — фонд

## ГУКАННЕ ВЯСНЫ

### 1. Вол бушуе

ИРЛИ, к. 16, спр. 1, № 43. Зап. В. Пагарэльская ў 1929 г. у г. Слуцку ад В. Ф. Пагарэльскай, 48 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 20, воп. 78, ст. 52, № 2. Зап. А. С. Ліс у 1978 г. у в. Шчорсы Навагрудскага р. Гродзенскай вобл.[1] ад Н. Ф. Качан. Дадатковая страфа тэксту:

Воран крача, падкракае,
Дзеўка плача, спавівае.

### 2. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 15, № 18. Зап. В. І. Ялатаў у 1971 г. у в. Навасёлкі Петрыкаўскага р. Гомельскай вобл. ад Г. Ф. Жудро, 1907 г. н.

### 3. Вол бушуе

Чуркін, 1959, с. 7, № 2. Зап. М. М. Чуркін ў 1910 г. у в. Дакурнішкі Ашмянскага п. Віленскай губ. ад Макара Станкевіча. Да песні заўвага: «Веснавая песня. Выконвалася на Юр'я (23.V ст. ст.) у дзень абрадавага выгану скаціны»[2].

Вар.: АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 44, сш. 10, л. 7—8. Зап. студ. МДПІ М. І. Плакса ў 1971 г. у Ляхавіцкім р. Брэсцкай вобл.

### 4. Ой, бугай раве — ў поле хоча

Мажэйка, с. 191, № 25. Зап. З. Я. Мажэйка ў в. Тонеж Лельчыцкага р. Гомельскай вобл.

### 5. Бугай раве — у поле хоча

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92а, л. 175. Зап. М. П. Гваздзёў у 1960 г. у в. Тонеж Лельчыцкага р. Гомельскай вобл. ад Г. Кондзік, 35 г.

### 6. Вол бушуе — вясну чуе

Булгаковский, с. 53, № 4. Зап. у 1889 г. у Пінскім п. Мінскай губ.

---

[1] Назвы мясцовасцей даюцца па адміністрацыйнаму падзелу, які існаваў у час запісу твора.

[2] У двукоссі пададзены заўвагі выканаўцаў пра час выканання песні і яе характар, а таксама назвы раздзелаў друкаваных крыніц, дзе гэты твор змешчан.

**7. Шуміць, гудзе — вясна ідзе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 86, сш. 3, № 61. Зап. А. С. Фядосік у 1974 г. у г. п. Валожын Мінскай вобл. ад Г. М. Рубацкай, 74 г.

Вар.: Гілевіч, 1973, с. 263. Зап. В. П. Посах у Маладзечанскім р. Мінскай вобл.; Гілевіч, 1974, с. 67. Зап. у в. Верхмень Смалявіцкага р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 10, л. 94. Зап. Г. І. Цітовіч у 1946 г. у Лунінецкім р. Брэсцкай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 51, сш. 2, л. 55. Зап. А. І. Гурскі ў 1960 г. у Нясвіжскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 83, сш. 1, л. 23, № 21. Зап. А. С. Ліс у 1974 г. у Валожынскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 105, сш. 1, л. 49, № 38. Зап. А. М. Пахомава ў 1975 г. у Чэрвеньскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 1, л. 10, № 4, сш. 5, л. 12—13, № 6. Зап. студ. МДПІ Л. Б. Бялясава і А. С. Кабяк у 1975 г. там жа; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 5, л. 54, № 61. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. там жа; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 6, л. 43, № 25. Зап. студ. МДПІ ў 1975 г. у Старадарожскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 94. Зап. А. С. Ліс у 1977 г. у Глускім р. Магілёўскай вобл.

**8. Вол бушуе — весну чуе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 19, сш. 1, л. 21. Зап. М. С. Шушкевіч у 1969 г. у в. Фядоры Столінскага р. Брэсцкай вобл. ад М. Гунько, 1922 г. н. Мг ф. 20, воп. 69, ст. 2, № 11. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Вар.: З калекцыі Ю. Кржыжаноўскага; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, сш. 1, л. 15. Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у Смалявіцкім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 3, л. 2, № 1. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у Чэрвеньскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 3, л. 45, № 234. Зап. студ. МДПІ ў 1975 г. у Любанскім р. Мінскай вобл.

**9. Вол бушуе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 19, сш. 2, л. 27. Зап. М. С. Шушкевіч у 1969 г. у в. Мерчыцы Пінскага р. Брэсцкай вобл. ад Г. Лойкі, 63 г. Мг ф. 20, воп. 69, ст. 12, № 8. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава. Заўвага выканаўцы: «Весна. Дід, як ідэ гораты, застаўляе маты гэту пісню співаты».

**10. Вол бушуе — весну чуе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 95, сш. 2, л. 73, № 66. Зап. Л. П. Барабанава ў 1975 г. у в. Засмужжа Любанскага р. Мінскай вобл. ад А. А. Душынскай, 1905 г. н. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 33, № 36. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

**11. Вол бушуе — вясну чуе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 30. Зап. А. С. Ліс у 1977 г. у в. Барбарова Глускага р. Магілёўскай вобл. ад К. Радкевіч і Н. Валодзькі. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 87, № 23. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

**12. Вол бушуе — вясну чуе**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 67, сш. 2, л. 28. Зап. Л. А. Малаш у 1973 г. у в. Майсеевічы Асіповіцкага р. Магілёўскай вобл. ад А. С. Шлях-

цінай, 1908 г. н. Мг ф. 20, воп. 73, ст. 50, № 2. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 66, сш. 4, л. 9, № 5. Зап. С. Т. Бахмет у 1973 г. у Асіповіцкім р. Магілёўскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 2, л. 60, № 49. Зап. студ. МДПІ А. В. Ільюшонак ў 1975 г. у Старадарожскім р. Мінскай вобл.

### 13. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 5, л. 7, № 4. Зап. студ. МДПІ А. С. Кабяк у 1975 г. у в. Языль Старадарожскага р. Мінскай вобл. ад Г. В. Шух, 1909 г. н. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 39, № 9. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

### 14. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 8, л. 67, № 38. Зап. Я. А. Хорсун у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р. Мінскай вобл. ад Х. В. Пучылы, 70 г. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 47, № 10. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 116, сш. 6, л. 63, № 78. Зап. студ. МДПІ Г. А. Спірыдовіч у 1976 г. у Нясвіжскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75. спр. 103, сш. 1, л. 90, № 99. Зап. В. М. Каламыцава ў 1975 г. у Уздзенскім р. Мінскай вобл.

### 15. Вол бушуе — весну чуе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 130, сш. 1, л. 21, № 17. Зап. Г. А. Барташэвіч і студ. МДПІ З. Сазоненка ў 1977 г. у в. Малы Рожан Салігорскага р. Мінскай вобл. ад А. В. Шульгі, 1907 г. н. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 43, № 30. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

### 16. Вол бушуе — вясну чуе

Архіў БАН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 293, л. 4, Зап. І. Нікалаевіч у Слуцкім п. Мінскай губ.

### 17. Вол бушуе

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 6, сш. 18, л. 11, № 7. Зап. студ. Мазырскага пед. ін-та Л. Когар у 1969 г. у в. Чалюшчавічы Петрыкаўскага р. Гомельскай вобл. ад П. Каляды, 67 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 55, сш. 4, л. 8. Зап. Л. І. Павецьева ў 1960 г. у в. Леановічы Нясвіжскага р. Мінскай вобл. ад А. Н. Ждановіч, 1913 г. н. У тэксце новыя заключныя строфы:

Вол бушуе —<br>
Плуг цяжэнькі,

Воран грача —<br>
Сыр сухенькі,

Дзеўка плача —<br>
Муж ліхенькі.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 107, сш. 2, л. 4, № 2. Зап. Л. І. Павецьева ў 1967 г. у Шклоўскім р. Магілёўскай вобл.

## 18. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 20, воп. 73, ст. 73, № 5. Зап. В. І. Ялатаў у 1973 г. у в. Ачукевічы Навагрудскага р. Гродзенскай вобл. ад Л. П. Хартановіч. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

## 19. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 130, сш. 2, л. 38, № 45. Зап. студ. МДПІ А. Кананові і З. Сазоненка ў 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. Мінскай вобл. ад М. К. Гайдучэні. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 42, № 15. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

## 20. Вол бушуе — вясну чуе

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 123, сш. 4, № 87. Зап. Л. М. Салавей у 1976 г. у в. Едчыцы Клецкага р. Мінскай вобл. ад В. І. Дарафей. Мг ф. 20, воп. 76, ст. 71, № 13. Расшыфр. мелодыю Л. М. Фёдараў.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, сш. 9, л. 23, № 21. Зап. Л. М. Салавей у 1975 г. у Любанскім р. Мінскай вобл.

## 21. Вол бушуе — вясну чуе

Сербов, с. 131—132, № 1. Зап. І. А. Сербаў у 1911 г. у в. Жыцін Бабруйскага п. Мінскай губ. ад Хрысціны Кашыцкай, 28 г. «Вясенняя. Пяюць, як ганяюць у поле гаўяда».

Вар.: Малевіч, с. 25—26, № 1, Слуцкі п.; Анталогія, 1975, с. 35, № 12 (зап. Сербава); АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 64, сш. 41, л. 1, № 2. Зап. студ. МДПІ ў 1960 г. у Стаўбцоўскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 5, сш. 13, л. 15. Зап. студ. Гродзенскага пед. ін-та М. А. Сіўко ў 1964 г. у Навагрудскім р. Гродзенскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 27, сш. 2, л. 40. Зап. А. С. Ліс у 1970 г. у Смаргонскім р. Гродзенскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 44, сш. 25, л. 5. Зап. студ. МДПІ І. І. Мулярэвіч у 1971 г. у Клецкім р. Мінскай вобл.

## 22. Вол бушуе — вясну чуе

Янчук, с. 93, № 63. Зап. Н. Янчук у в. Языль Бабруйскага п. Мінскай губ.; тое ж: АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 5, л. 54, № 61; мг ф. 20, воп. 75, ст. 17, № 20. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. там жа.

## 23. Вол бушуе — вясну чуе

Песні бел. народа, 1940, с. 9, № 6. Зап. М. Чуркін у в. Каляніца Мінскай вобл.; тое ж: Чуркін, 1949, с. 97, № 8. З іншай мелодыяй тэкст надрукаван таксама: Чуркін, 1959, с. 7, № 2.

## 24. Вол бушуе — вясну чуе

Чуркін, 1949, с. 97, № 8. Гл. камент. № 23.

## 25. Вол бушуе — вясну чуе

Шырма, III, с. 13, № 5. Зап. Р. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Пагор Навагрудскага п. ад Анастассі Дубовік.

Вар.: Гілевіч, 1974, с. 67. Зап. З. Міснікевіч у Навагрудскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 86, сш. 40, л. 5, № 8. Зап. студ. Магілёўскага пед. ін-та В. В. Карабіновіч у 1972 г. у Мазырскім р. Гомельскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 97, сш. 2, л. 6, № 49. Зап. студ. МДПІ А. В. Ільюшонак у 1975 г. у Старадарожскім р. Мінскай вобл.

### 26. Вясна, вясна на калочку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 6, л. 46, № 23. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Закальное Любанскага р. Мінскай вобл. ад В. А. Ласевіч і А. Т. Верабей. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 24, № 10. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

### 27. Ужо ж вясна і на калочку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 130, сш. 1, л. 59, № 42. Зап. студ. МДПІ А. Канановіч і З. Сазоненка ў 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. Мінскай вобл. ад М. К. Гайдучэні. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 42, № 16. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

### 28. Да ўжо ж вясна скацілася

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 130, сш. 3, л. 45, № 52. Зап. Г. А. Барташэвіч і студ. МДПІ І. Я. Дудкевіч у 1977 г. у в. Вялікі Рожан Салігорскага р. Мінскай вобл. ад Т. Ф. Прахарэні і М. П. Клімец. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 47, № 3. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

### 29. Да ўжо ж вясна на калочку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 6, л. 57, № 30. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р. Мінскай вобл. ад Т. Ф. Філюты, 76 г. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 25, № 8. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Яшчэ тры вар. зап. Л. М. Салавей, Л. Б. Бялясава і студ. МДПІ ў Любанскім р. Мінскай вобл. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 94, спр. 97).

### 30. Вясна красна на калочку

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 94. Зап. А. С. Ліс у 1977 г. у в. Барбарова Глускага р. Магілёўскай вобл. ад С. Басяковай. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 89, № 7. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

### 31. Благаславі, маці

Kuba, с. 244, № 118. «Благавешчанская. Заклікаюць вясну».

Вар.: Добровольский, с. 98, № 38б, Данькава, Смаленскі п.; с. 98—99, № 38в, Духаўшчынскі п.; с. 99, № 38г, Духаўшчынскі п.; с. 99, № 38д, 38е, Данькава, Смаленскі п.; с. 100, № 39б, Ельнінскі п.; с. 100, № 39в, Красненскі п.

### 32. Благаславіце, старыя людзі

АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 144, сш. 1, л. 36, № 18. Зап. Л. П. Барабанава ў 1978 г. у в. Барсукі Кармянскага р. Гомельскай вобл. ад А. С.

Кавалёвай, 1914 г. н., Ю. С. Анішчанкі, 1917 г. н. Мг ф. 20, воп. 78, ст. 12, № 9. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

Вар.: Романов, II, с. 263, № 1. Зап. у в. Бахотня Рагачоўскага п.

### 33. Благаслаавіце, стары дзяды

АІМЭФ, ф. 20, воп. 78, ст. 19, № 6. Зап. К. П. Кабашнікаў і І. І. Крук у 1978 г. у в. Струмень Кармянскага р. Гомельскай вобл. ад Н. А. Малчанавай. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

Скарочаны вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 78, спр. 150, сш. 1, л. 48, № 54. Зап. К. П. Кабашнікаў там жа ад групы жанчын.

### 34. Падай, Юрыла, ключы і замкі

Захарава, с. 73. Зап. Д. Фёдараў, В. Барысенка ў 1967 г. у в. Моладава Іванаўскага р. Брэсцкай вобл. ад П. А. Амяльчук.

### 35. Благаславі, божа

Гарэцкі, Ягораў, с. 68, № 156. Зап. М. Гарэцкі ў 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. Аршанскай акругі ад сваёй маці Просі Гарэцкай. Мелодыю ад яе зап. А. Ягораў. Да песні заўвага: «Як прыдзе благавешчанне, дык дзеўкі, хлопцы (і маладзіцы, але мала) ідуць дзе высока, дровы ці мялля каля лазні, узлезуць, садзяцца і гукаюць вясну. Спярша пяюць «Благаславі, божа».

Пашыраны вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 105, сш. 1, л. 55, № 85. Зап. В. І. Скідан у 1967 г. там жа ад А. З. Дзем'янковай, 81 г. Спявачка зазначыла: «Як я была маладая, у мяне М. Гарэцкі запісваў песні цэлы тыдзень». Першыя 7 радкоў супадаюць, далей наступнае:

Вясною ў карэце  
Услед за вадою.  
Аддай, божа, ключы,  
Ключы залатыя,  
Зіму замыкаці,  
Лета адмыкаці.

### 36. Баславі, маці

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 102, сш. 1, л. 41, № 29. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1965 г. у в. Глыбочыцы Чачэрскага р. Гомельскай вобл. ад К. Ф. Мінінай, А. Ф. Карнеевай, Г. М. Ганчаровай, М. К. Начанкі.

Вар.: Шейн, Материалы, с. 126, № 123. Зап. у Горацкім п. Магілёўскай губ.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 1, сш. 1, л. 50. Зап. М. Я. Грынблат у 1968 г. у Касцюковіцкім р. Магілёўскай вобл. «Гукаючы вясну на благавешчанне. Разрашэнне песень (пачатак гукання, спявання веснавых песень). Паляць зіму. Збіраюць хлам, ідуць на гару і паляць, чысцяць зямлю. Дзеўкі і хлопцы на лаўках сядзяць кучамі. Адсюль адгалосак сюды, а адтуляцькі — сюды». — Заўвага да песні.

### 37. Благаславі, маці

«Смоленский вестник», 1894, № 40.

### 38. Благаславі, божа, зіму замыкаці

Шейн, Материалы, с. 126, № 123б. Зап. П. В. Шэйн у в. Савы Горацкага п. Магілёўскай губ. ад маладой сялянкі.

Вар.: Federowski, с. 702, № 1648, Лідскі п.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 30, сш. 11, л. 8—9, № 7. Зап. студ. Гродзенскага пед. ін-та ў 1967 г. у Дзятлаўскім р. Гродзенскай вобл.

### 39. Вясна доньку кліча

Шейн, Материалы, с. 127, № 127. Зап. наст. О. у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага п. і губ.

У Шэйна замест «доньку» — «Дуньку». Аналагічныя песні і логіка саміх тэкстаў падказваюць правільнасць формы «донька». Памылка пры запісу магла быць выклікана асаблівасцямі вымаўлення.

### 40. Благаславі, божа

Н. Синявский. Март месяц у Бельских крестьян Смоленской губ.— «Смоленские губ. ведомости», 1862, № 15. «Гукаюць вясну».

Вар.: Добровольский, с. 98, № 38а, Ельнінскі п. Смаленскай губ.

### 41. Ты пчолачка ярая

Kuba, с. 245, № 119. «Благавешчанская».

Вар.: Добровольский, с. 96, № 37а, Ельнінскі п.; с. 97, № 37б, Ельнінскі п.; с. 97, № 37в, 37г, Духаўшчынскі п.; с. 97, № 37д, Смаленскі п.

### 42. Вылецiце, дзве гусачкі

Романов, II, с. 267, № 17. Зап. у Гомельскім п.

Вар.: Шейн, Материалы, с. 126, № 124. Зап. у Смаленскай губ.

### 43. Благаславі, божа

А. Шлюбскі. Год збірання фальклорнага матэр'ялу.— «Наш край», 1927, № 1 (16), с. 24—25. Зап. Р. Трыбулёў у Ляднянскім р.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 65, сш. 2, л. 2, № 1. Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у Мядзельскім р. Мінскай вобл.

### 44. Да памажы, божа

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 108, сш. 2, л. 26—27, № 84. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1975 г. у в. Замасточча Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад М. В. Хурсевіч, В. Я. Міхневіч, В. К. Дзяркач, М. П. Дзяркач. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 12, № 22. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 62, сш. 1, л. 15, № 7. Зап. П. П. Альхімовіч у 1973 г. у Лагойскім р. Мінскай вобл.

### 45. Благаславі, божа

Гілевіч, 1974, с. 68. Зап. С. Нікіценка ў в. Купіск Навагрудскага р. Гродзенскай вобл. ад М. Цырусь, 1904 г. н.

Вар.: Гілевіч, 1973, с. 210. Зап. у Стаўбцоўскім р.; Гілевіч, 1973, с. 348. Зап. у Барысаўскім р. Мінскай вобл.; Гілевіч, 1974, с. 68. Зап. Г. Жыдко ў Барысаўскім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 24, л. 26, № 1. Зап. Я. П. Малішэўская ў 1961 г. у Чачэрскім р. Гомельскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 79, сш. 14, л. 85, № 115. Зап. у 1974 г. у Клецкім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 6, л. 30. Зап. студ. Брэсцкага пед. ін-та А. П. Петруковіч у м. Лагішын Брэсцкай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 79, сш. 14, л. 77, № 98. Зап. студ. МДПІ Н. Богдан у 1974 г. у Клецкім р. Мінскай вобл.

### 46. Зіма з летам страчаецца

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 10, л. 80. Зап. Г. І. Цітовіч у 1946 г. у в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р. Брэсцкай вобл. ад А. М. Аліферовіч, 45 г. «Вясну спяваюць, першая песня».

### 47. А ў нас сёння стрэчанне, стрэчанне

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 80, сш. 22, л. 9, № 18. Зап. студ. МДПІ А. С. Дылейка ў 1974 г. у в. Замосце Талачынскага р. Віцебскай вобл. ад Ф. П. Француза, 76 г.

### 48. Зіма з летам стракалася

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 77, сш. 1, л. 45а. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1962 г. у в. Старыя Дзятлавічы Гомельскага р. і вобл. ад М. П. Стрыжаковай, 1908 г. н.

### 49. Скакаў арабейка да па уланьцы

Bykowski, с. 266. Зап. П. Быкоўскі ў в. Віткаўцы Пінскага п.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 100, сш. 1, л. 6, № 6. Зап. А. С. Фядосік і У. А. Васілевіч у 1975 г. у Лунінецкім р. Брэсцкай вобл.

### 50. Зіма з летам сустраталася

Радченко. 1888, с. 1, № 1а. Зап. З. Радчанка ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага п. Магілёўскай губ.

У час фальклорнай экспедыцыі 1977 г. інфарматар з в. Вялікі Рожан Салігорскага р. Мінскай вобл. Х. М. Сушко, 70 г., расказала пра колішнія попрадкі на прадвесні: «Як вясна надыходзіць, тады ўжо: «Ідзеце, дзеці, скарэй, бо зараз вясна, трэба кідаць красна». Ведама ж: дзень, пабольшае, то нітка пакарочае». (АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 131, сш. 1, л. 96, Зап. Г. А. Барташэвіч).

### 51. Зіма з летам сустратаецца

Радченко, 1888, с. 1, № 1б. Зап. З. Радчанка ў в. Новыя Дзятлавічы Гомельскага п. Магілёўскай губ.

### 52. Ой, што вясна, то вясна

Шырма, III, с. 9, № 1. Зап. Р. Р. Шырма ў 1932 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад Ганны Шырмы.

**53. Ой, вясна, вясна**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 98, сш. 1, л. 89. Зап. В. І. Скідан у 1975 г. у в. Маканавічы Рэчыцкага р. Гомельскай вобл. ад Г. Ф. Хмяльніцкай, 1902 г. н., Е. М. Прыходзькі, 1910 г. н., Г. К. Прыходзькі. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 57, № 23. Расшыфр. мелодыю Л. М. Фёдараў.

**54. Ой, вясна, ой, красна**

Мажэйка, с. 198, № 37. Зап. З. Я. Мажэйка ў в. Тонеж Лельчыцкага р. Гомельскай вобл.

**55. Вясна, вясна**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 6, л. 57, № 29. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Рачэнь Любанскага р. Мінскай вобл. ад Т. Ф. Філюты, 76 г. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 25, № 7. Расшыфр. мелодыю В. М. Каламыцава.

Вар.: Булгаковский, с. 52, № 2; АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 57, сш. 2, л. 22; спр. 51, сш. 4, л. 25. Зап. К. П. Кабашнікаў і А. І. Гурскі ў 1960 г. у Слуцкім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 87, сш. 54, л. 2, № 5. Зап. студ. Магілёўскага пед. ін-та А. А. Яроміч у 1970 г. у Столінскім р. Брэсцкай вобл.; АІМЭФ, ф. 2, воп. 7, спр. 15, сш. 1, л. 7, № 7. Зап. В. І. Ялатаў у 1971 г. у Петрыкаўскім р. Гомельскай вобл.

**56. Ой, прышла вясна красна**

Сербов, с. 134—135, № 111. Зап. у 1911 г. у в. Жыцін Бабруйскага п. ад П. Жыцінка, 45 г.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 50, сш. 3, л. 50. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1960 г. у Слуцкім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 141, сш. 1, л. 16, № 10. Зап. А. Н. Пашкевіч, А. М. Трус, Р. К. Рафаловіч у 1977 г. у Салігорскім р. Мінскай вобл.

**57. Вясна ж красна ж, гэй, гэй, гэй**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 128, сш. 5, л. 43. № 46. Зап. Л. П. Барабанава ў 1977 г. у в. Хорастава Салігорскага р. Мінскай вобл. ад М. І. Цубы, 1913 г. н. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 53, № 5. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч. У вёсцы існаваў цікавы звычай гукання вясны. Вясну «заскаквалі» («затанцоўвалі») наступным чынам: моладзь збіралася гуртам і ішла ў канец вёскі, адкуль пачынаўся абход усіх двароў. Ля кожнага двара закружваўся карагод. Пры гэтым гаспадарам жадалі добрага ўраджаю, дабрабыту, каб стагі стаялі на двары.

**58. Ой, вясна мая, вясёначка**

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 128, сш. 5, л. 43, № 46. Зап. Л. П. Барабанава ў 1977 г. у в. Новы Крыўск Рагачоўскага р. Гомельскай вобл. ад П. Е. Вусавай, 1915 г. н. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 16, № 5. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

**59. Тут вясна, тут вясна**

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 65, сш. 14, л. 2. Зап. студ. МДПІ М. Р. Гурыновіч у 1960 г. у в. Лясішча Слуцкага р. Мінскай вобл. ад Фядоры Гурыновіч, 1899 г. н.

### 60. І эй, вясна красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 17, сш. 3, л. 3. Зап. А. С. Ліс у 1969 г. у м. Сенькавічы Лунінецкага р. Брэсцкай вобл. ад Аўдоцці Клеўжыц, 78 г.

Вар.: Захарава, с. 75—76. Зап. І. Лушчыцкая і Г. Парватава ў 1967 г. у Маларыцкім р. Брэсцкай вобл.; Гілевіч, 1974, с. 69. Зап. у Пухавіцкім р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 75, сш. 12, № 1.

### 61. То вясна, то красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 53, сш. 4, л. 35. Зап. С. М. Міско ў 1960 г. у в. Самахвалавічы Мінскага р. і вобл. ад П. Н. Ламакі, 1892 г. н.

Вар.: Гілевіч, 1974, с. 69. Зап. Х. Бандаровіч у в. Ячнае Стаўбцоўскага р. Мінскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 106, сш. 2, л. 13. Зап. А. С. Ліс у 1975 г. у Маладзечанскім р. Мінскай вобл.

### 62. Ой, ту ж вясна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 136, сш. 2, л. 2. Зап. А. С. Ліс у 1977 г. у в. Гудоўшчына Маладзечанскага р. Мінскай вобл. ад А. Луцкай. Мг ф. 20, воп. 77, ст. 89, № 19. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

Вар.: Шейн, Материалы, с. 127, № 126. Зап. у Рубяжэвіцкай вол. Мінскага п. і губ.

### 63. Ой, вясна красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 83, сш. 5, л. 26, № 23. Зап. В. М. Іваноўская ў 1963 г. у г. Мінску ад С. З. Іваноўскай, 71 г.

### 64. Вясна чуць, вясна чуць

Гілевіч, 1974, с. 69. Зап. А. Законнікава ў в. Сяледчыкі Маладзечанскага р. Мінскай вобл. ад З. Тарасюк.

### 65. Ой, вясна, вясна

Захарава, с. 73. Зап. Д. Фёдараў, В. Барысенка ў 1967 г. у в. Моладава Іванаўскага р. Брэсцкай вобл. ад П. А. Амяльчук.

### 66. Гэй, вясна, гэй, красна

Захарава, с. 74. Зап. І. Лушчыцкая, Л. Зайцава ў 1968 г. у в. Вялемічы Лунінецкага р. Брэсцкай вобл. ад А. В. Шавыра, 1911 г. н., К. З. Дорах, Г. В. Карчаўскай.

### 67. Ой, вясна, ой, вясна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 96, сш. 2, л. 8, № 3. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1975 г. у в. Клінок Чэрвеньскага р. Мінскай вобл. ад А. І. Сязенчык, 69 г. Мг ф. 20, воп. 75, ст. 3, № 24. Расшыфр. мелодыю Л. М. Фёдараў. «Як вясну клікалі».

Вар.: Добровольский, с. 95, № 35, Данькава, Смаленскі п. і губ.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 77, спр. 136, сш. 1, л. 39. Зап. А. С. Ліс у 1977 г. у Глускім р. Магілёўскай вобл.

### 68. Вясна, вясна, вясна красна!

Шейн, Материалы, с. 126, № 123. Зап. П. В. Шэйн у г. Копысь Аршанскага п. Магілёўскай губ.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 94, сш. 1, л. 26. Зап. М. П. Гваздзёў у 1965 г. у Аршанскім р. Віцебскай вобл.

### 69. Вясна красна, што прынясла?

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 3, сш. 8, л. 11, № 9. Зап. студ. Брэсцкага пед. ін-та І. Малаш ад А. Калдушка, 70 г.

### 70. Вясна красна й, красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 118, сш. 2, л. 17, № 16. Зап. В. М. Каламыцава ў 1976 г. у в. Стаі Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад Т. С. Быкавай, 1911 г. н. Мг ф. 20, воп. 76, ст. 38, № 16. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

Вар.: Добровольский, с. 96, № 36а, Данькава, Смаленскі п.; с. 96, № 36б, Духаўшчынскі п.

### 71. Ай, вясна, ай, красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 118, сш. 1, л. 29, № 27. Зап. В. М. Каламыцава ў 1976 г. у в. Пышна Лепельскага р. Віцебскай вобл. ад М. Ц. Бараўцовай і Ф. Ц. Качанавай. Мг ф. 20, воп. 76, ст. 36, № 4. Расшыфр. мелодыю П. П. Альхімовіч.

### 72. Вясна, вясна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92а, л. 150. Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Лунін Лунінецкага р. Брэсцкай вобл. ад моладзі.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 69, л. 21, № 67. Зап. М. П. Гваздзёў там жа.

### 73. А ты вясна, ты красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 184, ноты № 142. Зап. Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Бараўцы Куранецкага р. Маладзечанскай вобл. ад А. П. Ількевіч, 45 г.

### 74. Ах ты, вясна, ты красна

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 57, сш. 3, л. 47, № 48. Зап. А. С. Ліс у 1972 г. у в. Боркавічы Верхнядзвінскага р. Віцебскай вобл. ад Е. Молер, М. Мятлік.

Вар.: Захарава, с. 73. Зап. у Баранавіцкім р. Брэсцкай вобл.; АІМЭФ, ф. 8. воп. 2, спр. 51, сш. 2, л. 47. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1972 г. у Міёрскім р. Віцебскай вобл.; АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 55, сш. 1, л. 10, № 9. Зап. С. В. Барыс у 1972 г. у Міёрскім р. Віцебскай вобл.

### 75. Ах ты, вясна, ты красна

Песні бел. народа, 1940, с. 3, № 1. Зап. у 1928 г. у в. Падсаддзе Ветрынскага р. Віцебскай вобл.

